Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



1 (59)

Студзень.

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

Устулаючы ў 1958 год



Георгі МІХАЙЛАЎ,
слесар-зборшчык завода «Камінтэрн»

# НАПЕРАДЗЕ ЧАСУ

Іншы раз падумаеш і здзівішся, як хутка бяжыць час. Здаецца, нядаўна гэта было — у руінах ляжаў наш любімы Віцебск. Кругом, куды ні глянеш, — груды бітай цэглы, паўразбураныя каробкі дамоў... Гэта было ў 1945 годзе, калі я, як і многія хлопцы, прышоў на завод, далучыўся да слаўнай арміі рабочага класа.

Цяпер не пазнаць нашага горада. Ён адбудоўваецца і ўжо сёння выглядае лепш, чым да вайны.

На тым месцы, дзе ўзвышаюцца ў блакіт прасторныя карпусы нашага завода, дванаццаць год таму назад ляжалі руіны.

Вырас наш завод. Нядаўна мы адсвяткавалі яго 75-годдзе. З яго варот ужо адпраўлены 30-тысячны станок. Станкі з нашай маркай вядомы і за мяжой, у краінах народнай дэмакратыі. Іх можна сустрэць і ў Кітаі, і ў Польшчы, і ва В'етнаме...

У пачатку новага года, як гэта робіцца ў нас па добрай традыцыі, хочаш азірнуцца на пройдзены шлях, акінуць поглядам зробленае.

Для мяне асабіста прайшоўшы 1957 год быў вельмі плённым. Я добра папрацаваў. Новы год меў праза сустрэць у чэрвені, бо датэрмінова выканаў сваю гадавую вытворчую праграму.

Я люблю думаць, шукаць. Як рацыяналізатар, унёс каля дзесяці прапаноў, якія рэалізаваны і ўкаранёны ў вытворчасць. Толькі адна прапанова — удасканаленне сістэмы ахаладжэння гайканаразных аўтаматаў — дала заводу эканоміі ў год 35 тысяч рублёў.

У нашым цэху пачалі мантаж новых складаных станкоў. Каб сабраць іх, спатрэбіцца цэлы месяц. Я задумаўся над тым, каб скараціць тэрмін зборкі. Пасля доўгіх пошукаў прыйшоў да думкі — зрабіць спецыяльную апраўку для устаноўкі прыстасаванняў. Спецыялісты падлічылі, што гэтая прапанова дазволіць сэканоміць на зборцы тры дні.

Кажуць, што цяжка сумяшчаць працу з вучобай. Гэта правільна—цяжка, але зусім пасільная справа. Без адрыву ад

вытворчасці я ўжо заканчваю станка-інструментальны тэхнікум. Вучуся паспяхова.

Мая галоўная мара — у новым 1958 годзе скончыць тэхнікум. Я атрымаю дыплом тэхнолага, але на гэтым не спынюся — абавязкова паступлю ў інстытут, буду вучыцца завочна.



**Ліда РЫНКОВІЧ,**
**даярка калгаса «Савецкая Беларусь»**

# ДАГОНІМ АМЕРЫКУ!

Мне здаецца, ніколі не было такога гарачага, заўзятага спаборніцтва сярод жывёлаводаў, як у пражытым 1957 годзе. Даяркі нашага калгаса неяк вясной, як пачулі па радыё прапанову таварыша Н. С. Хрушчова аб тым, што наша краіна можа і павінна абагнаць Амерыку па вытворчасці мяса і малака, адразу ў адзін голас сказалі:

— А што ж, і дагонім!

А наша самая перадавая даярка цётка Алена Акуліч, якая ўжо дваццаць год як на ферме, дык прама і заявіла:

— Адужаем гэтую хвалёную Амерыку. Ды не толькі па мясу і малаку, але па ўсім як ёсць перагонім. Вось пабачыце!..

Мы — моладзь верым сваёй Алене Пятроўне. Калі яна ўжо што скажа, дык як адрэжа. Яна тады ж, як бралі мы вясною абавязацельствы, сказала, што надоіць па чатыры тысячы літраў ад каровы, а надаіла за дзесяць месяцаў 4.500 літраў.

І мы — маладыя даяркі — стараліся не адстаць ад яе, працавалі не пакладаючы рук. Добра працавалі мае сяброўкі-камсамольцы: і Жана Краўчанка, і Будай Іра, і ўсе дзяўчаты. Другое месца ў калгасе прысуджана мне. Я крыху меней надаіла, чым Алена Пятроўна, — 4.367 літраў. За гэтыя паказчыкі мне прысуджаны Пераходны вымпел райкома ЛКСМБ, як лепшай даярцы.

Наш калгас заняў першае месца па надоях сярод калгасаў Мінскага раёна. А раён — заваяваў першынство ў рэспубліцы. Мы значна перавыканалі абавязацельствы, якія бралі напрадвесні. Як жа пасля гэтага не верыць, што дагонім Амерыку па вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі!

У 1957 годзе ўвесь свет абляцела вестка: Савецкі Саюз першы пабудаваў міжкантынентальную балістычную ракету і запусціў штучны спадарожнік Зямлі. Хіба ж пасля гэтага можна сумнявацца, што мы адужаем Амерыку ва ўсім чыста, як казала наша Алена Пятроўна!

Напрадвесні мінулага года з групай беларускай моладзі я ездзіла ў Туркменістан на злёт жаночай моладзі, а ўлетку была ў Маскве на Сусветным фестывалі моладзі. У мяне было многа сустрэч з таварышамі па прафесіі. Усе яны, як і я, такой жа думкі, што ў нас ёсць усе магчымасці, каб заваяваць першынство ў свеце па вытворчасці прадуктаў жывёлагадоўлі.

З такой жа думкай я сустракаю новы 1958 год. Маё цвёрдае слова — даць краіне па 5.500 літраў малака. Думаю, што ўсе мае маладыя сябры па працы дадуць не менш.

Рыжкович

**Анатоль ВЯЛЮГІН,**
**паэт**



# ВЕЦЕР З ВОЛГІ

Чалавечы век мае такі рубеж, калі асабліва востра адчуваеш плынь часу. Тым больш, што цяпер гэтую плынь не параўнаеш нават з горнай рэчкай — яна дужэйшая і больш імклівая: над галавою несціхана грыміць рэактыўнае неба, а наша савецкае неба так павышэла, што мы, ужо не карыстаючыся паэтычнай метафарай, гаворым аб дальніх зорах, як аб гарадах, дзе збіраемся пабываць.

Быццам у пару ранняй маладосці, сэрца іррвецца ў дарогу. Хочацца да ўсяго прымерыцца сваім вокам, усюды пабываць. Добрую палову тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят сёмага года ў мяне забрала дарога.

Гарады і вёскі роднай Беларусі...

Святы граніт рэвалюцыі — Ленінград...

Віратлівыя, маладыя вуліцы і плошчы фестывальнай Масквы...

Бясконцая, як вечнасць, плынь Дняпра, вільготная ліства вынослых тапаляў, што — быццам зямныя каметы — імкнуцца ў неба, ружовы дым і зарава мартэнаў Украіны...

Светлыя і лёгкія дарогі высокай Грузіі, дзе, нават позняй восенню, ніяк не магло згарэць буйналістае лета...

І зноў — тракты, бярозавыя бальшакі, дарагія і блізкія сэрцу, у алешніку і хвойніку, беларускія прасёлкі...

Дарога вызначала і накіроўвала ўсю маю леташнюю працу. Пад час падрыхтоўкі двух Тыдняў братніх літаратур — украінскай на Беларусі і беларускай на Украіне — я некалькі разоў ездзіў у Кіеў, перакладаў вершы і паэмы Лесі Украінкі, вершы, балады і паэмы сучасных украінскіх паэтаў. У снежні цалкам пераклаў і здаў выдавецтву вялікі зборнік паэзіі Платона Воранько.

Летась чытач атрымаў невялікую маю кніжку «Голуб на вежы» ў перакладзе на рускую мову. Гэта фактычна перавыданне. Праўда, я пісаў і новыя творы. Яны з'явяцца ў зімніх нумарах нашых часопісаў. У мяне сабралася новая кніга. Сёлета яна ўбачыць свет. Скажу толькі: у кнізе гаворыцца аб усім тым, аб чым зараз я пішу ў гэтым кароткім допісу.

Цяпер працую над тэмай аб юнацтве Уладзіміра Ільіча Леніна. На пачатку года наведаю Ульянаўск і Казанскі універсітэт. Адзін вобраз забраў усю маю ўвагу, хвалюе мяне: крыгалом на Волзе, і вецер, дужы, вясновы вецер, які сарваў шапку з юнака-гімназіста, ён па-вясноваму шумеў у рэвалюцыйным Петраградзе, калі правадыр стаў на легендарным браневіку на Фінляндскім вакзале, прарочачы сусветны крыгалом, ён, гэты вясновы волжскі вецер, вее і сагрэе ўсю зямлю...

*Абяцаю: сёлета паэма «Вецер з Волгі» з'явіцца ў друку.*

Анатоль Вялюгін



**Юрый ЗУБРЫЦКІ,**
**інжынер-геолаг**

# ЗЯМЛЯ АДКРЫВАЕ СВАЕ СКАРБЫ

Яшчэ ў недалёкім мінулым на геалагічных картах наша рэспубліка значылася «белай плямінай». У савецкі час і асабліва ў пасляваенныя гады многія таямніцы беларускай зямлі разгаданы. Якія незлічоныя багацці хаваюцца ў яе нетрах! Нафта, каменны вугаль, соль, разнастайныя будаўнічыя матэрыялы... Мне, праўда, не давялося быць першаадкрывальнікам гэтых багаццяў, але ганаруся тым, што маім сябрам па прафесіі ўдалося ў гэтым сэнсе зрабіць многае.

Геолаг я малады, пачынаючы — тры гады назад скончыў

інстытут. Найбольш плённым у сваёй рабоце лічу мінулы 1957 год. Днепра-Бугская геалагічная партыя, у якой мне даручана ўзначальваць адзін з атрадаў, распачала летась комплексную здымку на Піншчыне.

За мінулы год наш атрад многае зрабіў. Мы ўнеслі ўдакладненні ў папярэднія весткі, устанавілі прычыны забалочвання на розных участках. Цяпер абагульняем даследаванні, складаем карты. Побач з геалагічнымі здымкамі мы вялі разведку карысных выкапняў. Атрад выявіў новыя месцанараджэнні гравію, крэйды, розных гатункаў гліны. На Палессі, дзе некалі будуць разгортвацца вялікія будаўнічыя работы, гэтыя месцазнаходжанні маюць велізарнае значэнне.

Па плану сваё заданне нам належыць зрабіць к канцу сакавіка 1959 года. Але думаем завяршыць работу ў бягучым годзе. А калі рашылі, дык зробім. Калектыў наш дружны, працавіты. Асабліва хочацца адзначыць стараннасць і кемлівасць маладых інжынераў Міхаіла Грыцэнкі, Валянціна Корзуна, тэхніка Валянціна Шырына. Працаваць з такімі людзьмі прыемна, з імі ніякія цяжкасці не страшныя.

Не пашкадуем сіл, каб хутчэй вывучыць і разведаць нетры цудоўнага краю на карысць людзям усёй савецкай маці-Радзімы!

Ю. Зубрыцкі



**Антаніна ЧАРНЫШОВА,**
**студэнтка Мінскага педінстытута**

# МЯНЕ ЧАКАЕ ШКОЛА

Не памятаю добра, калі я надумалася стаць настаўніцай. Было гэта недзе ў маленстве. Мая мара аб працы ў школе мабыць нарадзілася ад жадання быць ва ўсім падобнай на сваіх бацькоў-педагогаў. Але праходзілі гады і маё жаданне стаць настаўніцай рабілася ўсё больш моцным. Яно расло разам са мною, і калі я думала аб будучым, не магла ўявіць сябе ні на якой іншай працы, апрача школы...

І вось я на апошнім курсе педагагічнага інстытута. Гады, якія прайшлі ў сценах інстытута, пераканалі мяне, што ў выбары прафесіі я не памылілася.

Калі б вы ведалі, з якім хваляваннем я рыхтавалася да свайго першага ўласнага ўрока на педагагічнай практыцы. Прачынаючыся на дасвецці, калі яшчэ спалі мае сяброўкі, я падыходзіла да люстра і правярала свае рухі, уменне трымаць сябе перад вучнямі...

Напэўна, на ўсё жыццё запомніцца мне першы практычны ўрок. Пачала я правяраць пісьмовыя заданні. Праходжу каля парт, праглядваю сшыткі, амаль механічна раблю заўвагі, а сама хвалююся гэтак, што нават не заўважаю твараў вучняў. Падыходжу да апошняй парты.

— Ваш сшытак?

І ў гэтае ж імгненне ў класе пачуўся гучны рогат. Толькі тут я заўважыла, што за партай сядзіць не вучаніца, а студэнтка-практыкантка, якая прысутнічала на маім уроку. Пасля гэтага здарэння я ўсё ж авалодала сабой, і ўрок прайшоў паспяхова.

Мінулы год быў знамянальным для мяне тым, што я праходзіла апошнюю педагагічную практыку. Давала ўрокі ў старэйшых класах сярэдняй школы. І менавіта ў гэты час я адчула, якая нялёгкая, але разам з тым пачэсная работа — выхоўваць заўтрашніх будаўнікоў камунізма!

Праз некалькі месяцаў я буду трымаць дзяржаўныя экзамены. Атрымаю дыплом настаўніцы з правам выкладаць гісторыю, родную мову і літаратуру.

Я не ведаю, дзе мне давядзецца працаваць, але добра ведаю, што ўсюды мяне чакаюць любімыя, дапытлівыя дзеці. Калі ж гаварыць аб маім асабістым жаданні, дык мне вельмі хацелася б паехаць на сваю родную Магілёўшчыну, у тыя мясціны, дзе прайшло маё маленства, дзе ўпершыню ўзнікла мая мара стаць настаўніцай.

*Тарасевіч* —



Ул. АЛОЎНІКАЎ,
кампазітар

# НОВАМУ ГОДУ—НОВЫЯ ПЕСНІ

Мінулы год... Многа добрых успамінаў пакінуў ён — радасны і святочны. Калі ж шкадаваць — дык толькі аб тым, што зрабіць у ім можна было значна больш. Разам з А. Русаком я напісаў песні «Маладзёжны марш» і «Добры дзень», а з Э. Агняцвет «Песеньку мінскіх дзяцей» — усё да фестывалю моладзі. У азнаменаванне саракагоддзя Вялікага Кастрычніка я склаў «Кастрычніцкі гімн» на словы К. Кірэенкі, а воінам Савецкай Арміі прысвяціў песню «Вартавы» на верш Г. Лося. З больш буйных твораў я нарэшце скончыў сімфанічную сюіту «Песні міру».

Гэта не вельмі многа. Але не варта забываць, што кампазітар акрамя творчых абавязкаў мае таксама і грамадскія. Я дапамагаў у стварэнні ансамбля песні і танца ў горадзе Бабруйску (мая радзіма), і калі ён у фестывальным спаборніцтве заваяваў першае месца, мне было прыемна падзяліць разам з гэтым маладым калектывам радасць яго першай перамогі.

Удзел у рабоце другога Усесаюзнага з'езду савецкіх кампазітараў, творчыя справаздачы перад працоўнымі нашай рэспублікі, хвалюючыя сустрэчы з воінамі Савецкай Арміі і пагранічнікамі, з моладдзю Вільнюса, з масквічамі — усё гэта патрабавала шмат часу, але аб гэтым я не шкадую. Савецкі кампазітар не можа быць адарваным ад жыцця, ад народа, не можа знаходзіцца і тварыць між чатырох сцен, без жывой сувязі з людзьмі — сваімі сучаснікамі.

У Новым годзе я спадзяюся працаваць над операй. Зместам яе будзе... але гэта пакуль што сакрэт. Адно непакоіць: ці здолею яе закончыць да саракагоддзя БССР. Ва ўсякім выпадку, да гэтага буду імкнуцца не шкадуючы сіл. Не пакіну без увагі і песню, бо да яе адчуваю асаблівую прыхільнасць. Неяк хочацца пашырыць змест песень, пашукаць і новыя формы. У прыватнасці, мяне цікавіць магчымасць увасаблення ў песні жартоўнасатырычнай тэмы. Сапраўды, чаму ж не пасмяяцца над гультаямі, сябялюбамі, над усім, што супярэчыць нашай сацыялістычнай маралі.

Але можна шмат чаго загадваць, а зрабіць мала. Лепш наадварот. І ад кампазітара патрабуюцца не абяцанкі, а новыя творы. Хай жа яны з'явяцца ў Новым годзе!

Оловейф

**Р. ЗАПРАГАЕВА, Л. ДУБАР,**
**мастакі**

# ПОПЛЕЧ ЛЁГКА ІСЦІ



Не так даўно мы разам скончылі мастацкае вучылішча, дзе пазнаёміліся і сталі сябрамі. Не заўважылі, як наша дружба вырасла ў каханне. Мы пажаніліся, але ў нас не астыла жаданне ісці далей, вучыцца, авалодваць любімай справай — мастацтвам.

Пакуль я скончыў першы курс Мінскага тэатральна-мастац-

кага інстытута, Роза працавала на вытворчасці. Мы разам марылі аб тым часе, калі і яна стане студэнткай. Гэтая радасная падзея адбылася ў мінулым годзе. Мы вучымся ў адным інстытуце. Але бадай самая вялікая наша агульная радасць у мінулым годзе — гэта нараджэнне сына Сашы. Калі жонка здавала экзамены, нашаму хлопчыку было два месяцы. І ён разам з бацькам радаваўся, што мама вучыцца.

Акрамя таго, не менш радаснай падзеяй было тое, што нам далі да саракагоддзя Вялікага Кастрычніка месца ў новым інтэрнаце. Ёсць і некаторыя плямінкі, якія азмрочваюць радасць: мы жывем у розных пакоях і з намі няма Сашанькі...

Мы ідзем па адной жыццёвай дарозе, авалодваем спецыяльнасцю, якую любім, таму і імкненні, і задачы, а часта радасці і цяжкасці ў нас агульныя.

У мяне вялікае жаданне — напісаць эскіз на тэму Вялікай Айчыннай вайны, у якой я ўдзельнічаў. Хочацца адлюстраваць суровыя, баявыя салдацкія будні. Хочацца, каб на палатне зноў ажылі мужныя хлопцы ў маскхалатах, таварышы мае — разведчыкі. Любімая тэма Розы — дзіцячыя кампазіцыі. І зразумела, як маці, гэта тэма ёй блізкая.

Працуючы з жонкай над рознымі тэмамі, мы застаемся разам, ідзем поплеч, хоць кожны выражае ў малюнках найбольш блізкае яму і зразумелае. І ў дзіцячай, і ў батальнай тэме мы хочам сказаць тое, што хвалюе зараз кожнага савецкага чалавека, — мы не хочам вайны!

У новы год, як і ўсе савецкія людзі, мы ўступаем з яснай, радаснай марай. А калі верыш у свае сілы, у сваю мару, лёгка ісці.

Н. Дубаў

Р. Запрагаева

Вера ПАЛТАРАН

# ПОСТУП ЧАСУ

## Нарыс

Заклапочанаю працоўнаю хадою прайшоў па савецкай зямлі 1957 год. Прайшоў і сціпла стаў у шэрагу пражытых год побач з трыццаццю дзевяццю слаўнымі гадамі, што праходзілі па нашай зямлі, здзяйсняючы вялікія справы.

Са сваімі, адметнымі прыкметамі ўвойдзе ў гісторыю год 1957-ы. Ён пакінуў свае глыбокія сляды ў нашым жыцці. I калі прайсці па гэтых слядах, то скрозь і ўсюды можна ўбачыць плён яго гаспадарскае руплівасці: там, здзіўляючы свет сілаю чалавечага розуму, стартавала ў бязмежжа сусвету касмічная ракета; там, у глухой, непраходнай тайзе, выраслі карпусы магутнай электрастанцыі; там, з самай глыбіні спрадвечных палескіх нетраў, забіў у неба магутны струмень нафты; там глянула на свет чыстымі шыбамі вокан новая школа; там вырасла прасторная, светлая, як палац, калгасная хата.

Але, акрамя такіх, бачных здабыткаў людское руплівасці, мінулы год зрабіў вельмі многа і для сваіх наступнікаў — год будучых, для будучыні. Пад глыбокімі снягамі ў чаканні цёплага подыху вясновых вятроў спяць маладыя руні. Ім даў жыццё год мінулы, а яны аддадуць свой важкі колас, сваё налiўное зерне, сваё багацце году будучаму. У калючых абдымках яловых лапак дрэмлюць маладыя яблынькі. Іх пасадзілі ў мінулым годзе. Яны дачакаюцца цёплых вясновых ліўняў, каб укараніцца, прыняцца на новым месцы; свае наліўныя духмяныя плады яны аддадуць гадам будучым. I так кожная наша вялікая ці малая справа, прыносячы славу сённяшняму дню, служыць і дню заўтрашняму, кладзецца чарговай цаглінаю ў велічны гмах нашай будучыні. Кожны заўтрашні дзень у нас пачынаецца сёння.

I ў той жа час кожны сённяшні дзень нясе ў сабе крупінку дня ўчарашняга. Ён таксама быў слаўны, гэты ўчарашні дзень. Але жыццё пайшло уперад, і сённяшняму дню ўжо мала славы дня ўчарашняга. Ён падладжвае твой крок пад заўтрашні дзень, ужо сёння беручы яго разгон. Такі закон нашага жыцця. Са славаю праводзячы гады ў мінулае, мы глядзім толькі ўперад, толькі ў будучыню.

А яна, гэтая будучыня, нам яскрава відаць з вышыні нашае сталасці. Сорак гадоў таму назад людзі ўбачылі яе ў прамяністым, летуценным ленінскім позірку. Сёння яна — ужо не толькі мара, але шмат у чым і наша ява. Яна праглядвае з жывых будзённых чалавечых спраў, з люд-

скіх душ, з усяго ходу нашага жыцця. Яе жывыя рысы, яе подых адчуваюцца ў тым магутным, узрастаючым разгоне, які набывае савецкая краіна з кожным новым годам.

Гэты разгон — няспынны, бо яго дае наймацнейшы з усіх відаў энергіі — вольная чалавечая праца.

## Здабыткі працы

Кожны дзень, як толькі галасістыя пеўні трэці раз урачыста абвесцяць аб набліжэнні новага працоўнага дня, з усіх канцоў Васілінак, Уланава, Гарадзішча, Бокшыц спяшаюцца да калгасных фермаў заклапочаныя людзі. У перадсвітальнай цемры дзе-ні-дзе бліскаюць жаўтаватыя мігатлівыя агеньчыкі цыгарак.

Неўзабаве ўжо рыпяць дзверы кароўнікаў; з іх патыхае цёплым паветрам са звыклым пахам сырадою і свежага сена; перагаворваючыся паміж сабою, спяшаюцца да кароў даяркі. На нейкі час настае цішыня, толькі чуваць, як уздыхаюць над поўнымі кармушкамі каровы і як звоняць аб вядро прудкія струменьчыкі малака.

А потым адна за другою даяркі падыходзяць да бідонаў. Пад напорам шырокай плыні сырадою шугае ўверх шкала малакамера, і новы працоўны дзень запісвае на свой рахунак першыя вынікі людское працы. Запісвае і спяшаецца далей будзіць людзей сваімі шматлікімі клопатамі, сваімі неадкладнымі справамі.

І вось ужо ў розных кірунках ідуць і едуць людзі. Жанчыны з лапатамі ў руках спяшаюцца на гумно ці ў свіран. Старэйшыя мужчыны, спусціўшы з калёс ногі, паважна пыхкаючы цыгаркамі, скіроўваюць коней да калгасных сціртаў — развозіць калгаснікам салому на працадні. Маладыя хлопцы, стоячы на возе ва ўвесь рост, раз-по-разу нецярпліва пасмыкваюць лейцамі, ім карціць хутчэй пагрэцца на рабоце: накідаць воз сена і адвезці на ферму або бульбы навазіць у прыфермскія сховішчы.

Так пачынаецца працоўны дзень у калгасе імя Дзяржынскага, на Случчыне.

Не ў кожным калгасе людзі гоняцца за работаю так, як дзяржынцы. Звычайна гэткай парою, калі перароблены ўжо самыя «прыбытковыя» справы, брыгадзірам даводзіцца не па аднаму разу напамінаць кожнаму з калгаснікаў пра нарад на работу. У дзяржынцаў моцна цэніцца кожны запрацаваны дзень. Тут людзі крыўдзяцца на брыгадзіра, калі ён абміне іх у нарадзе.

Праўда, не заўсёды так было і ў дзяржынцаў. Гады чатыры таму назад, калі з калгасам імя Дзяржынскага з'ядналіся яшчэ тры калгасы, справы тут ішлі тужэй. Грамадская гаспадарка калгасаў-«прымакоў» была куды слабейшая, чым у дзяржынцаў, ды і працоўная дысцыпліна невысокая. Людзі не столькі працавалі ў калгасе, колькі займаліся пабочнымі промысламі: гарадзішчанцы завальвалі слуцкі базар сваімі бандарнымі вырабамі — дзежкамі, бочкамі, кадаўбцамі, а кухцінцы — самаробнымі чунямі, злепленымі са старых аўтамабільных пакрышак. Гэтыя промыслы складалі галоўную крыніцу іх даходаў.

Але вось адбылося ўз'яднанне калгасаў. Вёскі Гарадзішча і Кухты сталі брыгадамі ў калгасе імя Дзяржынскага. Працавіты калектыў дзяржынцаў узяўся выхоўваць новых членаў сваёй сям'і. Выхоўвалі і ўласным прыкладам, і дапамогаю, і нарэшце — патрабавальнасцю. І дабіліся

свайго. Людзі зразумелі, што сядзець на слуцкай зямлі і стругаць клёпкі ці клеіць чуні — не такая ўжо выгадная справа. Куды выгадней пільнавацца калгаса, зарабляць працадні. Цяпер кухцінцы з гарадзішчанцамі ўносяць сваю роўную долю працы ў грамадскую гаспадарку калгаса. І дзяржынцам ужо не крыўдна дзяліць з імі на працадні прыдбанае сумленнаю працаю.

А дзяліць у іх ёсць што: і ў калгаснай касе вядуцца немалыя грошы, і ў грамадскіх свірнах не бракуе ўсякага дабра. Калгас імя Дзяржынскага — гаспадарка шматгалінная. І вядзецца яна ўмела, з добрым гаспадарскім разлікам. Тут ведаюць, адкуль пацягнуць капейку.

Самай прыбытковай галіной у дзяржынцаў з'яўляецца раслінаводства. І гэта не дзіва: Случчына здаўна славіцца сваімі ўрадлівымі землямі. Гэта — наша беларускае Стаўрапалле. А ў дадатак да ўсяго, дзяржынцы і гнаёк кладуць у гэтую зямлю густа, і мінеральнымі ўгнаеннямі кормяць яе. І расце ў іх добра ўсё, што ні пасеюць. Асабліва лён. Культура гэтая любіць не толькі тлустую зямлю, але і добры догляд. А даглядаць яе тут ёсць каму: на ільне летась працавала 22 звяны. Лепшы лён вырас у самай маладой звеннявой — Марыі Шарамет. З участка 5 гектараў Марыіна звяно атрымала па 8 цэнтнераў семя з гектара. У мінулым годзе адно толькі гэтае звяно дало калгасу 191 тысячу рублёў прыбытку. А ўсяго за лён калгас паклаў на свой рахунак 3.525.000 рублёў.

І за той жа лён калгасныя ільнаводкі паклалі на свае рахункі таксама не бедна. Ільнаводчы працадзень заважыў 2 кілаграмы збожжа, 3,5 кілаграма пшаніцы, 6 кілаграмаў бульбы, 3 кілаграмы сена ды яшчэ 52 рублі грашыма. Вось тут, будучы на месцы тых жа гарадзішчанцаў ці кухтаўцаў, і падумаеш: колькі трэба было б склеіць тых чуняў ці выстругаць дзежак, каб зарабіць гэтулькі дабра!

Важнай крыніцай даходу і для калгаса, і для калгаснікаў з'яўляецца жывёлагадоўля. У мінулым годзе яна дала грамадскай гаспадарцы паўтара мільёна рублёў прыбытку. Як вядзецца гэтая галіна гаспадаркі, можна меркаваць хоць бы па тым, што па надою малака і атрыманню мяса на 100 гектараў ворнай зямлі калгас імя Дзяржынскага трывала замацаваўся ў раённых зводках на другім месцы. І калі ў першай дэкадзе лістапада надоі некалькі знізіліся, тут забілі трывогу. Заклапочана схілілася над сваімі рацыёнамі калгасны заатэхнік Марыя Кірылаўна Прылепская, пачаў раіцца з жывёлаводамі і разам з імі шукаць выхаду старшыня калгаса Іван Піліпавіч Грышкоў. Параіўшыся, вырашылі перавесці кароў на новы рацыён. Вынікаў доўга чакаць не прыйшлося: праз дзень надоі зноў пачалі расці.

Рацыёны — адзіны пакуль што эфектыўны спосаб павышэння прыбытковасці малочных ферамаў. У гэтым годзе праўленне калгаса зрабіла спробу знайсці другі спосаб: было куплена 19 кароў бурай латвійскай пароды. Ды, відаць, на Случчыне не ўсё да спадобы гэтай пародзістай жывёле. Тут няма, як у Латвіі, добрых выпасаў. Ідзе такая карова па слуцкай пашы, несучы перад сабою галаву, нават травінкі не адшчыкне, і барджэй спяшаецца да кармушкі. Калі нашы остфрызы давалі ўлетку за суткі больш чым па 20 літраў малака, то ад бурых латвійскіх надойвалі толькі па 10 літраў (праўда, пасля першага сцёлу). Вось цяпер дзяржынскія жывёлаводы і думаюць, што ж ім рабіць у будучым: чакаць, як далей будзе з гэтымі пародзістымі каровамі, нарыхтоўваць як мага больш кармоў і добра карміць сваіх остфрызак ці шукаць якіх-небудзь шляхоў паляпшэння мясцовай пароды жывёлы. Добра было б, каб ім дапамаглі ў іх шуканнях і сумненнях нашы вучоныя.

А пакуль з паўтара мільёнаў прыбытку ад жывёлагадоўлі толькі паўмільёна выручана за малако, а мільён — за мяса. Пераважна за свініну. Свіней калгас імя Дзяржынскага гадуе добрых. У чыстых станках ляжаць паўтарамятровыя ружовыя харашухі. Такая пацягне кілаграмаў за трыста.

Толькі цеснавата тут, як і ў кароўніках. Цеснавата калгаснаму дабру, прыдбанаму ў гэтым годзе, мясціцца ў старых будынінах. Трэба новыя будаваць, і грошай на капітальнае будаўніцтва хапае, але паспрабуй дастаць будаўнічыя матэрыялы!

— Колькі ўжо нам клопатаў гэтыя будматэрыялы прычыняюць, дык і сказаць цяжка, — скардзіцца Іван Піліпавіч Грышкоў.— Райвыканком — у аблвыканком пасылае, а туды паткнешся, дык: «Мы ж вам на раён далі». Як у тым зачараваным коле...

— А што гэта ў вас вунь там, ля кароўнікаў, за будыніна такая вялікая?

Іван Піліпавіч апускае вочы, і на твары яго з'яўляецца нейкая ніякаватая ўсмешка.

— Як вам сказаць... Гэта — помнік лёгкадумнасці нашага былога бабруйскага абласнога кіраўніцтва... Адным словам, гэта цяпліца...— і Іван Піліпавіч расказаў гісторыю ўзнікнення гэтага збудавання.

Некалькі гадоў таму назад яго выклікалі ў Бабруйскі аблвыканком. «Слухай, Грышкоў, людзі цяпліцы будуюць, а ты што ж адстаеш?» Іван Піліпавіч пачаў было даказваць, што будуюць іх тыя, хто жыве блізка каля вялікіх гарадоў, дзе ёсць рэстараны і сталовыя — галоўныя спажыўцы і зялёнай цыбулькі і свежых гурочкаў узімку. А ў Слуцку, дзе ў кожнае гаспадыні наплецена больш чым па дзесятку пляцёнак цыбулі, ахвотнікаў на парніковую не будзе. Толькі грошы дарэмна патраціш на гэтую справу. Ды хто яго там слухаў! «У нас запланавана на вобласць глядзі колькі цяпліц... Мы рашылі раскінуць іх на перадавыя калгасы... Адным словам, давай!»

І закруцілася машына. Адкуль узяліся і тыя будаўнічыя матэрыялы. Панавозілі цэглы, цэменту, шкла. Справа была зімою. Людзі палілі вогнішчы, адагравалі зямлю, секлі яе ламамі. Разам з цэментам і цэглаю, як у зямлю, закапалі 96 тысяч рублёў грошай і ці не столькі ж тысяч людскога працы. А як пабудавалі, дык у вобласці агледзеліся: «А праўда, яна не вельмі то трэба была»... І вось чацвёрты год пазірае на свет пустымі, як сама гэтая задума, шыбамі вокан нікому не патрэбнае збудаванне. Марна загінулі вялікія грошы, якія заўсёды так патрэбны ў гаспадарцы.

— З гэтае цэглы, калі разабраць цяпліцу, шулы якія былі б для свінарніка ці кароўніка...

Іван Піліпавіч толькі ўздыхае. Яму шкода дарэмна патрачаных грошай і крыху крыўднавата за сваю памылку: трэба было больш грунтоўна растлумачыць тым таварышам з вобласці бескарыснасць іх «ініцыятывы», яму ж тут, на месцы, гэта відней.

Будаўнічыя работы ў калгасе вызначае не гэтая, благое памяці, цяпліца. Калгас будуе на свае сродкі двухпавярховую школу-дзесяцігодку, асігнаваўшы на гэтую справу каля мільёна рублёў. Яна паднялася ўжо адным сваім паверхам. Пабудаваны добры кароўнік. Заканчваецца будаўніцтва калгаснай лазні.

І яшчэ адну вельмі добрую справу зрабілі дзяржынцы — яны пабудавалі светлы, прасторны дом для сваіх калгасных пенсіянераў.

У калгасе працуе многа моладзі. Куды ні пойдзеш — на фермы, у гумны, да буртоў, усюды ўбачыш, як завіхаецца ў працы моладзь. На малоч-

ных фермах амаль усе даяркі маладыя дзяўчаты, на свінафермах — таксама, на птушкаферме — яны ж, у паляводчых брыгадах, такіх, як пятая, таксама ўсё моладзь. Не крыўдзяцца тут на сваіх маладых працаўнікоў. Лепшая даярка ў калгасе — маладая дзяўчына Вера Басалыга, лепшая свінарка — камсамолка Марыя Трафімчык. А хто скажа благое слова пра калгасных птушніц, пра двух Галяў — Мацвееву і Гурыновіч.

Працуе моладзь добра, але яшчэ лепш тое, што яе тут вучаць працаваць, вучаць усё рабіць грунтоўна, дбала, па-гаспадарску.

Вось маладая дзяўчына зносіць у гумно каноплі. Сілы ў яе хапае, і яна бярэ вялікія бярэмкі і носіць хутка. Але адзін бярэмак паставіць шчыльна да сцяны, а другі — толькі прыткне, і каноплі валяцца, блытаюцца.

— А ты паменш бяры, ды стаў роўненька, шчыльна. Тады і сартаваць будзе лягчэй. А то раней часу сатруцца, — вучыць яе брыгадзір Дзмітры Аляксеевіч Васілевіч.

Не вельмі гэта вялікая мудрасць — паставіць як след каноплі. Але Дзмітры Аляксеевіч, чалавек сталы і добры гаспадар, ведае, што азначае гаспадарская звычка ў рабоце і як яна неабходна кожнаму.

У сховішча ссыпаюць бульбу. Каб раўнамерна яе засыпаць, трэба ўвесь час адграбаць у бакі ворах насупраць люка. Малады хлопец з жалезным шуфлем у руках залез на ворах і абы-як разграбае бульбу ў бакі.

— Ну, што ж гэта ты робіш? — падыходзіць да яго Дзмітры Аляксеевіч і бярэ шуфель з рук. — Глядзі, колькі гэтым вострым шуфлем бульбы нарэзаў, а яна ж псавацца будзе. Ты ж, галава, вось як, глядзі... Бяры ад падлогі, тады бульба сама з вораха ў шуфель коціцца. Так і сілы менш патраціш, і работу хутчэй зробіш, і дабра не сапсуеш.

Калі дзяржынцы гавораць, што моладзь у іх працуе добра, то нам уяўляецца, што на кожнай рабоце, мабыць, ёсць свой такі Дзмітры Аляксеевіч, які, як добры бацька сыноў, гадуе сабе на змену руплівых гаспадароў, што ўмелі б цаніць людскую працу, людское дабро.

У калгасе імя Дзяржынскага на 800 двароў налічваецца 2.200 гектараў ворнае зямлі,— на кожны двор гэта, прыблізна, прыпадае па 2,7 гектара. У недалёкім мінулым, пры аднаасобніцтве, гаспадарку, якая мае 2,5 гектара зямлі, нельга было б назваць інакш, як бядняцкаю. А ўжо вядома, які быў дастатак у такой гаспадарцы.

Тыя ж два з паловаю гектары зямлі на кожны двор, толькі без палыновых межаў, даюць ужо зусім інакшы дастатак. Не беднасцю павявае ад гэтых прыгожых шасціаконных хат, якія ставяць сабе дзяржынцы. І не беднякамі выглядаюць людзі, якія грошы лічаць тысячамі, а дабро — тонамі. А такіх у калгасе большасць, і за прыкладамі далёка хадзіць не трэба. Сям'я Рыгора Іванавіча Гука на свае 809 працадзён атрымала авансам 1 тону 618 кілаграмаў хлеба, каля пяці тон бульбы, 2,5 тоны грубых кармоў для ўласнае жывёлы і 4.854 рублі грошай. Даярка Вера Басалыга зарабіла за паўгода 464 працадні і атрымала на іх 2.784 рублі грошай, без малога тону хлеба, каля трох тон бульбы.

Завяліся ў гаспадарцы грошы — і Вера таксама вырашыла пабудаваць новую хату. У ёй будзе і жыцца весялей, і знойдзецца месца для новых набыткаў.

Між іншым, гэта іменна новыя набыткі прымушаюць людзей думаць аб прасторнейшых хатах. Завялося ў хаце дабро — трэба купіць добрую шафу, каб лепш шанаваліся новыя касцюмы, паліто, дзявочыя шаўкі.

Часцей сталі шыцца абноўкі, — і як тут не мець пад рукою сваёй швейнай машыны. І яна ёсць амаль не ў кожнае з дзяржынскіх жанок.

Каб грамадская гаспадарка магла забяспечыць людзям такія дастаткі, ёю трэба ўмела кіраваць. Трэба не раз прыкінуць і памеркаваць, як зрабіць так, каб кожны гектар зямлі даў як мага большы прыбытак. І калгасны «комсастаў», людзі, якім калгаснікі даверылі кіраваць гаспадаркай, моцна думаюць над гэтым. У калгасе — 19 брыгадзіраў. Адны з іх закончылі агранамічную школу, другія маюць добрую агульную адукацыю, трэція — вялікі практычны вопыт работы; два чалавекі да ўз'яднання калгасаў працавалі старшынямі. Усе яны ў той ці іншай меры знаёмы з навуковымі асновамі земляробства, і параіцца з імі старшыні ці аграному бывае вельмі карысна.

Але напрамак усім пошукам у галіне земляробства ў большасці выпадкаў дае добры знаўца зямлі, калгасны аграном Сяргей Раманавіч Козак. Пад яго апекаю тут то вырасцяць добры тытунь і атрымаюць за яго немалыя тысячы, то гарод уробяць так, што ўсё лета возяць на рынак калгасную гародніну, то насенневодствам зоймуцца,— а гэта таксама справа вельмі прыбытковая, грашовая.

Разлікі робяцца не толькі зыходзячы з інтарэсаў сённяшняга дня. У 1957 годзе ўсяго на некалькіх гектарах саду маладыя яблынькі далі першыя свае плады. Але пройдзе некалькі год — і на ўсіх 80 гектарах калгаснага саду абвесяць сваё голле пад цяжарам яблыкаў маладыя яблыні. Калгасны банкаўскі рахунак будзе выглядаць тады яшчэ салідней, чым цяпер.

— Гэ-э, дык за гэтыя гады столькі панасаджваюць садоў ды панагадоўваюць яблыкаў, што іх не вельмі то прадасі за сённяшнія грошы,— пярэчылі Сяргею Раманавічу некаторыя калгаснікі.

— А чаму канешне за сённяшнія?— адказвае Сяргей Раманавіч.— Навошта ж, каб і праз некалькі гадоў кілаграм яблыкаў каштаваў чатыры рублі? Няхай іх людзі спажываюць на здароўе за паўтара рублі.

Так сённяшні дзень у нашым жыцці дбае пра дзень заўтрашні.

## Цераз парогі

Калі ідзеш вуліцаю Васілінак, то першае, што табе кідаецца ў вочы,— гэта новыя хаты, якія то тут, то там аж свецяцца жаўцізною смаловых бярвенняў. У некаторых з іх ужо жывуць шчаслівыя навасёлы, некаторыя пазіраюць на свет незашклёнымі вокнамі, а некаторыя толькі падняліся ад зямлі двума-трыма вянкамі. І амаль каля кожнага двара — кучы бярвення: усе, хто яшчэ не паспеў паставіць падмуркаў пад новыя хаты, відаць, адклалі гэты клопат на самы блізкі час. А чыя ж гэта вунь там такая пахілая хаціна сумна пазірае на свет сваімі маленькімі акенцамі? Марознай раніцай, калі дружна закураць усе вясковыя каміны, яна здаецца яшчэ меншай, нібы скурчылася ад холаду. Нейкаю зацятаю адзінотаю павявае ад гэтае хаціны. І хочацца даведацца, які ж чалавечы лёс змарнеў тут, за гэтымі трухлявымі сценамі, якая жывая душа пазірала на свет цераз яе малюсенькія акенцы.

Гэта — сумная гісторыя. Жывуць у Васілінках два браты — Рыгор Шарамет і Павел Шарамет. Некалі, яшчэ ў 30-я гады, разышліся іх жыццёвыя дарогі: Паўлава дарога пралегла ў кірунку агульнай дарогі ўсіх васілінкаўцаў, усяго працоўнага сялянства краіны, Рыгорава — пайшла блукаць па закутках жыцця, далёка ад шырокае людское дарогі.

Куды толькі ні кідаў лёс Рыгора ў пошуках тых шляхоў, якія не перакрыжоўваліся б з агульнымі людскімі шляхамі. «Нічога, затое я сам сабе пан, не тое, што тыя, у калектыве», — суцяшаў сябе чалавек, і, выбіваючыся з сіл, усё плыў і плыў супраць плыні жыцця.

«Тыя, у калектыве», а сярод іх і яго брат Павел, памагаючы, паддаючы ахвоты адзін другому, абжываліся, багацелі, а «сам сабе пан» адзін-на-адзін дужаўся з жыццём. Час ішоў, але ні набыткаў сабе чалавек не прыдбаў аніякіх, ні радасці не зведаў у жыцці; і ўсё ж упарта ішоў сваёй дарогай. Так дайшоў і да старасці. І цяпер, адзінокі, чужы людзям, вораг сабе, «сам сабе пан» адной рукою — другую страціў недзе на лесазаводзе — цюкае чужое бярвенне, будуе людзям хаты, а свая — толькі што ліпіць, у яе нават начаваць ісці боязна.

Рыгор Шарамет — апошні ў Васілінках аднаасобнік. І, гледзячы на яго, людзі толькі галовамі ківаюць:

— Вось як чалавек можа сам сябе абнядоліць. Гэта ж працаваў бы ў калгасе, хаця б, па яго сіле, вартаўніком, дык і то глядзі як жыў бы. Дык жа не. Адным словам, праціўнік сваёй долі, свайму шчасцю праціўнік.

«Праціўніцтва» — гэта той апорны рубеж, за які чапляецца ўсё тое, што беззваротна адыходзіць у мінулае. Праўда, не заўсёды яно бывае такім трагічна ўстойлівым, як гэта мы бачылі на прыкладзе з Рыгорам Шараметам. «Праціўніцаю» ў недалёкім мінулым была і Малання Залеская. У Васілінках праводзілі радыё. Калі чарга дайшла да цёткі Маланні, яна — ані блізка. «Няхай другія цешаць чорта, а я не буду. Дзе ж гэта бачана, каб гаварылі аж у Маскве, а ў Васілінках чутно было»...

Абмінулі радыётэхнікі цётчыну хату і пайшлі далей рабіць сваю справу.

Праходзіць дзень, другі. Цётцы Маланні карціць схадзіць да суседзяў, паслухаць, ці гаворыць тое радыё. І нарэшце не вытрымала, пайшла. Тое, што яна там пачула, спадабалася цётцы: і песні хораша спяваюць, і казкі расказваюць. З гэтага часу і зачасціла цётка Маланння да суседзяў. І ўсё слухае, ды так уважліва. Вось праспявалі песні і на момант усё сціхла. Толькі там, у той чорнай скрыначцы, як што закіпела. «От, усёроўна, як капусту хто там варыць»,— уголас прамовіла яна сваю думку. І мабыць гэтае матэрыялістычнае ўяўленне канчаткова змяніла кірунак цётчыных думак. Яна пайшла шукаць радыётэхнікаў. Цяпер кожны дзень далёкая Масква гаворыць з цёткаю Маланняю: скажа, колькі часу — ці пара ўставаць, ці можна яшчэ пагрэцца на цёплай печы; напомніць, які сёння дзень, бо ў цёткі памяць ужо слабаватая стала, і вяселіць цётчыну душу добраю песняй, пацяшае казкай. І калі часам змоўкне на хвілін колькі, цётка Маланння барджэй бяжыць да суседзяў: «Ці гаворыць у вас? Маё нешта змоўкла»...

Так перамагло жыццё цётчына «праціўніцтва».

...Коціцца, бяжыць у далеч будучыні імклівая плынь жыцця. Адыходзяць у нябыт рэшткі старога, аднаасобніцкага, індывідуалістычнага. Мерай жыццёвай устойлівасці, трываласці жыццёвых пазіцый чалавека становіцца яго прыналежнасць да калектыву. Чалавек па-за калектывам выклікае не толькі здзіўленне людзей, але і насмешку. Духам калектывізму прасякнута ўсё жыццё сённяшняй калгаснай вёскі.

А гэта—самае вялікае наша дасягненне. Гэта той трывалы падмурак, на якім узводзіцца наша будучыня.



**Аркадзь МАРЦІНОВІЧ**

Аркадзь Марціновіч нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў Глускім раёне. Ён скончыў партыйную школу пры ЦК КПБ і завочна філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Доўгі час Марціновіч працаваў у рэдакцыі газеты «Калгасная праўда», а цяпер працуе ў рэдакцыі «Літаратура і мастацтва». Вершы яго друкаваліся на старонках «Чырвонай змены», «Полымя», «Літаратуры і мастацтва». Ніжэй мы змяшчаем новыя творы паэта.

# РОЗДУМ



Як дзень мінецца ў працы і турбоце,
Смуга вячэрняя на дол спаўзе, —
Люблю пасумаваць на адзіноце,
Аддацца думам і тузе.

Я шмат што прыгадаю ў тыя хвілі:
Дарогі, па якіх не змог прайсці,
Сяброў, што, мала зведаўшы ў жыцці,
Галовы на вайне злажылі;

Загоны пачарнелай збажыны
На полі адстаючага калгаса;
Пялёсткі нерасцвіўшых красак
І чэзласць неўзаранай баразны...

Я шмат што прыгадаю. І тады
Адчую востра ўсёй істотай
Патрэбу працаваць з запалам маладым,
Заўсёды жыць з гарэннем і турботай.

Бо шмат яшчэ нязробленага, шмат...
Працуй-жа, не спыняйся, брат,
І за сяброў, што не прышлі з вайны,
Працуй,— каб плён заўсёды быў двайны.

# ДОСВІТКАМ



Досвіткам выходжу я з двара.
Вее свежасцю рамонкавая рань.
Ледзь трапечацца святлом сваім зара.
Цішыня ўладарыць — то яе пара.

Вось і сцежка цераз поплаў напрамкі
Да маўклівых прытаіўшыхся ракіт,
Да балоцістай павольнай Пціч-ракі,
Дзе на досвітку рыбачаць рыбакі.

Абмывае ногі мне раса...
Тут такая вабная краса.
Тут свой першы верш я напісаў,
Тут я прагнасць да жыцця пазнаў...

І плывуць чародкай успаміны —
Дзён маленства светлыя карціны,
І само прыходзіць параўнанне
З непаўторным сённяшнім світаннем.

# ВОСЕНЬ



Рачное восеньскае паўнаводдзе
Схавала берагі і узбярэжжа ліжа.
Малыя воблачкі з-за небасхілу ўсходзяць,
Збірае вецер іх — у хмары ніжа.
Тады ты бачыш у прыродзе восень.
А ручаіны прахалоду носяць,
Набраклым лісцем шопатна варушаць.
Тады ты бачыш у прыродзе восень
І нечым неразгаданым узрушан.
Каля ракі бязлістая каліна
Красуецца агнём чырвоных ягад.
А з пажаўцелай вымаклай даліны
Паветра вее восеньскаю прагай...

На сінь вады, на чырвань гэтых ягад, —
Мо' восені не к густу яркі колер?
Паветра вее восеньскаю прагай...
І нейкі лёгкі смутак сэрца коле,
Калі гляджу на гэта наваколле,
Дзе, як мастак, з нябачным пэндзлем
восень...
А мо' мне проста толькі так здалося,
Мо' то не сум, а шум пустога голля?
Мо' то ўрачыстасць наплывае ў грудзі,
Калі гляджу, як ціха, ў позе цнотнай,
Зямля, свае дары аддаўшы людзям,
Са смакам спачывае, як работнік.
І вось ужо мне весела чагосьці,
Хоць у бары не чуцен трэляў россып.
Калі ў душы багата маладосці,
То ў восені яе, напэўна, досыць.
Красы ты ўбачыш многа ў гэтых далях,
Калі ў душы ёсць столькі маладосці.
Аж аднаго жыцця, здаецца, мала!

# ПЕСНЯ

Ты мне песню спявала калісьці
Аб каханні, аб марах і снах.
Шалясцела бярозавым лісцем
У малінавым дыме вясна.
Мы ў пачуццях навечна кляліся,
Мы жадалі адзін аднаго.
Палыхалі праменнямі высі,
Палыхаў у нашых сэрцах агонь.
Праляталі гадзіны ў размове,
Пацалунках, як ты, трапяткіх.
Ціха гойдаўся хвалямі човен
Каля берага сіняй ракі.
Вось і ўсё. Абрываецца казка,
І канчаецца наша вясна.
Аграмаднаю чорнаю каскай
Апранула планету вайна.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Прамінула яна. Ды ў прадвеснях
Я цябе больш ужо не знайшоў.
Ты цяпер для мяне толькі песня,
Толькі вобраз няспраўджаных сноў!

# ДРУЖБА



Я цябе люблю да забыцця,
Я люблю любоўю адналюба.
Можа ў тым і сэнс майго жыцця,
Што ты будзеш вечна сэрцу любай.

Беларусь! Ці ў сонцы, ці ў імжы
Пазнаю я воблік твой адзіны;
Дзе ні быў — заўсёды ў сэрцы жыў
Родны край, як паратунак дзіўны.

Знаю я: вялікі наш Саюз —
На паўсвета твой прасцяг, Радзіма! —
І паўсюды мае Беларусь
Многа шчырых сябраў-пабрацімаў.

Добра чуць заўсёды іх руку,
Добра шлях у будучыню мераць,
Калі многа сонца на шляху,
Калі мары злучаныя з верай.

Паглядзі сягоння на сябе,
Беларусь, юнацкая старонка:
Шмат здабыта ў працы й барацьбе
Перамог, абвітых славай звонкай.

У вялікай дружбе ты ўзрасла,
Налілася дужасцю і гартам...
Хто нам зычыць шчасця — ўсім хвала,
А найперш — Камуністычнай партыі;

Хай гудкі гудуць, бушуе рунь,
Хай не моўкнуць песні майго краю.
Я цябе за гэта, Беларусь,
І люблю, і слаўлю, і вітаю.



Нарадзіўся я 4 сакавіка 1919 года ў Маскве. Бацька— матрос Балтыйскага флоту, з лінкора «Петрапаўлаўск», ваяваў у той час на франтах грамадзянскай вайны. У 1921 годзе сям'я вярнулася на радзіму бацькі — у вёску Папкі Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці.

У 1935 годзе я скончыў Папаратнянскую ШКМ і паступіў на рабфак Белдзяржуніверсітэта. З 1936 па 1941 год вучыўся на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута імя М. Горкага. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. 4 сакавіка 1943 года на фронце быў цяжка паранены і дэмабілізаваны.

Прабаваў пісаць яшчэ ў дзяцінстве, але сталай літаратурнай працай займаюся з 1944 года. За гэты час надрукаваны зборнікі «Першая атака», «Апавяданні», «Мост», «Зялёная чарніліца», «Чырвоны бераг», «Дамок на колах» («Савецкі пісьменнік», Масква), «Паядынак» і інш. Нядаўна скончыў кнігу апавяданняў аб мінулым і цяперашнім нашай вёскі, аб моладзі і яе слаўных працоўных подзвігах. Аповесць «Пабіраха» — адзін з твораў гэтай кнігі.

Мікола ЛУПСЯКОЎ.

**Мікола ЛУПСЯКОЎ**

# „П А Б І Р А Х А“

## Аповесць

### 1

Мал. Л. Дубара.

Вельмі многія называлі гэтую сям'ю Пабірахамі. Жыла сям'я ў невялікай хаціне, якраз пасярод вёскі, недалёка ад ручая, густа зараслага алешнікам. Сам гаспадар Рыгор Жылудовіч увесь час хварэў і памёр незадоўга перад апошняй вайною, пакінуўшы сіратою дачку Ганну і жонку Адарку. Больш у сям'і нікога не было. Адарка не вельмі каб была працаўніца, яе іншым разам брыгадзір ледзь не сілком вытурваў у поле. Ганна ж была малалетак, і таму кожны кавалак хлеба быў на ўліку, а якое-небудзь старое фабрычнае плацце лічылася каштоўным здабыткам. Гэткім жа здабыткам былі і добра паношаныя лодачкі, купленыя на рынку за чвэртку колішняй цаны, і катушка фабрычных нітак, і нават якая-небудзь адмысловая шпілька. Конаўка пры вядры і само вядро былі драўляныя, зробленыя з ліпы, у куце звычайна тырчэлі прасніца, матавіла, ды на акне ляжала яшчэ верацяно, бо Адарка заўсёды сеяла на агародзе лён. Калі трэба было што-небудзь зварыць або што-небудзь спячы, дык пачыналася беганіна па суседзях. На такую справу пасылалася Ганна.

— Цётачка,— звычайна прасіла яна,— ці не дасце вы нам свае патэльні?

Або:

— Цётачка, ці нельга пазычыць у вас чыгуна?

— Пабірахі забегалі, — казалі ў такія дні суседзі.

Свята Жылудовічы спраўлялі рэдка. Але калі выпадала спраўляць, то колькі было пасля гэтага гаворкі!

Неяк аднаго разу заехаў да іх далёкі родзіч — вельмі сталы гарадскі чалавек, добра апрануты, на новенькім веласіпедзе, што аж зіхціць. Адарка вельмі доўга мерала час гэтым наведвальнікам.

— А, помню, — казала яна субяседніцы, — гэта было за месяц, а можа і болей да таго, як прыязджаў да нас Яўген з горада.

Або:

— Ну, ну, як жа, помню! Якраз пасля таго праз тры дні і Яўген з горада да нас прыязджаў.

Духмяныя, харошыя вечары ў жніўні. З поля прыносіць вецер пах спелага жыта і добра напаленай за дзень зямлі. Далёка на тым баку ручая, за вольхамі, ужо зайшло сонца і ўвесь небасхіл палымнее. У валках, у снапах, у межах сярод грудаў завялай сурэпкі, у агародах, нават у двары дзе-небудзь пад шуляком на ўсе лады звоняць конікі. Не-не дый дыхне вецер блізкай восенню, бо даўно прайшла касавіца траў і ўжо не крумкаюць, як нядаўна, жабы ў ручаі і на паплавах і не крэкаюць таксама, жыруючы, дзікія качкі Адно конікі як бы развітальныя песні спяваюць. І зоры пабольшалі. Іншая ліхтаром здаецца, плавіцца, мігціць. Невялікі дворык, абгароджаны частаколам, здаецца на дзіва ўтульным, робіцца дарагім. Ад невялікай ігрушы, якая часам шапоча лісцем, патыхае нечым вельмі родным, што і растлумачыць бадай немагчыма.

Вось у адзін з такіх вечароў Ганна і дастала тыя самыя лодачкі, што хаваліся ў спецыяльнай скрыні і якія і яна, і маці лічылі заўсёды вялікай каштоўнасцю. Падумала ды дастала яшчэ і тое фабрычнае плацце, якое заўсёды бераглося. Пры святле настольнай лямпы пераапранулася і таропка пачала пераплятаць косы. Потым закружылася перад люстэркам, аглядаючы сябе. Лодачкі былі вялікаватыя, дый з непрывычкі цяжкавата было трымацца на высокіх каблуках. Але гэта нішто — не так і прыкметна. А вось плацце! Яно было настолькі не па росту, вялікае для яе, што рукавы ледзь не прыкрывалі пальцаў. Ганна падкасала іх — выйшла як быццам бы нішто. Плацце ў поясе скалола шпількаю — таксама нядрэнна. Яшчэ раз агледзела сябе, яшчэ раз прайшлася па хаце і выйшла пасля гэтага ў двор.

Па-ранейшаму палыхаў захад, а далёка ў вёсцы спявалі дзяўчаты і часам парыпваў гармонік. Ганна ўздыхнула і накіравалася на вуліцу. Нават у цемені ёй было сорамна, калі яна сустракала каго. Гэта ж яна ў новым плацці! Гэта ж яна ў лодачках!

К таму часу, як яна дайшла да пагулянкі, калгасны клуб быў ужо расчынены, пад столлю палыхалі вялізныя лямпы, іграў гармонік і пары танцавалі. Ганна прабралася ў куток і тут спынілася, спакваля разглядаючы ўсіх. Божа ты мой, якое плацце было на Рагіне Маеўскай! Крэпжаржэтавае, у зялёную з чорным кветку, на нагах туфлі самае малае за трыста рублёў. Капа светлаватых валасоў хвалямі спадала і рассыпалася па яе плячах. Высокая, стройная, з курносым бледнаватым тварам, яна была прыгажэйшай за ўсіх на вячорцы. А з ёю танцаваў Міцька Тачыла — хлопец вясёлы, прыгожы, паўнатвары, у форменнай вопратцы. На яго шапцы ўспыхвае белая какарда — ледзь не рулявога таго самага кацера, што акуратна праз дзень прабягае па

Дняпры. На заваротах ён так грукае наваксаванымі чаравікамі, што міжвольна ўяўляецца, які гэта моцны і адважны чалавек. Жыве ён добра, бо да таго агарода і сада, які мае ў калгасе маці, да тых парсюкоў, што кормяцца ў двары, кожны месяц прыносіць палучку. Прапіць яму пяцьдзесят або сто рублёў зусім нічога не значыць, і ён часта бывае во такім, як цяпер, веселаватым. Ганна ведае, што многія дзяўчаты мараць пра Міцьку, а Рагіна і яе маці, дык гэтыя ўвачавідкі ўвесь час бамбардыруюць яго, ды пакуль што не маюць поспеху. Некалькі дзён назад Міцька зволіўся з кацера, і цяпер Рагіна кожны дзень прахаджваецца з ім па вуліцы — на зайздрасць вельмі многім, бо да таго ж кажуць, што Міцька падшукаў ужо новую зручную работу ў горадзе. Калі Рагіна гаворыць пра Міцьку, то яна як не плача — так ён ёй падабаецца. Але дзяўчына з разлікам і асцярожнічае — калі і прахаджваецца, дык удзень, ва ўсіх на вачах, а вечарам заўсёды скіруе яго да свайго двара, дзе як бы незнарок выйдзе пасядзець на лавачцы яе маці. *Міцька з-за гэтага злосны і нездаволены і заўсёды адварочвае* ад яе пахмуры свой твар. Ён, глядзі, і абцасамі грукае з-за гэтае свае злосці. Але раптам Міцька весялее, ухмылка праходзіць па яго шчоках, ён паварочваецца да Рагіны і кажа:

— Глядзі,— ківае галавою ў дальні кут.

А там, у дальнім куце, стаіць Ганна ў сваім плацці і лодачках. Косы ў яе нейкія выцвілыя, тонкія, твар пачарнелы, худы, а рот як не да вушэй. Страшыдла, а не дзеўка.

Рагіна ўсміхнулася, зірнула на Міцьку і зажмурылася.

А Міцька зноў сваё:

— Ды зірні лепей. Зірні на руку!

А на руцэ ад кісці і як не да локця тлустая чорная пісяга — гэта, калі яна круцілася перад люстэркам з падкасанымі рукавамі, дык незнарок чыркнулася ў чалесніку аб качаргу і вымазалася ў сажу. Хіба ж ёй заўважыць гэта, калі ўся яе ўвага — увесь слых і зрок — занятыя вячоркай, так што аж вочы ўспыхваюць, а рот сам сабою раскрываецца.

— Пхі!— піснула Рагіна.

— Хо,— сказаў Міцька Тачыла.— А рот — ну, сапраўднае страшыдла. Нездарма ў іх на агародзе ні аднаго канапляніка не ўбачыш — баяцца.— І Міцька паспрабаваў прыціснуць да сябе Рагіну, але тая ўчас паспела непрыкметна адпіхнуцца ад яго.

Між тым Ганна стаяла і зайздросціла Рагіне. Вось скончыўся вальс, Рагіна выцерла хусцінкаю твар і пачала цягнуць Міцьку да выхаду — прайсціся. Але Міцька нешта занатурыўся, спыніўся, павярнуўся да хлопцаў і пачаў з імі гаварыць. Рагіна пастаяла-пастаяла дый падалася адна да выхаду. Тады Міцька агледзеўся вакол і пачаў прабірацца ў кут, абыходзячы групкі хлапцоў і дзяўчат.

«Да каго ж гэта ён?— міжвольна падумалася Ганне.—Ой, няўжо да мяне?»

Міцька ішоў і пазіраў на яе, і Ганна, не верачы, адвярнулася. Раптам лёгкі, як вецер, дотык яго рукі да пляча.

— Добры вечар, Гануся,— сказаў ён.

— Добры вечар,— выдыхнула Ганна, і вочы яе ўспыхнулі радасцю.

Міцька незадаволена агледзеў дзяўчат, што стаялі блізка, незадаволена сказаў «хо!» і, узяўшы Ганну за локаць, прашаптаў:

— У цябе, Ганүся, уся рука ў сажы. Гэтыя верціхвосткі,— і ён яшчэ раз незадаволена зірнуў на дзяўчат,— трасцу скажуць.

Спагадаю, замілаванасцю свяціліся яго вочы, калі яна, пачырванелая, неўпрыкмет ад другіх сцірала з рукі сажу і ўдзячна пазірала на яго.

Зайгралі кракавяк, і Міцькавы вочы ўспыхнулі.

— Танцаваць умееш?— запытаўся ён.

— Умею,— адказала Ганна.

— Пойдзем станцуем!..

Зусім не адмаўлялася, не адпіхвалася Ганна, як гэта заўсёды рабіла Рагіна, а паслухмяна падала яму руку і — выйшла. У першай пары! І адчувала, што ўвесь клуб пазірае на яе. Так, між іншым, на нейкі кароткі момант, убачыла пры парозе здзіўленую Рагіну і адразу забылася на яе. Як кружыліся, то Міцька лёганька прыціскаў яе да сваіх грудзей, і Ганна не адпіхвалася, як гэта рабіла Рагіна. Яна, пэўна, ганарылася ім, Міцькам, як ганарылася тым далёкім родзічам, які аднойчы да іх заехаў. Гэта відно было па яе вачах, па твары, па яе ўсмешцы. Яна была рада, што Міцька з ёю танцуе.

Як скончыўся танец, Міцька адвёў яе ў той жа куток і не адышоў, пакуль не зайгралі новага танца. Рагіну запрасіў на танец нейкі заезджы хлопец, але Міцька на гэта і ўвагі не звярнуў.

У перарыве між танцамі Міцька адвёў у бок свайго сябра Цупрона Дадовіча і шапнуў:

— А ведаеш што — правяду я сёння гэтую Ганну.

— Ды ці ты адурэў?— жахнуўся Цупрон.— Пабіраху?

— Ага. Яна, брат, дурнаватая — сама чэпіцца. Во пабачыш, адразу абкручу. Не верыш?

— Ну ж і Міцька!— паківаў галавою Цупрон.— Не веру.

— Давай на заклад!

— Давай,— згадзіўся Цупрон.— Толькі як дакажаш?

— А і не трэба даказваць. Сама за мною бегаць будзе.

— Ну, добра. А на што?

— На два літры рускагоркай. Заўтра разап'ем у складчыну, а пасля ты яшчэ паставіш. Хо, такая тут справа! Ды я каго хочаш абкручу. Я столькі дзевак перабраў, што табе, Цупрон, і не снілася. Аднойчы з гэтай, з Матрунай,— і Міцька зашаптаў сябру на вуха.— А Рагіна — думаеш, яна святая? Як жа, трымай! Гэта яна толькі так, а па праўдзе, дык і не так. Ну, давай руку!

Яны пацiснулі адзін аднаму рукі, і Міцька зноў заспяшаўся да Ганны, бо зайгралі вальс.

— Табе ісці далёка, дык я праводу,— сказаў Ганне Міцька.— Там на мосціку ля ручая пасядзім удваіх, пагаворым. Цяпер там прыгожа,— загаварыў Міцька, успомніўшы, што з-за гэтае ж прычыны ён усё ўгаворваў пайсці туды Рагіну, ды тая наадрэз адмовілася.— Ужо вольхі во-во пачнуць асыпацца, а пад мосцікам ручай увесь час булькоча. Сёння ноч цёплая,— і ён міжвольна яшчэ мацней прыхінуў Ганну да сябе.

— Мама будзе непакоіцца,— сказала Ганна і дадала:— Добра, удваіх пойдзем.

— Пасля гэтага танца,— шапнуў Міцька.— Выйдзем як бы праветрыцца дый пойдзем. А чаго тут, у клубе?

— Ага,— сказала Ганна і кіўнула галавою.

Вальс нешта хутка скончыўся, Ганна змахнула хусцінкаю з твару пот, зусім так, як гэта рабіла нядаўна Рагіна, Міцька падхапіў яе пад руку, запыхкаў, як вожык, і ўсім было відно, як яны падаліся на двор. Толькі адышлі ад клуба, толькі выйшлі з паласы клубнага святла, як Міцька абхапіў рукою Ганну за стан, прыцiснуў да сябе, і яны пайшлі.



— Глядзі, якія зоры!.. — сказаў Міцька.

Зоры і сапраўды былі яркія, прыгожыя. Ад небасхілу і да небасхілу перамірգваліся яны і нават як бы варушыліся. Захад даўно патух, на тым месцы было цяпер неба, як празрыстае цёмнасіняе шкло.

— Гэта праўда, што ты зволіўся з кацера? — раптам запыталася Ганна.

— Зволіўся, — сказаў Міцька і, паклаўшы левую руку ёй на грудзі, пачаў хінуць яе галаву да сябе.

Так прайшлі яны крокаў з дваццаць.

— Цяпер у калгасе будзеш працаваць?

— Не, чаго там, — адказаў Міцька. — Хай маці працуе — у яе пляц. А я падамся ў горад грошы зарабляць.

— Нядобра, — па-гаспадарску сказала Ганна. — У нас жа новы старшыня, трыццацітысячнік. Цяпер будзе ў нас па тры кілаграмы хлеба на працадзень і па дзесяць рублёў грашыма. Сама працаваць. Я ўжо дзвесце працадзён зарабіла — болей, як хто. Я дарма што з выгляду...

— Хо! — даверліва сказаў Міцька і зноў пачаў хінуць яе галаву да сябе.

Рагіна даўно адпіхнула б яго і даўно ўцякла б, а Ганна саромелася, але ўвачавідкі радавалася гэтаму. Яе ў гэты час нават браў гонар за самую сябе. Тады Міцька спыніўся і пацалаваў яе ў губы. Ганна паціху войкнула, а потым паціху задаволена засмяялася. Так доўга ішлі яны пад жнівеньскімі зорамі, аж пакуль не дыхнула на іх сырасцю, пахам гнілога лісця, альховымі карчамі і вадой. Вольхі і сапраўды пачалі ўжо асыпацца, і гэта нават у цемені адчувалася. Міцька яшчэ раз памкнуўся быў пацалаваць Ганну, але яна сказала:

— Хопіць, Міця. Хопіць!

Яму стала смешна, але ён стрымаў сябе.

Селі на нізкія парэнчы мосціка. Пад мосцікам булькатала вада. У вадзе купаліся неба і зоры. Міцька прыхінуў Ганну, накрыў нават яе крысом свайго пінжака, і абаім стала ўтульна і добра. Міцька паклаў ёй руку на калені і ведаў, што яна нічога не скажа, і яна сапраўды нічога не сказала. Тады ён яшчэ шчыльней прытуліў яе да сябе і ўзяў яе рукі. Блізка нікога не было, адно плескатаў ручай. Міцьку ніякавата стала ля гэтай даверлівай Ганны, але ён успомніў Цупрона, абяцаных два літры гарэлкі. І вось у гэты самы час нават у цемені ён убачыў, як Ганніны вочы ўспыхнулі раптоўным страхам. Яна раптам падхапілася, з усяе сілы штурхнула яго ў грудзі і, не аглядаючыся, кінулася бегчы ў бок свайго двара.

Дзяўчаты і Цупрон, што вярталіся з пагулянкі і падыходзілі да лога, міжвольна жахнуліся, калі паўз іх праімчалася Ганна.

— Глядзіце, Пабіраха як смалянула. З-за чаго б гэта?— сказаў Цупрон.

Але ў гэты час пярэднія дзяўчаты спалохана закрычалі і падаліся назад.

— Ой, дзевачкі, што гэта?— крыкнула адна з іх.

У ручаі, пад мастком, і сапраўды нешта варушылася і плёхалася ў гразі жывое. Вось яно выбралася на бераг і пайшло амаль на чацвярэньках, пыхкаючы, равучы.

— Мядзведзь!— як не з плачам крыкнула Рагіна.

— Мядзведзь!— адразу падхапіла некалькі галасоў, бо ўсе ўспомнілі, што блізка запаведнік, дзе мядзведзяў водзіцца нямала.

І ўся пагулянка кінулася наўцёкі ўслед за Ганнай.

А мядзведзь тым часам выбраўся на бераг і ў злосці пачаў адплёўвацца.

— Вось чорт!— сказаў нарэшце ён.— Ах ты, Пабіраха!

Пальцамі выкалупаў неяк з вушэй гразь, азірнуўся навакол і хуценька нырнуў у агароды.

2

У новым адпрасаваным касцюме матроса рачнога флоту, у высокай кепі з какардаю, у гамашах, што аж зіхацяць, Міцька Тачыла ідзе ў госці да Цупрона Дадовіча. Ён ведае, што там яго ўжо даўно чакаюць, і не адзін Цупрон, а з ім і яшчэ чалавекі чатыры або пяць, якім Цупрон палічыў патрэбным расказаць пра спрэчку і заклад. Чакаюць з нецярплівасцю, бо кожны ведае, што значыць для Ганны Пабірахі прайсціся з такім хлопцам, як Міцька Тачыла — па ім самыя найлепшыя прыгажуні млеюць і сохнуць.

Адчуваючы ўсё гэта, Міцька Тачыла ідзе спакваля, пагардліва аглядаючы вуліцу. Зайшоўшы ў двор Дадовічаў, ён на момант спыняецца ля каліткі, потым паварочваецца і нарачыта доўга пачынае зачыняць яе. Зачыніўшы, пазірае на вокны, задаволена ўсміхаецца. У вокнах усе тыя, хто чакае яго прыходу: крамнік Зотык Дуга, па вясковай мянушцы (за тлустасць) Цэнтнер; гарманіст і выпівака Вальдамар Луста, нейкі яшчэ хлопец, што танцаваў учора з Рагінай, і сам Цупрон Дадовіч. Усе ўсміхаюцца. Усміхаецца і Міцька, аднак і моршчыцца незадаволена: колькі сабралася іх на два нейкіх літры.

У хаце ён з кожным здароўкаецца за руку, прычым так цісне рукі, што ва ўсіх як не слёзы на вачах выступаюць. Не паддаецца адзін толькі той самы незнаёмы хлопец, што танцаваў з Рагінай. Яго вялікія

карычневыя вочы ўсяго толькі большаюць, калі Міцька з усяе сілы цісне яму руку.

— Малайчына!— кажа Міцька і аглядае яго невысокую, але каранастую паставу ў напаўвайсковым адзенні. — Як клічуць?

— Завуць Рыгорам, а прозвішча маё Драздоў,— весела адказвае хлопец.

— Хо!— гукае Міцька.— Добра. А мяне — Міцька Тачыла. Зачакаліся?— і ён лезе рукою ў кішэню штаноў.— Во грошы, Цупрон, мая частка. Па нядзельнаму дню — вып'ем!

Маці Цупрона, жанчына ціхая, старэнькая, крэкчучы, злазіць з палацяў і тупае ў сенцы. Адтуль яна прыносіць рынку смятаны, міску з застудзінамі.

— Не трэба, мама,— кажа Цупрон, калі яна ставіць усё гэта.— Я сам, вы схадзіце куды-небудзь пагуляйце.— І дастае са стала хлеб ды лыжкі. Цэнтнер між тым падаецца ў парог, дзе на круку яго пінжак, і выцягвае з кішэняў дзве літроўкі. Ён патрасае імі ў паветры, а ўся кампанія радасна лементуе.

Нарэшце, кампанія рассаджваецца вакол стала, і Цупрон налівае па шклянцы, а ў гэты самы час, як заўсёды, Вальдамар Луста заяўляе, што шклянкамі піць лепей, чымся чаркамі, бо «свабодней ідзе». Выпіваюць усе адразу і крэкчуць. Іншыя паплёўваюць пад ногі.

— Смятанай, смятанай яе заядай,— давячыся, гукае Цупрон.

Міцька хапае лыжку, чэрпае смятану і пачынае шпарка есці.

— А гэта ж у Пабірахаў, хлопцы, карова хварэе, — раптам чамусьці ўспамінае ён.

— Ага, Пабірахі! — задаволена адгукаецца Цупрон.— Ну што, выйшла? Абкруціў канарэйку? Раскажы...

— Хо, было там што! Канешне, — кажа Міцька і ўсміхаецца.

— Што ты кажаш? — ускрыквае і падхопліваецца Цупрон.

— Выйшла, значыць? — падае голас Вальдамар Луста. — А мне гэта калі Цупрон шапнуў: «скарачай танец» — я гармонік і прыпыніў. Адразу здагадаўся!

— Дык раскажы! — просіць Цупрон.

— Ага, раскажы! — просіць уся кампанія.

— Хо! Яна сама...

— Што т-ты кажаш?

— Ага, сама.

— Ай-яй-яй-яй! — як не плача Цупрон. — Сама, га?

— Сама.

— А як жа?

— Спачатку, як выйшлі, павісла. Ну, пацалаваў. Я цябе кахаю, кажу, ты, кажу, прыгожая.

— Ага!

— А як гляну тымчасам на яе, а там рот да вушэй. Ну, думаю, зараз мяне ірваць пачне.

— Ха-ха-ха!...

— Хо-хо-хо!..

— Ай-яй-яй-яй!..

— Яшчэ па адной!

— На, па адной!

— Дык расказвай...

— Ну, ідзем. Куды, пытаецца, будзеш на работу паступаць? У горад, кажу. Будзь, кажа, гаспадарлівы.

— Ха-ха-ха!..

— Хо-хо-хо!..

— Так што ідзем, спыніліся, прытуліў я яе, а яна і ўмлела.

— Што т-ты кажаш?

— Ну, не зусім каб, а так, бачу...

— Ага...

— Хадзем, кажу, на мосцік. Хадзем, кажа, а ў самой, бачу, рукі трымцяць. І рада сама.

— Хі-хі-хі!..

— Прыйшлі, селі... Паклаў ёй руку на калені — маўчыць. Яшчэ шчыльней туліцца. І ўсё рада, што я з ёю. І верыш — сама...

— Ну?

— Ага.

— Во табе і Пабіраха!

— Во табе і ціхмяная.

— Ай-яй-ей-ай! — лемантуе Цупрон.

— От дык справы! А мы ж гэта ўчора, Міцька, ля таго мастка мядзведзя бачылі. Пэўна, з запаведніка прыблудзіўся. Толькі падыходзім — а ён плёх, плёх — выбіраецца. Ды як зачмыхае, ды як зараве... Мы, брат, што сілы ўцякаць. Як не паўкіламетра гнаўся!..

— Ну, хопіць, — абрывае яго Міцька і незадаволена моршчыцца. — Давайце лепей падумаем, што далей рабіць будзем...

Кампанія пачынае абмяркоўваць сур'ёзныя справы, і толькі новы хлопец Рыгор Драздоў маўчыць. Нечакана ён падымаецца і так ціха, што ўсе, здзіўленыя, змаўкаюць, прыслухоўваючыся да яго голасу, пытаецца:

— Даўно вы так сустракаецеся? Не адказвайце — ведаю, што даўно. Колішні старшыня наш быў п'яніца і заваліў калгас. Колішні сакратар камсамольскай арганізацыі таксама п'янстваваў разам з вамі і патураў вам. Вы думаеце, што і я, новы сакратар камсамольскай арганізацыі, буду патураць вам? Ну, не! Дудкі, хлопчыкі. Будзем змагацца з вашай кампаніяй усім калгасам. Лодыраў нам не трэба. Далучыўся я да вас для таго, каб пабачыць, бо я не тутэйшы. А наконт Ганны — невядома. Мне здаецца, што Міцька Тычыла ганьбіць і абражае чалавека.

Кампанія здзіўлена ўставілася на Рыгора Драздова, а Міцька нечакана паблядне́ў.

— Ну, чаго ты! — сказаў ён. — Хіба ты не расказваеш чаго-небудзь смешнага? Бачыш, тут так было... Ты ж паслухай!..

— Добрыя смешачкі, Міцька. Дзяўчыне зусім няма цяпер ходу. Не, брат, не падлашчвайся, не будзе па-твойму!

— Рабіце, што хочаце,— падала раптам голас Цупронава маці, якая якраз жа зайшла ў хату,— толькі мой сын жыве асобна і хай жыве як хоча. Я во працую, як магу, і мяне не чапайце.

## 3

Ганна і не падазравала, што важныя падзеі чакаюць яе ў гэты дзень. Як заўсёды, раненька падхапілася і пабегла ў хлеў даіць карову. Карова — старая Лысуха — ужо з паўмесяца як разрэзала на поплаве на калючым дроце вымя, і нават і цяпер даіць яе — было адно мучэнне. Вымя

хоць і зажыло, але ўсё яшчэ балела, і хоць прывыкла Лысуха да Ганны, але стаяла неспакойна, увесь час кідалася, а было і так, што зусім выбівала з рук вядро з надоем. Малака ж давала мала: Ганна даіла яе толькі раніцою і ўвечары. Гаспадарка была зусім нікчэмная — гэтая самая Лысуха, паўдзесятка курэй ды васьмёра ўжо ладных куранят. Але тыдні з два назад купілі яны на старане парасё, і цяпер яно рохкала ў закуце, ушыўшыся ў салому. Выкарміць гэтае парасё нічога не каштавала — у Ганны ж цяпер вунь колькі працадзён, а працадзень у гэтым годзе будзе не такі, як некалі. Зноў жа і ў агародзе бульба ўрадзіла — так што і адсюль падтрымка. А калі выпадзе на працадзень па дзесяць рублёў, дык тады і зусім будзе добра.

Зайшла Ганна ў хлеў, пагладзіла Лысуху, паставіла ёй пад пысу вядро з пойлам, каб не дужа кідалася. Сёння Лысуха вяла сябе спакайней, і Ганна хутка справілася з гэтай работай, якую лічыла самай цяжкай. І малака Лысуха дала болей.

Пасля Ганна цадзіла малако, пасля разам з маці снедала, і за ўвесь гэты час яна амаль зусім і не ўспамінала пра Міцьку. У полі ўслед за жняяркай яна спрытна вязала снапы і толькі тут прыкмеціла, што жанчыны неяк падазрона на яе паглядаюць. А як дайшлі да першага завароту, старая Назараўна — жанчына грубаватая, але заўсёды праўдзівая — разагнулася, стала перад толькі што звязаным снопам і, агледзеўшы гурт, прапанавала:

— Давайце адпачнем, кабеткі, ды пагамонім.

— Гэта ўжо з раніцы адпачываць?— узгарэлася Ганна.— Як хочаце, а я вязаць буду.

— Ну, не адпачываць, то давайце пагамонім,— і вочы яе нечакана строга бліснулі. — Вось хоць бы і пра цябе, Ганна. Дзе ж гэта было такое, каб дзяўчына з першага вечара ды паддалася хлопцу? Ну, чаго чырванееш ды вочы хаваеш? Думаеш, мы не ведаем? Захацелася Міцьку ад Рагіны адбіць? Захацелася пахваліцца перад усімі, што вось ты якая — з самім Міцькам гуляеш? Ды ён жа і глядзець на цябе не хоча! Ён цябе там абдурыў ля мосціка, а цяпер усім і расказаў. А хіба ж так сумленныя дзяўчаты робяць? Сумленная дзяўчына, пакуль сваты не ў хату — і гаварыць употай не стане. А што ж цяпер будзе — ты падумала? Ты не аднеквайся — мы ўсё ведаем: той жа Міцька і пахваліўся сёння ўранні сваёй сястры. Праўда ж, Параска? — павярнулася Назараўна да хлёсткай маладухі.

— А ёй жа праўдачкі,— сцвердзіла тая.— Тутачкі, кажа, ля мастка.

— Хлусіць!— выдыхнула Ганна і раптам заплакала.

Упершыню бачылі жанчыны, каб хто з Пабірах ды так плакаў. Яны, калі нават ім у вочы, здаралася, казалі, што яны Пабірахі, дык і тады змоўчвалі і зусім не крыўдавалі, а наконт плачу, дык будуць і галоднымі і халоднымі сядзець, ды слязы не ўбачыш. Ганна ж быццам адплаквалася за ўсіх іх, адна і адразу. І тады ўсе ўбачылі, што яна як быццам бы і прыгожая. Хай рот трохі велікаваты, а вось чорныя вочы, з якіх цяклі слёзы, былі глыбокія і ў глыбіні сваёй, як бы хавалі нешта патаемнае, спагадлівае і жаласнае і нават нешта невядомае, незразумелае, але на дзіва добрае. І, пазіраючы, як яна сядзіць на снопе жыта ды плача, зусім забыўшыся прыкрыцца хусткаю, жанчыны патроху пачалі сумнявацца ў правільнасці Параскіных слоў.

— А можа ён наманіў табе, гэты ваш марак? — запыталася Назараўна.

— Я ж не ведаю, хай яна скажа, — адказала Параска.

Але Ганна нічога не адказала.

— Можа і праўда, Ганна?

І тут Ганна змоўчала, толькі яшчэ гаротней заплакала.

— Ох, каб яму! Вось яшчэ няшчасце на нашу галаву! Ён ды яшчэ Цэнтнер, ды гэты Вальдамар, ды Цупрон, ды яшчэ колішні старшыня — аднаго поля ягады. Таго дык, дзякуй богу, выгналі, а да гэтых усё ніяк не дабяруцца. Ну, пайшлі, пайшлі працаваць, — заспяшалася Назараўна.

Ганна таксама падхапілася, выцерла хусцінкаю твар і пайшла вязаць снапы. Але цяпер ужо не працавалася. Галава балела ад гарачыні, поту і слёз, а думкі былі вельмі журботнымі. На абедзе яна не пайшла дадому, а лягла ў цяньку снапоў ды нечакана і заснула пад званочкі званца ды перагук конікаў. Званочкі то шапацелі, то звінелі, напамінаючы аб леце, аб разорынах, на якіх ляжыць даўно ссохлая сурэпка, аб неабсяжным полі. Блізка фыркалі коні, выпражаныя з жняяркі, стрыножаныя і пушчаныя выбіраць на іржышчы траву.

Пасля перарыву Ганна крышку прызабылася аб ранішняй размове і зноў працавала, забягаючы наперад усіх. А ўвечары, калі вярталіся дадому, знарок адстала і пайшла, задумаўшыся. Ужо ля самых двароў з кустоў раптам выйшаў Міцька Тачыла і накіраваўся да яе. Яна пабляднела.

— Добры вечар, — сказаў ён.

— Добры вечар,— адказала Ганна.

— Я ведаю — табе расказалі, — загаварыў ён. — Ганна, Гануля, даруй мне. Гэта ж заўсёды бывае так, што хлопцы хваляцца. Хіба адзін я? Ды ты спытай у каго хочаш — усе так скажуць. Як збяруцца — так іншы і пачынае выхваляцца. І ўсе ведаюць, што ён маніць, а робяць такі выгляд, як быццам гэта праўда. Спакон веку так. Ну, а я змянцешыў гэтаму балабону — Парасцы — вось яна і разнесла, як сарока. Каб хлопцам, то тыя пасмяяліся б, дый маўчок. А гэтая — бабам! А, Ганна? Ды яны ж цяпер мяне — у пух і прах!

Ганна зірнула на яго, ледзь прыкметна ўсміхнулася і ўпершыню, як у жанчын, Міцьку ўразіла глыбіня яе вачэй, у якіх было нешта і спагадлівае і хавалася нешта незразумелае. Зірнула і кінулася ад яго трушком, як і там, ля мастка, учора.

Было яшчэ відно, калі яна праходзіла ля калгаснай канцылярыі. Тут між транспарантаў заўсёды было некалькі дошчак, на якіх вучотчыцы звычайна ўвечары вывешвалі вынікі рабочага дня. Ля адной з такіх дошчак цяпер было многа людзей. З гэтага гурту нехта паклікаў яе:

— Ганна, хадзі сюды.

Ганна нехаця збочыла, а натоўп раптам расступіўся, прапускаючы яе наперад.

На дошцы быў замацаваны вялікі аркуш наглянцаванай паперы і ўверсе было напісана: «Наш вожык, орган камсамольскай арганізацыі калгаса «Усход». Яшчэ ніжэй троху меншымі літарамі быў напісаны загаловак:

«Мядзведзь»

«Учора, 5 жніўня, усім нам вядомы марак Міцька Тачыла, якога прагналі з кацера за нядобрасумленнасць, падмеўся правесці дахаты калгасніцу Ганну Жылудовіч. Як дайшлі да мастка, то Тачыла нахабна пачаў чапіцца да т. Жылудовіч. Т. Жылудовіч так яго піхнула, што слаўны марак усёй тушаю плёхнуўся з мастка ў ручай. На той час ішлі з клуба дзяўчаты, і Міцька Тачыла, каб з яго пасля не смяяліся, прытварыўся мядзведзем, пачаў поўзаць на чацвярэньках, па-мядзведжаму гірчэць ды

раўсці. А сёння, 6 жніўня, пусціўшы паклёп на т. Жылудовіч, слаўны марак, у той час, як усе мы працавалі, прап'янстваваў увесь дзень з такімі ж, як ён сам, а іменна:

1. Зорыкам Дугой, або іначай Цэнтнерам,
2. Вальдамарам Лустай,
3. Цупронам Дадовічам.

Трэба, каб у бліжэйшыя ж дні ўсіх іх паставілі на Праўленне, а такога, як Зорыка Дугу, каб знялі з пасады крамніка.

Ганьба і непрымірымасць да лодыраў і абібокаў!»

Унізе быў малюнак: масток, з мастка дагары нагамі ляціць у ручай Міцька Тачыла, а яна, Ганна, стаіць на мастку з закасанымі рукавамі.

Ганна адступілася, пачырванела, усхліпнула і раптам кінулася бегма ад калгаснай канцылярыі.

Ноччу не магла заснуць. Варочалася, уздыхала: кранула праўда, дый упершыню яе назвалі, як дарослую — таварыш Жылудовіч.

4

Зорык Дуга, або іначай Цэнтнер, не стаў чакаць, калі на яго пададуць скаргу. У той жа дзень, як з'явіўся ля канцылярыі «Наш вожык», ён шпарка накідаў заяву праўленню сельпо з просьбай вызваліць яго ад абавязкаў крамніка. З гэтаю заяваю Дуга, не зважаючы на сваю адышку, шпарка пашыбаў у сельскі савет, дзе было праўленне. Дзейнічаў ён надзвычай рашуча і ўпэўнена. Ён расказаў начальству, як была справа, паказаў даведку ад урача, што на ўсякі выпадак заўсёды хавалася ў яго кішэні, і ўжо к вечару таго дня меў на руках копію загада аб добраахвотным уходзе з работы. Пасля некалькіх паўлітэрак ён заручыўся і тым, што заўтра ж у яго пачнуць прымаць краму. У вельмі добрым настроі вяртаўся ён пасля гэтага падвечар дадому. Ля калгаснай канцылярыі спыніўся, пастаяў ля «Нашага вожыка», прачытаў «Мядзведзя», хмыкнуў, рассмяяўся, тыцнуў пальцам у Міцьку Тачылу і сказаў:

— Дурань, як ёсць дурань!..

Пахістваючыся, Дуга ўзыйшоў на мосцік, пастаяў яшчэ і на ім, перагнуўшыся цераз парэнчы, палюбаваўся на ручай, з берагоў увесь у ціне і гразі, і весела рассмяяўся. Пасля гэтага ён адразу ж пашыбаў да Цупрона Дадовіча. Там усе былі ў зборы. Вальдамар Луста сядзеў на ўслоне і трымаў на каленях паўбаян, але не іграў; сам Цупрон сядзеў пры акне і чамусьці спалохана пазіраў час-ад-часу на вуліцу, і наогул увесь ён быў пабляднелы і празмерна напалоханы; Міцька ж Тачыла стаяў у сваёй рачной форме пры сцяне, ні на каго асабліва не звяртаючы ўвагі, і калупаў запалкай у зубах. Відаць, толькі што вялася вельмі важная нарада, якая не дала ніякіх вынікаў. Прыходу Дугі ўсе надзвычай узрадаваліся, асабліва Цупрон. Ён адразу ж сарваўся з табурэта і кінуўся насустрач.

— Ну вось, бачыш, і сам Дуга! Здароў, Зорык! — пачаў ён цiснуць яму руку. — Дзе быў, што новага?

— Ого, навага, брат! — многазначна адказаў на гэта Дуга. — Ого! У мяне ўсё новае...

— Што ты кажаш? — здзівіўся Цупрон. — А мы тут усе насы павесілі.

— А чаго вешаць, — весела адказаў Дуга. — Я як ішоў, то за дарогу ўсё перадумаў. Нічога мы такога не зрабілі. Ну, была вайна, ну, пасля

вайны кожны выглядаў, дзе лепш прыладзіцца. Я вось пасля арміі пайшоў у картбюро. А чаго ж? Франтавік, два гады шынель цягаў, то хіба не меў права? Ну, а пасля мы і тут пагулялі. На славу пагулялі! Хай вы і не былі на фронце, а і вы тут не вінаваты. Цяпер, бач, часы іншыя насталі. Цяпер трэба змагацца з усім гэтым. Цяпер такіх гнясці трэба. Калі што, дык і за краты!

— Што ты кажаш? — спалохана выдыхнуў Цупрон. — Значыць, і мяне могуць.

Дуга крытычна аглядзеў Цупрона з галавы да ног і, падумаўшы, сказаў:

— А чаго ж? Можна і цябе. Толькі не, — махнуў ён рукою. — Які ты тут козыр! Ты проста гуляка па вячорках ды выслухач добры. Каб цябе не было, то і расказ не ў расказ, і жарт не ў жарт. Ты ж як зацягнеш сваё — як гэта? — ай-яй-яй-яй! — паспрабаваў лемантаваць Дуга, — дык як пухавічок падсцелеш.

Кампанія шчыра рассмяялася.

— Бачу: спалохаўся, дык плюнь! Я — во, во, бачыш, ужо плюнуў, — і Дуга выцягнуў і разгарнуў перад усімі копію загаду.

Пакуль чытаўся ўсімі гэты загад ды пакуль усе захапляліся Дугою, сам Дуга сеў на табурэт, каб хоць крыху аддыхацца. Копію загаду ён акуратна склаў учацвёра і зноў схаваў у кішэню.

— Вы мяне слухайцеся, — сказаў ён. — Я вам дрэннага не параю. Я ў арміі складам загадваў і ніколі не губляўся. Такое не толькі ў нас цяпер творыцца, а ўсюды. Разумееце — ус-сюды! А таму трэба нам адсюль матацца. Як кажуць, перадыслацыравацца. На новае месца, каб не плявузгалі. Ну, а пажылі мы добра. Пагулялі. Во Міцька таксама па Дняпры паездзіў — будзь здароў! Там да кухара — такая бабішча! — прыстроіўся. дык яна яму бач якую пысу раскарміла. Адно грошыкі ў кішэню кладзі. Гутарыў я неяк з адным інвалідам, — ён во так у шпіталі да кухара прыляпіўся. Дык нічога не ўзяла, а яшчэ і на дарогу дала пяцьсот рублёў. Дык як на двое разадрала чалавека. У таго, бач, дома і жонка, і дзеці,— і ўжо як бы ехаць не хочацца. А яна — кухар гэты — адно: едзь да сям'і і — усё тут. Так і выправадзіла...

— Што ты кажаш? — здзівіўся Цупрон.

— Праўду кажу.

— Ну, а ён?

— А ён, бач, не хацеў ехаць ды паехаў. Усё ж, бач, дзеці. Дый, сказаць, па той, ранейшай, жонцы троху нудзіўся. Як ні кажы, а шкада.

— Так і паехаў?

— Так і паехаў.

— А я ні за што не паехаў бы, — сказаў Цупрон. — Баба мяккая?

— А хто яе ведае, хіба я глядзеў?

— Ну, калі кухар, то мяккая, — заўважыў Цупрон.

Усе зноў засмяяліся.

— А што, хлопцы, калі падацца мне ў горад ды ў ахвіцыянты прыстроіцца?— запытаўся Цупрон.— З голаду не прападзеш дый яшчэ і выгада. Вунь Дарага з Вынчыц дом пабудаваў.

— А чаму б і не ў афіцыянты, — у тон яму адказаў Дуга. — Міцька Тачыла можа ў шафёры падацца. Як ні рэйс, то ад выпадковых пасажыраў і рублік. Вальдамар... Вось Вальдамара не ведаю куды. Няма Вальдамару ходу!

— Як гэта — няма? — ускіпеў Вальдамар. — Я са сваім баянам дзе хочаш прайду. У джаз, у самадзейнасць!

— А і то праўда, — зазначыў Дуга. — То вось што! Давайце зробім так, як гэта заўсёды робяць сапраўдныя хлопцы. Калі што не па іх, то яны збіраюцца, торбы на плечы і — бывайце здаровенькі, не памінайце ліхам. Так, ці што?

— Так, — адразу падхапіўся Цупрон.

— Згода, — выгукнуў Вальдамар.

— Дык давайце не адкладваць у доўгую скрыню, а паслязаўтра напакуем торбы харчам, прыхопім грошыкаў ды разам і рушым у горад. Адразу ўсе — дэ-ман-стра-тыўна! А ўжо калі я тую халерную краму заўтра здаю, каб ёй пуста было, то давайце і гэта адзначым. За ўдачу на новым месцы! Ты, Цупрон, вінен Міцьку літру?

— Як гэта — вінен? — здзівіўся Цупрон. — Міцька ж прайграў! Ён жа зманіў, самі ж ведаеце.

— Пабачым, — весела згадзіўся Цупрон, бо крамнік Дуга не толькі імі, а і ўсімі ў вёсцы лічыўся багацеем. Цупрону крыўднавата было аднаму паіць і частаваць кампанію

Старая Цупронава маці паклала ў гэты раз на стол кавалак сала, а Дуга прывалок з крамы банку кансерваў і селядзец.

— Пі, закусвай, — сказаў ён, ставячы на стол яшчэ і дзве бутэлькі гарэлкі.

— Значыць, паслязаўтра зранку, гадзін гэтак у дзесяць і збярэмся, — прапанаваў ён, калі выпілі.— А ці здарава пажылі,— пакруціў ён галавою.

— Чаго ж ты не закусваеш? — накінуўся раптам на Міцьку Тачылу Вальдамар Луста. — Еж!

— Не магу, — пакруціў галавою Міцька. — Гэта во мы ядзім сала, селядцы, кансервы. А ў той раз Цупрон рынку смятаны паставіў. Дык як зачарпнуў я тую смятану, то і ўспомніў, што ў Пабірахаў карова хварэе: мы вось так ядзім, а там упрогаладзь. Чаму, га? Хіба мы лепшыя, а яны горшыя? Глядзі, яны абедзве не так, як мы, у калгасе працуюць. І калі па пяцьдзесят грамаў на працадзень давалі, дык і тады працавалі. А я — на кацер ходу, дзе лепей. І ты, Дуга, дзе лепей, і ты, Луста, таксама, і Цупрон нам у памагатыя, а Пабірахі ў гэты час плуг на сабе цягалі, галадалі, а калгаса не кінулі. Можа і бурчэлі, калі што не так , можа і лаялі калі каго, а на старану не кінуліся — ішлі ў поле за пяцьдзесят грамаў. Вунь ужо і страха ў іх на хаце прагніла і самая хата скасабочылася, а ўсёроўна ішлі ў поле, а не прыбіральшчыкамі ў сталоўку або афіцыянтамі. А цяпер мы ядзім, а яны ўжо зрання ў полі. І калі яшчэ тое будзе, што яны во так возьмуць селядцы, сала, кансервы, вып'юць ды закусяць? А я яшчэ на Ганну наплёў. А ў яе, брат, хоць рот і велікаваты, а характар добры. Вось і не лезе нічога, не хочацца жэрці.

Міцька Тачыла гаварыў гэта, ні да каго асабліва не звяртаючыся, як бы сам з сабою.

— Кінь, — перапыніў яго Дуга і махнуў рукою. — Усё гэта мінецца, вось пабачыш. Вось даю слова, во на маю руку, — праз месяц мінецца.

— Не трэба мне твая рука,— сказаў Міцька і заматаў галавою.

Позна ўвечары разыходзіліся, напэўна дамовіўшыся, што паслязаўтра ў дзесяць раніцы дэманстратыўна — усе разам — пакінуць калгас.

— Дык не забудзьцеся ж, роўна ў дзесяць раніцы, — напомніў яшчэ ўсім Зорык Дуга, калі разыходзіліся.

Роўна ў дзесяць раніцы таго дня да Цупрона Дадовіча прыйшоў Вальдамар Луста — з рэчавым мяшком за плячыма і з паўбаянам на правым плячы. Услед за ім з'явіўся Міцька Тачыла, але без рэчаў.

— З пустымі рукамі?— здзівіліся сябры.

— Пачакаю, — адказаў Міцька.

— Не пойдзеш? — устурбаваўся Цупрон.

— Пачакаю, — няўпэўнена адказаў Міцька. — Пачакаю Зорыка Дугі. Як ён пойдзе, то і я.

Чакаць давялося доўга. Гадзіннік паказваў ужо палову адзінаццатай, а Зорык усё не з'яўляўся.

— Можа з крамаю нелады — учора ж здаваў. Ідзі даведайся, Цупрон.

Але Цупрон замахаў абедзвюма рукамі.

— Ды што ты! У яго там сабакі ў двары — ваўкадавы. Схадзі хіба ты, Вальдамар.

Вальдамар паглядзеў, павадзіў па хаце вачыма, крактануў і нехаця падаўся на двор. Вярнуўся ён няхутка. Міцька Тачыла і Цупрон Дадовіч ужо ўволю намаўчаліся, кожны думаючы пра сваё, калі ляснула клямка і ў двор не зайшоў, а ўляцеў раззлаваны чырванатвары і потны Вальдамар.

— А дзе ж Дуга? —спалохаўся Цупрон. — Глядзі, арыштавалі Дугу за нястачу.

— А дзе Дуга? — зноў запытаўся ён, як толькі Вальдамар пераступіў парог.

— Чорт ма, таго Дугі! — вылаяўся Вальдамар. — Пакуль мы тут спалі ды яго слухалі, гэты Цэнтнер, дарма што важкі, а паспеў і адсюль вызваліцца і на пасаду крамніка ў Валжэвіцкім сельпо прыстроіцца. Сёння раніцою паехаў Цэнтнер прыймаць новую краму. Цяпер пляваць яму на ўсе гэтыя выпіўкі ды на нагаворы.

Цупрон збялеў і нерашуча ўтаропіўся на Вальдамара.

— А што ж мы цяпер будзем рабіць? — прашаптаў ён.

— А ліха з ім! — сказаў Вальдамар. — Усёроўна нас кінуў бы. Будзем без яго работу шукаць. Пойдзем. Зараз жа і пойдзем, як дамовіліся. Так, ці што, Міцька?

Міцька адмоўна пакруціў галавой.

— Я ж сказаў: без Цэнтнера не пайду.

— Значыць, ведаў, што ён уцёк?

— Ведаў.

— Дык чаго маўчаў, чаго душу вываречваў? Ладна. Значыць, не пойдзеш?

— Не, — адказаў Міцька.

— Тады мы пойдзем! Збірайся, Цупрон,— падаў ён каманду.

Распаўзалася кампанія...

За вёскаю спыніліся.

— Бывай! — бадзёра сказаў Вальдамар Луста і падаў Міцьку руку. — Пабачым, як яны абыйдуцца без баяніста!

Але ў вачах іхніх, у рухах Міцька бачыў разгубленасць, няўпэўненасць у саміх сабе, незадаволенасць самімі сабою. Міцьку стала шкада іх абодвух, яму нават захацелася быць разам з імі. Ён гукнуў:

— Гэ, Вальдамар, Цупрон! А можа застанецеся?

Вальдамар і Цупрон прыпыніліся, павярнуліся, і Вальдамар узмахнуў рукою.

— Не, не вернемся! — гукнуў ён.

— Не вернемся! — як рэха, паўтарыў Цупрон.

Міцька доўга яшчэ пазіраў ім услед, а потым уздыхнуў і, задумаўшыся, пакрочыў у вёску. Перад самім ім быў яшчэ незразумелы шлях, які трэба было знайсці і выбраць. Але тут жа ён і рашыў, што ніколі во так не пакіне свае вёскі.

5

— Ганна дома? — запыталася Назараўна.

— Ага, дома,— адказала Адарка.— Дома, заходзь.

— А самой табе ўсё нездаровіцца?

— Ага, нездаровіцца,— адказала Адарка.— Бач, восень во-во,— і яна паказала рукою на буслоў, што пералятталі цераз вёску на поплаў.— Буслы перад выраем збіраюцца.

Абедзве стаялі ля двара. Адарка была кіравалася да суседкі, ды якраз напаткала Назараўну. У апошні час яна часта скардзілася на боль у паясніцы, нават ездзіла ў бальніцу, але ні брыгадзір, ні Назараўна, ні нават сама Ганна не верылі ні ёй, ні даведцы, якую выдаў урач. Усе ведалі, што Адарка ў апошні час любіць адгуляцца. Асабліва на яе і не крыўдзіліся за гэта, некаторыя і зусім адмахваліся, калі ім напаміналі пра Адарку — шмат давялося перажыць удаве за вайну. На яе скуластым, абпаленым сонцам і вятрамі твары ляжала адмысловая сетка і вялікіх і малых маршчын, а валасы былі сівыя, як у бабулі. Многія помнілі, якая старанная была яна, калі аднаўлялі калгасныя пабудовы, дый і пасля ў полі жанчына была ўвішная. А во цяпер, як падрасла дачка ды пайшла працаваць разам з усімі, то Адарка трохі і занатурылася.

— Па справе? — запытала яна Назараўну, хаваючы вочы.

— Па справе. Трэба было б, каб пайшла ты, ды, бачу, прыхворваеш.

— Але ж, прыхворваю, мілая мая. Паясніца. На працу наўрад ці пайду.

— Ды не на працу,— махнула рукою Назараўна.— Якая ты! Да калгасных свірнаў трэба ісці, аванс даюць на працадні.

— Ой,што ты? — здзівілася Адарка.— А колькі ж на працадзень?

— Па кілаграму жыта.

— А не маніш? — уставілася на яе вачыма Адарка.— Нешта ж замнога. Летась толькі па паўкіло на працадзень, а сёлета авансам па кілаграму. Не веру! — і яна марудна апусцілася на лавачку.

— Ну і не вер,— адрэзала ёй Назараўна і пашыбала ў двор.

Праз колькі хвілін яна і Ганна выйшлі з хаты, моўчкі паспешліва прайшлі каля Адаркі, быццам яе зусім і не было тут. Адарка акінула поглядам іхнія спіны і апусціла галаў. Дзіва, а не дачка ў яе! Як яшчэ зімою быў сход і запланавалі атрымаць на працадзень па тры кілаграмы збожжа, дык Ганна так паверыла гэтаму, быццам тыя тры кілаграмы ўжо былі ў яе хаце. І вунь як рупліва і зімой і летам бегала на працу ў калгас, ад цямна і да цямна, з дня ў дзень, і хоць бы скарга табе. І бач як выйшла: калі ўжо авансам па кілаграму, дык пазней, увосень, акурат, глядзі што і па тры будзе. Дзіва: і супадзе ж іншы раз такое! І толькі пасля гэтага як след дайшло да яе свядомасці: гэта ж па тры кілаграмы! У іх з Ганнай ужо цяпер трыста з лішкам працадзён, а гэта значыць... Колькі ж гэта будзе? І Адарка пачала лічыць. Бязгучна варушыла яна вуснамі, прыпамінаючы вядомыя адной ёй пра-

вілы множання, а перад сабою бачыла не мяхі са збожжам, а чыстую ўтульную хату, у якой ёсць дастатак. Ці ж мала марыла яна пра гэта? Рыгор памёр перад вайной, пакінуўшы яе з дзіцем на руках. Можа б і нядрэнна жыла яна, можа б яшчэ і замуж выйшла, але ж тут — вайна. Колькі гора перанесла Адарка, ратуючы ад пагібелі Ганулю. Тыднямі ў цёмных паграбах адседжвалася, па лясах бадзялася, у зямлянках жыла, бо гітлераўцы з вёскі выгналі. Добра яшчэ, што хоць хата ўцалела нейкім дзівам. Адразу пасля вайны яшчэ мацавалася Адарка, а тут во здаваць пачала. Абыякавасць нейкая прычыпілася, як да старой. А якая ж яна старая, калі ёй яшчэ толькі сорак год!.. Ой, божачкі, больш тысячы кілаграмаў выходзіць! Ды не можа таго быць. Пажывем — пабачым.

А Ганна ў гэты час клала на падводу мяхі. Ёй налічылі трыста сорак кілаграмаў жыта. Гэта была першая буйная палучка пасля вайны. Магчыма некаторых, як і Адарку, яна захапіла знячэўку, але Ганна наперад усё ведала. Яна насіла свае мяхі разам з Рыгорам Драздовым. Падхоплівала левай рукою мех за рог, куляла на правую руку, якую моцна трымаў Рыгор, і, па-мужчынску шырока ступаючы, падавалася да калёс. Носячы мяхі, яны коратка размаўлялі:

— Дужая ж ты,— дзівіўся Рыгор.

— А я вытрымкая,— сказала Ганна.

— У тое, што калгас выйдзе ў перадавыя, верыш? — зусім нават неяк па-дзіцячаму запытаўся ён.

— А як жа,— адказала яна.

— А ў школе ты вучылася? А ці праўда, што ў Міцьку Тачылу была закаханая? А ці вывучала пастанову партыі і ўрада аб працадні? — сыпаў ён ёй пытанні і пад канец прапанаваў: — Давай дружыць. Прыходзь на камсамольскі сход.

— Добра,— радасна згадзілася Ганна.

— Учора на праўленні рашылі адкрыць у калгасе агранамічныя курсы,— паведаміў ён.— Два разы ў тыдзень займацца будзем. Запішашся?

— А як жа,— сказала Ганна.

— Ты колькі класаў скончыла?

— Тры,— беручы чарговы мех, адказала яна.— Не было як хадзіць, дык кінула.

— Сёння ў нас сход, дык прыходзь. Ва ўсім дапаможам — ты дзяўчына працавітая. Возьмеш у мяне статут камсамола.

Вунь колькі паспеў нагаварыць ёй Рыгор Драздоў, пакуль мяхі насілі. Колькі марыла яна пра вучобу, аж тут бач якое будзе рабіцца! Ужо загадзя за яе падумалі, загадзя аб усім патурбаваліся. Яна ўзялася за лейцы, кранула каня.

— Н-но!

Тады Рыгор Драздоў гукнуў:

— Пачакай, Ганна! А хто ж мяхі дапаможа зносіць?

Яна спыніла каня, паціснула плячыма: дапамагчы і сапраўды не было каму...

Невысокага росту, але каранасты, з карычневымі вясёлымі вачыма, у напаўвайсковай форме, у хромавых паношаных ботах, ён ішоў поплеч з ёю, размаўляў і час-ад-часу перабіраў правай рукою валасы на галаве. Парыпвалі аглоблі, рыпела нешта ў хамуце на кані, конь фыркаў, гучэў трохі хрыплаваты, але ласкавы Рыгораў голас, а над усім

гэтым стаяў напаўлетні, напаўвосеньскі дзень, што чапляў і на парканы, і на двары, і на каня, і на калёсы з мяхамі, і на саміх іх тонкае павуцінне бабінага лета. Рыгор усё расказваў, але, на вялікае яго здзіўленне, Ганна амаль не слухала цяпер яго. Яна найбольш аглядалася на двары, з якіх выглядалі бабы ды падлеткі, ёй так і хацелася сказаць ім усім: «Бачыце, колькі ў нас хлеба! Во прыйдзе свята, дык так справім — і Яўгена з горада пазавем!» Але ці можна было такое гаварыць, калі поплеч з ёю крочыў Рыгор Драздоў?

Ганна доўга думала над гэтым і раптам сказала Рыгору:

— Во ўжо і не так далёка да Кастрычніцкіх свят. Мы таксама спраўляць будзем. Прыдзеце да нас у госці?

— А чаму ж не прыйсці,— адразу згадзіўся ён.

Фурманка апускалася ў лог да мосціка, конь пайшоў подбегам, і абодва яны заспяшаліся. Рыгор, як узышлі на мосцік, быў памкнуўся зноў памянуць пра Міцьку Тачылу, але перадумаў і змоўчаў. А тут, за мосцікам, адразу і паваротка ў двор. Двор стаіць на ўзгорачку і пабудаваны па даўняму звычаю — амаль у канцы пляца. Пры ім усюды расце бульба і віднеецца яшчэ палоска Адарчынага лёну ды шуміць на ветры ігруша, і ўсё гэта вельмі выразна вырысоўваецца на фоне неба, бо далей, за дваром — спад, поплаў. А пры двары на лавачцы сядзіць Адарка.

«Божачка,— думае яна, калі фурманка зварочвае з вуліцы.— Няўжо гэта да нас? Аж чатыры мяхі!»

І ўпотай Адарка ўжо лае самую сябе, бо сама малавата працавала, быццам ёй усяго гэтага і не хацелася. І ўпотай упершыню нават як бы сорам закрадаецца ў душу. Міжвольна яна падхопліваецца і яшчэ пастарэчаму тупае да частаколавых варот, каб расчыніць іх. І міжвольна прыпамінаюцца спрэчкі з брыгадзірам. Як гэта здарылася, што часам яна адставала ад усіх? Імжыць яшчэ жаўранак у небе. Так, падымецца з пожні, патрапеча крыламі дый і зноў асцярожна апускаецца ў разорыну. І цяжка б'ецца сэрца ў Адаркі, хоць самой ёй і радасна. А калі фурманка падыходзіць да варот, на твары Адаркі з'яўляецца нават нешта накшталт непаразумення. Сакратар камсамола крочыць разам з Ганнаю. Гэта не тое, што той далёкі родзіч Яўген, якога яна і недалюблівала за яго ганарлівасць. А гэты, незнаёмы, бач, цягае з Ганнай мяхі, перагукваецца ды пасмейваецца. І Адарка пачынае крытычна аглядаць дачку: а хто ж яго ведае, чым яно ўсё можа скончыцца!..

## 6

Дзіва, што пачало рабіцца ў калгасе. Пасля таго, як знікла кампанія Дугі, аграном адкрыў пры клубе курсы, часта адбываліся тут і камсамольскія сходы. І раптам зусім нечаканае: Ганну Жылудовіч праўленне накіравала на прарыў — даручыла звяно па апрацоўцы ільну. А што за звяно! Старая Дадовіч, Адарка, жонка Зорыка Дугі Хіма і яшчэ некалькі такіх жа не надта старанных жанчын. З раніцы Ганна бегае па дварах, збірае сваё звяно.

— Хіма! — гукае яна пад акном.— Выходзь на работу!

— Ой, мілая мая, ды я ж толькі ў печы распаліла,— адказвае Хіма праз расчыненае акно. — Пачакай трохі. Збегай спачатку да Дадовічаў.

І Ганна імчыцца да Дадовічаў, а Хіма, пазіраючы ёй услед, цяжка



ўздыхае: нядобрыя насталі дні. Каб не гэты аванс, то можна было б і зусім не ісці, а так — куды там. Чаго добрага,— пляц яшчэ адбяруць, во і круціся тады. Дый і Зорыка могуць яшчэ больш зганьбіць — бач, давялося ж уцякаць ажно ў Валжэвічы — гэта за сорак кіламетраў адсюль. Такія, як гэты новы старшыня ды во Ганны розныя,— прыціснуць добранька. Нездарма ж убіраюцца ў сілу. Не, трэба спяшацца. На рабоце зарывацца, канешне, не варта, а так, адбыць дзень трэба.

Дадовічыха ўжо чакае Ганну. З пранікам сядзіць на прызбе, а побач з ёю капошацца ў пяску куры. Яна па-ранейшаму любіць сказаць пры выпадку: «Я да свайго Цупрона не маю спраў. Я жыву асобна, а ў яго — свая галава на плячах».

Ледзь толькі Ганна паказваецца ў двор, Дадовічыха адразу падымаецца са свае прызбы. Гэтак бывае кожную раніцу. І, як і кожную раніцу, яна першая кажа:

— Ну, пайшлі.

— Ага, пайшлі, цётачка,— радасна ківае галавою Ганна.

Дзівіцца Дадовічыха, пазіраючы на маладую Пабіраху. Ці то яна наўмысна маўчыць, ці то і сапраўды такая — можа ж старая і да яе прыходу сама патупаць у поле. Каб сказаць, што дурная, дык не — на рабоце вунь якая кемлівая дый на тых курсах, якімі кіруе цяпер аграном, яе хваляць.

І ўжо само сабою закрадваецца ў галаву: а ці ўсё як трэба ў гэтай трохі як бы разяватай, а ў сапраўднасці і не разяватай дзяўчыны? Не Пабіраха, а проста загадка. Адно добра: не крычыць, не лаецца, не плявузгае начальству. З гэтай, бадай, і адпачыць, паляжаўшы ў полі, можна было б, ды вось сама працуе, не спыняючыся, а адстаць сорамна. Неяк няёмка, калі ты будзеш ляжаць, а яна працаваць. І Дадовічыха спяшаецца ўслед за Ганнай, якая патроху робіцца ёй у нечым

блізкай. Ідучы, яна пачынае прыкідваць у галаве далей. А гэта ж ніякіх Пабірахаў хутка не будзе,— думалася ёй.— А ці адных Пабірахаў? Зорык Цэнтнер, Вальдамар Луста і тыя ўжо збеглі. Чаго ж гэта пацягнуўся за імі гэты дурніца Цупрон? Шукаць лягчэйшага хлеба? Можа і знойдзе, толькі вос чысціні душы не знойдзе. А такія, як Хіма Цэнтнерыха, як Лусціха, як некаторыя іншыя, для якіх калгас толькі прыпынак,— іх таксама хутка не будзе. Іх змяце гэты самы кілаграм, за які так стараецца Ганна. І жыццё зусім інакшае стане.

Ух, што толькі адкрылася гэтай старой жанчыне Дадовічысе! Вось і захацелася ёй некаму пра гэтае самае расказаць! А каму? Хіме Цэнтнерысе — не зразумее. Лусцісе — аблае толькі. Адарцы — няёмка, скажуць, пад дачку падладжваешся. З тыдзень хадзіла маўчком во з такімі думкамі, а яны так і прасіліся на язык. Падазрона паглядала на сустрэчных: а ці яны здагадваюцца? Толькі хіба ж пазнаеш чужыя думкі? І чым больш во так хадзіла, тым большая злосць разбірала яе на Зорыка Цэнтнера. Да драбніц успамінала колішнія п'янкі, чырванела за самую сябе. Бач, адсюль вытурылі, дык у Валжэвічах прыляпіўся. Ды як прыляпіўся: хіба не помніць яна ягоных слоў, што цяпер такіх гнясці трэба. Хі-ітры! Сон страціла Дадовічыха, шаптала ўначы: «Гад. Я сына праз цябе можа згубіла».

І пачала бліжэй трымацца Ганны.

Неяк у поўдзень выклікалі Ганну з поля ў праўленне. Хіма Цэнтнерыха, як толькі ад'ехалася Ганна на выпадковай падводзе, паднялася, страсянула з фартуха пыл, кінула пад ногі пранік і пацягнулася.

Грэла сонца, блізка над іржышчам хмарамі лёталі шпакі. Гулі машыны ў блізкай адсюль МТС. Чыстыя далягляды з засмучонымі на небасхіле лясамі ляжалі вакол. Хіма зажмурылася і сказала:

— А гэта ж, бабанькі, і адпачыць можна, пакуль Ганна вернецца!..

Адна з жанчын, як па камандзе, адразу кінула свой пранік. За ёю і яшчэ некалькі. І неўзабаве ўсе зрабілі тое ж . Толькі Дадовічыха ды Адарка па-ранейшаму працавалі. На твары Дадовічыхі была злосць, гнеў. Яна так грукала сваім пранікам, што з-пад яго сотнямі іскраў ляцела ільняная луска. Нарэшце, прыпынілася і, паглядаючы на Хіму, сказала непрыязна:

— Чаго ж гэта ты не працуеш? Відаць, Зорык з крамы яшчэ нешта прывалок?

— Адчапіся,— спакойна сказала Хіма.— Зорык чэсны.

— Ведаем яго чэснасць. І ты такая ж чэсная. Чаго сама не працуеш ды і другіх збіваеш? Або табе балюча, калі лішні рубель будзе на працадзень ды людзі зажывуць як трэба?

— Во яшчэ,— павярнулася Хіма спіною.— Стану я з табою спрачацца!

Пастаяла, яшчэ раз пазяхнула і лягла ў цяньку ільняных снапоў. Поплеч леглі яе сяброўкі, а Адарка і Дадовічыха ўсё грукалі і грукалі пранікамі. Злосць брала Дадовічыху не толькі на Хіму, але і на Ганну. Вось да чаго давяла яе беганіна па дварах, яе патуранне такім во, як Хіма. А гэтыя Хімы цяпер вылежваюцца.

З гурту жанчын, што ляжалі ў цяню разам з Хімаю, раптам паднялася адна і падалася ў бок Дадовічыхі. Гэта была Лусціха. Сорам увесь час дапякаў яе, не даваў спакою. Сорам падняў яе на ногі, і яна зноў садзіцца на сваё месца, чырванее, бярэ сноп і пачынае абіваць яго...

К таму часу, калі Ганна вярнулася з праўлення, жанчыны, што ля-

жалі пад снапамі, паспелі добра задрамаць. На таку працавалі толькі яе маці, Дадовічыха ды Лусціха. Ганна прыпынілася, здзіўлена аглядзела ток, села, укрыла ногі фартухом. Дадовічыха непрыязна ва ўпор пазірала на яе.

— Паснулі? — запытала Ганна і кіўнула галавою ў бок Хімы.

— Або не бачыш? Гэта ўсё праз цябе. Не твая гэта справа кіраваць...— вымавіла Дадовічыха і раптам асеклася. У вачах Ганны яна заўважыла тое, што ўжо не аднойчы многія заўважалі — нешта як бы незразумелае, але ўпартае, нейкі як бы патаемны агонь.

— Вось і добра, цётачка,— спакойна сказала Ганна.— Хай пасяпяць. А мы тымчасам папрацуем.

Грукат трох пранікаў не вельмі каб шкодзіў спячаму гурту на чале з Хімай. А Дадовічыха з сілаю грукала і грукала пранікам, скоса пагляДаючы на Ганну. Ой не, зусім не сапсавалі твае душы, дзевухна! Глядзі, памылілася я, калі так падумала. За гэтай тваёй як бы спакойнасцю сам чорт хаваецца. А тым часам тут і характару трохі ёсць. Толькі як бы там ні было, а гурт ужо раскалоўся на дзве няхай пакуль няроўныя часткі. А як прачнуцца гэтыя дурні ды ўбачаць, што і сонца ападае і сама звеннявая працуе, што во тады будзе? А там ёсць і сарамлівыя і дапяклівыя маладухі. Ой, глядзі, адлежыць сёння свае бакі Цэнтнерыха!

І прадбачачы тое, што будзе, са спагадаю паглядала на Ганну і ўпотай задаволена пасмейвалася.

... Неяк надвячоркам, перад нядзеляю, завярнула Дадовічыха ў калгасны клуб, дзе ў той час якраз збіраўся агранамічны гурток. Села за адным сталом з Ганнаю, загаварылася.

Ды так і засталася на ўсе заняткі.

## 7

Пакуль Ганна працавала ў полі, яна ведала толькі тое, што кожны дзень бачыла перад сабой — жыты, аўсы, пшаніцу, бульбяныя абшары. І толькі ўвосень — у гэтую першую ўдалую восень — яна змагла як след уявіць, што такое яе калгас. Як бы нават нечакана да тых трох кілаграмаў дадаліся мех яблык, воз капусты, некалькі тон бульбы. Праўда, грошай не па дзесяць рублёў атрымала, а ўсяго толькі па сем. Каля трох тысяч рублёў! Што галоўнае ў хаце, асабліва для дзяўчыны? Канешне ж, добры ложак, пасцель. Вось і выбіраюцца яны сёння з маці ў горад за пакупкамі.

На двары стаіць пагодлівы восеньскі дзень. Ля двара, прывязаны да частакола, запрэжаны ў калёсы конь. На Ганне ўсё тое ж плацце і тыя лодачкі, у якіх танцавала яна некалі з Міцькам Тачылам. Ох, Міцька, Міцька! Пабыў, пажыў у калгасе, можа і пасумаваў, а тады падаўся зноў у рачны порт. Расказваюць: піша, што зноў працуе на кацеры.

Ганна стаіць пры дзвярах, трымаючы кашолку, а Адарка ўсё яшчэ корпаецца пры палацях, увязваючы ў хусцінку дзесятак яек.

— Ну, навошта яны табе, мама? — міжвольна пытаецца Ганна.— Пакінь!

— Не, трэба, — кажа Адарка. — Як жа так: у горад едзем ды каб не прадаць.

— Грошы ж ёсць, — нясмела заяўляе Ганна.

— Хай сабе! — і, азірнуўшыся на дачку, дадае: — Хіба ж мне не хочацца адвезці што на рынак, як і іншыя? Ну, хіба няпраўда?

— Праўда, — згаджаецца Ганна. — Але ж доўга.

— Зараз, зараз. Нельга ж, каб у дарозе пабіліся. Калісьці Рыгор, твой бацька, не любіў, калі што зроблена не так.

Потым яны доўга ладкуюцца на калёсах — Адарка з аднаго боку, трымаючы ў руках вузельчык з яйкамі, Ганна з другога.

— Ну, кранай, — загадвае нарэшце Адарка.

— Пачакай троху, я во лодачкі скіну. Замінаюць. Там перад горадам абую.

Яна знімае з ног лодачкі, падсоўвае іх пад сена і ўжо на ходу садзіцца. Адарка сядзіць на калёсах у пярэстым андараку, што неяк захаваўся пасля вайны, у самаробнай вышыванай кофтачцы, а на галаве — белая паркалёвая хусцінка па краях у клетку. Мінаюць лог, мінаюць калгасную канцылярыю. Нечакана з двара, што ўвесь акружаны ліпамі, насустрач ім выбягае Дадовічыха — нізенькая, сівая жанчына.

— Ганна, Адарка! — гукае яна. — Пачакайце!

У руках Дадовічыха трымае таксама вузельчык.

Ганна нацягвае лейцы, спыняе каня.

— Ах, замарылася, — кажа Дадовічыха. — Гэта ж мой, гэты гультай, пісьмо прыслаў. Ледзь дачакалася. Піша, што працуе ў горадзе, у рэстаране ахвіцыянтам. Піша, каб заехала. Дык скажыце яму, што няма маёй згоды. Ні рукі, ні ногі не нясуць мяне туды, бо ведаю, чаго ён там прыстроіўся, — сыпле яна. — А тымчасам во вузельчык сабрала, — і на яе выцвілых вачах успыхваюць слёзы, а рот пачынае крывіцца. — Там, у вузельчыку, і пісьмо — дзякуй яму, Рыгор Драздоў напісаў — але ж вы скажыце яшчэ і маё слова. Добра, Ганульця?

— Добра, цётачка, — абяцае Ганна. — Зойдзем!

— Ну, то кранайце з богам,— ківае галавою Дадовічыха і суне свой вузельчык Адарцы пад ногі. — Кранайце ўжо. Ды гэтае, як будзеце купляць ложак, то не скупіцеся, — і яна дабрадушна моршчыцца. — Ну-ну, паехалі, — і адступаецца ад калёс.

Ганна падганяе каня, а Адарка пачынае неспакойна соўгацца на месцы, потым яе правая рука міжвольна апускаецца на Дадовічышын вузельчык, пачынае абмацваць яго.

— Чаго гэта вы, мама? — пытаецца Ганна.

— А цікаўлюся, што б гэта Дадовічыха напакавала сыну?

— Ой, і не сорамна, мама!

— А чаго сароміцца, — кажа Адарка. — Я вунь якое жыццё пражыла і цябе ўзрасціла. Які ж тут сорам?

Адарка ставіць пад ногі свой вузельчык і ўзнімае вузельчык Дадовічыхі.

— Ой, мама, людзі ж бачаць!

— А адкуль яны ведаюць, дачушка, які вузельчык яе, а які мой? Што ж бы гэта? Няўжо таксама яйкі? А божа ж мой, ды гэта яблыкі! Чуеш, яблыкі! І во, ігруша адна. А там і паперчына.

Ганна маўчыць. Упершыню ўзнікае ў яе крыўда на маці.

— Няўжо, мама, як мяне вы гадавалі, то ў чужыя вузельчыкі заглядвалі?

Адарка ўздыхае і ставіць чужы вузельчык на ранейшае месца, а свой бярэ ў рукі.

Да горада дзесяць кіламетраў — вунь які шлях, і жанчыны шмат пра што паспяваюць перадумаць. Ганна думае не толькі пра пакупкі, але і пра сваё звяно, у Адаркі ж на душы тое, аб чым найбольш непакояцца маткі: як бы выгадна аддаць дачку замуж. І ўсё больш успамінаецца ёй той дзень, калі яна сядзела на лавачцы ля двара, а Ганна прывезла аванс ды зносіла мяхі, разам з самім «сакратаром камсамола». Усё больш успамінаецца, як перагукваліся яны тады ды рагаталі і як падумалася яшчэ ёй: а хто ж яго ведае, чым яно яшчэ ўсё скончыцца! Вось бы такога жаніха! Не п'е, важак у моладзі. Аднак жа і разумела яна, што Ганна Рыгору не пара, што яна ад Рыгора стаіць вунь як далёка. Успаміналіся чамусьці яе парэпаныя загарэлыя ногі, калі яна зносіла тыя мяхі. Але ж... чаму не памарыць? Марыла ж яна добра зажыць і во як быццам бы і зажыла. Добра было б, каб такі жаніх трапіўся. Рагіна Маеўская нядаўна выйшла замуж за настаўніка, дык то ж Рагіна! Яе вунь як песцілі, ды вунь як апраналі. Тая не скіне лодачкі, бо яны ёй замінаць не стануць. І не пойдзе з Міцькам на масток, няхай сабе і без лішніх думак. Там, на старане, хіба, а тут пад яе і камар носу не падточыць. Вунь колькі перабрала, пакуль выйшла. А як выйшла, дык, кажуць, ужо і сварыліся. Сам Маеўскі ездзіў уціхамірваць.

Гудуць паўз вушы правады, што нацягнуты збоч дарогі на слупах, аднамыслова цягнуцца палі са скірдамі, а на душы ў Адаркі накіпаюць ні то нейкая крыўда, ні то самотна-пяшчотныя слёзы.

У горадзе яна перш за ўсё загадае заехаць на рынак. На рынку — падвод не злічыш, плыве гоман.

— Ты тут пастой, — кажа Адарка, а я пайду, яйкі прадам.

— Толькі ж не баўся, мама, — просіць Ганна.

— Добра...

Але абяцанне дарэмнае. З дзесяткам яек Адарка прападае ў натоўпе гадзіны дзве. Нарэшце яна вылазіць з гурту людзей, спацелая, змучаная, але задаволеная.

— Праўда, — кажа яна. — Добра прадала — дзевяць рублёў далі. Заадно і ўсё агледзела. Тут, на рынку, вунь з таго боку і мэбля прадаецца. Давай скіруем туды.

Зноў жанчыны ўзбіраюцца на калёсы. Едуць марудна, кожную хвіліну даводзіцца крычаць. Нарэшце ж такі!.. Вось ён, магазін, з вялікімі вокнамі, за якімі выстаўлены розныя рэчы. Жанчыны доўга выбіраюць ложак, матрац, коўдру, доўга разглядаюць, радзяцца і нарэшце купляюць усё гэта. Але насіць пакупкі на калёсы яны не спяшаюцца.

— Пасля, — кажа Адарка і цягне дачку ў глыб магазіна. — Глядзі, што тут!

А за прылаўкам, на падплечніках, безліч плаццяў. І дарагіх, і недарагіх.

— Ведаеш, дачушка, давай купім табе плацце, — кажа Адарка. — І лодачкі новыя. Надзенеш вунь за тою шырмаю, там можна, ды так і паедзеш да Цупрона. Хай пабачыць, якія мы Пабірахі.

Ганна ўспыхвае: а чаму б і не купіць? Грошай жа яшчэ амаль палова засталася! Крэпжаржэтавае плацце ў кветку так і кідаецца ёй у вочы.

— Гэтае, ці што, мама?

— А хоць бы і гэтае, — гудзе Адарка. — Давай пакліч крамніцу.

За шырму яны заходзяць удваіх. Ганна ўздыхае, пазіраючы на плацце, якое трымае Адарка. Гэта ж першая сапраўдная абнова ў яе жыцці. Плацце, якое не так даўно было яе марай. Ганна надзяе яго і кажа:

— У самы раз, мама. Як на мяне пашытае.

— А ты зірні на сябе ў люстэрка, — задаволена смяецца Адарка.

Ганна глядзіць у люстэрка і не верыць вачам. Стройная дзяўчына пазірае на яе. З задумлівымі, прыгожымі вачамі і прыгожай усмешкай. «Пахарашэла», — задаволена думае пра сябе Ганна.

Тут, за гэтай самай шырмай, яна прымярае панчохі і туфлі.

— А можа зняць усё гэта, мама, — шкадуючы адзенне, гаворыць яна.

Але Адарка злосна ўзмахвае рукамі.

— Што ты, дзеўка, — спалохана кажа яна. — Гэта ж горад.

— А хто ж ложак грузіць будзе?

— Не твая справа! Знойдзем. Ну, ідзі, ідзі да калёс!

І вось зноў, як і тады, калі яна ўпершыню ішла на вячорку, Ганне робіцца ніякавата. Кожны як бы пазірае ёй у вочы, кожны як бы ведае, што гэта толькі што купленае плацце, і таму прыглядаецца. Прыглядаецца і Адарка. Няўжо ж і цяпер яе дачка горшая за другіх?

Ля прыступак магазіна Адарка заўважае дзябёлага чырванатварага дзядзьку з рыжымі даўгімі вусамі і нясмела падступаецца да яго.

— А дзядзечка, а даражэнькі, — пачынае гаворку яна. — А гэта ж купілі з дачкою ложак ды матрац, а грузіць няма з кім... На дачцы, бач, абнова. Адной мне цяжкавата будзе, то можа дапаможаце знесці на калёсы.

Дзядзька крытычна аглядае Адарку, пасля Ганну і на дзіва танклявым голасам кажа:

— А сама чаго ж не купіла?

— Паркалю, паркалю дачка купіла, — кажа Адарка і паказвае скрутак.

— А дзе ж ён, той ложак, у магазіне?

— У магазіне, дзядзечка.

— Ну, то хадзем, — згаджаецца ён і крычыць некаму ў натоўп: — Андрэй! Пачакай там мяне!

І зноў едуць жанчыны па горадзе, сядзяць плячо ў плячо, важныя і трохі ўсхваляваныя.

— Цётачка, дзе тут рэстаран? — часта пытаецца ў сустрэчных Адарка.

Рэстаран — блізка ля цэнтра. Гэтая белая цагляная будыніна ў адзін паверх. Трохі даўгаватая, трохі нізкаватая. На вокнах і нават на шкляных дзвярах фіранкі.

— Ідзі, мама, — кажа Ганна, спыняючы каня, — а я тут пагляджу.

— Не, дочачка, трэба ісці ўдваіх. Я ўжо і забылася, што там казала Дадовічыха. Трэба ўдваіх. Толькі вось як жа з пакупкамі?

Але іх ахвотна выручае міліцыянер. Ён абяцае пасачыць за канём, за ложкам і за матрацам.

Ганна прыкметна хвалюецца, калі пераступае парог рэстарана. Яна ўспамінае Цупрона, яго звычай круціцца ля выпівалаў, дагаджаць ім і забаўляць іх, яго насмешлівыя, як на выкаце, вочы, што заўсёды пазіралі на яе з пагардаю, і ёй усё больш робіцца зразумелым, чаму Дадовічыха адмовілася наведаць яго і з якіх прычын апынуўся Цупрон во за гэтымі шклянымі дзвярыма. Божачка, ужо ж яна маладая, а колькі бачыла вось такіх на сваім шляху! Як толькі такі трохі ўзрасце і ўбярэцца ў сілу, то так і вынюхвае, дзе б зручней ды выгадней прыстроіцца. А цяжкое пакідае вось такой, як яна, або такому, як Рыгор Драздоў. І куды толькі ні забярэцца такі прайдзісвет! І ў канцылярыю, і ў рэстаран,

асабліва, калі з харчаваннем нястача, і на чыгунку і чорт ма куды — каб было тое на небе, то ён і на самое неба забраўся б. Ганна нават пабялела, калі заходзіла ў рэстаран.

За чыстымі сталамі абедалі людзі. Ганна пацягнула Адарку за рукаў.

— Пачакай, мама, дай аглядзецца.

Недалёка, справа, буфет і за ім буфетчыца. Хіба запытацца ў яе? Ганна патапталася на месцы, паглядзела на Адарку, і ўдваіх яны рушылі да шкляной аграмадзіны.

— Дзеванька, — запыталася Адарка. — А як бы пабачыць нам Цупрона Дадовіча? Ён тут ахвіцыянтам працуе, дык маці прыслала яму гасцінца, — і яна ўзняла руку з вузельчыкам.

Буфетчыца агледзела іх, паказала рукою:

— Вунь за тымі столікамі.

Але і паказваць не трэба было. З падносам у руках, на якім звінелі чаркі, сам Цупрон раптам вынырнуў аднекуль збоку. У белым касцюме, старанна зачасаны, прылізаны, ён так спяшаўся, што нават і не прыкмеціў аднавяскоўцаў. Ён быў п'янаваты, і гэта відаць было па яго асалавелых вачах, па рухах, і пахла ад яго адэкалонам і гарэлкай. За гэты час Цупрон неяк абмяк, шчокі раздзьмуліся і блішчэлі, як мядзяныя.

— Цупрон! — паклікала яго Ганна.

Цупрон уздрыгнуў і азірнуўся. Раптам яго вочы пачалі большаць, рот пачаў раскрывацца, шчокі распаўзліся яшчэ больш, і вось ужо з яго языка само сабой зрываецца знаёмае:

— Ай-яй-яй-ай! Ды гэта ж Ганна! Ды гэта ж Адарка! Як жа вы тут?

Ён хутка ставіць паднос на прылавак і шыбае амаль подбегам.

— Ну, Ганны ж не пазнаць,— кажа ён, трасучы яе руку.— Во табе. і Ганна. Гэты хлюст Міцька Тачыла, каб яму!.. Ай-яй-яй-ай! Во табе і дзяўчына! Во табе і ўсходаўка!

— Чакай, чакай,— перапыняе яго Адарка.— Мы табе гасцінца ад маці прывезлі, — і яна падае Цупрону вузельчык. — Там і пісьмо. А сама яна не можа прыехаць, бо прыхварэла.

— Няпраўда, — раптам кажа Ганна. — Маці твая, Цупрон, не хворая, толькі яна да цябе не паедзе. Не паедзе, бо ненавідзіць такіх, якія кідаюць калгас і працуюць, дзе лягчэй. І прасіла перадаць, каб ты адумаўся і вяртаўся, бо яна адна, старая. І прасіла ўведаць, што ты думаеш. Во!

Цупрон пахмурнее. Рука, якая трымае матчын вузельчык, прыкметна дрыжыць.

— Чакайце, — кажа ён і дастае з вузельчыка запіску, напісаную Рыгорам Драздовым.

Доўга і ўважліва чытае яе, час-ад-чаму шавелячы губамі. Там напісана, што нягожа пакідаць адну старую маці, якая выпеставала і ўзрасціла яго, што не да дабра давядзе Цупрона вось такое жыццё, што калгас багацее, работы шмат і кожныя рукі на ўліку. Можа ён адумаўся б, кінуў гэты рэстаран, кінуў дапіваць за другіх гарэлку ды ўсё ж вярнуўся. Маці ж чакае яго!..

— Та-ак! — цягне Цупрон і пазірае на Ганну. Але позірк яго не так на ёй, як на яе плацці.— Справы!— зноў выдыхае ён, успомніўшы камсамольскія сходы і некалькі паседжанняў праўлення калгаса, куды, як і іншых, яго выклікалі яшчэ да здарэння на мосціку. Асалавелымі вачыма ён аглядае рэстаран і пытаецца: — Хто запіску пісаў?

— Рыгор Драздоў, — адказвае Ганна.

— Ну, яно і бачна. Маці такое не напісала б.

— Не, Цупрон. Гэта просьба маці, яе словы напісаны, — настойвае Ганна.

— У нас заўсёды крайнасці, — кажа Цупрон, відаць, паўтараючы чужыя словы. — Заўсёды на рабро, у тупік. Або туды, або сюды. Не вярнуся я ў вёску. Я працую там, дзе падабаецца, і маці за гэта крыўдаваць на мяне нельга. Так і скажыце. І я на яе не крыўдую. Чаго ж?

І ён устаўляецца вачыма на жанчын і зноў глядзіць на Ганну. «А гэты Міцька Тачыла не дурань, — разважае між іншым ён. — Нюх у яго гончы. Бач, і пад лахманамі змог угледзець такую прыгажосць!» Не, не любіць ён Міцькі Тачылы!..

8

Пасля ўходу Зорыка Цэнтнера, Вальдамара Лусты і Цупрона Міцька Тачыла і сапраўды засумаваў. Праплывалі перад вачыма не так ужо і даўнія школьныя гады. Тады ён часта выходзіў за ваколіцу, спыняўся пры Дняпры і доўга тут прастойваў. Або іншым разам браў вуду і забіраўся ў кусты вудзіць акунёў. Вось так аднойчы вудзіў пад высокім гліняным берагам, а рыба нешта не бралася. Сядзеў-сядзеў Міцька дый рашыў, нарэшце, перабрацца на другое месца. Не спяшаючыся, зматаў вуды, забраў бляшанку з чарвякамі і толькі адышоўся ад таго куста, што над кручаю, як увесь той бераг — і куст, і тое месца, на якім сядзеў — раптам рухнулі, агаляючы размыты глеевы пласт. Тысячы пудоў зямлі на вачах у здзіўленага Міцькі сплылі ў Дняпро. Сплылі і закружыліся і пачалі асядаць на віры так, што тырчэлі некалькі хвілін з вады верхавіны высокага лазовага куста, што ўсё яшчэ не хацеў адыйсці ад роднага берага. А Дняпро лютаваў, вірыў, гнаў воды. Куст, вырваны ім з зямлі, раптам паплыў на сярэдзіну і там затануў.

Міцьку не толькі ўразіла ўсё гэта. Яго зачаравала суровасць ракі, яе патаемная сіла, якой ён раней зусім і не заўважаў. Вось тады ўпершыню і з'явілася думка пайсці працаваць на параход або кацер. А так як вучыўся ён дрэннавата, то думка гэтая ўсё больш і больш займала яго. У час вясновых іспытаў ён раптам кінуў школу і паступіў на курсы матарыстаў пры Дняпроўска-Дзвінскім параходстве. Праз паўгода Міцька быў на практыцы, а пасля яго прызначылі на кацер. Вазілі на прычэпах баржы, плыты і за кароткі час плавання Міцька яшчэ больш зжыўся з ракою.

Яшчэ да здарэння на мастку яго выклікалі ў праўленне. Старшыня калгаса Ілья Максімавіч Касцюкевіч, нядаўні рэдактар абласной газеты — чалавек пажылы, лысы, з пасмамі сівых валасоў за вушамі, у празрыстых акулярах з надзвычай тонкай сярэбранай аправай — проста і ва ўпор запытаўся ў яго:

— Чаму не працуеш?

Міцьку не было чаго адказваць на гэтае пытанне, і ён маўчаў. Тады Касцюкевіч устаў з-за стала і пачаў хадзіць з кута ў кут, з кута ў кут, паціраючы рукамі, як гэта заўсёды ён рабіў, калі пачынаў хвалявацца.

— Не, вы зірніце на гэтага хлопца. Ма-атрос! — і ён многазначна падняў угору ўказальны палец правай рукі.— Плечы — касы сажань,— развёў ён убакі рукі, паказваючы гэты сажань, — кулакі пудовыя, шыя бычыная, а не працуе. Маці, старая, ходзіць штодня ў поле, а гэты асі-

лак, а ў сапраўднасці лодыр, адлежваецца. Не працуе — і ўсё тут! У Цэнтнера ў краме аціраецца, з Цэнтнерам п'е, з Лустай ды Цупронам на танцы ходзіць і — чхаў ён на калгас. Не, браце Тачыла. Так не будзе! Працаваць прымушу! А не будзеш працаваць — адміністратыўным парадкам вытуру з матчынай хаты. Складу пратакол, увесь калгас падпішацца і, як без пэўнага занятку, здам міліцыі. А дойдзе да суда — у мяне ўсе сведкамі пойдуць. Не хочаш тут працаваць — калі ласка, працуй на Калыме. Там таксама зямля і таксама людзі. Ды не хочацца мне гэтага рабіць, бо хлапец ты — шчыра скажу — вельмі ўжо цікавы. Ну, дурэеш, дык я сам некалі быў такім — ведаю, разумею. Але, таварышок, хопіць! Час, як кажуць, і за розум брацца. Каб заўтра ж быў у полі.

Міцька пасля такой размовы, хоць і выйшаў на двор чырвоны, як вараны рак, і потны, аднак ні назаўтра, ні ва ўсе наступныя дні на працу не пайшоў. Пасля заметкі ў «Нашым вожыку» яго выклікалі ў праў-



ленне яшчэ раз, але Міцька, успомніўшы, з кім будзе мець размову, махнуў у адчаі рукой і сказаў сам сабе:

— Не пайду!

Пасля ўцёкаў Цэнтнера, Вальдамара і Цупрона яму перадалі, што Касцюкевіч напісаў на яго вялізны пратакол і ўсіх, хто заходзіць да яго, просіць пад гэтым пратаколам падпісвацца. Міцька і пасля гэтага не выйшаў у поле і з нецярплівасцю пачаў чакаць свайго сумнага канца. Вось у гэты час і пачало здавацца, што яго лёс падобны на лёс таго змытага ракою куста. Спачатку ён абураўся, лаяў усяляк Касцюкевіча, не мог трываць, калі пры ім называлі імя гэтага чалавека, а потым на яго напаў вельмі чуллівы настрой. Бяссоннымі начамі выйдзе Міцька ў поле, услухаецца ў абшары, надыхаецца наваколлем і пачынае мармытаць песню, якая стала вельмі блізкай:

Выхожу один я на дорогу,
Сквозь туман кремнистый путь блестит.
Ночь тиха, пустыня внемлет богу,
И звезда с звездою говорит.

Зоры пераміргваюцца і сапраўды як бы шапочуцца. Сівее ў нізінах туман. Пачынае здавацца, што цярністы жыццёвы шлях сапраўды пралёг праз гэты туман. Хочацца распасцерціся на зямлі і, адчуваючы яе, заплакаць, як бы растварыцца ў ёй і драмаць у вечным спакоі, як гэтае неба, як сама яна, зямля. Растварыцца і адчуваць усё гэта, — і зразумелае, і вельмі многае незразумелае — вечна. І тады міжвольна ўяўляецца Каўказ, якога ён, яшчэ і не бачыў, і адзінокі сярод людзей, прыгожы, дарагі і блізкі чалавек Лермантаў. Не, ніхто не разумее яго, Міцькі. Усе бачаць у ім толькі таго прайдзісвета, што завёў на масток Ганну, а ў сапраўднасці ён лепшы за ўсіх, і ніхто не ведае, што як не плача ён па начах, дыхаючы ўсім наваколлем і ўсё больш убіраючы яго ў сябе. Не, ніхто не разумее і не зразумее! Вось хіба толькі Ганна! Як бы назаўсёды застаўся на яго вуснах той пацалунак і назаўсёды запомнілася прыгажосць яе сумных вачэй. Глядзі, закахаешся, Міцька, закахаешся ў гэту дзяўчыну, якую ўсе некалі называлі Пабірахай! Але ж ён, Міцька, яшчэ больш няшчасны, і таму кахання ніякага не можа быць. Дый і наогул — ці існуе яшчэ яно, гэтае каханне? Так, людзі сыходзяцца з-за агульнасці інтарэсаў, а сапраўднага, шчырага кахання няма, яно было магчыма толькі некалі і вельмі ж даўно. Толькі тады людзі і хінуліся адзін да аднаго, па-сапраўднаму кахаючы, толькі тады хлопец мог па-сапраўднаму і вянуць і сохнуць, калі дзяўчына яму падабалася.

Вось да якіх думак давёў Міцьку яго панылы настрой. Песня, складзеная можа сто гадоў назад, як бы клікала яго ў вялікі свет, а такім светам для Міцькі было толькі плаванне па Дняпры. Яго ж не пускалі ў гэтае плаванне, ставілі яму безліч перашкод, абыйсці якія было немагчыма. Нарэшце, Міцька не вытрымаў. Неяк увечары выпіў употай чацвярцінку, расхінуў форменку, паказаўшы свету матроскую цяльняшку, зайшоў на кватэру да самога Рыгора Драздова ды і выклаў там усё, што адчуваў і што думаў. На вялікае яго здзіўленне, гэты грозны Рыгор Драздоў думаў і адчуваў зусім жа так, як і ён, Міцька. І што заснуць можна нейкім вечным, але надзвычай успрыймальным сном, і што ён лепш за ўсіх, а сапраўднага кахання ў яго ўсё няма, і што ён многім падобны на Лермантава, і што ён таксама ніяк не можа надыхацца

абшарамі. Вось толькі ў адным яны не сыходзіліся: яму, Рыгору Драздову, калі і ставіў хто ў мінулым перашкоды, дык ён, Рыгор Драздоў, змагаўся, перамагаў іх і выйшаў у вялікі свет, або ў вялікае плаванне, а такім вечным вялікім плаваннем для яго з'яўляецца камсамол. І ў заключэнне гэтага свайго душэўнага прызнання Рыгор Драздоў паляпаў Міцьку па плячы і сказаў:

— На Касцюкевіча не крыўдуй. Сам ведаеш, які ён прыняў калгас. На рахунку ні рубля не было, а даўгоў — 350 тысяч. Ні дысцыпліны, ні падтрымкі. Вось і трэба было паднацісnуць, а ў чалавека, хлопчык, парок сэрца, а гэта не жартачкі. Ленін чаму вучыў? Каб выцягнуць увесь ланцуг, трэба спачатку ўхапіцца за адно звяно. Вось і пачаў Касцюкевіч шукаць такое звяно. І знайшоў, хлопчык. Такім звяном быў лён. На гэтай зямлі ён добра родзіць і дае вялікі прыбытак. І цяпер, калі праз гэты прыбытак калгас стаў на ногі, Касцюкевіч робіць гаспадарку шматгалінна. Мацуе паляводства, малочна-таварную ферму. І гэта даецца яму нялёгка. Яго трэба, хлопчык, падтрымаць. Але так, як вялікае тваё плаванне не ў калгасе, то я табе дам параду: цішком ад Касцюкевіча, пакуль ён збірае тыя подпісы, махні ты на параходства ды вось так, як мне, прызнайся ва ўсім начальству. Яны самі рачнікі — зразумеюць. І ў старых грахах сумленна пакайся. Вось пабачыш, залічаць у штат. Ды яшчэ, глядзі, на самы лепшы параход накіруюць. Чэснае слова, так будзе. А Касцюкевіча я тым часам угавару. Вось і справа будзе з канцом. Ды ты пачакай, хлопчык, пачакай, — раптам ляпнуў ён сябе рукою па ілбе і падхапіўся, захадзіў па пакоі. — Пачакай,— яшчэ раз сказаў ён і прыжмурыўся, штосьці прыпамінаючы. — А гэта ж у мяне ў Днепра-Дзвінскім параходстве ёсць сябар. Ну канешне, хлопчык, у Днепра-Дзвінскім... Камсорг параходства Міхаіл Нічыпаравіч Ліпняк. Разам у вобласці накіраванне атрымлівалі, а вось нешта нічога не піша, чарцяка. Відаць, работа закруціла — абавязкова напісаў бы. Дык вось што, хлопчык. Ты пасядзі тут, а я яму зараз цыдулю абмазгую. Пачакай толькі трошкі. Такую напішу, што будзе поўны парадак.

І на вялікае здзіўленне Міцькі, Рыгор Драздоў, той самы Рыгор Драздоў, што так злосна высмеяў яго праз «Наш вожык», напісаў зусім правільную запіску. Што Міцька Тачыла самы лепшы хлопец з усіх, якіх толькі ён, Рыгор, сустракаў; што ён бязмежна любіць Дняпро, што на параходах і кацерах ён адчувае сябе, як рыба ў вадзе, і што хлопец ён сумленны, чэсны і справядлівы і ненавідзіць гультаёў і ўсялякія іншыя наросты на жывым целе грамадства, і што ў мінулым па нявопытнасці меў памылкі, аднак узяўся за розум, адумаўся, вельмі каецца і клянецца апраўдаць сябе, у чым ён, Рыгор Драздоў, не сумняваецца ніколечкі. А таму, па дружбе, ён, як за сябе, просіць прыстроіць хлопца на параход, бо ад гэтага залежыць лёс будучага чалавека. У канцы Рыгор прасіў не забывацца і пісаць яму, як будзе вольная часіна.

Запіску ён прачытаў Міцьку ўслых і запытаўся:

— Даеш слова, што апраўдаеш сябе?

— Даю, — адказаў Міцька.

— На, трымай, — сказаў Рыгор і працягнуў яму белы аркушок паперы.

Міцька не чакаў такога. Не помнячы сябе ад радасці, з запіскаю, надзейна схаванай у кішэні, ён ускочыў у хату, у якіх пяць хвілін сабраў

чамаданчык і, ужо з чамаданчыкам у руцэ, зноў вылецеў на вуліцу. Тут, на вачах цэлага натоўпу, ён абняў і пацалаваў маці, сказаў, што едзе, але не сказаў, куды і чаму, і шпарка пакрочыў на шлях — лавіць выпадковую машыну.

## 9

Міхаіл Нічыпаравіч Ліпняк быў па-баксёрску падстрыжаны пад вожыка, з паголеным, але надзвычай сінім падбародкам і з нейкім занадта ўжо хцівым гарбатым носам. Звонку гэта быў чалавек грозны, недаступны, злосны. Дазнаўшыся, што Міцька Тачыла прыехаў ад Рыгора Драздова, ён раптам расплыўся ў дабрадзейную ўсмешку, паказаўшы Міцьку роўныя і белыя, як часнок, зубы.

— Ад Драздова? — перапытаў ён.— Ну, як ён жыве, як спраўляецца? — І, не чытаючы запіскі, а толькі трымаючы яе ў руках, пачаў падрабязна распытваць пра жыццё свайго сябра. На вялікі жаль, Міцька дрэнна ведаў Рыгорава жыццё і ўвесь час выкручваўся на тым, што сам ён, Міцька, рэдка і непадоўгу бывае ў калгасе, а Рыгор Драздоў і зусім прыезджы, заатэхнік.

— Шкада, шкада,— круціў галавою Ліпняк.— Хоць бы распытаў якнебудзь,— і ён дакорліва зірнуў на Міцьку.

— А вы напішыце яму,— сказаў Міцька.— Ён прасіў.

— Напішу, напішу,— сказаў Ліпняк.— Выберу толькі час. Ну, а што ж ён піша? — і з гэтымі словамі Ліпняк паднёс да вачэй паперчыну.

Міцька неспакойна закілзаўся на крэсле, прыпамінаючы ўсё тое, што ён надумаўся за дарогу сказаць гэтаму чалавеку. А Ліпняк, прачытаўшы запіску, пачаў чытаць яе яшчэ раз, нарэшце сказаў «так», адсунуў запіску ўбок, забарабаніў пальцамі па стале і ўставіўся на Міцьку неспакойнымі шэраватымі вачыма.

— Ты плаваў на дваццаць сёмым кацеры? — запытаўся ён.

— На дваццаць сёмым,— каўтануўшы сліну, адказаў Міцька.

— Дрэнна плаваў. Ведаю, не расказвай. І не гаварыў бы з табою, каб не гэта,— і ён тыцнуў пальцам у аркушок паперы.

Міцька адчуў, што надыходзіць самы крытычны момант. Усё тое, што ён за дарогу надумаўся сказаць, неяк адразу выветрылася з галавы. Тады ён успомніў, пра свае бяссонныя ночы, пра бадзянне па палях, пра перашкоды і тое вялікае плаванне, аб якім казаў Рыгор Драздоў, і, уздыхнуўшы на ўсе грудзі, пачаў гаварыць, наўмысна абыходзячы выпадак на мастку і заметку ў «Нашым вожыку». І чым больш гаварыў ён, тым больш дабрэў Ліпняк. Пад канец гарачага, як вецер, Міцькавага шэпту Ліпняк і зусім, відаць, расчуліўся.

— Так! — кракітануў ён. — Аднак ты адумаўся,— і паківаў галавою.— Што ж я магу зрабіць? Каб гэта пісаў не Рыгор Драздоў, дык і наогул не было б ніякай гаворкі. А так... Сам ведаеш: тут галоўны гвозд аддзел кадраў і начальнік упраўлення. Да яго ісці табе не раю — ён у нас строгі і слухаць не стане. Што я магу? Я магу рэкамендаваць, заступіцца, улічыўшы такое раскаянне, такое жаданне і вось гэта,— і ён зноў тыцнуў пальцам у паперчыну.— Ты дзе спыніўся? У гасцініцы? Дык вось мая табе парада: пакінь мне заяву, а сам трымай курс на гасцініцу. Заўтра

гадзінак так у дванаццаць падыйдзі да мяне, будзь ласкаў. Паспрабуем, пабачым — можа што і выйдзе. Паспрабуем, паспрабуем, — і ён зноў забарабаніў пальцамі. — Абавязкова трэба зрабіць, каб выйшла, — вырашыў нарэшце ён. — Ну, дык пакуль бывай, — і падняўся з месца, увесь час крытычна аглядаючы Міцьку.

Міцька Тачыла перажыў яшчэ адзін неспакойны дзень і яшчэ адну неспакойную ноч. Ён прыйшоў назаўтра не ў дванаццаць, а ў адзінаццаць гадзін і захапіў Ліпняка за тым жа службовым сталом.

— Як твая справа? — адказаў ён пытаннем на пытанне.— Прызнацца, цяжкавата было. Ды тут такая нечаканасць: начальнік упраўлення, аказваецца добра ведае Рыгора Драздова. Адкуль, якім чынам — не распытваў, няёмка было. Просьбу ўважыў. Так што — віншую, — і Міхаіл Ліпняк, падняўшыся, працягнуў руку, якую ўзрадаваны Міцька ўхапіў абедзвюма рукамі.— Цяпер я ўжо яму напішу,— сказаў Ліпняк, усё яшчэ думаючы пра Драздова.— Бачыш, начальніка ведае, а запіску напісаў мне. Відаць, пабойваўся ўсё ж. Дык вось, слухай, наконт цябе. На параход цябе не паставілі, а паставілі на кацярок. На дваццаць пяты нумар. Там якраз механік на пенсію ідзе. Прыгледзімся да цябе, пабачым ці апраўдаеш. Выйдзеш у перадавыя — на параход перавядзем, будзеш, як і раней,— прагонім з трэскам. Ну, толькі помні: за цябе я і Драздоў заручыліся — не забывайся пра гэта. Патрэбна будзе дапамога — паведамляй адразу, калі што не так — змагайся і таксама паведамляй, а я ўжо не выпушчу цябе з прыцэлу.

І зноў Міцька пачаў плаваць на Дняпры, увесь час памятаючы пра гэтага не вельмі каб прыкметнага хлопца Рыгора Драздова. І ўсё больш і больш думаў пра Ганну. Дзіўная нейкая дзяўчына! Чаму гэта яна тады так адразу пайшла з ім, чаму — з першага разу — хінулася да яго? Пацалаваў, дык задаволена засмяялася. І пасля на масток пайшла. Так думаў ён доўгі час і чым больш думаў, тым больш не мог ва ўсім гэтым разабрацца. І толькі значна пазней, калі ён задаў сабе зноў тое ж самае пытанне, адразу і нечакана знайшоў на яго патрэбны адказ. «Ну чаму,— сказаў сам сабе Міцька Тачыла,— чаму дзяўчына ідзе з хлопцам? Чаму яна хінецца да яго? Ды калі ўжо яна і ідзе і хінецца, дык ужо ж, мабыць, кахае. Толькі з гэтай прычыны заўсёды ўсё і атрымліваецца так. Каб не было такой прычыны, то не было б ні абдымкаў, ні пацалункаў». Для Міцькі гэта было цэлым адкрыццём. Бадай што і вучоны, які гадамі працуе над нейкай праблемай і нечакана для самога сябе знаходзіць зусім непрадбачаны закон,— бадай і гэты вучоны не бывае так уражаны, як быў уражаны сваім адкрыццём Міцька. А Рагіна? Ды Рагіна ж зусім не кахала яго! І гэта таксама было адкрыццём...

У час стаянак на палубе кацера сумна гучала гітара і чуўся Міцькаў голас:

Выхожу один я на дорогу,
Сквозь туман кремнистый путь блестит...

Нарэшце, усё як след узважыўшы, Міцька сеў аднойчы за столік і, страціўшы некалькі аркушаў паперы, напісаў доўгае пісьмо. Напісаў і нецярпліва пачаў чакаць адказу. І ён, адказ гэты, прышоў. Дрыжачымі рукамі разарваў Міцька канверт, дастаў адтуль фатакартку і аж ахнуў ад здзіўлення. Гэта была Ганніна фатакартка, але якая то была Ганна! Разадзетая, непазнавальна прыгожая, з усмешкай на вуснах. У Міцькі Тачылы міжвольна ўзніклі тыя ж думкі, якія ўзніклі аднойчы ў Цупрона Дадовіча. Толькі думкі яго былі не злосныя, а прыязныя і шчаслівыя...

10

У канцы лістапада выпаў першы снег, а ў снежні па-сапраўднаму закруцілі зімовыя завірухі. Дарогу ад калгаса да горада занесла, штодзень на яе выязджалі снегаачышчальнікі. Цісну́ў мароз, мерзлі канаплянікі на загарадзях, і па ўсім было відно, што зіма, не ў прыклад мінулым, будзе суровая і цяжкая. У адзін з такіх непагодлівых дзён Міцька Тачыла, паставіўшы на снег два аб'ёмістыя чамаданы, бадай з поўдня прачакаў ля чыгуначнай станцыі аўтамашыны. Наставіўшы каўнер зімовага паліто, ён подбегам прахаджваўся перад будынкам вакзала. А снег сыпаўся і сыпаўся. Часам моцны вецер здзьмухваў яго з даху вакзала і тады наогул нічога не было бачна. Міцька Тачыла нерваваўся і непакоіўся. Не ў прыклад мінуламу, сёлета, як толькі стаў Дняпро, ён напрасіўся ў докі, на рамонт, і цяпер ехаў дадому, бо згодна загаду начальніка ўпраўлення яму прадаставілі адпачынак на месяц. Блізкая сустрэча з Ганнай непакоіла і радавала яго. У апошні час было столькі напісана пісьмаў! Канешне, Ганна не чакала яго. Міцька зрабіў так, як робяць і іншыя ў падобных выпадках: ён утоіў пра адпачынак, каб прыехаць і сустрэцца як быццам бы нечакана. І ён пасмейваўся, наперад прадбачачы гэтую неспадзяваную сустрэчу і ўспамінаючы, як летам вярталася яна пад вечар з поля адна, а ён чакаў яе, каб папрасіць прабачэння. Мілая, добрая Ганна! Ён апраўдаў сябе, і яго цяпер ставяць нават у прыклад іншым, а летам глядзі што пашлюць працаваць на вялікі параход. Хіба ж не шчасце гэта? І хіба не шчасце адчуваць, што там, за гэтай завірухай і снегам, чакае цябе чалавек, які раптам аднойчы стане блізкім табе і дарагім! І хіба не пра гэта спявае вецер, сыплючы і сыплючы снег! І хіба не пра тое самае папіскваюць застылыя на марозе канаплянікі! І вось толькі трохі сорамна ўспамінаць не вельмі каб прыгожае мінулае. Але Ганна разумее яго. Яна так і піша. Яна кажа, што галоўнае ў жыцці зразумець сваю памылку, выправіць яе і стаць на правільны жыццёвы шлях. Ён, Міцька, зрабіў гэта. Ён не тое, што Цупрон, якога, кажуць, нядаўна выгналі з рэстарана. Аднак усёроўна чамусьці сарамнавата.

Вось у час такога горкага роздуму, ахутаная снежным клубам, да вакзала і падкаціла грузавая аўтамашына. Міцька адразу пазнаў шафёра — гэта быў усходаўскі шафёр. Не пытаючыся дазволу і не вітаючыся, ён адразу пацягнуў свае чамаданы да кузава.

— Здароў, Міця! — крыкнуў, вылазячы з кабіны, шафёр.

— Здароў,— адказаў Міцька і ўсміхнуўся.

— Кладзі чамаданы ды забірайся ў кабіну, — крыкнуў шафёр. — Ты сёння першы і апошні пасажыр! А я збегаю ў вакзал да буфета — падсілкавацца трэба.

І вось ён ужо на знаёмай дарозе. Матор гудзе на ўсю моц, машына ўвесь час прабіраецца праз сумёты, і Міцьку здаецца, што так яны і да вечара не пераадолеюць тыя дзесяць кіламетраў, што аддзяляюць ад свайго калгаса. Ён коратка адказвае на пытанні шафёра: быў там, рабіў тое, еду ў адпачынак — увесь час пазірае наперад. Хочацца яму распытаць пра Ганну Жылудовіч, але ён стрымліваецца: так, не пытаючыся, лепш думаецца. За горадам — няабсяжная роўнядзь палёў, схаваная ад вока снегападам.

— Снег падае — да ўраджаю,— заўважыў шафёр.— Нашы снегазатрымальнікі цяпер ставяць.

Міцька ведае гэта. Ведае з пісьмаў Ганны, ведае, што яе звяно таксама ставіць снегазатрымальнікі, але змоўчвае. Ён толькі пытаецца:

— І сёння ставяць?

— І сёння. Раніцою, калі вёз туды пяньку, дык бачыў.

І Міцьку робіцца шкада Ганны. Ён уяўляе, як яна цяпер працуе ў полі, і чамусьці думаецца, што і рукі і ногі ў яе замерзлі, зусім так, як вось цяпер у яго. І ўспамінаецца яшчэ чамусьці і свой дом, і цёплая печ, на якую добра было б забрацца ды падрамаць, ды паслухаць нуднае скавытанне ветру ў трубе.

Перад самаю вёскаю праз завею відаць, як завіхаюцца людзі ў полі, як у моры.

— А гэта ж, глядзі, працуюць,— кажа шафёр, дыхнуўшы параю.

— Не ведаеш, не звяно Ганны Жылудовіч? — пытаецца Міцька, бляднеючы пры апошніх словах.

— Не ведаю. А бадай што і яе. Больш няма каму на такім холадзе. А дзяўчына гэтая Жылудовіч, брат, дужа ж працавітая.

Міцьку прыемна, што ён ужо не называе яе так, як некалі называлі ўсе яны — Пабірахаю. Ён нечакана кажа:

— Ты едзь у вёску адзін. Як будзеш праязджаць ля нашага двара, то аддай маці чамаданы. А я прайдуся ў поле, пабачу.

— Можна,— згаджаецца шафёр і спыняе машыну.

Міцька выбіраецца з шафёрскай кабіны, напаследак пакінуўшы шафёру папяросу «Беламорканал» і запалкі.

Снег глыбокі, часам нават вышэй кален. Ісці цяжка. Але Міцька не зважае на гэта, спяшаючыся наперад, да людзей, што працуюць. Занятыя сваёй справай, людзі таксама не заўважаюць Міцькі. Але вось адна дзяўчына, у кароткім кажушку і валёнках, захутаная ў хустку, усю аблепленую снегам, раптам разгінаецца і адразу паварочваецца тварам да Міцькі. Няўжо яна?

Ох, і сыпле снег, ох, і сыпле! Ніяк не вызначыш, хто гэта. Толькі пачне праясняцца, толькі паўстане перад табою постаць, як новы белы валун закрывае яе. І міжвольна прыгадваецца жаласная песня пра паштавіка. Але ж жанчына як бы ідзе яму насустрач! Ці то ўсё плыве так перад вачыма? Не, гэта дарагія засмучаваныя вочы ўвесь час неадрыўна пазіраюць на яго скрозь завею. Дыхнула нечым блізкім і нават як бы родным. Мацней усхадзілася сэрца і забалела.

— Ты? — запыталася, дайшоўшы, яна.

— Я, Гануля,— адказаў Міцька і, радуючыся, ухапіў яе за цёплыя рукі.



## Станіслаў ШУШКЕВІЧ



Станіслаў Шушкевіч пачаў друкаваць вершы ў канцы дваццатых гадоў, уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне камсамольскіх паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк», а пазней — у БелАПП і Саюз савецкіх пісьменнікаў Беларусі. У трыццатых гадах выдаў кнігі «Вершы» і «Звярыны баль». Хутка выходзіць яго зборнік казак, баек і вершаў для дзяцей «Лясная калыханка». Цяпер ён працуе над кнігай вершаў «Рэха маладосці».

Нарадзіўся паэт у 1908 годзе ў былой Койданаўскай воласці Мінскай губерні (цяпер Дзяржынскі раён) у батрацкай сям'і. Маленства яго прайшло па панскіх дварах і фальварках Міншчыны і Смаленшчыны.

Вучыцца пачаў пасля рэвалюцыі. Скончыў Сенніцкую пачатковую і Мінскую працоўную сямігадовую № 11 школу. Навучаўся ў педагагічным тэхнікуме, а пасля ў педагагічным інстытуце імя Горкага, крытыка-творчую секцыю ў якім скончыў у 1934 годзе.

Пэўны час працаваў настаўнікам у родных мясцінах на Дзяржыншчыне, калектарам і малодшым геолагам у адной з экспедыцый у Сібіры.

Цяпер С. Шушкевіч працуе ў газеце «Мінская праўда» і займаецца літаратурнай работай.

# НЕ ПАМЕРЦІ ПАБРАЦІМАМ...



Хіба мог любіць Петрарка
Так, як мы кахаць умелі!
Смерць не раз была над каркам,
Мы не падалі, не млелі.

Вобраз любае Радзімы
Праз агонь правёў, вулканы.
Не памерці пабрацімам,
У Айчыну закаханым.

# ГЭТА РЭХА МАЙГО ШЧАСЦЯ...



Чый там смех і чый там рогат?
Чый там голас у цясніне?
Я замоўк... Няма нікога...
І маўчыць абрыў-вяршыня.

Хто спявае? Хто смяецца?
Хто крычыць і кліча ў госці?
Гэта рэха, мне здаецца,
Майго шчасця, маладосці...

# КАЛІ Б МОГ РАСКРЫЦЬ Я ГРУДЗІ...



Калі б мог раскрыць я грудзі,
Сэрца выняць на далоні,
Дык наўкол сказалі б людзі:
«Ён аслепіць нас сягоння».

Я стаяў бы так бясконца,
Хай паходняй сэрца свеціць,
На зямлі было б два сонцы
І цяплей было б планеце.

# ПАПЛЫЛІ БЛАКІТНЫЯ АБЛОКІ



Муляр — сінявокая дзяўчына
Глянула з высокіх рыштаванняў,
Кельню палажыла на хвіліну.
Вось і нечаканае спатканне...

Кроквы ставіў цесля сінявокі
Тут жа побач з гэтым самым домам.
Паплылі блакітныя аблокі,
Паплылі дарогай невядомай.

Ляснуў кран жалезнаю калыскай,
Падаваў раствор на мур высока,
Муляр і цясляр былі тут блізка,
Дом ад дому побач, недалёка.

І памоўкі розныя разнеслі
Людзі, хваткія на смех гарачы,
Што тапор слыняецца у цеслі,
Калі цесля муляра убачыць.

## КЕЛЬНЯ МЕЛА ФОРМУ СЭРЦА...



Кельня мела форму сэрца,
Дык таму і дом трывалы,
Дык таму і спеў ліецца
І пяюць, гудуць цымбалы.

Цэгла кожная сагрэта
Працавітымі рукамі,
Дык таму святліца гэта
Будзе тут стаяць вякамі.

## ВОСЬ ЯНО ЦУДОЎНАЕ, ПУСТОЕ




Мыляная бурбалка ляціць па хаце,
Зварухнуліся малыя, нібы пчолы.
— Пачакайце, дзеці, пачакайце,
Гляну я на гэты міг вясёлы!

Ападае лёгкая вясёлка
І кранаецца маёй далоні:
Чарапкоў няма, няма асколкаў
І загас раптоўна дзіўны промень.

Вось яно цудоўнае, пустое,
Што гарыць такім чароўным бляскам.
Я ж і сам — ці ж гэтае утоіш —
Толькі што яму заўзята пляскаў.

## БАКЕНШЧЫЦА



Ангарой хадзіў наш кацер,
Змрокам, ноччу плыў не раз.
Вызначаў ліхтар фарвацер,
Вёў дарогай вернай нас.

Мы міналі бакен гэты,
Чортаў востраў з вострых скал,

Праляталі, як камета,
Небяспечны вір і шквал.

Пра яе хацеў спытацца,
Ды яе ніхто не знаў.
Толькі бачыў: бакен Кацін
Лепш другіх заўжды палаў.

І цяпер, калі далёка
Я ад шумнай Ангары,
Зноў пачуць жадаў бы рокат,
Дом пабачыць на гары.

Домік Кацін... Думкі, мары
Аб прасторы, аб вадзе...
Той агеньчык і ліхтарык
Не забудуцца нідзе.

**Пітэр АБРАХАМС**

# АФРЫКА Ў АГНІ

## Раман

Пераклад з англійскай мовы С. Дорскага

*Малады паўднёваафрыканскі пісьменнік Пітэр Абрахамс вядомы савецкаму чытачу сваім раманам «Сцежкаю грому», які неаднаразова выдаваўся ў Савецкім Саюзе. Пітэр Абрахамс належыць да той часткі творчай паўднёваафрыканскай інтэлігенцыі, якая энергічна выступае супраць каланіяльнага прыгнёту, паказвае ўсяму свету цяжкае становішча карэннага насельніцтва, здзекі з яго з боку англійскага імперыялізма.*

*Новы раман П. Абрахамса «Афрыка ў агні» (у арыгінале «Помнік Удома») расказвае аб вызваленчым руху ў адной з краін Заходняй Афрыкі, якую аўтар умоўна называе «Панафрыка», і ў суседняй з ёю краіне «Плюраліі». Некаторыя замежныя крытыкі лічаць, што Панафрыка шмат у чым нагадвае былую англійскую калонію Залаты бераг.*

*Раскрываючы складаную сапраўднасць, драматызм барацьбы за рэвалюцыйную перабудову грамадства, праўдзіва паказваючы жыццё народа, яго галечу, гарачае імкненне да свабоды, аўтар, аднак, у характарыстыцы свайго галоўнага героя Удома зыходзіць з няясных і памылковых пазіцый. У рамане паказваецца, як перапалоханыя каланізатары, бачачы размах нацыянальна-вызваленчага руху, ідуць на некаторыя ўступкі народу і робяць Удома прэм'ер-міністрам. Але яны пакідаюць у сваіх руках асноўныя палітычныя і эканамічныя пазіцыі. Удома, стаўшы на чале ўрада, робіць грубейшую памылку: ідзе на супрацоўніцтва з каланіяльнымі ўладамі і прымае дапамогу ад белых уладароў суседняй краіны. Удома думае, што губернатар і галоўны сакратар шчыра падтрымліваюць яго дзеля дабра народа Панафрыкі. Але на самай справе Удома патрэбен каланізатарам для таго, каб праз яго трымаць у пакоры свабодалюбівы народ і па-ранейшаму багацець на яго галечы. Такі зыход барацьбы толькі на руку імперыялістам Англіі.*

*Аўтар паказвае нам і другога правадыра — Мхендзі — блізкага сябра Удома. Мхендзі разумее нацыянальна-вызваленчую барацьбу інакш. Ён вядзе жорсткую рэвалюцыйную вайну за вызваленне Плюраліі і не ідзе ні на якія кампрамісы з каланізатарамі.*

*І хоць аўтар спачувае Удома, малюючы яго трагедыю, нам бліжэй Мхендзі — стойкі змагар за вызваленне афрыканскага народа.*

---

Раман друкуецца з некаторымі скарачэннямі.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## МАРА

### I

Лойс не заўважыла б яго, калі б не яго вочы. Яна нікога не хацела заўважаць. Таму яна і прыйшла сюды, у гэты бар. Ёй хацелася выпіць чаго-небудзь і пасядзець адной са сваімі думкамі ў спакойным смутку, які ў апошнія дні ўсё часцей і часцей агортваў яе.

Відаць, ёй прыдзецца дажываць свой век адзінокай бабуляй. Яна не баялася гэтай думкі і не адганяла яе. Наадварот, яна абдумвала яе спакойна, з халоднай развагай. Што ж, няхай будзе так. Трэба быць гатовай. Трэба пачаць зараз жа збіраць усё тое, што дасць сілы перанесці гэтае адзіноцтва. Трэба прывясці ў парадак тую хаціну, наверсе, у гарах, і прывезці туды ўсе кнігі, якія заўсёды так хацелася прачытаць. Потым будзе многа часу. Вельмі многа часу. І ўсё гэтая праклятая вайна. Джон і цяпер быў бы з ёю, калі б не вайна... Ты ілжэш, Лойс. Ты аддаешся сентыментальным летуценням... Яна ўсміхнулася, што на гэтым злавіла сябе. Яна ведала, што яго вочы ўбачылі яе ўсмешку і, напэўна, па-свойму зразумелі. Ну і ліха з ім, і з яго панурымі, насцярожанымі вачыма.

Лойс падняла свой кілішак, паднесла яго да вуснаў, потым зірнула на другі канец стойкі буфета. Сапраўды насцярожаныя вочы! Яна пільна ўглядалася ў твар чалавека. Раней нават нахабныя людзі не вытрымлівалі яе пільнага позірку. Але ў вачах, якія цяпер глядзелі на яе, не было нічога нахабнага. Гэта не быў позірк чалавека, які шукаў знаёмства. Насцярожаны і самотны.

Некалькі секунд яны глядзелі адно на аднаго, потым ён перавёў вочы на свайго суседа — маленькага тоўстага англічаніна, якога Лойс, здавалася, недзе бачыла раней. Маленькі англічанін аб нечым горача і пераконана гаварыў. Чалавек з насцярожанымі вачыма амаль не слухаў яго, але часта ківаў галавой. Раз-по-раз ён кідаў хуткі позірк на другі канец стойкі буфета, каб упэўніцца, што яна яшчэ тут.

«Я пачакаю, — падумала Лойс. — Пачакаю і пагляджу». Яна папрасіла даць ёй яшчэ адзін кілішак і ўжо не думала аб сваёй адзіноце і аб Джоне, а сачыла за чалавекам, чые вочы здаваліся ёй насцярожанымі,

хоць яна і ведала, што гэтае слова не перадае яго затоенай, глыбока схаванай трывогі, якую яна хутчэй адчувала, чым бачыла.

Нарэшце каротканогі чалавек змоўк і падаўся да дзвярэй. Яго субяседнік паківаў галавой і нешта сказаў, мабыць: «Не, я застануся тут яшчэ трошкі». Таўсцяк выйшаў.

Мужчына паглядзеў на Лойс, потым паспешна адвёў позірк. Здавалася, ён адступіў, схаваўся ў сваю шкарлупіну і ператварыўся ў маленькага разгубленага хлопчыка, які трапіў у небяспечны для сябе, варожы свет. Лойс уздыхнула, выпрастала спіну і ўстала са свайго крэсла. Мусіць, ён упершыню апынуўся ў бары адзін і сам не адважыцца падыйсці да яе. Яна абмінула людзей, што стоўпіліся ля столікаў, і спынілася перад ім. Яна адчувала, што некаторыя з прысутных сочаць за ёю, асабліва тыя, што сядзяць за столікам ля каміна. Нахабнікі. Яна імкліва азірнулася ў іх бок. Вядома, яны робяць выгляд, што не бачаць яе. Лойс усміхнулася, і ў яе вачах бліснуў нядобры, злы агеньчык. Дурні! Потым яна зноў глянула на яго.

— Добры вечар.

— Добры вечар, — адказаў ён.

Яго голас быў нізкі і мяккі, з тымі своеасаблівымі хрыплавата-аксамітнымі ноткамі, якія заўсёды гучаць у іх галасах. Гэта быў прыгожы чалавек. Нейкая хмурая, задуменна-сумная прыгажосць. Ростам ён быў пяці футаў і сямі ці васьмі дзюймаў, рашыла яна, — даволі высокі. У адзенні свайго народа ён, напэўна, выглядаў бы, як бог. Але на ім быў касцюм, з якога ён даўно ўжо вырас, і ад гэтага ён здаваўся нязграбным. Рот без аніводнай смяшынкі, куткі вуснаў апушчаны ўніз.

— Мяне завуць Лойс Барлаў, — сказала яна. Потым, калі ўбачыла па яго вачах, што ён не так яе зразумеў, дадала: — Вы памыляецеся. Я не набіваюся на знаёмства. Я не шукаю мужчын.

Цень сарамлівай, нібы захопленай знянацку ўсмешкі, прабег па яго вуснах і знік.

— Я гэтага і не думаў.

«А што ж далей?» — прамільгнула ў яе галаве.

— Я сказала, што я Лойс Барлаў.

— Выбачайце... Я Майкл Удома.

— Вы тут упершыню, — яна не пыталася, а сцвярджала.

— Адкуль вы ведаеце?

— О, не тут, у гэтым бары, хоць, я думаю, вы зайшлі сюды першы раз. Я хачу сказаць — у Хэмпстэдзе. Я ведаю амаль усіх тутэйшых афрыканцаў, а вас ніколі раней не бачыла.

— Я толькі што прыехаў.

— З Афрыкі?

— Не. З кантынента. А перад тым — з Канады.

— А ваша радзіма?

— Панафрыка... Вас цікавіць Афрыка?

— Больш людзі і сонца. Ваш суайчыннік—мой вялікі сябар. Ведаеце Тома Лэнвуда?

— Лэнвуд! Містэра Томаса Лэнвуда?

Цяпер ён выпаўз з сваёй шкарлупіны. Ён прыкметна хваляваўся. Схапіў яе за локаць.

— Вы сказалі Томас Лэнвуд? — зноў спытаў ён.

— Так, я сапраўды сказала Томас Лэнвуд, — прагаварыла яна спакойна.

Ён паспешна адпусціў яе руку.

— Даруйце... Ці не скажаце, калі мне можна будзе з ім убачыцца? Я павінен убачыцца з ім!

Лойс засмяялася. Ён цяпер пачаў раскрывацца. Насцярожанасць знікла з яго вачэй. Але праз імгненне яна вярнулася зноў.

— Калі вы пажадаеце, — сказала Лойс.

— Сёння ўвечары? Зараз жа?

— Які вы нецярплівы!

— Вы не разумееце...

— Ну, добра. Вып'ем чаго-небудзь, а потым пойдзем і знойдзем Тома.

— Я не п'ю. Я прыйшоў сюды толькі таму...

— Дазволіце, я вып'ю адзін кілішак, і мы пойдзем?

— Добра... — Хлапечая сарамлівая ўсмешка зноў прамільгнула на яго твары: — Прабачце, але мне нечым плаціць. Я растраціўся.

— А я не. Вып'ем са мной, калі вы не супраць таго, каб плаціла жанчына.

— Не. Але, сапраўды, я не п'ю.

— Зусім?

— Магу крышачку, калі трэба.

— Як з гэтым вашым карлікам-сябрам?

— Так. Але ён мне не сябар. Ён чытае лекцыі ва ўніверсітэце. Мой настаўнік на кантыненце сказаў, што ён можа мне дапамагчы, і даў да яго ліст.

Лойс сустрэлася вачыма з буфетчыцай і заказала сабе віна.

— І ён?

— Што?

— Ён дапамог?

— О, так. Вядома. Ён дапамог мне знайсці пакой.

Лойс адчула вялікае нецярпенне гэтага чалавека, калі разлічвалася з буфетчыцай, а потым маленькімі глыточкамі адпівала са свайго кілішка. Дзіўны ён чалавек, гэты Майкл Удома, дзіўны, таямнічы... І небяспечны, калі загарыцца, як у той момант, калі пачуў імя Лэнвуда. Да таго ж, эксцэнтрычны.

Майкл Удома сачыў, як жанчына, не спяшаючыся, піла сваё віно. Ён, мабыць, прыкмеціў і глядзеў на яе, таму што яна была адна і таму што яму надакучыў той чалавек. Немаладая, але прыемная з выгляду. Ёй павінна быць далёка за трыццаць, напэўна, больш сарака. Цяжка сказаць, колькі год гэтым англічанкам. Магчыма, у яго вачах была надзея; ну дык што з таго? Мужчына нярэдка бывае адзінокім у чужой краіне. Але ён не думаў тады аб гэтым. Трэба было спачатку даведацца, што за людзі, перш чым звяртаць на сябе ўвагу. Ва ўсякім разе, ніколі не ведаеш, дзе вораг. Божа мой, Лэнвуд! Ён убачыць яго сёння вечарам. Лэнвуд! Найвялікшы палітычны пісьменнік і змагар, якога калі-небудзь нарадзіла Панафрыка. Амаль дзесяць год прайшло з таго часу, як Лэнвуд прыслаў яму той ліст. «Для таго, каб вызваліцца, мы павінны згуртаваць свае сілы і сабраць сродкі для блізкай ужо барацьбы. Нашай моладзі трэба нястомна рыхтаваць сябе да бітваў. Усе свае сілы, усю сваю энергію, увесь свой талент яна павінна аддаць падрыхтоўцы да барацьбы, якая прынясе вызваленне краіне і свабоду ўсяму кантыненту». Вось тое галоўнае, пра што гаварылася ў лісце, які Лэнвуд напісаў яму амаль дзесяць год таму назад. І вось цяпер гэтая Лойс Барлаў пазнаёміць іх. Гэта прыкмета, вялікая прыкмета!



— Усё яшчэ думаеце пра Тома? — спыталася Лойс.
— Лэнвуда... так. Вы яго добра ведаеце?
— Пятнаццаць год. Сустрэлася з ім, калі мне было дваццаць адзін. Вось вы і ведаеце колькі мне год.
— Гэта вялікі час. І вы з ім...
— Толькі сябры, Майкл Удома.
— Вялікі чалавек. Ён вельмі стары?
— Што вы, не!.. Але, думаю, яму ўжо час старэць. Ён зусім не змяніўся за гэтыя гады, як я яго ведаю. Яму ўжо, мабыць, нешта каля пяцішасці дзесяткаў... Ну, дык пойдземце.
— Я вельмі рады нашай сустрэчы, — сказаў Удома.
— Таму, што яна вядзе вас да Тома?
— Так.
— Ён для вас сапраўдны герой?
— Ён вялікі патрыёт.
Раптам Лойс раззлавалася: заўсёды гэтыя мужчыны са сваім патрыятызмам!
Ён спагадліва ўсміхнуўся:
— Вы не разумееце... — прамармытаў ён.
— Вядома, не. Дзе ж мне! Я ж неразвітая, адсталая жанчына. Пайшлі!
Яна павярнулася да яго спіной і пайшла да дзвярэй, прабіваючыся скрозь натоўп. Яна адчувала, што ён ідзе за ёю. Не, усё ж неразумна на яго злавацца. Гэта старасць падбіраецца да цябе. Сцеражыся, жанчына. Яна пачакала яго ля дзвярэй і ўсміхнулася, каб згладзіць нядаўні прыступ непрыязнага пачуцця.
Са двара іх абдало халодным начным паветрам. Неба было чыстае. Свяціў малады месячык. Халодным святлом гарэлі зоркі. Пранізлівы вецер гуляў па зямлі. Яны паднялі каўняры і ўцягнулі галовы ў плечы, хаваючыся ад рэзкага ветру, які глуха свістаў у вушах.
— Сюды, — сказала Лойс.
Яны перайшлі цераз дарогу і некаторы час брылі ўгару, потым выйшлі на вузкую вулічку, якая цягнулася па стромкаму схілу. Халодны вецер накінуўся на іх яшчэ з большай сілай.

— Божа мой, як холадна, — сказаў Удома, ледзь пераводзячы дыханне.

— Хутка мы будзем на месцы, — сказала Лойс з ласкавасцю, пачуўшы ноткі адчаю ў яго голасе.— Ужо хутка.

Яны цяпер паднімаліся на гару моўчкі; прыгнуўшы галаву, усім целам стараючыся пераадолець напор рэзкага ветру. Нарэшце, яны дабраліся да вяршыні і павярнулі ўлева на шырокую дарожку, што канчалася ля вялікага дома. Лойс павяла яго да бакавога ўваходу і прапусціла наперад. Удома ўздыхнуў, калі зачыніліся дзверы і адразу стала цяплей.

У вестыбюлі Лойс уключыла святло і ўбачыла, якое ў яго тонкае паліто. На вачах у яго былі слёзы. Вусны ярка пачырванелі, а цёмны твар стаў бледны, як попел. Ён шукаў па кішэнях насавой хустачкі. Яна паспешліва адвярнулася і пайшла ў гасціную.

— Тут цёпла, — пачуўся адтуль яе голас.

Ён увайшоў і адразу ж падаўся да газавага каміна. Яна стаяла спіной да яго, наліваючы брэндзі ў два малюсенькія кілішкі.

— У вас тут цудоўна, — сказаў ён, голас яго ўжо гучаў звычайна, як заўсёды.

Калі ён паціраў рукі, яны шамацелі, як сухое кукурузнае лісце. Яна падумала: «Цяпер я магу паглядзець на яго». Перамагаючы сябе, яна павярнулася. Твар яго ўжо не быў такі змучаны і попельна-шэры. Але вусны ўсё яшчэ былі яркачырвоныя. Ён ужо выцер твар. Лойс старалася не звяртаць увагі на шамаценне яго рук. Ён амаль што лёг на агонь. Яна падыйшла і працягнула яму кілішак брэндзі.

— Не, не, дзякуй.

— Вы гэта вып'еце, — цвёрда сказала яна.

Ён зірнуў на яе і ўсміхнуўся. На гэты раз ад усмешкі ў яго вачах загарэўся агеньчык, і твар заззяў яркімі, нібы сонечнымі, праменнямі. Ён узяў з яе рук кілішак, праглынуў брэндзі, зморшчыўся і ўздрыгнуў усім целам.

Ёй хацелася ведаць, ці будзе відно, як з яго вуснаў пачне сыходзіць барвовая чырвань, ці, можа, яна проста адразу знікне.

— Вам трэба часцей усміхацца,— сказала яна.— Я хачу сказаць — па-сапраўднаму ўсміхацца, а не толькі аднымі вуснамі.

Так, яна на самай справе ўбачыла, як яркая чырвань сыходзіць з яго вуснаў, бляднее і паступова знікае.

— Гэта праўда? — зацікавіўся ён.

— Праўда.

Яна ўзяла пачак папярос і прапанавала яму закурыць.

— Я не куру.

— Вы не п'еце, не курыце. Што ж вы робіце?

У той жа момант, калі яна гэта сказала, Лойс зразумела, што зрабіла памылку. Яго вочы раптам зрабіліся дзёрзкімі, і, здавалася, у думках ён зняў з яе адзенне.

— У мяне ёсць другія ўцехі, — прамармытаў ён.

— Як, напрыклад, патрыятызм і Том Лэнвуд?

— Калі ласка, пазваніце яму.

— Добра. А вы што-небудзь елі?

— Не, але гэта няважна.

Яна пакінула яго ля каміна і пайшла спачатку на кухню, дзе запаліла агонь пад камфоркай, на якой стаяла варанае мяса, а потым у спальню, дзе быў тэлефон.

Удома сагрэўся, падняўся з крэсла і пачаў хадзіць па пакою. Гэта быў вельмі прасторны пакой з вялікімі французскімі вокнамі, якія даходзілі да самай падлогі і адчыняліся ў сад. Ля адной сцяны ў чалавечы рост стаялі паліцы з кнігамі. Адну за другой ён браў іх з паліцы, бегла праглядаў назвы і потым зноў ставіў на месца. Ён прыслухоўваўся да яе крокаў. Але не чутна было ніводнага гуку.

Напэўна, гэта вялікі дом, рашыў ён. Спадзяюся, што Лэнвуда не прыдзецца доўга чакаць. Ён падышоў да невялічкага пісьмовага стала, што стаяў у кутку бліжэй да вокнаў. На ім ляжалі выцягнутыя з канвертаў пісьмы. Ён пачаў чытаць тое, што ляжала зверху; потым рэзка адвярнуўся. Вельмі ўтульны пакой. Трэба многа грошай, каб мець такі пакой; каб заплаціць за гэтыя глыбокія крэслы, вялікія цяжкія гардзіны і розныя з чырвонага дрэва стойкі для лямп на гэтых століках. Магчыма, яна багатая. Калі яна загаварыла пра ежу, ён адчуў, што вельмі галодны. Нядобра. Яго ніколі не турбавала, галодны ён, ці не, пакуль хто-небудзь не напомніць яму пра гэта. Хадзі ж сюды, жанчына...

У пакоі станавілася вельмі горача. Ён скінуў паліто і шпурнуў яго на крэсла, аслабіў пояс. Штаны становяцца занадта цеснымі ў проймах; пінжак — у плячах і пад пахаю. Яму скора прыдзецца нешта рабіць. Гэта яго лепшы касцюм, а ён так хутка вырастае з яго.

Ён павярнуўся на скрып дзвярэй. Лойс Барлаў штурхала перад сабой столік на роліках. Яна ўжо скінула паліто. У яе была прыгожая фігура, высокія грудзі. Без паліто яна выглядала маладзей.

— Ён прыдзе?

— Сёння не зможа, — сказала яна і ўбачыла, як ён увесь неяк асунуўся; вочы патухлі і спахмурнелі, твар ператварыўся ў мёртвую маску.

— Зразумела,— сказаў ён і нахіліўся, каб узяць з крэсла паліто.

— Я пазваніла якраз у той момант, калі ён выходзіў, — паспешліва прагаварыла яна. — Ён збіраўся на сход. Сказаў, што гэта вельмі важна... Ужо было позна адкладваць. Ён там — галоўны прамоўца. — Яна падумала: «Навошта я ілгу? Чаму не сказаць, што Том проста не хоча выходзіць у такую сцюжу?» — Ён сказаў, каб я папрасіла вас сустрэцца з ім тут заўтра днём, калі вы можаце. Калі ж не, ён пастараецца прыйсці ў любы час, які вы назавеце. Ён бы і сам пагаварыў з вамі, але вельмі спяшаўся, каб не спазніцца на сход.

Яму стала лягчэй.

— Так, я разумею... Заўтра — гэта цудоўна. Напэўна, у іх там цікавы сход. Як бы мне хацелася быць з імі! А якой гадзіне заўтра?

— Я прыходжу са школы каля чатырох. Ён будзе тут а чацвёртай... Сядайце, я падагрэла вам мяса.

Ён апусціўся ў крэсла. Яна села насупраць яго. Яны елі. Пад'еўшы, ён сказаў:

— Я быў вельмі галодны.

— Я гэта бачыла, — сказала яна.

Некалькі хвілін яны сядзелі моўчкі, сочачы за роўнымі язычкамі полымя ў газавым каміне.

Раптам Лойс адчула, што вельмі стамілася. Гэты Майкл Удома вельмі хвалюе яе. Яна паднялася з крэсла.

— Даруйце мне, але я страшэнна стамілася. Заўтра ў мяне цяжкі дзень у школе.

— І мне трэба ісці. — Ён устаў і надзеў паліто. — Я прыду заўтра а чацвёртай. Дзякуй вам за вячэру.

Яна правяла яго ў пярэднюю і адчыніла дзверы. Потым нечакана зачыніла іх і хуценька пайшла ў спальню. Яна вярнулася з драпавым паліто ў руках.

— Апраніце вось гэта. Тое, што на вас, нікуды не варта.

— Яно ж ваша.

— Не. Гэта мужчынскае, — сказала яна рэзка.

Лойс падала яму паліто, і ён уздзеў яго на плечы.

— Шчырае дзякуй, — сказаў ён.

Яна адчыніла перад ім дзверы: — Добрай ночы!

Ён глянуў ёй у твар і выйшаў на холад, які цяпер быў яму ўжо не такі страшны.

2

Лойс Барлаў гатавала чай, калі прыйшоў Удома.

— Том хутка прыдзе, — сказала яна. — Ён званіў і сказаў, што прывядзе з сабою Дэвіда Мхендзі і Рычарда Эдэбхая.

Яна павяла яго ў гасцінаю. Ля каміна на каленях, падлажыўшы пад іх падушку, стаяла маладая жанчына і сушыла свае доўгія кукурузнага колеру валасы, якія спадалі ў яе амаль да пояса.

— Гэта Джо Фурс, — сказала Лойс. — Мы разам з ёю жывем на гэтай кватэры.

Маладая жанчына адкінула назад свае густыя светлыя валасы і ўсхапілася на ногі. На ёй быў яркасіні світэр, які туга аблягаў яе стан, і доўгія плісавыя штаны колеру вінаграднага віна. Яе светлазялёныя вочы былі крышачку скошаны.

«Прыгожая», — падумаў Удома, калі паціскаў яе тонкую руку. Яе пышныя залацістыя валасы моцна ўразілі яго.

— Яна ганарыцца сваімі валасамі, — сказала Лойс.

У вестыбюлі над дзвярыма зазваніў званок.

— Я адчыню яму, — сказала Джо Фурс.

Грацыёзна ступаючы, яна выйшла з гасцінай.

— Я бачу, вам спадабалася Джо, — прагаварыла Лойс.

Удома не адказаў. Цяпер ён чакаў Лэнвуда і думаў толькі пра яго, адчуваючы сябе незвычайна лёгка і спакойна. Калісьці ён бачыў партрэт Лэнвуда — даўно, даўно... Прыгожы суровы твар, твар правадыра.

Увайшоў Лэнвуд, і адразу ж у пакоі стала цесна. Удома бачыў толькі яго аднаго. Тыя, што ішлі за ім, былі нібы яго цені. Лэнвуд быў вялікі і мажны мужчына, і ў яго пачынаў ужо вызначацца жывот, але ростам ён быў высокі, і гэта не кідалася ў вочы. Для такой фігуры твар быў вельмі маленькі. Тонкі, з вострым падбародкам, гладка паголены. Амаль зусім чорны твар, злёгку падфарбаваны ледзь прыкметнай чырванню. Выразныя, нібы вытачаныя смелай рукой, нос і вусны, шырокі арыстакратычны лоб. Ён насіў акуляры з тоўстай аправай, і гэта надавала яму яшчэ больш інтэлігентны выгляд. Яго англійскі касцюм быў беззаганна карэктны: манжэты сарочкі высоўваліся якраз настолькі, колькі было трэба; гальштук падабраны да колеру сарочкі, і ўсё гэта найлепш пасавала да бездакорна скроенага пінжака. І хадзіў ён таксама з лёгкай, самаўпэўненай зграбнасцю заможнага клубмена з Вест-Энда.

Удома ўяўляў сабе іншы вобраз — чалавека маладзейшага, больш

стройнага, без акуляраў, не так элегантна і добра апранутага. Але ўсё ж такі гэта быў Лэнвуд.

Твар Лэнвуда расплыўся шырокай усмешкай. Ён схапіў руку Удома.

— Прывітанне! Шкада, што не мог прыйсці ўчора ўвечары.

— Я сказала яму, што ў вас быў сход,— усхапілася Лойс.

— Так, сапраўды... — прамармытаў Лэнвуд, — гэты сход...

— Я хацеў сустрэцца з вамі з таго самага дня, як атрымаў ваш ліст, — сказаў Удома.

— Ліст?

— Так. Вы пісалі мне гадоў дзесяць назад. Памятаеце?

— Ах, так... — Лэнвуд паспешліва павярнуўся да тых, што стаялі ззаду: — Дазвольце пазнаёміць вас з некаторымі нашымі таварышамі.

Лойс стрымала ўсмешку і падалася да дзвярэй. Джо пайшла за ёю.

— Мы прынясем чай, — прагаварыла Лойс.

— Дэвід Мхендзі з Плюраліі, — сказаў Лэнвуд.

— Вітанне, дружа! — сказаў Мхендзі.

Удома недзе ўжо сустракаў гэтае імя. Чытаў яго недзе ці чуў. Яны пацiснулі адзін аднаму рукі. Ён намагаўся ўспомніць, дзе мог чуць ці бачыць гэтае імя, але перашкодзіў голас Лэнвуда:

— Эдэбхай — наш з вамі суайчыннік.

Тоўсты і вельмі чорны чалавек ухапіў руку Удома.

— З нашай краіны! — на яго вуснах ззяла шчаслівая ўсмешка. Ён гаварыў, нібы страляў рэзкімі фразамі: — Чуў пра вас ад аднаго з тых хлопцаў, што прыехалі з Францыі. Расказвалі аб студэнцкай забастоўцы, якую вы спрабавалі ўзначаліць.— Смяшлівыя зморшчынкі глыбей заляглі каля яго вачэй.— І вы не зразумелі, што яны не прыгнечаныя жыхары калоній, а французы, якія карыстаюцца ўсімі правамі французаў. Ха! Ха! Ха!

Удома слаба ўсміхнуўся.

— Тыя хлопцы мяне добра падвялі.

— Французскі імперыялізм хітрэй брытанскага, — сказаў Лэнвуд. — Ён застаецца гаспадаром становішча, даючы лёгкаверным месцы ў Сходзе і жэнячы іх на сваіх дочках. Давайце прысядзем.

Лэнвуд павёў іх да канапы. Ён выправіў складкі на штанах, выняў з кішэні люльку і пачаў набіваць яе тытунём. Удома сеў з аднаго боку, а Эдэбхай — з другога. Мхендзі хвіліну пастаяў, потым выйшаў з пакоя і пайшоў на кухню да жанчын.

Ледзь прыкметная ўсмешка блукала на вуснах Лэнвуда. Ён амаль што фізічна адчуў энтузіязм гэтага юнака Удома. Яму падабаўся яго энтузіязм. Гэта была ўзнагарода. Ён пражыў сваё жыццё ў барацьбе і ведаў, што пад яго ўплывам знаходзіцца ўся Афрыка, але ўсё ж добра, што стрэўся гэты малады чалавек — жывы доказ яго сілы. Іншы раз стамляешся, часамі цябе ахоплівае сумненне, няўпэўненасць. Як хораша для падтрымкі духу сустрэць такога хлопца.

— Раскажыце пра сябе, — сказаў Лэнвуд.

Удома нахіліўся да Лэнвуда і спакойна пачаў расказваць пра сябе. Лэнвуд не ўпершыню чуў такую гісторыю. Тое ж самае здаралася з усімі студэнтамі з калоній. Місіянеры выбралі самага кемлівага хлопчыка з маленькай афрыканскай вёскі і пачалі яго вучыць. Вучэнне адкрыла яму вочы. Хлопчык пачаў прыглядацца да навакольнага жыцця і ўбачыў, што ў ім нехапае якраз таго, пра што яму ўвесь час дзяўблі місіянеры. Тады ён паўстаў супраць іх і пайшоў сваім уласным шляхам. І яму па-



*Да стар. 96.*

шанцавала. Вядома, яму даводзілася цяжка працаваць, хадзіць галодным і дрэнна апранутым. Гэты шлях быў лёгкім толькі для тых, хто меў багатых бацькоў ці благаславенне каланіяльных улад. Але большасці выпадала тое ж самае, што і Удома: вельмі часта галадаць... Што ж было такога ў тым лісце, што так натхніла гэтага юнака?

Гордасць ахапіла Лэнвуда, калі ён слухаў Удома. Так, вельмі прыемна бачыць вынікі сваіх намаганняў. Як добра, што ён захоўвае копіі ўсіх лістоў, якія калі-небудзь каму пісаў. Дзесяць год назад! Ён пакапаецца ў сваіх старых паперах, калі сёння вернецца дадому.

Удома змоўк.

— А вашы планы? — спытаўся Лэнвуд.

— Атрымаць доктарскую ступень і вярнуцца дадому. Вы ж ведаеце, як наш народ шануе чалавека, якога завуць «доктар».

Мхендзі неспакойна шныраў па кухні, пакуль жанчыны намазвалі бутэрброды і рабілі сэндвічы. На двары лютаваў вецер. Ён завываў вакол дома і час-ад-часу калаціў шыбіны кухоннага акна. Мхендзі ўзяў са стала нож і пamacaў яго лязо; потым кінуў яго на месца і падышоў да акна. Ён засунуў рукі глыбока ў кішэні і пачаў пільна ўглядацца ў шматок неба, што віднеўся праз акно. Неба было цёмнае і цяжкае, як

быццам хмары знясілелі ад цяжару снегу, які вось-вось пасыплецца ўніз.

Лойс не зводзіла з Мхендзі вачэй. Ён тут ужо каля дваццаці мінут і не прамовіў ні слова. Джо ўскінула галаву і адкрыла рот, каб нешта яму сказаць. Лойс кіўнула ёй галавою.

— Аднясі гэта ў гасцiную, Джо...

Яна пачакала, пакуль Джо выйшла з кухні, потым паднялася з крэсла, падыйшла і стала побач з Мхендзі.

— У чым справа, Дэвід? — яна дакранулася да яго пляча, але адразу ж перадумала і адхапіла руку. — Што я магу для вас зрабіць?

— Толькі напаіць віскі, — сказаў ён з горыччу.

Лойс чакала, каб ён паглядзеў на яе, але ён не зводзіў вачэй з кавалачка хмарнага неба. Яна хвілінку пачакала, потым прамовіла:

— Чай ужо закіпеў. Пойдземце лепш туды.

Лойс выйшла, штурхаючы перад сабою столік. Мхендзі хвіліну пастаяў адзін, углядаючыся ў неба. Раптам у вачах яго заблішчэлі слёзы. Плечы апусціліся. Ён заплюшчыў вочы, але слёзы ўсё капалі праз сціснутыя павекі. Рэзка, амаль шалёна, ён выпраставўся і ўзняў галаву. Потым выняў з кішэні насавую хустачку, але яна была вельмі брудная — і ён выцер твар рукавом.

Мхендзі адвярнуўся ад акна і шпарка пайшоў у ванную. Там ён адкруціў кран і падставіў твар пад струмень халоднай вады. Сцюдзёная, як лёд, вада балюча калолася. Ён уцёрся ручніком і паглядзеў у люстра. Як ён страшэнна аброс, трэба будзе падстрыгчыся. Ён дакрануўся да сівізны на скронях. «Гэтак я праз год зусім пасівею, калі не памру», — падумаў ён. Стала непрыемна, калі ён убачыў у люстры сваю запэцканую, у брудных плямах куртку. Нічога, усё ж яна прыкрывае дзіркі на кашулі. Ён паспрабаваў прыгладзіць і выраўняць свой пакамечаны гальштук. Але гэта было марна. Углядаючыся ў свой твар, ён прыгадаў, які ён быў пяць год назад. Потым паспешліва заплюшчыў вочы і адвярнуўся ад люстра. Выпраставў плечы і пайшоў у гасціную.

— Дэвід, — паклікала Лойс.

Удома зірнуў у яго бок і ўсё ўсплыло ў памяці. Гэта ён! Дэвід Мхендзі! Чалавек, які стаяў на чале няўдалага паўстання пяць год таму назад. У той час Удома быў у Канадзе. Нічога незвычайнага ў ім няма, нічога, што б гаварыла, што гэты чалавек кіраваў паўстаннем. Звычайны на выгляд. Меднакарычневы і несамавіты, неахайна апрануты. Нават больш неахайна, чым я, вырашыў Удома. Засмучоны позірк...

— Я прынесла вам выпіць,— сказала Лойс.

Мхендзі пайшоў да яе, у кут ля французскіх вокнаў. Лойс працягнула яму бакал, у які да паловы было наліта віскі. Мхендзі адным глытком выпіў і сеў.

— У Мхендзі адзін клопат,— прабурчэў Лэнвуд.— Ён вельмі многа п'е.

— Ён кіраваў паўстаннем у Плюраліі. Я цяпер успомніў. Я ўсё аб гэтым чытаў у Канадзе. Божа! Яно ледзь не скончылася перамогай!

— І скончылася б, калі б ён зрабіў, як я яму гаварыў,— сказаў Лэнвуд.

— Можа, хто яшчэ хоча выпіць? — спыталася Лойс.

— Дайце мне,— сказаў Эдэбхай і перасеў да Джо.

— Але чаму ён цяпер тут? — запытаўся Удома.

— Ён праскочыў праз варожыя лініі ў тую самую ноч, калі выразалі Вызваленчую Армію. Яго схапілі і вывезлі на параходзе.

Удома ўспомніў сенсацыйныя загалоўкі газет аб паўстанні ў

Плюраліі. Народ там пратрымаўся цэлы год. Тысячы людзей былі забіты. Ён зноў павярнуўся да Лэнвуда.

— Чаму ім не адаслаць яго назад?

— І мецъ судовы працэс! Ён можа прывесці да новага паўстання. І не забудзьцеся, што ёсць многа людзей, якія могуць паставіць далікатныя пытанні ў Савеце Нацый. Не. Ім лепш трымаць яго тут, у выгнанні, і сачыць, як ён паступова співаецца да смерці.

— Божа мой! Нам трэба нешта рабіць! — усклікнуў Удома.

— І мы будзем. Сілы ва ўсім свеце яднаюцца ў гэтым кірунку. Нашы сябры і саюзнікі мацнеюць. Час працуе на нас... А пакуль што, скажыце, як справы ў вас? Вы знайшлі кватэру, уладзіліся?

Удома паглядзеў, як Лойс размаўляе з Мхендзі, і сказаў:

— У мяне ёсць пакой, але ён дарагі.

Ён зноў кінуў позірк на другі канец пакоя. Лойс падсунула табурэтку і села тварам да Мхендзі. Яны сядзелі блізка адно ад аднаго. Ён бачыў, як яна ўзяла руку Мхендзі ў сваю. Яны закаханыя? — пацікавіўся ён.

Лойс сказала:

— Раскажыце мне, Дэвід. Можа, вам трошкі палягчэе.

Джо і Эдэбхай уключылі радыё, зрабілі гук ледзь чутным, селі побач на дыване і пачалі слухаць перадачу. Лэнвуд працягваў гаварыць. Увага Удома раздвоілася: ён слухаў Лэнвуда, а вачыма сачыў за Лойс і Мхендзі. Лэнвуд прыводзіў прыклады бессаромных учынкаў імперыялістаў, іх здзекаў над каланіяльнымі народамі.

Мхендзі асушыў трэцюю шклянку. Ён сказаў:

— Я толькі што атрымаў весткі з дому — яны застрэлілі маю жонку.

— О, божа! — прашаптала Лойс.

— Яна і другія жанчыны былі першымі ахвярамі «Пасёлка А». Яны спрабавалі выгнаць мой народ з яго спрадвечнай зямлі ў пустыню. Пасяленцы не хочуць, каб мы жылі на ўрадлівай зямлі. Ва ўсякім выпадку, наш дом стаяў на ўрадлівай зямлі, ля падножжа ўзгорка. Глеба там багатая, чырвоная, занадта добрая для ніжэйшых вырадкаў...

— О, Дэвід!

— Я надта рэзкі, Лойс?.. Як бы там ні было, яны рашылі, што зямля гэтая — для еўрапейцаў і загадалі ўсім перабрацца ў «Пасёлак А». Няма сумнення, у свой час яны знойдуць дастаткова пустынных участкаў на ўсе літары алфавіта — ад А да Я. Але мой народ не захацеў перасяляцца. Жанчыны не пакінулі свае дамы і зямлю, што належала ім спрадвеку. І яны кінуліся на белых, якія прыйшлі падагнаць іх з ад'ездам. Мая жонка была на чале тых, хто кідаў каменні. Былі забіты афрыканец-камісіянер і яго памочнік.

— Божа... божа... — яна дакранулася да яго пальцаў.

— Наліце яшчэ шкляначку,— папрасіў ён.

Яна зноў напоўніла яго бакал. Ён адразу выпіў. Сочачы за імі, Удома падумаў: «Ён сапраўды многа п'е, а яна ва ўсім яму патурае». Цяпер яму было цяжка паверыць, што гэты чалавек — той самы Мхендзі, што стаяў на чале паўстання ў Плюраліі.

— Колькі? — прашаптала Лойс.

— Колькі было забіта?

— Так.

— Адзінаццаць.

Лойс наліла сабе віскі і выпіла. «І яна таксама»,— падумаў Удома.

— Магло быць больш,— сказаў Мхендзі.— Што ім? Яны могуць забіць і дваццаць, і трыццаць, і сто...

Вочы яго наліваліся крывёю. Яна адчувала, што яму стала лягчэй.

«Яны хутка сп'янеюць», — падумаў Удома, і пачаў прыслухоўвацца да таго, што гаварыў Лэнвуд.

Мхендзі дакрануўся рукою да шчакі.

— Мне трэба пагаліцца,— сказаў ён безуважна.

— Раскажыце мне пра яе,— папрасіла Лойс.

Мхендзі ўздыхнуў.

— Яна была непісьменная і не магла сядзець за сталом побач са мной. Не хацела. Жанчыне месца на кухні ці ў полі, яна павінна працаваць на свайго ўладара. Тут людзі думаюць, што мы, мужчыны, самі хочам гэтага. Я не хацеў. Там у нас вельмі сумна, і мне хацелася гаварыць з ёю. Я прабаваў вучыць яе. Магчыма, я мала стараўся...

— Якая яна была з выгляду, Дэвід? У вас ёсць фота?

— Няма. Я іншы раз глядзеў на яе і адчуваў сябе старым і па-бацькоўску пяшчотным. У яе быў маленькі круглы тварык і вялікія вочы. Бывала, яна прыходзіла ў мой пакой увечары, калі я сядзеў адзін, а дзеці спалі. Яна тады любіла сядзець на падлозе, каля мяне, і маўчаць. Мне перадаваўся яе спакой. Спярша, калі яна рабіла так, я адкрываў кнігу і пачынаў уголас чытаць. Але тады спакой пакідаў яе, і яна выходзіла ад мяне. Я прабаваў музыку. Але і музыка праганяла яе. Пасля гэтага, калі яна прыходзіла, я проста заставаўся сядзець на сваім месцы. Здавалася гэта рабіла яе шчаслівай. Дзіўна, яна была мне жонкай, але я па-сапраўднаму ніколі не ведаў ні яе, ні таго, аб чым яна думае.

— Але ж вы кахалі яе?

— Я напэўна не ведаў гэтага да самага апошняга дня. Бачыце, не я выбіраў яе ў жонкі. Калі я вярнуўся, я даведаўся, што мой бацька аб усім ужо дамовіўся. Не забудзьцеся — ёсць дзве Плюраліі: Плюралія гарадоў і белых людзей і Плюралія вёсак і старадаўніх звычаяў плямён. І хоць я і вучыўся ў гарадскіх школах і пабываў у Еўропе, я ўсё ж такі застаўся сынам свайго племені. Яны не ўяўляюць мяне інакш, як сынам племені. Я не мог зняважыць вялікай мары майго бацькі.

— А цяпер?..

— Я ведаю, я кахаў яе. Але ўжо вельмі позна...

— І вы не спыніцеся на сваім шляху?

— Не. Гэты цяжар ляжыць на ўсіх, хто цяпер жыве. Многа людзей загінула. А я ішоў наперадзе. І я не павінен спыняцца.

— Вы самі гэтага не хочаце?

Мхендзі ўсміхнуўся.

— Наліце мне бакал, Лойс... Калі вы гаворыце, што гэта не гульня, я згодзен. Ведаеце, я некалі адчуваў сябе такім жа моцным, як і гэты вунь наш новы сябар. Я бачу паходныя сцягі ў яго вачах. Аднак Тому пашанцавала больш за каго. Для яго гэта гульня ў шахматы. Папраўдзе, яму няма справы да людзей. Ён ненавідзіць імперыялізм увогуле і жадае афрыканцам свабоды, таксама ўвогуле. Калі я прыехаў дадому, я ўяўляў сабою іншы тып — тып сцяганосца. Колькі пральецца крыві! — думаў я тады. Божа, колькі яе пралілося...

Лойс скурчылася, потым нечакана сказала:

— Давайце ўвечары збярэмся ў мяне!

— Каб мяне ўцешыць? — іскра насмешкі пракралася ў яго вочы.

— Не. Проста мне так хочацца.

3

Лэнвуд жыў у кватэры з трох пакояў, на рамізніцкім двары, недзе за Хэмпстэдскай пусташшу. Кватэра, як і ўсе іншыя, знаходзілася над гаражом. У туманныя, далёкія дні імперскай славы, калі Вікторыя была каралевай-імператрыцай самага магутнага на зямлі трона, гэтыя гаражы былі стайнямі. У кватэрах над імі жылі тыя, хто наглядаў за конямі і экіпажамі знатных сямействаў. На двары засталіся яшчэ вадапойныя бакі. Але цяпер у кароткія летнія месяцы маленькія хлапчукі пускалі ў іх свае папяровыя караблікі. Нага ўсё яшчэ ступала па каменнаму бруку.

Рэзкі паўночны вецер, які многа дзён гуляў па зямлі, сціх. У паветры павісла цішыня. Красавік, нарэшце, пачаў паводзіць сябе, як красавік, няясна намякаючы, што хутка настане цёплая пара.

Удома прыпыніўся ля варот і глянуў на паперку. Павінна быць тут. Потым цераз дарогу ён убачыў машыну Эдэбхая. Так, гэта тут. Ён зайшоў у двор. Яго чаравікі гулка стукалі па каменнях. Ён пераканаўся, што хадзіць па іх нязручна. Эдэбхай сказаў, што кватэра знаходзіцца ў самым канцы, у левым кутку двара. Ён націснуў на кнопку з надпісам: «Націсніце». Пачуў, як недзе далёка зазвінеў званок. Ён чакаў, павярнуўшыся спіною да дзвярэй, паглядаючы на белага чалавека, які чысціў бліскучую чорную машыну каля гаража, што знаходзіўся насупраць. Раптам ён адчуў, што нехта стаіць у яго за спіной. Ён шпарка павярнуўся.

Ля расчыненых дзвярэй стаяла жанчына. Яна была высокая, такога ж росту, як і ён, вельмі худая. Яна непрыхільна паглядзела на яго.

— Я шукаю містэра Лэнвуда,— сказаў ён.

— Ваша імя?

Яе абыякавасць непрыемна ўразіла яго.

— Я Майкл Удома.

Тады яна ўсміхнулася, працягнула руку і ператварылася ў прыязнага чалавека, ад якога павеяла цяплом.

— Часта людзі заходзяць да нас у нязручны час без запрашэння. Уваходзьце.

Ён падняўся за ёю па кароткаму пралёту вузкай лесвіцы.

— Гэта Майкл Удома,— крыкнула яна.

Лэнвуд адчыніў дзверы кватэры.

— Здарова, Майкл. Мы ўжо чакаем вас.

Яны сядзелі ў прадаўгаватым вузкім пакоі, застаўленым кнігамі. Свабоднай ад кніг была толькі вузкая палоска сцяны над маленькаю канапаю. Удома падумаў: ці прачытаў Лэнвуд усе гэтыя кнігі?

— Калі ласка, Мэры, прынясі кавы,— гукнуў Лэнвуд і зачыніў дзверы.

Удома прайшоў у дальні канец пакоя і сеў на канапе паміж Мхендзі і Эдэбхаем. Твар Мхендзі быў нахмураны. Мабі, мастак, адарваў вочы ад засланага паперай пісьмовага стала, за якім ён сядзеў і нешта чытаў.

— Здарова, Майкл.

— Здарова, чалавеча.

— Я чуў, у вас была добрая вечарынка, — сказаў Лэнвуд.

— Так, — адказаў Удома.

— Не захапляйцеся гэтымі рэчамі, Майкл, — сказаў Лэнвуд пабацькоўску.— У нас шмат работы. Для гэтага мы і знаходзімся тут. Не да вечарынак. Мхендзі часамі забывае аб гэтым.

Удома паглядзеў на Мхендзі, потым зноў на Лэнвуда.

Мхендзі нахмурыўся.

— Лепш пачнем,— паспешліва сказаў Мабі.

Мхендзі супакоіўся. Ён глядзеў на начышчаныя да бляску чаравікі Лэнвуда. Гэта былі новыя чаравікі. Ён паглядзеў на свае: старыя і паношаныя, стаптаныя і нявычашчаныя. Ён зірнуў на адзенне Лэнвуда. Яно таксама было на выгляд новым. Раптам ён узлаваўся. Рэзка ўскінуў галаву.

— Мне не падабаюцца вашы адносіны да мяне, Том.

— Вазьміце сябе ў рукі, і я буду адносіцца да вас інакш.

— Вам вельмі лёгка сядзець у Лондане і лічыць сябе богам.

— Мякчэй, Дэвід,— прамовіў Эдэбхай.

Увайшла жанчына з падносам, на якім дыміліся кубкі кавы.

— Ён пачаў першы,— апраўдваўся Мхендзі.— Ён майстар кпіць з другіх. Хіба ён прабаваў кіраваць рухам? Не ў Лондане, дзе ён у бяспецы, а ў Афрыцы. Рухам кіруюць не хрысціянскімі прамовамі і папскімі граматамі з бяспечных далячынь Лондана. Ідзіце ў Афрыку! Змагайцеся там! А потым прыходзьце і чытайце нам лекцыі аб самадысцыпліне.

— Ой, матухна! — насмешліва ўсклікнула жанчына.— Вы зноў за старое, Дэвід! Гэтая ваша жаласлівасць да сябе загубіць вас. Вось чаму вы п'еце. Вы не адзіны, хто спрабаваў здзейсніць рэвалюцыю, якая закончылася паражэннем. Але ваша паўстанне не было б разгромлена, калі б вы паслухаліся нашай парады!

— Лепш не ўмешвайцеся ў гэта, Мэры,— рэзка сказаў Мабі.

Жанчына паставіла паднос на крэсла і павярнулася да Мабі.

— Чаму ж? Ці, можа; барацьба за свабоду — гэта адзінае права мужчын? Многа жанчын загінула ў гэтай барацьбе, яны не нылі і не скардзіліся.— Яна злавалася, твар яе расчырванеўся.

— Мне здаецца, вы думаеце, што вы адна з тых гераічных жанчын!— Мабі ўстаў. Ён ігнараваў гэтую жанчыну і звярнуўся да Лэнвуда: — Я думаў, што мы прыйшлі сюды на сход. А калі для пустых размоў, то я пайду.

Жанчына пачала нешта гаварыць, потым стрымалася і змоўкла. Яна павярнулася да Лэнвуда. Усе глядзелі на яго, чакаючы, што ён скажа. Доўгім тонкім ножыкам ён калупаў у сваёй люльцы. Нарэшце падняў вочы.

— Калі вы спынілі ўжо сваю бясконцую суб'ектыўную спрэчку, можна пачаць.

— Ты мне абрыд, Том! — злосна сказала жанчына і кінулася з пакоя.

— Вы залішне сур'ёзна адносіцеся да яе,— спрабаваў усміхнуцца Лэнвуд.— Усе жанчыны з эмоцыямі.

Эдэбхай устаў з канапы, узяў паднос і кожнаму падаў па кубку кавы.

Лэнвуд выйшў. Удома нахіліўся да Мхендзі:

— Хто яна?

Мхендзі горка ўсміхнуўся: — Чыталі яго апошнюю кнігу?

— Не.

— Падайце яму, Поль.

Мабі ўзяў з пісьмовага стала кнігу і працягнуў яе Удома. Томас Лэнвуд. «Канец імперыі». Ён адгарнуў вокладку і ўбачыў прысвячэнне: «Майму дарагому сябру і таварышу Мэры Фелд, без чыёй падтрымкі і

цярпення ні гэты, ні любы другі з маіх твораў не былі б ніколі напісаны». Але яна не паважае яго, падумаў Удома.

Увайшоў Лэнвуд.

— Вы можаце памірыцца з ёю, але не са мной, — сказаў Мхендзі.

— Мы марна трацім час,— сказаў Лэнвуд.

— Горш ужо нельга,— з гарыччу пацвердзіў Мхендзі.

— Тады якога д'ябла мы не пачынаем! — узлаваўся Мабі.

— Безумоўна, мы можам павучыцца кіраўніцтву і дысцыпліне ў камуністаў,— з раптоўным запалам сказаў Лэнвуд.

Мхендзі адразу абмяк. Ён бачыў цяпер сапраўднага Лэнвуда: няўдачлівага старэючага чалавека, які стаяў на грані расчаравання. Мхендзі перавёў позірк на Мабі. Мабі бачыў тое ж самае. Магчыма, яму, Мхендзі, не трэба было гаварыць тых слоў. Таму патрэбна яго заступніцтва больш, чым каму другому.

— Учора вечарам я гаварыў з Рослі,— сказаў ён спакойным, сяброўскім тонам.— Ён прапанаваў мне запрасіць усю нашу групу на іх палітычную нараду аб калоніях. Ён сказаў, што наш удзел дапаможа сфармуляваць палітыку. Я прапаную пайсці са сваёй уласнай, загадзя абдуманай пазіцыяй.

— О! — Лэнвуд радасна ўсміхнуўся.— Яны ў нерашучасці, інакш не патурбаваліся б запрашаць нас. Імперыя іх развальваецца, дык яны шукаюць саюзнікаў сярод лідэраў сваіх каланіяльных падданых. Толькі ў тых выпадках, калі імперыялістамі апаноўвае сумненне ў сваёй здольнасці кіраваць сілай, яны робяць вялікую ласку і запрашаюць людзей, накшталт нас, «дапамагчы сфармуляваць палітыку». Што думаюць таварышы? Пойдзем?

— Я за тое, каб пайсці,— сказаў Мабі.— Але са сваёй уласнай пазіцыяй, як сказаў Мхендзі. Нам няма чаго губляць.

— Я згодзен,— сказаў Эдэбхай.

— А вы, Майк?

Удома няпэўна ўсміхнуўся:

— Будзе вельмі цікава паслухаць, што яны гавораць.

Маленькая закрытая нарада лідэраў пачалася. Цяпер яны будуць марыць і будаваць планы цэлую гадзіну, а то і болей...

... Нарэшце, усё скончылася.

— На гэтым заканчваецца наша дзелавая частка, — сказаў Лэнвуд.

Яны гутарылі яшчэ некаторы час, а потым пачалі развітвацца з Лэнвудам. Калі яны ішлі да выхаду, Мэры Фелд была на кухні. Эдэбхай гучна развітаўся. Яна адказала, але да іх не выйшла. Унізе на лесвіцы Лэнвуд прыпыніў Мхендзі.

— Шкадую, што так здарылася.— Ён гаварыў неяк нядбайна, быццам аб чымсьці вельмі малазначным.— Яна нічога такога не хацела сказаць.

— Забудзьцеся на гэта,— прамармытаў Мхендзі.

— Асабістыя адносіны мы павінны падпарадкоўваць барацьбе.

— Забудзьцеся на гэта.

— Я рады, што вы разумееце. Адно толькі важна — барацьба. Я хацеў бы, каб хто-небудзь з вас пераехаў да мяне. Ведаеце, я не стаўлюся да жанчын сур'ёзна, але яны прыносяць карысць. Я патрабую ад іх толькі аднаго — каб яны не ўмешваліся ў нашы справы...— Нарэшце, ён паглядзеў у вочы Мхендзі, абыякава ўсміхнуўшыся і высока падняўшы галаву.

— Усё ў парадку, Том. Бывайце.

Ён глядзеў ім услед, пакуль яны не зніклі з вачэй. Потым, не спяшаючыся, падняўся па лесвіцы і вярнуўся ў свой кабінет.

— Яны пайшлі ўжо? — пачуўся голас Мэры.

— Пайшлі,— крыкнуў ён у адказ.

— Была хоць якая-небудзь карысць ад вашай сённяшняй сустрэчы?

— Вядома.

Ён сеў за свой пісьмовы стол і пачаў разбіраць паперы.

— Ты нічога не можаш мне расказаць? Ці, можа, ты захварэў гэтым «толькі мужчынскім» духам Мабі?

— Я хацеў бы папрацаваць над гэтым артыкулам. А заўтра да нас прыдзе снедаць Удома.

— Заўтра мяне тут не будзе.

— Нічога. Я сам прыгатую.

— Мхендзі становіцца нясцерпным.

Ён прыслухоўваўся да яе папрокаў. Яму заставалася толькі адно — зачыніць дзверы, тады яе не будзе чутно. Яна не любіць, калі ад яе зачыняюцца. Але ён ні ў чым не вінаваты. Ён думаў аб ёй абыякава. Яны ўжо даўно разам. З тых далёкіх дзён, калі яны былі членамі камуністычнай партыі. Тады яна была маладая і прывабная, нават больш чым прывабная. Яна выйшла з партыі разам з ім, толькі таму, што выйшаў ён.

— Ты чуеш мяне?

— Чую.

— Што ж, ты не можаш адказаць?

—Я хацеў бы папрацаваць.

— Няхай ён сочыць за сваімі словамі, інакш яго нагі тут не будзе. Ты надта мяккі. Без гэтай групы ты працаваў лепш. Мне здаецца, ты толькі марна траціш час. Яны ж кучка прымадонаў!

Прайшло амаль дваццаць год з дня іх першай сустрэчы. Дваццаць год з таго дня, як яны павярнуліся спіной да партыі...

— З душы верне ад гэтага маленькага самазадаволенага Мабі.

Да Мэры ў яго была другая жанчына. Ціхая, ласкавая, добрая. Як яе звалі? Добрая была жанчына. Як жа яе звалі?.. Памяць паплыла назад, у мінулае. Але ён шчыльна зачыніў перад ёю дзверы. Не час для сентыментаў. Мужчына павінен рабіць тое, што яму належыць. Каб гэта рабіць, трэба жыць. А каб жыць, яму патрэбны абед, дом і вольны час. Гэта самае важнае, і яна клапоціцца аб усім гэтым... Але ўсё ж такі аднойчы ён спрабаваў пайсці ад яе... Гэта была спроба адступіць. Добра, што не ўдалася... Дора Сміт — вось імя гэтай жанчыны. Вазьмі сябе ў рукі, Том!

## 4

Цягнік прыпыніўся, гэта быў Хэмпстэд. Начное паветра дыхала холадам, але не такім, як у тую страшную ноч, калі Удома першы раз убачыў Лойс. Ужо амаль месяц, як ён яе не бачыў.

Удома нацягнуў на галаву капюшон, засунуў рукі глыбока ў кішэні паліто, імкліва пачаў спускацца па стромкаму схілу ўзгорка.

Дзверы былі адчынены. У маленькай прыхожай было цёмна, і ён вобмацкам знайшоў кватэру Мабі. Пастукаў.

— Уваходзьце!

Ён увайшоў. На імгненне яркае святло лямпачак асляпіла яго. У пакоі было відней, чым удзень пад англійскім цьмяным небам, так светла, як у бязвоблачны дзень у яго на радзіме, калі бязлітасныя сонечныя праменні паляць зямлю.

Мабі быў не адзін. У кутку, на ложку, сядзела Лойс. Яна нешта варыла на прымусе, што стаяў ля яе на падлозе.

Мабі стаяў перад мальбертам ля вялізнага акна. Направа ад яго, на калодцы сядзела натуршчыца — мулатка.

— А, гэта вы, Майк. Уваходзьце,— Мабі гаварыў безуважліва.

Удома адчуваў сябе лішнім. Гэта быў свет, у якім ён не ведаў, што рабіць, дзе сесці, гаварыць ці маўчаць. А голае жаночае цела тут, у Англіі, бянтэжыла яго. Дома, у Афрыцы, гэта было натуральна. Ён стараўся не глядзець на голую дзяўчыну.

— Лепш ідзіце сюды і сядзьце,— сказала Лойс.

Ён павесіў паліто ля дзвярэй і асцярожна прабраўся да канапы.

— Як справы? — запытаўся Мабі, не паварочваючы галавы.

— Сход? Усё абыйшлося добра.

— Цудоўна. Пагаварыце з Лойс.— Ён закончыў эскіз, папырскаў на яго фіксатывам, кінуў на падлогу і пачаў маляваць новы. — Цяпер мне патрэбна ваша спіна, Кэйт.— Дзяўчына павярнулася да яго спіной.

— Вам трошкі дзіўна? — спыталася Лойс.

— Так,— адказаў Удома.

— Заўсёды так. Але прывыкаеш да гэтага, калі жывеш сярод мастакоў. Я ніколі не магла пазіраваць, нават для свайго мужа. Аднойчы паспрабавала, але страшэнна няўдала. Яны глядзяць на цябе надта холадна,— ты для іх не чалавек, а адны толькі пукатасці і плоскасці.

Удома паглядзеў на твар Лойс. Пры яркім святле ён убачыў павуцінне зморшчынак ля вачэй і ў кутках рота. Так, як яна сядзіць, нахіліўшыся ўперад і памешваючы ў каструлі, магла б сядзець і афрыканка.

Яна павярнулася да яго і ўсміхнулася.

— Можна не гаварыць шэптам. Ён вельмі захоплены сваёй працай і нічога не чуе.

— Я чую,— сказаў Мабі.

— Кажуць, вы ажывілі ўсю групу. Том мне надоечы пазваніў і сказаў, што вы для іх знаходка. У яго вуснах гэта вялікая хвала. Што вы ўвесь гэты час рабілі? Нядаўна ў мяне быў Рычард, ён сказаў, што вы вельмі заняты і не можаце прыйсці.

— Я набіваў васкоўкі.

«У яго стомлены выгляд, — падумала яна. — Але цяпер ён больш спакойны і не такі заняты».

Ён паглядзеў на свае рукі, потым на яе.

— Том меў рацыю, — пачаў ён. — Гэта цяжкая праца.

— А як у вас з навукай?

— Займаюся. Але галоўнае — не гэта.

— Хіба ж ніхто вам не дапамагае?

— Калі ёсць магчымасць. Але ў іх свая работа.

— Колькі ж васковак вам трэба надрукаваць?

— Пяцьдзесят шэсць. Адзінаццаць я ўжо зрабіў.

— Божа! І яны хочуць, каб вы ўсё рабілі самі?

Яго твар зморшчыўся ў хлапечай сарамлівай усмешцы: — Гэта мая ідэя.

«О, божа», падумала яна. Яе захліснула пачуццё сваёй нікчэмнасці

Яна змагалася з гэтым пачуццём і старалася адагнаць яго. Яны — вызваліцелі. Гэта іх справа. Ну, і няхай.

— Навошта вам гэтым займацца?

Ён адчуў яе бездапаможны пратэст. Паглядзеў на яе дапытлівым, пільным позіркам. Яна, як і ў тую ноч, адчула яго нястрымную ўнутраную сілу.

— Так трэба.

Яна апусціла галаву і памяшала ў каструлі.

— Разумею,— сказала яна.— Прынясіце некалькі васковак мне. Джо і я дапаможам. У нас ёсць машынка. Можа і вы дастанеце адну.

— Вы сур'ёзна?

Яна не адважылася паглядзець на яго. Акяніцы будуць адчынены. Вочы яго будуць блішчэць. Ён пакажацца большым за само жыццё. Не трэба глядзець, каб усё гэта ведаць.

— Я ўжо сказала, — прамовіла яна стрымана.

— Калі можна прынесці?

— Заўтра, пасля школы.

— Ты чуеш, Мабі? — Ён не памятаў сябе ад радасці.— Яна дапаможа! Я мог бы вас пацалаваць, Лойс! — Да яго дайшоў сэнс сказанага, і ён асекся.

Удома асцярожна павярнуўся да Лойс і паглядзеў ёй у твар. Яна адказала спакойным, стрыманым позіркам. І ён адвёў вочы. Але яна не адчувала радасці перамогі. Ты дурная, Лойс, падумала яна з горыччу, дурная і даверлівая...

— Аб чым вы? — безуважна спытаўся Мабі.

— Нічога такога, потым скажу, — сказала Лойс. — Канчайце, а то мяса падгарыць.

У вялікім, ярка асветленым пакоі наступіла цішыня. Скрып вугалька па тоўстай паперы толькі падкрэсліваў яе. У каструлі нешта ледзь чутна пабулькваla.

Удома падумаў: «Я назваў яе па імені, і сапраўды мне хочацца яе пацалаваць! Я прымушу яе глянуць у мой бок. Напружу ўсю сваю волю, каб дамагчыся гэтага. «Глянь на мяне, жанчына. Я хачу пацалаваць цябе. Зірні сюды! Зірні. Лойс, Лойс, Лойс...»

Лойс падумала: «Вельмі недарэчна, вельмі ўсё недарэчна. Я ўжо надта старая для гэтага. Ён не ўмее весці гутарку, ён нязграбны. У ім толькі сіла жывёліны. Ён няздатны да ласкі».

Зірні на мяне, Лойс. Я хачу гэтага...

Зусім няздатны да ласкі...

Лойс, я жадаю гэтага! Зірні сюды, Лойс!

Яна крадком зірнула на яго і адвярнулася. Ён супакоіўся. Цень усмешкі прабег па яго вуснах.

Нарэшце, Мабі скончыў маляваць.

— Хопіць, Кэйт. — Ён кінуў вугалёк на стол, пацягнуўся і пазяхнуў. Дзяўчына сышла з калодкі і схавалася за імправізаваную шырму.

— Божа!— ён зрабіў працяглы выдых.— Каторая ўжо гадзіна?

— Хутка дзесяць,— адказала Лойс.

Мабі падышоў да іх і сеў на канапе паміж Лойс і Удома.

З маленькага буфета Лойс дастала талеркі, відэльцы і накрыла стол.

Яны елі, седзячы побач на канапе, палажыўшы талеркі сабе на калені.

— Вы здаволены?— спытала Лойс.

— Трохі,— адказаў Мабі.— Цяпер трэба ажывіць яшчэ гэтае праклятае дрэва. Ну, а як справы ў вас, Майк?

— Лойс прапанавала сваю дапамогу, — сказаў Удома. Цяпер яму было лёгка вымаўляць гэтае імя. Ён зірнуў на яе.

— Лойс — анёл, Майк. Найлепшы.

— Лойс адгадоўвае крыллі,— сказала Лойс.

— Мы ўсе любім яе,— сур'ёзна дадаў Мабі.

— Можна ўзяць вашу машынку? — спытаў Удома. — Тады і Джо зможа дапамагчы.

— Вядома.

— Цудоўна.

— Не перагружайце Лойс,— сказаў Мабі.— Мы любім яе і не хацелі б крыўдзіць.

— Змоўкніце, Поль,— усклікнула Лойс.— Могуць падумаць, што я не магу сама аб сабе паклапаціцца.

— А на самай справе, дарагая?— Мабі быў вельмі дыдактычна настроены.

— Няма аб чым клапаціцца. Гэта дробязь.

Удома сціх. Мабі гаварыў за яго. Цяпер ён будзе цярпліва маўчаць.

— Як вы думаеце, Майк, яна можа паклапаціцца аб сабе?

— Я не хачу сядзець тут і слухаць, як мяне абгаворваюць, быццам я заваяваная афрыканка!— Яна не магла па-сапраўднаму злаваць на Мабі, бо вельмі добра ведала яго.— Вы стаміліся, Поль... і Майкл, і я. Даяйце, і мы пойдзем.

— Але я хачу расказаць вам аб маім народзе, дарагая.

— Вы ўжо расказвалі.

— Не тое. Вось Майк пацвердзіць. Хіба вы ведалі, што мой народ лічыцца самым першабытным і адсталым у Афрыцы? Нават нашы суайчыннікі ў Панафрыцы і тыя глядзяць на нас звысоку. Калі людзі з раўнін хочуць паказаць, што кім-небудзь пагарджаюць, яны гавораць, што ён паводзіць сябе, як чалавек з гор. Правільна, Майк?

— Вы стаміліся,— мякка сказала Лойс.

— Так, сапраўды,— уздыхнуў Мабі.— Праводзьце яе дадому, Майк. І не звяртайце на мяне ўвагі, я і сам не ведаю, што са мной.

* * *

Яны павярнулі на Хорвестак-Хіл і пачалі ўзбірацца па ледзь прыкметнаму схілу, які, чым далей, рабіўся ўсё больш стромкім. Ноч была ясная і ціхая. На чорным небе выразна выступалі зоркі. Паўмесяц заліваў зямлю цьмяным святлом. Зрэдку мільгалі агні аўтамашын, праходзілі людзі. Але наогул на вуліцах было пуста і вельмі ціха. Яны падыйшлі да станцыі метрапалітэна ля Белсайз-Парку.

— Тут вы можаце сесці ў аўтобус,— сказала Лойс.

— Я праводжу вас,— адказаў Удома.

Яны перайшлі вуліцу і пакрочылі міма кашэрных сталовых. Кавярня насупраць станцыі была яшчэ адкрыта.

— Пап'ем чаю,— прапанаваў Удома.

Яна падумала: ён гаворыць і трымае сябе вельмі спакойна. У яго ёсць здольнасць маўчаць.

— Добра,— сказала яна.

Лойс і Удома ўвайшлі ў кавярню. Яна павяла яго да стала ля электрычнай печкі. Лойс ведала, ён будзе рады цяплу. Падышла стомленая афіцыянтка і ўзяла заказ.

Лойс адкінулася на спінку крэсла і, сочачы за яго тварам, чакала, пакуль ён загаворыць. Сапраўды, гэтыя вочы надаюць усяму твару налёт хмурага смутку. Смешна, якія яны ўсе страшэнна сумныя, калі маўчаць. Можа, ужо такая прырода Афрыкі і яны ўсюды носяць яе з сабою? Хіба Афрыка — кантынент смутку? Справа не ў праблемах, але наогул. Усе афрыканцы, якіх яна калі-небудзь бачыла, носяць на сабе гэты смутак. Але калі яны смяюцца, іх твары ззяюць, як сонца.

— Пра што вы думаеце?— спытаўся ён.

Цяпер ужо ён мог глядзець ёй у вочы і не хваляваўца.

— Пра вас,— сказала яна.— Я хачу сказаць — пра ўсю вашу пяцёрку і пра Афрыку.

— Калі-небудзь вам трэба наведаць Афрыку.

— Якая яна ў сапраўднасці?

Яна ведала, што пасля гэтых слоў ён усміхнецца.

— Такая, як і любая іншая краіна,— адказаў ён.— Толькі даражэй нашаму сэрцу, бо мы там нарадзіліся.

Афіцыянтка прынесла чай.

— Вы мне не адказалі.

Яна бачыла, як вочы яго затуманьваюцца і засцілаюцца смугой успамінаў. Можа цяпер ён загаворыць.

Ён гаварыў павольна, узважваючы кожнае слова і нібы правяраючы, як яно гучыць. Ён не бачыў яе твару, хоць і глядзеў ёй у вочы.

— Афрыка! Яна нечым нагадвае сэрца. Вы бачылі яе абрысы на картах. Яна — як сэрца. Афрыка — маё сэрца, сэрца ўсіх, у каго чорная скура. Без яе мы — нішто; пакуль яна паднявольная, мы не людзі. Вось чаму мы павінны вызваліць яе, ці памерці.

Цяпер ён глядзеў на яе вачыма, якія ўсё бачаць, напалову выклікаючы яе, напалову абараняючыся. Яна задушыла ў сабе жаданне пярэчыць. Хіба можна пярэчыць містыку? А калі нават і можна, яна гэтага не хоча.

— Я разумею,— сказала яна спакойна і разліла па кубках чай.

— Гэта нешта такое, чаго белы чалавек зразумець не можа, — прамовіў ён.

Цяпер ён раскрываў перад ёй сваю душу. Ён здаваўся ёй цяпер самым чароўным чалавекам з усіх, каго яна бачыла за многія, многія гады. Калі яна паставіла перад ім чай, ён узяў яе руку і лёгка, асцярожна пацісну̌ў.

— Я вельмі рады вашаму пытанню,— сказаў ён.— Вы прымусілі мяне думаць аб гэтым. Цяпер я ведаю — гэта самае галоўнае.

Яна адвяла вочы ў бок. Магчыма яму лягчэй падбіраць словы, калі ён гаворыць на сваёй роднай мове. Ён адукаваны чалавек, яму прысуджана вучоная ступень. Але чаму ў яго гэтая немата, калі ў ім пачынаюць бурліць пачуцці? Няўжо ён ніколі ні перад кім не адкрываў глыбінь сваёй душы?

Ён павярнуў яе руку і паглядзеў на далонь.

— Яна маленькая,— сказаў ён.

— Ва ўсіх жанчын маленькія рукі,— сказала яна.

— Я гэтага ніколі не заўважаў.

— Значыць, вы нікога не кахалі.

— Нікога,— сказаў ён.— Вы кахаеце Мабі?

— Хацела б. І каб ён мяне.

— Вы яго вельмі любіце?

— Такія людзі ў маім гусце.

— Мастак. Як і ваш муж?

«Вось яно, набліжаецца»,— падумала Лойс.

— Не таму. Ён проста ў маім гусце.

— Вы мне падабаецеся,— сказаў ён.

— Я вельмі рада.— Яна падліла ў яго кубак чаю.

— Я хачу сказаць — у пэўным сэнсе.

Ад гэтых слоў ён папярхнуўся.

Яна імкліва глянула на яго.

— Гэта ад адзіноты, Майкл.

— Я адзінокі, так.

— Тады знайдзіце сабе добрую дзяўчыну. Поль ведае дзесяткі іх. Ён пазнаёміць вас.

Ён пачакаў, пакуль яна паглядзіць на яго, і сказаў:

— Мне патрэбны вы, Лойс.

Гнеў хваляй нахлынуў на яе.

— Чаму я? Вы любіце мяне? Ці, можа, вы думаеце, што я лёгкадумная?

— Вы мне падабаецеся,— сказаў ён спакойна.

— Але чаму я?

— Вы злуеце. — Ён шырока і шчыра ўсміхнуўся, і ад гэтага ў яго загарэліся вочы.— Вы падабаецеся мне, калі злуеце.

Яна імкнулася стрымаць свой гнеў.

— Пакіньце, Майкл. Мне ўжо хутка сорак. Калі я была маладая, было ўсё. Я не люблю гэтага, усё гэта агідна і брыдка. Калі ласка, пакіньце. — Яна раптам адчула, што не стае сіл змагацца супраць спакойнай упэўненасці гэтага чалавека. — Лепш пойдзем.

Ён узяў са стала машынку, заплаціў і выйшаў услед за ёю.

З кіно выліўся натоўп людзей. Хутка ён застаўся далёка ззаду. Яны павярнулі на ўзгорак, дзе стаяў дом Лойс.

— Усё яшчэ злуеце?

— Не,— стомлена адказала яна.

Ля дзвярэй ён пацалаваў ёй руку.

— Я недзе чытаў, што жанчыны любяць, калі ім цалуюць рукі,— сказаў ён.

Усё гэта было вельмі смешна. Але яна не магла смяяцца.

— Добрай ночы,— сказала яна паспешліва.

— Добрай ночы, Лойс. Да заўтра.

«Заўтра, — падумала яна. — О, божа! Заўтра».

Яна зачыніла дзверы і адшукала ў сумцы папяроску. Потым прыхілілася да дзвярэй і закурыла. Джо Фурс яшчэ не спала. На кухні гарэла святло. Пачуўся мужчынскі голас. У Джо быў госць.

— Гэта ты, Лойс? — крыкнула Джо.

— Я.

— Хадзі сюды, выпі з намі кавы. Генры ўжо хутка пойдзе, вып'е толькі шклянку.

— Не хачу, дзякую. Толькі што піла чай. Страшэнна стамілася. Добрай ночы.

Яна мінула кухню і ўвайшла ў свой пакой. Запаліла камін і села на ложак. Але зараз жа ўстала і падышла да люстэрка. Яна пільна ўглядалася ў свой твар.

Чаго ты баішся, Лойс? Ты заўсёды гаворыш, што ў цябе ясны розум, які бачыць усё так, як яно ёсць. Нічога не здарыцца такога, чаго ты не хочаш. Ты не хочаш, каб гэта здарылася. Ну, тады нічога і не будзе.

«Будзе». Толькі, калі сама захочаш. «Не захачу». Тады не будзе. «Але яно будзе». Будзе, таму што ты сама хочаш. «Не, не хачу». Не, хочаш. «Не хачу». Не цеш сябе, Лойс, ты не бездапаможная, ты вопытная жанчына. У гэтых справах ён просталінейны і шчыры хлопец. «Але чаму я так баюся?» Ты ведаеш чаму. Ты, здаецца, ужо развучылася думаць. «Таму што мяне абразілі». Умоўны рэфлекс. «Дык гэта не ён?» Адкажы ж сабе...

Яна дакранулася рукой да скроняў. Адвярнулася ад люстэрка. Села на ложак і зняла тэлефонную трубку. Набрала нумар Мабі. Пачула рэдкія гудкі і раптам павесіла трубку.

— Ніхто другі не скажа, што рабіць,— падумала ўголас.

Яна скамечыла папяроску і пачала распранацца.

* * *

У прыхожай зазваніў званок. Лойс паспешліва пайшла да дзвярэй. Гэта быў Удома. Яна адчыніла дзверы і ўсміхнулася.

— Добры дзень, — сказала яна весела. — Зайдзіце.

— Я прынёс васкоўкі.

Ён пайшоў за ёю ў гасціную.

Праз вялікія вокны ў пакой ліліся праменні цёплага, дзённага сонца, яны запоўнілі пакой радасцю і святлом, якраз пад новы настрой Лойс. За вокнамі свежая вясновая трава ярказялёным дываном заслала зямлю. А на дрэвах ад збытку соку трэскаліся пупышкі. Хутка настане пара цвіцення — на зямлі і ў паветры адчувалася пяшчота і ласка.

Удома паклаў свой пакунак на падлогу.

— Сёння самы цёплы дзень, — усклікнула Лойс.

— І вы шчаслівая? — спытаў ён.

Ён апусціўся на калена і пачаў развязваць свой пакунак. Яна падышла бліжэй і стала глядзець на яго.

— Так, я шчаслівая.

Яе голас прымусіў яго падняць галаву.

— Учора ўвечары вы хацелі пацалаваць мяне, — прагаварыла яна спакойна.

Ён павольна ўстаў.

— Так,— сказаў ён.

Яе вочы гаварылі яму: цяпер можна. Ён узяў абедзве яе рукі ў свае. Як яны дрыжалі! Цяпер яна жанчына, ласкавая і цёплая, як жанчына...

* * *

Дзве гадзіны быў чуваць толькі стук машынак. Потым Лойс уздыхнула і адкінулася на спінку крэсла.

— Я за перапынак. Чаму гэта Поль так многа піша?.. Хочаце чаю?

— Калі ласка.

Пакуль яна гатавала чай, ён усё яшчэ друкаваў на сваёй машынцы. Сонца зайшло і наступіў веснавы змрок. У пакоі гарэла электрычнае святло, але Удома не прыкмеціў, як Лойс уставала, каб запаліць яго. Ён пакінуў друкаваць, калі яна прынесла чай. Яны селі побач.

— Стаміліся? — спыталася яна.

— Яшчэ не, — адказаў ён.

Усміхаючыся, яна глядзела ў шклянку.

— Я баялася вас,— сказала яна.
— Гэта Мабі вас так страшыў?
— Я думаю, ён таксама крышачку баіцца вас.
— І я яго баюся, але не гаварыце яму. Вы баіцеся яшчэ і цяпер?
— Не так, як раней.
— Але чаго ж вам баяцца? Чаго?
Яна паклала сваю руку на яго плячо. Паспрабавала ўсміхнуцца і ўсхвалявана ўздыхнула.
— Таму, што мне здаецца, я кахаю вас, Майкл.
— І вы гэтага баіцеся?
— Такая я ўжо жанчына. Я адна з тых жанчын, што аддаюць усё— ці нічога.
— Так і павінна быць,— сказаў ён.
Ёй захацелася расказаць яму пра Джона, пра пакуты, калі ён пакінуў яе і пайшоў да той, другой. Але замест гэтага яна спыталася:
— Яшчэ чаю?
Потым яны зноў узяліся за работу. А дзесятай гадзіне прыйшла Джо Фурс і згатавала вячэру. Яна дрэнна сябе адчувала і пасля вячэры пайшла спаць. Лойс і Удома зноў пачалі набіваць васкоўкі.
Апоўначы Лойс сказала:
— Вы спозніцеся на апошні аўтобус, калі зараз жа не пойдзеце.
— Я хачу спазніцца.
— Дык спазніцеся.
— А як Джо?
— Нічога з ёю не здарыцца.
Ён засмяяўся шчаслівым, раскацістым смехам. Яна таксама весела ўсміхнулася.
Ён устаў з крэсла і абняў яе.
— Я люблю вас, Лойс.
— Я чакала гэтых слоў.

## 5

— Імя?
— Поль Мабі.
— Арганізацыя?
— Афрыканская група свабоды.
— Добра. Стаўце пытанне.
— Пан старшыня, я вельмі ўважліва слухаў прамоўцу, асабліва, калі ён гаварыў, што...
Старшыня пастукаў малаточкам:
— Прашу ставіць пытанне без уступнай прамовы.
Лэнвуд падняўся з свайго крэсла:
— Да парадку вядзення, пан старшыня.
— Містэр Мабі паставіць сваё пытанне. Мы вам таксама дадзім слова.
— Але гэта датычыцца працэдуры, пан старшыня. Я — Лэнвуд, кіраўнік дэлегацыі Афрыканскай групы свабоды.
— А я старшыня! Прашу сесці, містэр Лэнвуд!
Удома ўскочыў і пачаў размахваць рукамі:

— Гэта абраза! Я пратэстую!

Пачалася мітусня. Заварушыліся ўсе негры, якія сядзелі ў розных канцах гэтай вялікай, запоўненай людзьмі залы. Яны крычалі на старшыню. Сакратар каланіяльнай групы прагрэсіўнай партыі нешта паспешліва гаварыў на вуха старшыні.

Скрозь шум і гам пачуўся зычны голас Мхендзі:

— Пайшлі, хлопцы! Мы не дазволім, каб нас абражалі!

З многіх месц падняліся людзі і пайшлі да выхаду. Старшыня стукаў малаточкам.

— Парадак, лэдзі і джэнтльмены! Прашу вас!

— Каб нас зноў абразілі! — закрычаў Эдэбхай.

— Прашу прабачыць! — крыкнуў старшыня.

Негры прыпыніліся ля дзвярэй.

— Я хачу прасіць прабачэння, калі пакрыўдзіў містэра Лэнвуда! Я не хацеў гэтага, ведаеце...

— Ведаем... — насмешліва прагучаў нечый голас.

Мхендзі знакамі паказаў, каб усе селі на свае месцы. Калі негры зноў селі, старшыня пастукаў малаточкам.

— Слова да парадку вядзення мае містэр Лэнвуд.

Лэнвуд быў пачцівы і далікатны, як ніколі.

— Я прымаю ваша прабачэнне ў інтарэсах канструктыўнага супрацоўніцтва, пан старшыня. Прыемна бачыць, як вы прабуеце навучыцца добрым манерам, якімі вы заўсёды імкнецеся заткнуць каланіяльныя глоткі....

Старшыня зрабіўся чырвоны, як бурак. Сакратар, супакойваючы, паціснуў яму локаць.

— Я хацеў толькі сказаць, што старшыня вельмі ўжо груба выкарыстаў сваё права ў адносінах да містэра Мабі. Ён закрыў яму рот, нават не ведаючы, ці хоча містэр Мабі выступаць з прамовай. Бясспрэчна, дзеянні старшыні былі заўчаснымі. Я прысутнічаў не на адной нарадзе і ведаю, што такая працэдура ненармальная.— Лэнвуд сеў пад бурныя апладысменты афрыканцаў.

— Калі ласка, містэр Мабі, стаўце сваё пытанне.

— Дык вось, сэр, я ўжо казаў, што вельмі ўважліва слухаў прамоўцу, асабліва, як ён гаварыў, што трэба вызначыць момант, калі каланіяльны народ здолее ўзяць на сябе кіраўніцтва сваімі ўласнымі справамі. Але паўстае пытанне: адкуль у вас, англічан, такое прыроджанае права, каб браць на сябе паўнамоцтва вырашаць пытанне аб здольнасці ці нядольнасці народаў самім весці свае ўласныя справы?

Негры крыкамі выяўлялі сваё адабрэнне; прамоўца, які сядзеў у прэзідыуме, устаў:

— Пан старшыня, каб коратка адказаць на пытанне містэра Мабі, скажу, што я, вядома, не думаю, каб у нас было такое прыроджанае права, як ён гаворыць...

— А як бы вы сказалі?— пачуўся голас з залы.

— Я не буду аб гэтым гаварыць, сэр. Але трэба глядзець фактам проста ў твар. А факты гавораць, па якому праву мы кіруем гэтымі калоніямі. На нас ляжыць адказнасць за іх, і наш абавязак апраўдаць гэтую адказнасць у тым сэнсе, што мы павінны вырашыць, што з'яўляецца найлепшым для каланіяльных народаў. Мы ўсведамляем, што ў нас няма прыроджанага права. І доказ гэтаму тое, што мы запрасілі вас,



*Да стар. 111.*

афрыканцаў, сюды, каб сумесна з намі прыняць удзел у вырашэнні пытання аб найлепшым шляху развіцця калоній...

— А як вы набылі гэтую «адказнасць»? — крыкнуў нехта.

Старшыня пастукаў малаточкам.

— Я магу адказаць на гэта, пан старшыня,— сказаў прамоўца.— Мы набылі нашу Імперыю так, як набываюць усе імперыі — шляхам заваявання. Але мне здаецца, і я кажу гэта без пагарды, што нашым сябрам-афрыканцам нехапае пачуцця гісторыі. Яны думаюць, што яны адзіны народ, які калі-небудзь быў заваяваны ці акупіраваны. Заваяванне і акупацыя — такія ж старадаўнія рэчы, як і вядомая нам гісторыя чалавецтва. Мы, на гэтых астравах, і самі былі некалі заваяваны. Брытанія калісьці была рымскай калоніяй, потым яна была заваявана варварамі з гярманскіх лясоў і, нарэшце, нарманамі. Але ад гэтых заваяванняў мы толькі выйгралі. Яны зрабілі нас такімі, якімі мы зараз з'яўляемся. Калі б нашы афрыканскія сябры ўсё гэта мелі на ўвазе і памяталі, што яны не адзіныя ў сусветнай гісторыі, яны б маглі многае зразумець і выйграць з сучаснага стану імперыялізма, які так хутка ідзе да свайго канца і з якім нам самім вельмі хочацца хутчэй скончыць.

Англічане, якія сядзелі ў зале, горача запляскалі ў далоні, негры маўчалі.

Наступным прамоўцай быў сакратар каланіяльнай секцыі прагрэсіўнай партыі.

— Пан старшыня! Мне здаецца, што першае пытанне, якое мы павінны самі сабе паставіць, гэта пытанне аб адносінах паміж палітычным і сацыяльным прагрэсам у калоніях. Мне здаецца, мы згубім асноўную ніць праблемы, калі не адкажам на гэтае пытанне рэалістычна.

Паводле нашага разумення сапраўдны палітычны прагрэс залежыць ад развіцця ў эканамічнай і сацыяльнай сферах. Без гэтага не можа быць ніякага плітычнага прагрэсу. Механізм прафсаюзаў, кааператываў і дэмакратычнага мясцовага кіравання неабходны не толькі з-за яго непасрэднага эфектыўнага ўплыву на ўзровень і ўмовы жыцця, але таксама і таму, што ён з'яўляецца арганізаваным выяўленнем грамадскай думкі, якая зацікаўлена ў захаванні дэмакратычнай працэдуры. Маючы ўсё гэта на ўвазе, мы, як правячая партыя, ужо сёе-тое зрабілі. Што мы зрабілі?

Мы ўвялі заканадаўства, якое цвёрда вызначае, што там, дзе гэта дазваляецца па Акту каланіяльнага развіцця і дабрабыту, законы калоніі павінны прадугледзець разумныя магчымасці для арганізацыі прафсаюзаў. Мы назначылі прафсаюзных саветнікаў. І вынікам быў велізарны скачок у колькасці арганізаваных рабочых у калоніях. Гэтая колькасць расце з кожным днём. Расце таксама лік і значэнне кааператываў. Мы выдаткавалі вялікія сумы грошай на карысць каланіяльных народаў. Мільёны фунтаў — хто хоча, можа праверыць — пайшлі на ахову здароўя і адукацыю, на жыллёвае будаўніцтва, на паляпшэнне дарог і чыгуначных ліній, на ўдасканаленне сельскагаспадарчых метадаў, на пабудову гаваней для марскіх суднаў і на барацьбу з эрозіяй глебы. За апошнія дзесяць год на гэта пайшло звыш ста пяцідзесяці мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

Адкуль ідуць усе гэтыя грошы? Яны ідуць з кішэні звычайнага падаткаплацельшчыка нашай краіны. Мы ўжо больш не багатая краіна; мы ўжо не першая сусветная дзяржава. Таму такая вялікая сума грошай кладзецца цяжарам на англійскага падаткаплацельшчыка. Аднак ён плаціць яе, і з ахвотаю. Чаму?

Цяпер мы падыходзім да самага галоўнага ў гэтай праблеме. У аснове выдаткаванняў усіх гэтых грошай, у аснове ўсіх нашых намаганняў ляжыць простая, але вельмі правільная ідэя. Мы ўпэўнены, што практыка кіравання, асабліва дэмакратычнага кіравання—самая цяжкая практыка, яна патрабуе вельмі ўважлівага вывучэння. Недастаткова перадаць уладу некалькім спецыяльна выбраным ці асабліва гарластым мясцовым правадырам. Ад такіх людзей, калі б мы перадавалі ім уладу, неарганізаваныя масы, якія не маюць за плячыма традыцый нацыянальнай дэмакратычнай працэдуры, не маглі б патрабаваць справаздачы. Таму мы вырашылі стварыць, пабудаваць традыцыю ўдзелу ў мясцовых справах праз прафсаюзы, мясцовае кіраванне і кааператывы. Канчатковай мэтай з'яўляецца перадача вярхоўнай улады ў рукі народа. Але гэта будзе апошні крок, а не першы. Я ведаю, гэтае становішча вядзе да вострага расчаравання асобных людзей, якія па сваёй адукацыі і палітычнай свядомасці стаяць далёка ўперадзе масы. Сёння мы часткова чулі такое расчараванне. Гэтыя людзі вінавацяць нас у тым, што мы недэмакратычныя, у той час як на самай справе наша дзейнасць накіравана на забеспячэнне дэмакратыі ў іх краінах. Мы можам зразумець іх і спачуваць гэтым расчараваным асобам, але наш першы абавязак — перад шырокімі ма-

самі каланіяльных народаў, а не перад невялічкай славалюбівай кучкай палітыканаў. Перадаць масы ў іх рукі да таго, як гэтыя масы дастаткова выспелі, каб кантраляваць і стрымліваць гэтых асоб шляхам належнага выкарыстання сваіх правоў, азначала б здрадзіць іх давер'ю і адказнасці перад каланіяльнымі масамі. Я не бачу, чаго нам саромецца ўсяго гэтага і таго, што тут гаварылася. Нашы намеры высакародныя, нашы справы ва ўсіх перад вачамі, наша мэта абвешчана. Заклік тут не да нас, а да гэтых асоб. Няхай яны далучаюцца да нас у вялікай справе падрыхтоўкі свайго народа да канчатковага прыняцця ўлады. Вось выйсце з іх расчаравання, вось шлях, ідучы па якім, яны сапраўды могуць паслужыць на карысць Афрыцы і яе народам.

Не паспеў сакратар сесці, як у паветра ўзляцела два дзесяткі рук. Лэнвуд, Удома і Мхендзі стаялі на нагах і шчоўкалі пальцамі. Але іх апярэдзіла жанчына. Гэта была ўпартая лэдзі Прагрэсіўная, яна сядзела ў Палаце абшчын і была прызнаным знаўцай каланіяльных спраў. Яна падтрымала і пашырыла заяву сакратара, а потым сказала:

— На самай справе — і вы ўсе гэта добра ведаеце — ва ўсіх нашых цяжкасцях ў калоніях вінавата не ўсеагульнае незадавальненне шырокіх *мас жыхароў калоній, а невялічкая, нікім не ўпаўнаважаная* і крыклівая меншасць. Маленькая кучка людзей з ганебнымі намерамі эксплуатуе адсталасць і невуцтва і баіцца свайго ўласнага народа. Гэта дэмагогі, якія бачаць, што мы стаім паміж імі і нестрыманай эксплуатацыяй іх уласнага народа. Сёння ў гэтай зале знаходзіцца адзін з тых, хто нясе адказнасць за тую жахлівую крывавую бойню, якая здарылася ў Плюраліі пяць год таму назад. Настаў ужо час, каб мы абвінавацілі гэтых людзей, пан старшыня, замест таго, каб быць гатовымі толькі абараняцца. Ужо час перастаць баяцца гэтай крыклівай і безадказнай меншасці, якая не прадстаўляе свайго народа. Я з жахам думаю аб тым, што бедныя, цёмныя народы калоній аддаюцца ім на літасць. Калі б гэтым людзям перадаць уладу, яны б прыгняталі і эксплуатавалі свой народ з такой бязлітаснасцю, перад якой наш так званы прыгнёт лічыўся б раем.

Мінулай зімою я была ў Панафрыцы, пан старшыня. І вось я сама пераканалася, што думае так званы адукаваны панафрыканец аб сваіх неадукаваных братах. Яны гавораць пра іх, як пра дзікуноў, і ставяцца да іх з такой пагардаю, да якой мы ніколі не даходзілі. З вашага дазволу я раскажу вам аб невялічкім інцыдэнце. Я правяла дзень, гэта была нядзеля, з жанатай парай. Муж быў вельмі здольны адвакат, ён некалі вучыўся ў Англіі. Яго жонка працавала тады нянькай. У іх было трое слуг. І вось за ўвесь дзень яны ні аднаго разу не абышліся хоць бы з адным з іх, як з асобай, *у якой таксама* ёсць чалавечыя пачуцці. Яны ўвесь час скардзіліся на гультайства сваіх слуг і рабілі гэта нават тады, калі тыя знаходзіліся ў пакоі. За снеданнем чалавек, які прыслугоўваў нам за сталом, павінен быў насіць белыя пальчаткі. У яго прысутнасці гэтая чароўная жанчына сказала мне, што ўсе насельнікі зараснікаў вельмі неахайныя і ім можна дазваляць прыслугоўваць за сталом толькі ў стэрыльных белых пальчатках. Я зірнула ў твар гэтага чалавека і ўбачыла на ім такі выраз, які бывае ў сабакі, калі яго б'юць хлыстом. Пазней гэты выдатны юрыст пры мне абразіў другога чалавека. Я ніколі не бачыла, каб які-небудзь гаспадар у нас, у Англіі, так абражаў свайго слугу. І гэта не адзіны выпадак... Не, пан старшыня! Мы павінны глядзець фактам проста ў вочы і прызнаць, што асноўнай масе афрыканцаў было б значна горш пад уладай гэтай меншасці, якая робіць выгляд, што кла-

поціцца толькі аб свабодзе свайго народа. Калі б маса афрыканцаў сапраўды магла свабодна выказаць сваю волю, то я амаль не сумняваюся, што пераважная большасць іх выказалася б за тое, каб мы засталіся, пакуль яны не адчуюць сябе здольнымі ўправіцца з іх так званым «цветам нацыі».

Толькі праз тры мінуты старшыні ўдалося навесці парадак. Мхендзі ўвесь час стаяў на нагах. Калі старшыня хацеў даць слова другому афрыканцу, Мхендзі сказаў:

— Лэдзі спасылалася непасрэдна на мяне. Я патрабую слова.

— Я ўжо назваў прозвішча наступнага прамоўцы,— цвёрда сказаў старшыня.

— Я адмаўляюся ад свайго права,— крыкнуў афрыканец.

— Я крыху ўжо стаміўся ад вас, людзі,— пачаў Мхендзі.— Мне надакучыла ўсё, што вы тут гаварылі пра расавую садружнасць, і пра свабоду, і пра ахову ад нас нашых так званых адсталых братоў. Мне надакучыла ўся гэтая лухта, таму што я вельмі часта чуў яе. Мне надакучыла ўжо знаёмая пагарда, якая гучала ў словах апошняга прамоўцы,— я нават не магу злаваць на яе. Лэдзі абвінаваціла мяне ў адказнасці за тых, хто загінуў у Плюраліі. Бясспрэчна, я адказваю за іх! Гэты цяжар я нясу адзін. Усімі сваімі вельмі прыгожымі словамі лэдзі не палегчыць яго. Але я не адхіляю яе абвінавачвання. Я адхіляю толькі яго першакрыніцу. І замест таго, каб спаборнічаць з гэтай лэдзі ў гульні ў палітычную траскатню, я раскажу вам, чаму я адхіляю першакрыніцу яе абвінавачвання. Я не затрымаю вас, абяцаю вам. Я ж ведаю — усёроўна гэта марная трата часу.

Калі-б хто-небудзь з тых людзей, што пачалі ваш рух, — тыя піянеры, што сядзелі ў турмах, галадалі і адпраўляліся ў ссылку за ідэі вашага руху, калі б яны цяпер сядзелі ў гэтай зале, ім стала б сорамна за тое, што здарылася з рухам, які яны распачыналі. Яны ведалі, што такое свабода... Магчыма, таму, што ў іх яе не было. Магчыма, толькі тыя, у каго яе няма, ведаюць, што такое свабода. Аднак, здаецца, і вы ведалі, што значыць свабода, калі вялі вайну супраць кантынентальнага заваёўніка. Тады было законным праліваць кроў, сваю і народа. Бясспрэчна, я прызнаю, вы лепшыя палітыкі, чым пачынальнікі вашага руху... Яны б не мелі нахабнасці, паслаўшы армію на падаўленне нацыянальных імкненняў народа, накінуцца потым на яго пераможанага правадыра і абвінаваціць яго ў адказнасці за крывепраліцце. Я ўпэўнены, у іх не хапіла б бессаромнасці гаварыць пра расавую садружнасць свабодных і роўных партнёраў, калі б яны ведалі ўсе факты пра сённяшняе становішча ў Плюраліі. Мне, напэўна, хацелася б з імі паспрачацца, калі б хто з іх абвінаваціў мяне. Але з гэтай лэдзі я спрачацца не хачу. Спадзяюся, яна атрымае павышэнне. Яна нядрэнна справілася з пасадай Міністра ці Памочніка міністра калоній.

Калі яна гаварыла, я думаў, што яна, напэўна, ведае аб расстрэле маёй жонкі і другіх жанчын некалькі тыдняў таму назад за тое, што яны адмовіліся пакінуць зямлю, дзе жылі нашы продкі. І я думаў: калі б хто з тых піянераў быў сёння тут, у гэтай зале, ён ці яна падышоў бы да мяне і сказаў: «Мхендзі, да мяне дайшлі сумныя весткі пра вашу жонку і пра другіх жанчын, і, нягледзячы на ўсе нашы разыходжанні, я хачу, каб вы ведалі, як я шкадую аб гэтым».

Спачатку мне было балюча, што ніхто з вас, прагрэсістаў, не пады-

шоў да мяне і нічога мне не сказаў. Потым я падумаў: не, нічога, я нават рады. Гэтыя людзі ўжо не наследнікі тых піянераў. Таму нават у адносінах з людзьмі ў іх не павінна быць таго вялікага цяпла, што было так характэрна для тых людзей. Вось і ўсё, што я хацеў сказаць, *пан старшыня. Я і цяпер чытаю творы піянераў вашага руху.* А вы?

Мхендзі сеў, потым зноў ускочыў.

— Пан старшыня! Ёсць яшчэ адно, аб чым я забыўся, але павінен сказаць, бо гэта больш важна, чым усё, што я тут гаварыў. Калі якая-небудзь з маіх заўваг будзе наогул апублікавана ў друку, я прашу ўключыць маю падзяку ўсім простым, далёкім ад палітыкі і сціплым людзям гэтай краіны, чые пратэсты перашкодзілі ўраду перадаць мяне ў рукі маіх ворагаў, калі ўлады Плюраліі патрабавалі маёй выдачы. Я глыбока ўдзячны ім за гэта.

Калі Мхендзі сеў, у зале наступіла доўгая, цяжкая цішыня. Англійскую частку публікі ахапіла няёмкасць і збянтэжанасць. Афрыканцы не маглі дабрацца да сэнсу прамовы Мхендзі. Большасць іх была з Панафрыкі і амаль што нічога не ведала пра Плюралію. Яны чакалі, ад вялікага Мхендзі палымянай успышкі, а не гэтай спакойна-сумнай і асцярожнай заявы. Таму яны здзіўлена паглядалі на яго. Мабі, які сядзеў побач, паклаў руку яму на плячо.

Нават старшыня быў збянтэжаны. Ён няўпэўнена пакашліваў.

— Спадзяюся, наступныя прамоўцы не будуць выходзіць за рамкі абмяркоўваемага пытання. Я магу запэўніць містэра Мхендзі, што, нягледзячы на ўсе нашы разыходжанні, у нас не такая ўжо халодная кроў, як яму здаецца...

Ён сеў на месца, нібы не ведаючы, што цяпер гаварыць ці рабіць.

Мхендзі закурыў люльку і адкінуўся на спінку крэсла. Падняўся Лэнвуд.

— Пан старшыня...

— Вам прадастаўляецца слова,— сказаў старшыня.

— Для пратакола: Я Томас Лэнвуд, кіраўнік Афрыканскай групы свабоды. Мой калега, містэр Мхендзі, толькі што ўліў у гэтую залу струмень суб'ектыўнай праўды аб каланіяльнай палітыцы. Я ўпэўнены, што вы зразумееце, што наш калега, які нядаўна перанёс цяжкую страту, пакутуе ад перанапружання нерваў. Таму я маю намер аб'ектыўна разгледзець тое, што ён сказаў, а потым развіць далей.

Перш за ўсё, я хачу звярнуцца праз вас да гэтай лэдзі, якая з такой пагардаю аднеслася да чарнаскурага «цвета нацыі». Але спачатку я мімаходам хачу сказаць, што за ўсе доўгія гады, што я бываю на нарадах і канфярэнцыях, я ніколі не сустракаў такога вульгарнага шавінізму, які яна праявіла ў адносінах да Мхендзі...

Лэдзі ўскочыла з месца.

— Я пратэстую, пан старшыня! Прамоўца абражае...

Другія белыя далучыліся да яе пратэсту. Негры апладыравалі.

— Мы моўчкі слухалі вашы абразы!— сярод гоману і шуму прагрымеў голас Лэнвуда.— А цяпер паслухайце нас!

— Няма неабходнасці закранаць канкрэтных асоб,—крыкнуў старшыня, стукнуўшы па стале малаточкам.

Ад яго слоў у зале зноў узняўся шум. Сакратар пачаў зараз-жа раіцца са старшынёй і з другімі членамі прэзідыума. У зале чорныя і белыя крычалі адзін на аднаго. Лорд Рослі, той самы малады пэр, што быў у Лойс на вечарынцы, заняў месца старшыні.

— Лэдзі і джэнтльмены!— загрымеў голас Рослі. — Таварышы! Калі ласка!

Ён падняў абедзве рукі ўгору і чакаў. Паступова ў зале ўстанавілася цішыня.

— Калі канфярэнцыю апаноўваюць страсці, разважлівасць пакідае яе. Няхай ніхто потым не скажа, што на нашай нарадзе адсутнічала разважлівасць, прашу вас. Я ведаю, наш друг, дэпутатка парламента, не будзе пярэчыць, што большасць нас у прэзідыуме адчувала, што яна занадта рэзка гаворыць аб чорным цвеце нацыі. Але ніхто не забараняе ёй мець сваю думку, таксама, як і містэру Лэнвуду, і яе ўважліва слухалі. Цяпер належным чынам выслухаем і містэра Лэнвуда. Гаварыце, містэр Лэнвуд.

— Дзякую, пан старшыня,— сказаў Лэнвуд. — Мне здаецца, я б не выканаў свайго абавязку, калі б нічога не сказаў — заўважце, мімаходам — *аб праяве шавінізму з боку члена партыі прагрэсу.* А цяпер я пераходжу да канкрэтнага пытання, узнятага гэтай лэдзі. Вы павінны, гаворыць яна, перайсці ў наступленне супраць гэтай славалюбівай, беспрынцыповай меншасці. Другімі словамі, вы павінны перайсці ў наступленне супраць нас, бо мы і ёсць тыя людзі, пра якіх яна гаворыць. Вельмі добра! Цяпер мы ведаем, дзе знаходзімся. Мы на арэне непрыкрытага імперыялізма, дзе дзейнічае закон: «падзяляй і ўладай». Адарваць кіраўнікоў ад мас народа, пасеяць у галовах людзей варожасць да сваіх кіраўнікоў — вось яе палітыка. Адно можна сказаць аб ёй добрага: яна гаворыць тое, што думае. Прынамсі, мы ведаем, дзе мы!

Нельга сказаць таго ж пра вашага сакратара, пан старшыня. Ён хацеў бы ашукаць нас салíднымі лічбамі аб дарогах, школах і бальніцах. На паперы ўсе яны выглядаюць цудоўна. Але мы не рэвізоры. Мы ведаем сапраўднае жыццё народа. Сапраўднасць не адпавядае цудоўнаму малюнку дасягненняў. Але калі б нават усе яго папяровыя дасягненні і былі сапраўднымі, то ці вырашае гэта праблему свабоды?

Адзінае, чаго вы, здаецца, арганічна не можаце зразумець, — гэта праблемы свабоды. Каланіяльныя народы рушылі ў паход, пан старшыня, не ў напрамку ўздыму, эканамічнага ці маральнага, а ў напрамку свабоды, у напрамку вызначэння сваёй долі, свайго ўласнага лёсу сваім уласным шляхам.

Нас абвінавачваюць у тым, што мы ўсё адмаўляем і знішчаем. Я не саромлюся прызнаць, што гэта так. Я б пачаў сумнявацца ў сваёй сумленнасці, калі б вы перасталі абвінавачваць мяне ў гэтым. Законнае прызначэнне самых высакародных, самых гераічных сыноў і дочак заваяванага і акупіраванага народа — у тым, каб знясільваць ворага, узрываць яго масты і паязды, перараэаць яго камунікацыі, сыпаць пясок у яго станкі. Інакш робяць толькі маральныя рабы ці здраднікі. Пакуль мы не станем свабоднымі, да таго часу мы павінны ўсё *адмаўляць і знішчаць.* Вы просіце нашага супрацоўніцтва. Добра! Вось адна, адзіная ўмова нашага супрацоўніцтва: калі вы будзеце гатовы абмяркоўваць з намі дату вашага адыходу з калоній, тады, і толькі тады, мы з ахвотаю пойдзем на супрацоўніцтва. Раб не супрацоўнічае з рабаўладальнікам! Мы адхіляем вашу прапанову! Мы вас перасцерагаем, адкрыта і публічна,— мы маем намер скінуць кайданы! Бітва пачалася!

Негры, усе як адзін, падняліся на ногі і бурна зааплядыравалі. Белыя ўскочылі з месц, паднялі рукі і прасілі слова. У прэзідыуме сакратар тузануў Рослі за рукаў:

— Дазвольце, я яму адкажу.

— Няхай яны выгаварацца, — адказаў Рослі. — Потым лягчэй будзе справіцца з імі.

— Яны сарвуць нараду.

— Не. Я ведаю іх. Няхай гавораць. Той хлопец у заднім радзе, здаецца, з іх кампаніі? Помніцца, бачыў яго недзе ў гасцях.

— Ён тут нядаўна, — сказаў сакратар, — Удома, здаецца, яго імя.

— Правільна, — сказаў Рослі. — Я дам яму слова... Джэнтльмен, там у куце, на заднім радзе, першым папаўся мне на вочы... Не, не вы; джэнтльмен з Афрыкі. Не, не вы. Управа ад вас... Так, так, вы, сэр. Калі ласка, ваша імя?

— Удома. Афрыканская група свабоды... пан старшыня!

Удома адчуў, што ўсе вочы павярнуліся ў яго бок, што людзі сочаць за ім і чакаюць. Яго пачало трасці. Ён сціснуў кулакі і падняў іх. Стрымаў дыханне:

— Пан старшыня! Нехта ў гэтай зале...

Яму было цяжка падбіраць словы. Ён вымаўляў іх з сілаю. Твар яго перакрывіўся ад гневу.

— ...Нехта ў гэтай зале пасмяяўся з Мхендзі, таму што яго рэвалюцыі не ўдалося скінуць ярмо рабства! — Ён узняў свае сціснутыя кулакі трохі вышэй і трос імі ў такт кожнага слова.— Тую лэдзі не турбавалі забітыя! Надта ўжо многа крыві на вашых руках, каб турбавацца аб яшчэ некалькіх забітых чарнаскурых! — Ён змоўк і пачаў прыслухоўвацца да глыбокай цішыні залы. Голас яго стаў больш гучным.— Лэдзі насміхалася. Яна насміхалася з таго, што была задушана яшчэ адна спроба неграў! Яна папярэдзіла нас аб тым, што нас чакае! Добра! Мы не забудзем! Але ў наступны раз!.. Але ў наступны раз!.. — Ён яшчэ раз прашаптаў скрозь зубы: — Але ў наступны раз! — Удома падняў правую, сціснутую ў кулак руку высока над сабою. Узняў галаву. Вочы яго загарэліся. — Мы не адступім! Нават калі пральецца мора крыві! Мы не адступім! — Ён доўга стаяў так — з узнятым над галавою кулаком; ён ведаў, што ўсе глядзяць на яго, што ў зале мёртвая цішыня, і ў гэтай вялікай цішыні яго пачало калаціць. У знямозе ён раптам сеў.

З хвіліну стаяла мёртвая цішыня. Потым галасы афрыканцаў зліліся ў гром адабрэння. А англічане, вызваленыя ад сілы Удома, пачалі перагаворвацца. Нават Лэнвуд, Мхендзі і Мабі далучылі свае галасы да крыкаў неграў.

У прэзідыуме сакратар усклікнуў:

— Божа мой!

— Так... У яго гэта глыбока засела, — сказаў Рослі.

— Ён небяспечны. Ён вар'ят!

У вачах пэра загарэўся злосны агеньчык:

— А вы б адчувалі сябе інакш, калі б вас заваяваў кантынентальны захопнік?

Перш чым сакратар паспеў адказаць, Рослі ўстаў і стукнуў малаточкам.

Удома паглядзеў у прэзідыум. Позірк яго праясянеў. Ён зноў бачыў людзей. Супакоіўся. Вярнуліся сілы. Лорд-старшыня ўсміхаўся. Удома павярнуўся да Лэнвуда. Той глядзеў на яго і імкнуўся злавіць яго позірк. Ва ўсмешцы Лэнвуда іскрылася адабрэнне. Удома таксама ўсміхнуўся і паківаў яму галавой...

* * *

Мхендзі паклікаў:

— Майк...

— Ужо вельмі позна, — перабіў Лэнвуд.— Спіце. Нам трэба добра адпачыць перад апошнім пасяджэннем.

— Што там? — пачуўся голас Удома.

— Хадзіце сюды на хвілінку, — паклікаў Мхендзі.

Удома падняўся з ложка і праз адчыненыя дзверы ўвайшоў у спальню Мхендзі. У іх былі два пакоі: ён, Лэнвуд і Эдэбхай жылі ў большым, а Мхендзі з Мабі — у меншым. Праз акно прабівалася святло месяца.

Удома сеў на ложак Мхендзі.

— Вы не спіце, Поль? — спытаўся Мхендзі.

— Не сплю.

— Раскажыце Майку тое, што расказвалі мне — пра дарогу праз джунглі, — папрасіў Мхендзі.

— Я расказаў Мхендзі, што старыя людзі ў гарах гавораць: праз джунглі ёсць дарога. Яны ўпэўнены ў гэтым.

— І што ж? — спытаўся Удома.

— Вы не разумееце? — Мхендзі прабаваў заглушыць сваё хваляванне.

— Не, — адказаў Удома.

— Плюралія на другім баку джунгляў, — сказаў Мабі.

Наступіла доўгая цішыня. Потым у цемры Удома кіўнуў галавою.

— Так, — прашаптаў ён. — Так, я разумею. Але вы ўпэўнены?

— Старыя людзі не гаварылі б без прычыны, — сказаў Мабі.

— Вам трэба будзе заваяваць свабоду першаму, — сказаў Мхендзі, — і толькі тады ў мяне будзе шлях назад. Разумееце, Майк?

— Так, — адказаў Удома. — Так, разумею...

— Гэта мая адзіная надзея, — сказаў Мхендзі.

Удома намацаў плячо Мхендзі і сціснуў яго.

— Мы будзем змагацца, каб яна стала явай, браце.

— Адзіная мая надзея, — паўтарыў Мхендзі.

Удома мацней сціснуў плячо Мхендзі. Яны доўга маўчалі. Потым Удома падняўся.

— Я абяцаю табе, браце, — прашаптаў ён і пайшоў назад у свой пакой.

## 6

Праз тыдзень пасля прыезду Удома і Лойс з поўдня, у тужлівы, марозны вераснёўскі вечар Эдэбхай ад'язджаў у Панафрыку. Праводзіць яго пайшлі ўсе — Лойс, Джо Фурс, Лэнвуд, Мхендзі, Мабі і Удома. У пакеце Удома нёс з сабою сотню экземпляраў апошняга выпуску ратātарнага часопіса «Вызваліцель». Эдэбхай павязе яго з сабою. Калі надышлі апошнія хвіліны расставання, усе стоўпіліся вакол Эдэбхая. Твар яго свяціўся нязменнай шчаслівай усмешкай.

— Не забудзьцеся, што вы наш Іаан Хрысціцель, — сказаў Лэнвуд. — Вы расчысціце для нас шлях.

— Беражыцеся, — сказала Лойс.

— І час-ад-часу пішыце, — уставіла Джо Фурс.

— Дзякую за ўсё, Джо, — сказаў Эдэбхай. — Вы, жанчыны, клапа-

ціліся пра нас. Пра мяне клапаціліся вы, Джо. Дзякую. І вам таксама, Лойс. Паклапаціцеся пра майго земляка.

Усе яны былі трохі пад чаркаю, нават Лэнвуд і Удома — выпілі дзве бутэлькі шампанскага.

— Падрыхтуй для мяне дом, — сказаў Мхендзі, — і пасадзі туды прыгожую і простую жанчыну.

— Абавязкова, брат, абавязкова.

— Адыйдзіце ад дзвярэй! — пачуўся голас кандуктара.

Эдэбхай павярнуўся да Удома, і ўсмешка знікла з яго вуснаў. Вочы яго сталі хмурнымі і сур'ёзнымі.

— Ну, зямляк...

— Помні, — сказаў Удома, — я чакаю.

Яны паціснулі адзін аднаму рукі. Удома адчуў, што левай, свабоднай рукой Эдэбхай засунуў нешта яму ў кішэню.

— Табе гэта спатрэбіцца больш, чым мне, зямляк.

— Галоўнае не ў гэтым.

— Не забуду, зямляк. Я цябе не падвяду.

Кандуктар паспешліва пайшоў па платформе і пачаў зачыняць дзверы.

— Ой, Дзік... — усхліпнула Джо Фурс, быццам толькі цяпер зразумела, што ён сапраўды ад'язджае. Яна парывіста і моцна абняла яго і адвярнулася.

Эдэбхай усім паціснуў рукі.

— Хутчэй! — крыкнуў кандуктар і засвістаў.

Эдэбхай увайшоў у вагон. Поезд рушыў з месца.

«Вось як ён паедзе», — падумала Лойс. Яна адчула, што пабач стаіць Мабі і ўважліва сочыць за ёю.

— Вось, як ён паедзе, — прашаптала яна.

— Мы так паедзем усе. Мы належым Афрыцы, а не Афрыка нам.

Эдэбхай высунуўся з акна.

— Мы разлічваем на цябе! — у крыку Удома чулася нястрымная страсць.

Эдэбхай моўчкі кіўнуў і пачаў махаць рукою. Ён махаў, пакуль яго белая насавая хустачка не знікла з вачэй.

— Гэта пачатак, — прамовіў Лэнвуд.

Удома ўсунуў руку ў кішэню і намацаў пачак асігнацый, якія паклаў туды Эдэбхай.

— Так, — сказаў ён. — Гэта пачатак. Пойдземце.

Калі яны выйшлі з вакзала, Лойс узяла яго пад руку.

У той жа вечар Удома пераехаў да Лойс.

* * *

Удома падняў галаву і прыслухаўся. За дзвярыма яму пачуўся лёгкі шум. А можа гэта толькі здалося? Было ціха і ніхто не ўваходзіў. Але ўсё ж ён чуў нешта. Удома ўстаў і выйшаў у калідор. Так, яму не здалося — прыходзіў паштальён. Ён пазнаў зеленавата-блакітны канверт авіяпошты, што ляжаў на палавіку. Ліст ад Эдэбхая. Ён прыглушыў сваё раптоўнае хваляванне. Можа і гэты ліст — такі ж, як і ўсе. Ужо тры месяцы кожны зеленавата-блакітны канверт прымушаў яго сэрца радасна біцца, і кожны раз — адна і тая-ж гісторыя. Яшчэ не час. Яшчэ не час. Ён памыліўся ў Эдэбхаі? Не, не. Такія справы хутка не робяцца. Але,

божа мой, чаму так доўга! Ва ўсякім выпадку, не хвалюйся. Гэты ліст— такі ж, як і ўсе папярэднія. Як і ўсе папярэднія.

Ён пільна паглядзеў на канверт. Калі б толькі... Нагнуўся і падняў яго з падлогі. Трымаючы яго ў руцэ, ён пайшоў назад з халоднага калідора ў пакой. Бр-р, як холадна! Нават цяпло газавага каміна не прагнала холад. Ён хадзіў навокал стала, пазіраючы скрозь вокны. На двары ляніва і лёгка плылі ўніз вялікія, як камякі ваты, сняжынкі. Здавалася, што яны асцярожна клаліся на зямлю. Так, яны не падалі. А зямля ляжала, ухутаная белай і лёгкай, як пена, коўдрай.

Ён адвёў вочы ад падаючага снегу і разарваў канверт.

«Дарагі зямляк!

Гэты ліст будзе вельмі кароткі, праз паўгадзіны я павінен ісці на аперацыю. Я толькі хацеў паведаміць, што справа, нарэшце, зрушыла з месца. На тым тыдні ў мяне адбудзецца сустрэча з трыма купцамі, і я думаю, што-небудзь з гэтага выйдзе. У іх ёсць грошы на газету, і я пераканаю іх у тым, што гэта ў іх жа інтарэсах.

Я ведаю, што ты лічыш вельмі неабходным абавязкова дабіцца падтрымкі з боку правадыроў і старэйшын. Я ўжо тры месяцы прабую іх угаворваць, але іх цікавяць толькі іх уласныя пасады і месцы ў заканадаўчай камісіі, а таксама ці запросяць іх на баль да губернатара. Ад іх карысці мала, мой землячок, і нам прыдзецца абысціся без іх. Мы ніколі не пачнем, калі будзем чакаць іх згоды. Іх не цікавіць свабода народа ці краіны. Яны сапсаваныя карупцыяй. Калі мне ўдасца пераканаць гэтых трох купчыкаў даць грошы, ты можаш прыехаць, і мы пачнем. Думаю, ты згодзішся са мною, што гэта лепшы план, таму што я не бачу іншага шляху для тваёго звароту. Напішы, ці ўхваляеш...»

Астатняе было прыватным: некалькі слоў Лэнвуду і другім і трошкі пра сваё жыццё. Напішы, ці ўхваляеш... Удома зноў прабег вачыма гэтае месца. Напішы, ці ўхваляеш...

— К чорту гэтых правадыроў і старэйшын! — крыкнуў ён.

Ён падышоў да пісьмовага стала і сеў. Дык яны не хочуць супрацоўнічаць. Нават калі справа ідзе аб свабодзе іх краіны. Добра, калі яны не будуць, а купцы будуць, тады мы павінны мець справу з купцамі. Але народ, ці пойдзе ён за намі без правадыроў і старэйшын? Ці пойдзе? А калі няма іншага шляху... Прыдзецца вырваць народ з-пад уплыву правадыроў і старэйшын. Вось выйсце.

Удома адшукаў авіяпаштовы бланк і ўставіў яго ў машынку. Хвілінку падумаў, выняў яго, падлажыў капірку і чысты ліст паперы і зноў, уставіў у машынку. Ён пісаў:

«Дарагі Дзік!

Толькі што атрымаў твой ліст і зараз жа адказваю, каб ты мог дзейнічаць далей. Ты ведаеш, чаму ў цяперашні час я лічу вельмі важным мець на нашым баку правадыроў і старэйшын, але калі яны не хочуць далучацца да нас, прыдзецца ісці без іх. Гэта будзе нялёгка, таму што народ у іх руках. Але мы знойдзем шлях схіліць народ на наш бок. Пастарайся, каб твае купцы аплацілі кошт маёй паездкі дадому. Скажы ім, што калі я прыеду, мы зможам аб усім дамовіцца і абмеркаваць планы. Але вельмі важна, каб ты не даваў ім ніякіх сур'ёзных абяцанняў, калі гэта можна. Ты ведаеш, што я маю на ўвазе. Абяцай ім такія пасады, як, напрыклад, шэфа ці старшыні, ці нават казначэя партыі, калі яна будзе створана, але не абяцай ім нічога, што датычыцца палітыкі. Скажы ім, што аб гэтым лепш пагаварыць са мной, калі я прыеду. Я інфармую нашу групу, але ты дзейнічай...»

* * *

Лойс з ляскатам зачыніла дзверы, патупала нагамі аб падлогу і стрэсла з паліто снег. Потым прыхілілася да сцяны і скінула боты. Хоць яны і падбітыя футрам, але ногі яе былі халодныя, як лёд. Пальцы адубелі і не згіналіся.

— Майкл! — гукнула яна весела. — Дапамажы, Майкл! Твая жанчына пакутуе ад марозу! Божа, як брыдка на вуліцы!

— Яго няма дома, — пачуўся голас Джо Фурс.

Лойс пайшла ў гасціную і села за пісьмовы стол Удома. Зноў ліст ад Эдэбхая. Яна таропка прачытала яго. Так, той дзень прыдзе. Але цяпер яна ведала, што гэта будзе толькі часовае расставанне. Яна паедзе да яго як мага хутчэй, дзе б ён ні быў. Цяпер яе карэнні ўраслі ў яго, жывяцца яго каханнем, жывуць.

Яна прачытала незакончаны адказ, які ўсё яшчэ ляжаў у машынцы. Так, калі-небудзь ён паедзе. Паедзе выконваць свой абавязак. Але цяпер яна думала аб гэтым без страху. Іх сэрцы злучаны. І калі ён будзе жыць, — а яна адчувала, што ён буде жыць і пераможа, — яна паедзе да яго.

Яна паглядзела, над чым ён працуе. Ён працуе страшэнна многа, больш, чым іншыя з яго групы, усе разам. Ён сапраўдная рухаючая сіла. Яго з'яўленне разварушыла ўсю групу. Да яго прыезду яны былі жменькай летуценнікаў. Цяпер нарадзілася арганізацыя. І ў іх цяпер больш клопатаў, чым мар. Нават Мхендзі ізноў пачаў верыць. Ён нават кінуў піць. І хоць Том усё яшчэ іх намінальны лідэр, усе яны павярнуліся да яго, Майкла, і яго слова з'яўляецца найбольш важкім. І ўсё гэта за якія-небудзь шэсць месяцаў. А ў «Вызваліцеля», які пачаў выходзіць як нешта безразважнае, цяпер ва ўсім свеце ёсць падпісчыкі, нягледзячы на тое, што ён друкуецца на ратататы. Дзякуй богу, цяпер яны ў сілах заказваць агенцтву набіваць васкоўкі і размнажаць экземпляры! Як ён скакаў у той дзень, калі Каланіяльны Камітэт Савета Нацый прывёў вытрымкі з часопіса, як з аўтарытэтнай крыніцы па пытаннях Афрыкі! Іх чыталі па радыё, і ён аж вар'яцеў ад радасці і нават трошкі выпіў з усімі.

Раптам, на кароткае імгненне, нібы вачыма чужога чалавека, яна ўбачыла сябе за сталом свайго мужа.

— Божа, якога ты з яго робіш героя! — прагаварыла яна ўголас.

Гэтае імгненне прамільгнула, і яна ўжо не магла бачыць сябе адарванай ад Удома.

Лойс устала з-за стала, падышла да кніжных паліц і ўзяла кнігу. Яна ёмка ўселася ля каміна і чытала да дзесяці гадзін. Потым уключыла радыё і слухала апошнія паведамленні. Пасля гэтага яна пайшла да Джо. Ціхенька прыадчыніла дзверы. Джо глыбока спала і гучна храпла. Яна пайшла на кухню і прыгатавала лёгкую вячэру. Прынесла яе ў гасціную і пачала есці, чытаючы кнігу.

А палове адзінаццатай яна легла ў пасцель. Агонь у каміне застаўся гарэць. На лёгкім аганьку кухоннай пліты яна пакінула каструлю з густым супам. У свабодным баку ложка, яна паклала дзве бутэлькі з гарачай вадой. Ён прыдзе скарчанелы, стомлены і галодны. Ён ацэніць усё гэта...

За вокнамі мерна падаў снег, ён ужо больш не плыў у паветры, а падаў, густа і шпарка...

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## САПРАЎДНАСЦЬ

### Раздзел першы

1

Удома абапёрся на поручні і глядзеў на месяц. Ён думаў: месяц — гэта жанчына, якая супакойвае сваіх дзяцей сярод жахлівых страхаў ночы. Потым падумаў: не, жанчына бывае блізка і дакранаецца да цябе, а месяц далёка... Але ён супакойвае. Свяці ярчэй, месяц! І я зноў убачу Афрыку.

Роўна і няспынна пастуквалі рухавікі парахода, мерна плёскаліся хвалі аб яго барты. І скрозь густы стук машын і плёскат вады чулася нізкае і ціхае гудзенне жывога мора. А карабель быў адзінай светлай кропкай на цёмнай гладзі вады. Месяц, хоць і светлы, быў занадта далёка, і ў вадзе не было яго адбітку. А недзе ўлева, скрытае заслонай цемры, ляжала ўзбярэжжа Афрыкі.

Маці-Афрыка! О, Маці-Афрыка, дай мне сілы для такога подзвігу, які я павінен зрабіць. Не забудзь мяне сярод многіх тваіх дзяцей. Я ўзвялічу цябе. Я прымушу ўвесь свет паважаць цябе, тваіх сыноў і дачок. Я зраблю, каб над табою зноў заззяла сонца свабоды. Для гэтага я і пакінуў цябе на такі доўгі час і жыў на чужыне сярод чужых людзей, пакутаваў, зносіў здзекі, мёрз, галадаў. Я пакінуў цябе для таго, каб вярнуцца і вызваліць цябе, тваіх дзяцей і ўзвялічыць сярод тых, хто глядзіць на цябе цяпер з пагардаю. Ім не зразумець твайго жыцця. Для іх ты нешта такое, што трэба эксплуатаваць, а твае дзеці — стварэнні, якіх трэба трымаць у пакоры. Цяпер гэта павінна скончыцца. Я скончу з гэтым, калі ты дапаможаш мне. Я не бачу цябе, але адчуваю, што ты там, у цемры. Заўтра я буду з табой, пры табе. Не дай мне згубіцца. Дапамажы мне, сачы за мной, вядзі мяне. Маё імя Майкл Удома. Не забудзь— Майкл Удома, твой збавіцель...

Ён павярнуўся спіною да поручняў і пайшоў, шырока ставячы ногі, па вузкай палубе, пакуль не прыйшоў да лесвіцы, якая вяла ўгору, на палубу першага класа. Ён прыпыніўся і глянуў у абодва бакі. Нікога няма. Зверху да яго вушэй ясна даносілася музыка. Ён падняўся па прыступках. Параход ледзь-ледзь пагойдваўся.

То была апошняя ноч падарожжа. На верхняй, шырокай і прасторнай палубе на карме давалі развітальны вечар танцаў. Рознакаляровыя лямпачкі і сцягі былі развешаны над месцам танцаў. На ўсіх былі вячэрнія гарнітуры. І ўсе былі белыя, за выключэннем невялічкай групкі людзей, што сядзела адасоблена ад другіх за адным са столікаў. І сярод усіх іх з падносамі ў руках увіхалася параходная прыслуга — чорныя твары, белыя касцюмы, прыносячы тое, чаго патрабавалі ўдзельнікі банкету. А над усёй гэтай весялосцю адзіным дахам быў чорны, усеяны зоркамі купал неба. Ды ці патрэбна было што другое гэтай цёмнай трапічнай ноччу...

Удома непрыкметна прайшоў у густы цень вялікай трубы, воддаль ад банкетуючых. Адсюль, нікім не заўважаны, ён наглядаў за публікай.





Выстаўка работ студэнтаў Беларускага дзяржаўнага мастацка-тэатральнага Інстытута. Л. Эрлер (І курс). Эцюд «На будоўлі Васілевіцкай ГРЭС». Масла.

В. Ганчароў. (III курс). Эцюд «На конным калгасным двары». Масла.

Фота А. Дзітлава.



**Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР свінарка Маладзечанскай сельскагаспадарчай арцелі Ніна Новік.**

**Фота А. Дзітлава.**



**Выстаўка работ студэнтаў Беларускага дзяржаўнага мастацка-тэатральнага інстытута. Л. Гуміleўскі (II курс). «Дарога дружбы». Пласцілін.**

Фота А. Дзітлава.



**Выстаўка работ студэнтаў Беларускага дзяржаўнага мастацка-тэатральнага інстытута. В. Ягораў (II курс). «У скверы». Лінагравюра.**

Фота А. Дзітлава.

Гэта былі гаспадары сённяшняй Афрыкі — мужчыны і жанчыны. Яны думаюць, што заўсёды будуць кіраваць Афрыкай. Гэта іх смачны кавалак, і яны ўхапіліся за яго. Правільна, крычыце «бой»! Параходныя афіцыянты ўсяго толькі чарнаскурыя слугі — боі. Усе чорныя — боі. А гэтыя чарнаскурыя пасажыры першага класа, яны ведаюць, што іх ледзь церпяць тут. Нягледзячы на іх білеты першага класа, гэтыя белыя ўсёроўна лічаць іх адсталымі неграмі. Па чарзе танцуюць з двума жанчынамі! Шэсць мужчын і дзве жанчыны. Яны ведаюць, што негры не адважацца запрасіць на танцы каго з белых жанчын. Поўны параход цывільных служачых, які заўтра прышвартуецца ў афрыканскім порце. Ці будуць яны танцаваць, ці пасябруюць яны з васьмю афрыканцамі, што едуць з імі ў адным класе? Вядома, не! Для іх афрыканцы — пабочныя асобы. Пабочныя ў сябе, на сваёй жа радзіме!

Зірні на тую вунь жанчыну. Яна сапраўды думае, што нешта сабой уяўляе. Эх! Калі я гляджу на цябе, жанчына, і думаю пра Лойс...

Лойс. Так. Шкада, што так здарылася. І Мабі бразнуў дзвярыма перад самым маім носам, калі я хацеў зайсці да яго на другі дзень. Балюча. Я гэтага не забуду. Шкада Лойс. Ніколі не ведаеш, што ў іх у галаве. Толькі б дазволіла ўсё растлумачыць. Смешна, як яна пужала мяне і як глядзела на мяне! Пісаў ёй, а яна не адказвае. Мхендзі, той таксама злуе. Але выгляду не паказвае. Лэнвуд усё разумее. Са мной, як і раней. Ад яго адна карысць, што добра піша і гаворыць. Патрэбны як фігура, лідэр. Нічога больш. Але мы можам выкарыстаць яго імя. Лойс. Мужчына ніколі не разумее, чым з'яўляецца для яго жанчына, пакуль яе не страціць. А яна была добрая. Не такая, як Мэры Фелд. Як можа Лэнвуд жыць з такой жанчынай, якая пагарджае ім!

Ты скора сп'янееш, жанчына! Ты думаеш, што прыгожая, і выстаўляеш сваю фігуру. Я ні за што на свеце не звязаўся б ні з кім з вас! Лойс... Працягвайце, прыяцелі! Смейцеся! Піце! Весяліцеся! Сёння свет ваш! А заўтра вам прыдзецца даваць нам адказ. Гэтае заўтра прыдзе. Весяліцеся! Смейцеся і піце. Піце і смейцеся...

Раптам ён адчуў, што нехта стаіць за яго спіной і сочыць за ім. Ён насцярожыўся і павярнуўся. Ззаду яго ганарыста стаяў невысокі, каржакаваты белы галоўны сцюард, засунуўшы рукі глыбока ў кішэні.

— Дык вось... — у голасе белага чалавека чуўся гнеў і насмешка.

Удома выйшаў з ценю. Некалькі імгненняў ён пільна ўглядаўся ў чалавека, у яго ганарыстую паставу. Потым пакрочыў міма яго да лесвіцы.

— Гэй, ты! — крыкнуў той.

Удома на імгненне затрымаўся, потым пайшоў далей, пакуль не дабраўся да прыступкаў. Тут ён паклаў абедзве рукі на поручні, пастаяў, павярнуў галаву і прашыпеў:

— Ідзі ты к чорту!

На твары чалавека ён убачыў здзіўленне. Ён пратупаў па лесвіцы, якая вяла ў паўцемру трэцяга класа. Уніз па вузкай неасветленай палубе, уніз яшчэ па адной лесвіцы, і ён апынуўся ў панурым, набітым людзьмі прыцемку. Ніводнага белага, ні рознакаляровых лямпачак, ні чысціні, ні афіцыянтаў. З рэпрадуктара гучала танцавальная музыка, якая перадавалася зверху. Але тут не было месца для танцаў, не было высока ўзнятага зорнага купала неба, каб напаіць ноч рамантыкай. Тут, унізе, гарачыня трапічнай ночы прыгнятала і душыла...

Каля дзвярэй сядзела жанчына і карміла грудзьмі дзіця. Тыя, што яшчэ не леглі, сядзелі на цвёрдых драўляных лаўках у паўцемры ста-

ловай. Адны гулялі ў карты другія гутарылі, некаторыя проста сядзелі так. Яны ўсе ўжо ўпакавалі свае рэчы і для іх цемная ноч цягнулася бясконца доўга. Яны не маглі прабавіць час у танцах ці за бутэлькай віна, як тыя, што наверсе. А грукат машын тут быў больш аглушальны, чым там.

— Як там, наверсе? — спыталася жанчына.

— Танцуюць,— адказаў Удома. — Яны прыбраліся і весяляцца.

Ен падаўся ў сталовую, але на паўдарозе перадумаў, збочыў улева і ўвайшоў у маленькую каюту, у якой ён ехаў разам з трыма другімі пасажырамі. Падлога была застаўлена багажом. Ілюмінатар быў шырока расчынены, але ў цеснай каюце было душна. Двое, што ляжалі на верхніх ложках, былі зусім голыя, і толькі на сцёгнах былі маленькія шматкі тканіны. Яны спакойна гутарылі пра свае хатнія справы.

— Як у іх там, наверсе? — запытаў адзін з іх Удома.

— Танцуюць, — адказаў ён.

— Вы адразу падняліся наверх? — запытаўся другі.

— Так.

— Вось гэта, пэўна, было відовішча, дружа!

— А вы тут, унізе... І яны едуць у вашу краіну.

— Ну і што ж з таго? У іх грошы.

Першы з іх паківаў галавою:

— А калі б і ў вас былі грошы, ці прынялі б яны вас у сваю кампанію? А, містэр Удома?

— Вы ведаеце, што не, — адказаў Удома. — У тых васьмі, што там, на верхняй палубе, ёсць грошы. Але я бачыў іх. Яны сядзяць асобна. Ім нельга танцаваць з кім-небудзь з белых. Белыя не размаўляюць з імі. Справа не ў грошах, а ва ўладзе.

— А я не бачу, як гэта я магу быць падобным да іх. Я не вучыўся іх манерам, і нават, калі б у мяне было многа-многа грошай, я ўсёроўна не ведаў бы іх манер. Усё ж яны зрабілі памылку, што не дапусцілі вас, містэр Удома, да сябе. Вы ж ведаеце, як там па-іхняму і што.

Першы сказаў:

— Здаецца, па-вашаму, містэр Удома, усе павінны быць роўнымі.

— За гэта трэба змагацца, — прамовіў Удома.

— Вы вельмі сярдзіты чалавек, — сказаў другі.

— Прыемна сердаваць за свабоду,— прагаварыў першы.

Удома адчуў, што сарочка становіцца мокрай і пачынае прыліпаць да цела. Адчуў, як пацеркі поту выступаюць на ілбе і верхняй губе. Ён устаў з ложка і, пераступаючы цераз чамаданы, прабраўся да дзвярэй.

— Так, — сказаў ён. — Прыемна сердаваць за свабоду, але лепш за яе змагацца.

Жанчына, што сядзела ля выхаду, узняла на яго вочы, калі ён праходзіў міма.

— Вы зноў на самы верх?

— Не, проста на палубу. Тут духата.

— Калі дзіця засне, я прыду і пагавару з вамі. Сёння вы вельмі злосны, містэр Удома.

Ён падняўся на трэцюю палубу і прыхіліўся да поручняў. Ён уважліва ўглядаўся ў начную цемру, быццам хацеў праццаць яе сваёю воляю і ўбачыць бераг.

О, Маці-Афрыка...

Зноў плёскат вады і гудзенне мора, і роўная, вібрыруючая пульсацыя рухавікоў. А поўны месяц усё яшчэ вісеў на небе, толькі ніжэй, але і цяпер на вадзе не было яго водбліску. Зоркі ярка гарэлі. Зямля патанула ў цемры, але гэта пройдзе. Усё гэта пройдзе.

Лойс магла б аблягчыць адзіноту. Але нават і яна не разумела. А яна некалі па-сапраўднаму мяне кахала.

О, Маці-Афрыка...

Неўзабаве падышла жанчына і абаперлася на поручні побач з ім.

— Ваша дзіця спіць?

— Спіць, містэр Удома.

— Чаму вы ўсе завеце мяне «містэр Удома»?

— Вы не такі, як усе мы. І вы многа не гаворыце. А калі гаворыце, мы ўсе слухаем. І адчуваем гнеў, які кіпіць у вас.

— Гэта не прычына, каб зваць мяне «містэр».

— Гэта для нас. Але не аб гэтым я хачу пагаварыць з вамі. Што вы будзеце рабіць, калі прыедзеце дамоў? Вы доўгі час адсутнічалі.

— Я вучыўся. Цяпер я буду змагацца за наш народ.

— А як вы будзеце змагацца?

— Чаму вы пытаецеся?

— Хіба я не належу да вашага народа? Памятаеце, я гаварыла вам, што паехала ў Англію, каб сваімі вачамі паглядзець, як жывуць людзі, што кіруюць намі. Грошы ў мяне ад гандлю, і я рашыла паехаць на тры месяцы і самой паглядзець. Я прабыла толькі месяц, ды і то таму, што раней не было парахода. Вы ведаеце, што здараецца там з чорнымі, і я хацела хутчэй вярнуцца назад. Я прыехала да іх з пачуццём дружбы...— яна не закончыла фразы.

Параход зрабіў вялікі паварот улева, гэта можна было ўбачыць па крывой лініі светлай пены за кармой.

— Я буду змагацца ўсімі магчымымі сродкамі,— сказаў Удома. — Але спачатку трэба арганізаваць партыю. У Англіі ў мяне засталіся сябры, а адзін ужо дома. Ён гаварыў з правадырамі і старэйшынамі, але яны не хочуць ісці з намі, прыдзецца пачаць без іх.

— Гэта будзе нялёгка,— сказала жанчына.

— Мы жадаем свабоды, а не лёгкага шляху.

— Вам спатрэбіцца дапамога.

— Толькі падтрымка народа. А гэта вялікая дапамога.

— Тады не забудзьце пра жанчын, містэр Удома... Калі вы пачнеце і я ўбачу, што там у вас выходзіць, прыходзьце да мяне, і я пагавару з жанчынамі на кірмашы. Маё імя Сяліна. Запомніце яго. І не забудзьце пра жанчын.

Удома павярнуў да яе галаву, хочучы ўбачыць яе твар. Але ў цемры нельга было яго разгледзець.

— Я не забуду,— прагаварыў ён.

— Пайду назад,— сказала жанчына.— Вам трэба да заўтра адпачыць.

— Я трохі пастаю яшчэ тут.

Яна пакінула яго моўчкі, як і прыйшла.

Удома ўглядаўся ў цемру, што ахутала Афрыку.

О, Маці-Афрыка!

2

Удома сеў і пасунуў свой пашпарт па дошцы невялічкага картачнага століка.

Чарнаскуры сяржант паліцыі адсунуў убок нейкія паперы і накрыў пашпарт сваёй вялізнай рукой.

— Прозвішча?

Удома маўчаў, пакуль сяржант не паглядзеў на яго. Ён холадна глянуў у вочы сяржанту.

— Чаму спачатку ўсе белыя?

Позірк сяржанта зрабіўся халодным і жорсткім.

— Вы — трэці клас.

— Дык чаму ж я першы з васьмі другіх, яны ж таксама чорныя, як я... і вы?

Сяржант уздыхнуў і глянуў на яго доўгім марудлівым позіркам. Потым перавёў вочы на пашпарт, зняў з яго сваю вялікую пяцярню і раскрыў яго.

— Вы Майкл Удома?

— Я.

Сяржант пакапаўся ў паперах. Потым праштампаваў пашпарт і пасунуў яго назад, да Удома.

— Наступны!

Месца Удома заступіў адзін з чорных пасажыраў першага класа.

Удома спусціўся ўніз, у трэці клас, па свой багаж. Сяліна ўсё яшчэ была там, наглядаючы за трыма насільшчыкамі.

— Як там? — спыталася яна.

— Нам прыйшлося перачакаць усіх белых,— адказаў Удома.

— Я ведала гэта. Вось чаму я ўсё яшчэ тут.

— А гэта ж наша краіна!

— Супакойцеся, містэр Удома. Усё пераменіцца.

— Так, пераменіцца...

Сяліна павярнулася да аднаго з насільшчыкаў.

— Вы панясеце чамаданы містэра Удома ў таможню.

Удома хацеў падзякаваць ёй. Яна толькі замахала рукамі і зручней прывязала дзіця да спіны, потым пачала павольна ўздымацца па лесвіцы. Удома толькі цяпер убачыў, што яна босая. Яна адмовілася ад чаравікаў. Яна ж дома, дома яна будзе хадзіць босая. Ён падумаў: у яе хапіла б грошай на білет першага класа, але яна ехала ў трэцім. Памятай пра жанчын, Майкл. Гэта яна сказала. «Памятайце пра іх».

Насільшчык сказаў:

— Усе рэчы вашы, са?

—Мае.

— Ідзіце, я прынясу.

Удома ўзяў два невялічкія чамаданы і падняўся наверх. Галоўны сцюард стаяў на версе сходняў, праводзячы пасажыраў. Пры набліжэнні Удома ён усміхнуўся. Удома пільна глядзеў на яго, калі праходзіў міма і спускаўся па сходнях на бераг. Сякунду ён пастаяў у нерашучасці на апошнім драўляным прыступку, азірнуўся і ступіў на афрыканскую зямлю. Яму раптам захацелася быць такім жа босым, як і Сяліна. Ён выпрастаў спіну і расправіў плечы. Борзда пайшоў у таможню.

Эдэбхай пісаў, што пастараецца сустрэць яго на прыстані, а калі не

зможа, каго-небудзь прышле. Удома агледзеўся вакол сябе. Усюды на сонцы рухаліся людзі: сонца Афрыкі і людзі Афрыкі.

Ён ступіў пад навес таможні і пачуў сваё прозвішча.

— Містэр Удома! Містэр Удома, са!

— Я тут! — адазваўся Удома. Цяпер ён адчуў сябе добра, упэўнена.

Да яго падышоў высокі хударлявы юнак: рукі з доўгімі пальцамі, доўгія ногі, ступні, як сілуэты караблёў — складныя, зграбныя і доўгія; яны і слізгалі па зямлі, як слізгаюць па вадзе караблі. Спыніўшыся перад Удома, юнак дакрануўся рукой да сваёй правай скроні.

— Я Сэмсан, са. Бой масы Эдэбхая.

— Прывітанне, Сэмсан.

— Мой гаспадар паслаў за вамі, са. І прыслаў вось гэта,— з кішэні сваіх туга нацягнутых кароткіх штаноў ён вывудзіў канверт.—Ён сказаў узяць таксі.

— Добра.

Сэмсан паставіў абодва чамаданы на стол інспектара. Хістаючыся пад цяжарам аднаго з вялікіх чамаданаў Удома, увайшоў насільшчык Сялічы. Разам з ім Сэмсан пайшоў па другі чамадан.

Калі Удома прайшоў таможанны прагляд і збіраўся ўжо выходзіць, увайшла Сяліна.

— Вашы сябры прыехалі? — спыталася яна.

— Так,— усміхнуўся Удома.

— Цяпер вы ўжо не такі сярдзіты. Гэта добра. Не забудзьцеся пра тое, што я казала.

— Не забуду. Цяпер я магу разлічыцца з насільшчыкам. Вялікае дзякуй.

— Гэта мая справа, — сказала Сяліна. — Бывайце, містэр Удома. Я буду чакаць вестак аб вашых справах.

— А дзе ж мне вас знайсці?

— На рынку. Спытайце толькі Сяліну. Бывайце.

— Бывайце, Сяліна.

Сэмсан выйшаў з-пад навесу, набраў поўныя лёгкія паветра, адкінуў назад галаву і адным выдыхам гучна і меладычна паклікаў:

— Таксі!

Яго твар расплыўся ў шырокай усмешцы, калі з усіх бакоў да яго з'ехаліся машыны. Стоячы ззаду, Удома ціхенька хіхікнуў.

* * *

— Зямляк!

Эдэбхай шырока раскінуў рукі і гучна зарагатаў.

— З добрым прыбыццём, дружа. З добрым прыбыццём!

Твар Удома асвяціўся ўсмешкай. Ён абхапіў Эдэбхая рукамі: гэта мой сябар, мой верны сябар.

Потым яны супакоіліся і сядзелі, пазіраючы адзін аднаму ў твар. Праз вокны струменілі праменні вячэрняга сонца. Пры яго святле шматлікая мэбля сярэдневіктарыянскага стылю выглядала шэра-карычневай і выцвілай. Сэмсан прынёс чай.

— Выбачай, што раней не падалі,— сказаў Эдэбхай.

— Нічога, затое я добра выспаўся,— адказаў Удома.— Мінулай ноччу я зусім не спаў.

— Чаму ж гэта, дружа?

— Так, нічога... Але ў Лондане я памёр бы з голаду, калі б не Лэнвуд. Каляды я правёў у іх. Ты ведаеш, як у іх.

— Жанчына?

— Яна.

— Так, ведаю.

— Для жанчыны няхораша так пагарджаць мужчынай.

— Ён ва ўсім залежыць ад яе.

— Нават, калі і так. Трэба як мага хутчэй выклікаць яго сюды... Ведаеш, Мабі бразнуў дзвярыма перад самым маім носам, калі я пайшоў ад Лойс.

— Няўжо?

— Сапраўды... Мне шкада Лойс. Яна добрая жанчына.

— Такое здараецца, зямляк.

— Але пасля гэтага мне было вельмі кепска. Калі б ты не прыслаў своечасова грошай на білет, я цяпер паміраў бы з голаду і быў бы, як бяздомны сабака. Міністэрства калоній адмяніла маю стыпендыю, таму што я надта ўжо многа займаўся сапраўднай справай.

— Трэба было пра ўсё гэта напісаць мне.

— Ты даволі ўжо мне дапамог,— сарамліва ўсміхнуўся Удома і зазірнуў у кубак.— Скажы, пра Лойс ты нічога не чуў?

— Нічога, з таго часу, як ты адплыў.

— А пра Мабі?

— Не.

Яны доўга маўчалі. Удома выпіў свой чай, павярнуўся тварам да акна і глядзеў скрозь шыбу.

— А як з купцамі?

— Заўтра ўвечары сустрэнешся з імі.

— Тут?

Эдэбхай засмяяўся.

— Не, зямляк. Мы пойдзем да іх. Яны лічаць сябе важнымі асобамі. З імі трэба быць асцярожным.

— Не турбуйся. А Савет правадыроў і старэйшын?

— Яны не хочуць прыняць цябе.— Эдэбхай устаў і падышоў да невялічкага стала ў куце. Ён узяў некалькі канвертаў і вярнуўся на сваё месца.— Як толькі ты мне напісаў, я паслаў ліст у Савет з просьбай выслухаць цябе. Вось іх адказ.

Удома прачытаў:

«Я павінен паведаміць вам, што ў працэдуру нашага Савета не ўваходзіць заслухоўванне невядомых асоб толькі таму, што яны аб гэтым просяць. Больш таго, Савет упаўнаважыў мяне паведаміць Вам, што па дакументах не значыцца, каб хто-небудзь з прозвішчам Удома калі-небудзь займаў высокую пасаду ў якасці правадыра ці старэйшыны ў адным з буйных плямён Панафрыкі. З гэтай прычыны Савет лічыць чалавека, пра якога Вы пішаце, славалюбівым выскачкай, з якім Савет, як традыцыйны прадстаўнік народа, не можа мець ніякай справы. Ваша інфармацыя аб яго дзейнасці ў Еўропе не ўяўляе сабой ніякага інтарэсу для Савета...»

Удома ўзняў вочы.

— Хто такі гэты Эндура, чый подпіс тут стаіць?

— Доктар Т. Т. С. Эндура — сакратар Савета, а таксама яго самы адукаваны і ўплывовы член. Ён прыходзіцца стрыечным братам цару паўднёвага народа. Ён тубыльны член Губернатарскага Савета. Яны

з губернатарам вялікія сябры. Сярод еўрапейцаў яго больш за ўсіх паважаюць. Калі я атрымаў гэты ліст, я пайшоў да яго. Я стараўся зрабіць усё, што мог, зямляк.

Удома зноў перачытаў ліст.

— Мы захаваем яго,— сказаў ён спакойна.— Ён можа быць карысным. А цяпер аб нашых планах. На параходзе я ўвесь час абдумваў іх...

Сонца зайшло. І адразу, раптоўна, дзённае святло змянілася цемрай трапічнай ночы. Са сваіх сховішчаў вылецелі маскіты. Яны апанавалі пакой і накінуліся на двух чалавек з нахабнай дзёрзкасцю. Увайшоў Сэмсан з пульверызатарам, у якім была сумесь — «керасінаніза», як ён яе называў. Удома і Эдэбхай выйшлі на веранду. Шум, які ўзнімалі начныя стварэнні, быў такі моцны, што ім прыходзілася гаварыць вельмі гучна, каб чуць адзін аднаго.

Эдэбхай даў Удома бутэлечку з таблеткамі.

— Па адной два разы ў дзень, пакуль не акліматызуешся.

Удома зноў загаварыў аб сваіх планах.

У небе шпарка паднімаўся месяц; спачатку ён толькі ледзь-ледзь разбавіў яго суцэльную чарнату, потым вырас, пасвятлеў і заліў зямлю лёгкім паўсвятлом, ад якога ўсё навокал зрабілася мяккім і прыгожым.

Сэмсан паклікаў іх вячэраць. У час вячэры яны размаўлялі. У паветры вісеў цяжкі смурод «керасінанізы», але маскітаў не было.

Яны зноў выйшлі на веранду. Агні нейкай легкавой машыны звярнулі з дарогі і, пагойдваючыся, пачалі набліжацца.

— Гэта людзі, якіх я запрасіў сустрэцца з табой. Усе яны маладыя, адукаваныя і не маюць ніякіх ілюзій адносна кіраўніцтва Савета. Яны маглі б стаць ядром.

— Колькі іх?

— Сёння будзе дванаццаць. Гэта найлепшыя. Але ёсць і другія. Яны прыехалі паглядзець на цябе і ўпэўніцца, ці праўда ўсё тое, што я пра цябе гаварыў.

Машына спынілася. Эдэбхай выйшаў, каб сустрэць іх. З дарогі звярнулі яшчэ дзве машыны і паехалі да дома Эдэбхая. Сэмсан на калясцы перавозіў з кухні ў гасціную кошыкі з півам і бутэлькі з віскі. Удома пайшоў у гасціную. Сэмсан ухмыльнуўся.

— Гэта для вас, маса. Мой маса гаварыў, што вы вельмі вялікі чалавек і што прыедуць людзі, каб сустрэцца з вельмі вялікім чалавекам — правадыром людзей.

На верандзе пачуліся галасы. Удома выпрастаўся, расправіў плечы і падумаў аб сваёй фізічнай сіле. Гэта Лойс дала яму адчуць яго ўнутраную сілу. А цяпер, на карысць справы, ён дасць адчуць яе іншым. Намаганнем волі ён надаў сілу сваёй паставе. Гэта пачатак яго дзейнасці. Будучае можа залежаць ад таго, якое ён зробіць уражанне на гэтых людзей.

Яны ўвайшлі. Ён усміхаўся і, калі Эдэбхай знаёміў іх, паціскаў кожнаму руку. Ён гаварыў з імі спакойна, стрымана. А яны, што прыйшлі панаглядаць за Майклам Удома, знайшлі, што ён сяброўскі, але адчужаны. Яны падсвядома адчувалі сілу, якую гэты чалавек трымаў, як вязьня, у сабе. І калі ўсе яны сабраліся, ён загаварыў з імі аб вызваленні Афрыкі. І ён прымусіў іх адчуць, што яны — пайшчыкі гэтай вялікай мары...

Праводзіўшы апошняга госця, Эдэбхай вярнуўся ў гасціную.

— Ты заваяваў іх, зямляк! Заваяваў!

Удома слаба ўсміхнуўся. Ён знясілеў ад працяглага, двухгадзіннага напружання. Яго вочы страцілі свой бляск.

— Заўтра мы пагаворым яшчэ,— сказаў Эдэбхай.— Пойдзем... Вазьмі маю сетку ад маскітаў. Я заўтра дастану сабе другую. Добрай ночы...

* * *

Спачатку мора. Потым, на краю мора, белы пясок. За белым пяском на пакатай мясцовасці, як вартавыя, што сцерагуць мора, па ўсёй лініі берага стаяць пальмы. За пальмамі зямля паступова ўзвышаецца да грэбеня невысокага пакатага ўзгорка, а потым падае ўніз, утвараючы плоскую даліну. Уся гэтая даліча занята Квінстаўнам — сталіцай і галоўным марскім портам Панафрыкі.

Па праўдзе, Квінстаўн — гэта толькі афрыканская вёска, якая разрадалася ўшыркі і набыла велізарны еўрапейскі фасад. Уздоўж докаў і прыстаняў горад мае зусім еўрапейскі выгляд: краны і велічэзныя памяшканні складаў, іміграцыйныя і паліцэйскія ўстановы, будынак вялікай Панафрыканскай кампаніі, якая фактычна кантралюе ўвесь гандаль Панафрыкі і з'яўляецца адной з пяці буйнейшых манаполій свету. Лявей усяго гэтага па пакатаму ўзгорку і ў чашы глыбокай даліны раскінуўся старадаўні афрыканскі горад, амаль такі ж, якім ён быў да прыходу еўрапейцаў. Праўда, цэнтральныя вуліцы горада цяпер пашыраны і замошчаны шчэбенем. Праўда, Панафрыканскі магазін, буйнае прадпрыемства кампаніі па штучнаму продажу, уяўляе сабою велізарны сучасны ўніверсальны магазін, а грэчаскія і індыйскія купцы панабудавалі крамаў на галоўных магістралях. Але ні гэта, ні тры кінотэатры, ні высокі кафедральны сабор не могуць пазбавіць горад яго афрыканскага тыпу. У баку ад галоўных цэнтраў дамы і халупкі збіліся, як гурт жывёлы. Народ тут жыве абшчынай. Дзверы ў халупах заўсёды расчынены. Кожны можа ўвайсці. Няма адасобленасці, бо яна непатрэбна. Тут, далёка ад порта і цэнтра горада, жыццё ідзе так, як яно, напэўна, ішло адну, дзве ці тры тысячы год таму назад.

І дзве ці тры тысячы год назад чарнаскурыя дзеці маглі б голымі гуляць каля дамоў, рыбакі — сядзець і папраўляць свае сеткі ў той час, як сонца выветрывае з іх рыбныя пахі, а густыя хмары вялізных чорных мух носяцца над імі; жанчына — церці каву ў той час, як маленькае дзіця, прывязанае збоку ссе яе доўгія грудзі, а другое, з якім яна размаўляе, прапануе незнаёмым прахожым купіць аблепленую мухамі ежу. Адзінае нававядзенне за гэтыя тры тысячы год — праведзеная ўрадам адкрытая сцёкавая сістэма. Мужчыны і падлеткі часта карыстаюцца гэтымі канавамі, як грамадскай прыбіральняй. Жанчыны выліваюць у іх нечыстоты. А над усім гэтым пануе абшчыннае жыццё, лёгкая, каляктыўная, свабодная інтымная блізкасць жыхароў горада, асаблівы характар яго смярдзючай галечы, якая сведчыць аб тым, што Квінстаўн старадаўнейшы не толькі за сваё імя, але і за еўрапейскае заваяванне, якое дало яму гэтае імя.

Урадавыя будынкі — Палац губернатара, Сакратарыят, розныя міністэрствы, паліцэйскія і армейскія штабкватэры — усе яны размешчаны на тым баку даліны, што знаходзіцца далей ад мора. Дамы белых грамадзянскіх служачых стаяць на схіле ўзгорка за ўрадавымі будынкамі, над імі. Вечарамі паветра тут свяжэйшае. Ад гэтых дамоў

павявае англійскім правінцыяльным жыццём. Каля іх раскінуліся шырокія паплавы і цудоўныя клумбы кветак. Пакоі вялікія і халаднаватыя. І здаецца, што гэтая невялічкая часцінка афрыканскай зямлі, на якой жывуць цывільныя служачыя, з'яўляецца кавалачкам Англіі, які перанеслі ў тропікі.

На заходняй ускраіне горада адасобленай, самастойнай грамадою жывуць новаафрыканцы: чарнаскурыя ўрачы, адвакаты, настаўнікі, старэйшыя клеркі грамадзянскай службы і багатыя купцы. У іх цагляныя дамы. Па камфорту яны ўяўляюць сабой нешта сярэдняе паміж перанаселенай галечай чорнага горада і прасторнай раскошай дамоў белых служачых. Жменька арабскіх і індыйскіх купцоў таксама жыве тут.

А за ўсім гэтым, адбягаючы пакатымі выгінамі ўзгоркаў і далін, ляжыць краіна. То тут, то там, рассыпаўшыся кропкамі па ўсёй краіне,— гарады і вёскі, лясныя гушчары, вялікая цішыня. Хутароў тут няма. Усе дамы ва ўсіх вёсках і гарадах збіліся ў кучу. Быццам тыя, хто жыве ў гэтых дамах, баяцца прастораў краіны і знаходзяць спакой, згрудзіўшыся разам. І сама гэтая прастора панурая, нявегліввая і абыякавая.

А над усім гэтым, з дня ў дзень, пакуль не пойдзе дождж, ды нават калі ён і ідзе,— вісіць сонца; нягледзячы на вільготнае паветра, яно жорстка і люта пячэ.

* * *

Начальнік ахоўнай паліцыі Джонс пастукаў у дзверы кабінета галоўнага сакратара і ўвайшоў. Галоўны сакратар Смізерс адарваў вочы ад пісьмовага стала і нахмурыўся; потым, убачыўшы Джонса, памякчэў і адхінуў убок свае паперы.

— Прысаджвайцеся,— сказаў Смізерс. — Прыводжу ў парадак дом для нашага новага губернатара. Сам я не вельмі люблю гэтых партыйных губернатараў.

— Гавораць, што ён служыў яшчэ да таго, як пачаў займацца палітыкай,— сказаў Джонс.

— Усёроўна гэта палітычнае прызначэнне, — адказаў Смізерс. — Вельмі шкада, што прагрэсісты перамаглі якраз у той момант, як яго правасхадзіцельства ідзе ў адстаўку... Вы і самі трохі прагрэсіст, ці не так?

— Трохі,— сказаў Джонс і падумаў: напышлівы асёл.

— Не тое, каб я меў што-небудзь супраць яго партыі, — гаварыў Смізерс.— Я толькі не магу цярпець парушэння службовых традыцый...

— Па-мойму, няхай ён першы раскрые карты.

— Не, я не пра яго... Я толькі думаю, якая гэта будзе блытаніна, калі губернатары калоній пачнуць мяняцца кожны раз, як у нас на радзіме прыходзіць да ўлады новая партыя.

— Наўрад ці гэта магчыма,— прамармытаў Джонс.

— Вы не ведаеце гэтых палітыканаў, — сказаў Смізерс.

— За што і дзякуйце,— адказаў Джонс. Ён набіў люльку тытунём і потым сваімі спакойнымі вачыма глянуў у твар Смізерса. — Ведаеце, Смізерс, мне нешта не падабаюцца гэтыя хваляванні там, наверсе, у Цэнтральных правінцыях. Нешта не падобна на тое, каб гэтыя людзі напалі на раённага камісара без усякай прычыны. Асабліва тыя тубыльцы, што жывуць плямёнамі.

— Іх трэба прывучыць плаціць падаткі,— сказаў Смізерс.— Урад не можа заўсёды аплачваць кожны рахунак. Ім патрэбны добрыя дарогі, каналізацыя, школы....

— Я ведаю. Мяне гэта турбуе толькі з пункту гледжання бяспекі.

— Гэта пройдзе. Раніцай я гаварыў з Эндурай. Ён з адным правадыром праедуць па той мясцовасці і навучаць іх разумець.

— Добра. Але трымайце мяне ў курсе.

— Няма аб чым трывожыцца. У нас бываюць такія дробныя выбухі. Раённы камісар, які там працуе,— адзін з маіх найлепшых хлопцаў.

— Чулі што-небудзь пра Майкла Удома? — спытаўся Джонс.

— Пра гэтага маладога падбухторшчыка, які толькі што прыехаў назад?

— Дык вы чулі?

— Вушы ёсць не толькі ў органаў бяспекі, вы ведаеце. Ён проста падбухторшчык. Эндура гаварыў мне пра яго.— Смізерс здзівіў Джонса сваёй усмешкай.— Эндура гаворыць, што гэты малады нягоднік меў нахабнасць патрабаваць, каб яго выслухаў Савет. Прыслаў пасланне яшчэ да свайго прыбыцця. Успомніў: гэты Эдэбхай атрымлівае зарплату ад урада, і я хачу, каб яго звольнілі з бальніцы ў той самы момант, калі яго гульня ў палітыку апраўдае гэта. Пастаўце каго-небудзь прасачыць за ім. Усім трэба строга выконваць палажэнні службовага статута, нават нашаму новаму сярэдняму класу. Я не хачу марнаваць час на Удома. Гэта пяцідзённае цуда, а потым ён папросіць у нас працы.

— І як гэта... — Джонс задумаўся.— Той лісток, які ён выпускаў у Лондане, меў значны ўплыў. Дайшоў нават да Савета Нацый.

— Тут была рука таварыша Лэнвуда,—сказаў Смізерс.— Але сюды мы яго не пусцім! Няхай у Лондане ён хоць са скуры вылузваецца.

На худым жаўтаватым твары Джонса прамільгнула ўсмешка.

— Мне здаецца, што вы і ваш сябар Эндура недаацэньваеце Удома.— Ён непрыкметна хіхікнуў, убачыўшы, як перасмыкнуўся твар Смізерса, калі ён назваў Эндуру яго сябрам. На самай справе, нягледзячы на знешнюю прыязнасць, Смізерс ненавідзеў гэтых людзей. — Бачыў апошні выпуск іх «Вызваліцеля», выданы пасля ад'езду Удома. Новы рэдактар—гэты Мхендзі, што кіраваў тым крывавым спяктаклем у Плюраліі. У гэтым выпуску ўжо няма той сілы і агню, што былі ў тых, якія выдаваў Удома. На вашым месцы, я-б не скідваў з рахунку містэра Удома. У горадзе нейкі неспакой... Ён адчуваецца там, унізе, і з усіх канцоў краіны паведамляюць аб тым жа.

Смізерс адкінуў назад галаву і пагардліва засмяяўся. Але Джонс прыкмеціў, што вочы яго не смяюцца.

— Бяда з вамі, хлопцамі з органаў бяспекі: вы ніколі не супакоіцеся, пакуль не адкапаеце якую-небудзь сапраўдную або ўяўную змову.

Джонс падняўся з крэсла.

— Мажліва, вы маеце рацыю. Я падслухаў, як адзін з маіх самых разумных хлопцаў гаварыў другому, што ўчора вечарам ён сустрэўся з Удома. Ён у захапленні ад гэтай сустрэчы. Я палічыў за лепшае сказаць вам аб гэтым. Але, мажліва, вы маеце рацыю.

На развітанне ён толькі невыразна памахаў люлькай, выйшаў, зачыніў за сабою дзверы і пастаяў хвіліну, прыслухоўваючыся.

Твар яго асвяціўся злоснай усмешкай, калі ён пачуў гук зумера ў кабінеце тэхнічнага сакратара, а праз імгненне — голас Смізерса, які сярдзіта пытаўся, чаму на яго пісьмовым стале не ляжыць апошні нумар «Вызваліцеля».

Джонс павольна пакрочыў у свой кабінет. Смізерс, — падумаў ён,— напышлівы асёл, які суе нос не ў свае справы. Бяда з усёй гэтай кампаніяй англічан. Яны ведаюць усё, што адбываецца. І ім мала аб гэтым галава баліць. Усё, што іх турбуе,— гэта выседзець вызначаныя гадзіны і вярнуцца ў свае асабнякі, каб заняцца тэнісам ці распіваць кактэйлі на званых вечарах. Гэта ўжо стала прывычкай. Яны ўжо не варты той імперыі, якую іх продкі заваявалі для іх. Яны сталі слабахарактарнымі і лічаць, што так усё і павінна быць. Цяпер моладзь паступае на службу толькі таму, што аплата і жыццёвыя ўмовы тут лепшыя, чым у іх дома. Ва ўсёй гэтай справе няма і ценю веры ў сваю місію. Канешне, і сярод іх ёсць добрыя хлопцы, якія верна служаць. Але трагедыя ў тым, што ў іх амаль не засталося вернасці прынцыпам, ідэалам, якія дапамаглі заснаванню іх імперыі. Такія, як Смізерс, не вераць у старыя ідэалы сваёй службы: яны правяць. Інтарэсы тубыльцаў — белетрыстыка, аб якой яны распінаюцца публічна. Паміж сабою яны смяюцца з усяго гэтага. Шкада толькі, што гэта ўсё ж самая лепшая ў свеце службовая сістэма, але яна перастала верыць — па-сапраўднаму верыць — у ідэю Садружнасці Нацый. А калі б памерла ідэя Садружнасці Нацый, то...— Джонс нецярпліва пацісну плячыма, быццам хацеў скінуць з сябе цяжар уласных думак. Ён увайшоў у свой кабінет і націснуў кнопку на пісьмовым стале. Яго непакоіла думка: ці трэба пытаць у таго хлопца, ад якога ён чуў аб учарашнім сходзе, дзе жыве Эдэбхай? Не. Гэта магло толькі ўзмацніць іх перашэптванне. Увайшоў сакратар. Добры хлопец. Спакойны, дзелавіты, ведае справу і вельмі карэктны. Ці ведае ён што-небудзь пра народ, ці заходзіў ён у брудныя дамы, ці размаўляў з людзьмі? Мабыць, ён сутыкаецца толькі з клеркамі, а ў сваім асабняку — са слугамі, якія бясконца гавораць яму «са». І ўсё ж нельга адносіцца дрэнна да гэтага юнца. Прыклад давалі другія. Ён толькі рабіў так, як яны. Магчыма, ужо і позна. Магчыма, гэта ўжо ўвайшло ў прывычку.

Да Джонса дайшло, што малады чалавек цярпліва чакае яго загаду.

— Прабачце... Я папрашу вас даведацца — толькі асцярожна, я не хачу, каб сярод служачых пайшла якая-небудзь гаворка,— дзе жыве містэр Эдэбхай. Можна было б пазваніць у паліцыю ці ў бальніцу.

Малады чалавек выйшаў. Джонс паглыбіўся ў паперы, што ляжалі на стале. Не прайшло і пяці мінут, як малады чалавек вярнуўся з адрасам, які быў запісаны на маленькай паперцы.

Джон ветліва ўсміхнуўся.

— Вы тут ужо каля шасці месяцаў, здаецца?

— Так, сэр.

— Не гаварыце «сэр». Бывалі ў народзе?

— Не... не зусім.

— А я б на вашым месцы паспрабаваў. Яны вельмі сардэчныя і прыязныя людзі. Вядома, асноўная іх маса жыве ў самай жахлівай беднасці. Але, сапраўды, чаму вам не паспрабаваць паглядзець нават і гэта. Нараджаецца ж сярэдні клас, і потым нам спатрэбяцца гэтыя людзі. Праз некалькі год усё можа змяніцца, і тады могуць аказацца карыснымі асабістыя знаёмствы і дружба. Ведаеце, піянеры нашай службы добра ведалі народ, сярод якога яны працавалі. Сёння мы крышачку ад іх адарваліся. Падумайце аб гэтым, добра?..

— Так, сэр. Дзякую вам, сэр.

Джонс выйшаў і спусціўся да сваёй машыны. Ён не ведаў — ма-

лады чалавек прыме яго словы сур'ёзна ці выкарыстае іх, каб рассмяшыць усіх гэтых юнцоў. Ён сеў у машыну і паехаў праз горад на заходнюю ўскраіну, дзе жыў гэты самы малады сярэдні клас. Ён звярнуў з дарогі, і машына пачала трэсціся па пясчанаму прасёлку. Тут няма сапраўдных дарог, нават каналізацыі. О, божа! Няўжо тыя палітычныя містэры ў сакратарыяце не разумеюць, што іменна гэтыя людзі будуць з гарыччу параўноўваць свае хібаркі з дамамі, што на ўзгорку. Можа, хоць новы губернатар убачыць гэта?

На стук выйшаў Сэмсан.

— Містэра Удома,— сказаў Джонс.— Калі ласка, скажыце яму, што містэр Джонс хоча яго пабачыць.

— Масы Удома цяпер няма, маса.

— Вы ведаеце, дзе ён?

— Не, маса. Маса Удома пайшоў прайсціся пасля снедання. Ён сказаў, што хоча зноў паглядзець горад. Даўно-даўно ён тут не быў, цяпер зноў хоча паглядзець.

— Дзякую.

— Маса можа прайсці ў дом. Я прынясу паперу, і маса можа напісаць масе Удома. Я перадам.

— Вам падабаецца містэр Удома?

— Ён заўсёды гаворыць мякка-мякка. Ён заўсёды скажа «дзякую, Сэмсан». Нават мой маса, доктар, не заўсёды так гаворыць, а ён жа добры.

— А містэр Удома заўсёды?

— Заўсёды, са. Ён вялікі чалавек, маса Удома. Вельмі вялікі чалавек.

— Я чуў. Дзякую, Сэмсан.

— Можа маса пачакае, можа маса Удома хутка прыдзе.

— Не, Сэмсан. Я заеду ў другі раз.

Джон павольна паехаў назад у горад па дарозе, якая ішла ўздоўж берага. Вечарэла, але спякота стаяла страшэнная. Не дапамагала нават ахаладжальная сістэма машыны. І толькі пасля таго, як ззаду засталіся велізарныя будынкі докаў, лёгкі марскі брыз трохі аслабіў нясцерпную гарачыню. Замест таго, каб павярнуць улева і праз горад даехаць да сваёй установы, Джонс працягваў ехаць па прыморскай дарозе, адчуўшы сябе спакайнейшым і вольным ад цяжару сваіх абавязкаў. І, як заўсёды ў такія хвіліны спакою, яго думкі вярнуліся да невялічкіх могілак ля падножжа еўрапейскага сетльмента. Там магіла яго жонкі. Яна памерла ад жоўтай ліхаманкі на другім годзе іх сумеснага жыцця, на другім годзе пасля прыезду сюды, ужо дванаццаць год таму назад. Памерла на другім месяцы цяжарнасці. І цяпер ён прывязаны да гэтага месца магілай. Цяпер гэтая зямля была яго радзімай, з таго самага дня, калі засыпалі тую магілу, і заўсёды будзе яго радзімай. У гэтай зямлі яго карэнні.

Ён з'ехаў з дарогі і выйшаў з машыны. Схаваўся ў цень пальмы. Далёка ў моры на яго люстранай роўнядзі ішлі да берага чатыры стройныя, прадаўгаватыя баркасы. Па іх размяшчэнню можна было здагадацца, што яны цягнуць за сабой поўную сетку рыбы. Потым ён убачыў чалавека — пад пальмай, недалёка ад сябе. Вочы яго зноў пачалі глядзець на баркасы, але нешта ў гэтым чалавеку не давала яму спакою. Ён зірнуў на яго зноў. Вядома, гальштук. Хто ж іншы, як не той, хто нядаўна прыехаў з Еўропы, надзене гальштук у такую спякоту?

Джонс пераходзіў ад ценю аднаго дрэва пад цень другога, пакуль не апынуўся пад пальмай, дзе сядзеў гэты чалавек. Усе думкі яго, здавалася, сканцэнтраваліся на моры. Джонс пастаяў хвілінку, а потым кашлянуў.

Удома ўзняў на яго позірк. Ён убачыў невысокага чалавека з хударлявым целам і худым тварам хваравіта-жоўтага колеру. Пад ілбом глыбока сядзелі вочы. Ён лысеў, і рэшткі яго рэдкіх валасоў былі такога ж жоўтага колеру, як і твар. Спартыўная сарочка не была зашпілена на грудзях, і бачны былі густыя, чорныя валасы. З-пад кароткіх штаноў колеру хакі тырчэлі маслакаватыя калені. Аб сур'ёзнасці і спакоі гэтага чалавека ясней за ўсё гаварылі яго вочы.

— Вы містэр Удома?

— Я.

— Маё прозвішча Джонс. Я з органаў бяспекі...

Лёгкая ўсмешка кранула вусны Удома. Джонс таксама усміхнуўся.

— Гэта заўсёды робіць уражанне. Але, сапраўды, я прыехаў, каб убачыцца з вамі і паспрабаваць высветліць, што вы за асоба. Нічога не маеце супраць, калі я сяду?

— Гэтае дрэва не маё,— адказаў Удома.

— Я куру толькі люльку, але магу прапанаваць вам тытуню.

— Я не куру... Як вы даведаліся, што я тут?

— Нашы органы не ўсё могуць. Я паехаў да доктара Эдэбхая, але там вас не было. Паехаў назад... мне захацелася трошкі спакою. Не ведаю, як гэта атрымліваецца: часам людзі слабеюць, нават работнікі бяспекі, як я, напрыклад. Між іншым, гэта не афіцыяльная праверка ці што-небудзь такое. Я хацеў толькі пабачыцца з вамі, калі пачуў, як нехта пра вас гаварыў.— Ён запаліў люльку і перавёў вочы на твар Удома.

Удома раўнадушна глядзеў на мора. Чатыры рыбацкія лодкі павольна рухаліся да берага.

— Я толькі што атрымаў апошні нумар «Вызваліцеля», — сказаў спакойна Джонс.— У ім нехапае вашай іскры і агню. Думаю, вы не ўбачыце яго, бо тут ён забаронены. Але я дам вам свой экземпляр. Калі мяне правільна інфармавалі, вы збіраецеся пачаць выдаваць газету.

— Ёсць які-небудзь закон, што забараняе гэта?

— Не. Я не ўпэўнены, што вы не зробіце многа добрага. На маю думку, Савет правадыроў і старэйшын трэба трошкі ўзварушыць. Як я магу меркаваць па вашай працы, як рэдактара, вы гэта зробіце. Гэта мой уласны пункт гледжання. Нічога афіцыяльнага ў ім няма. Не думаю, каб хто з сакратарыята прытрымліваўся такога ж погляду. Яны за тое, каб старому Эндуры далі даслужыць свой тэрмін, а потым узнагародзіць яго прапановай сфармаваць першы кабінет міністраў. Яны тут усе трохі самазадаволеныя. Толькі органы бяспекі ведаюць пра неспакой у краіне.

Удома павярнуў да яго галаву і кінуў пільны, халодны позірк на маленькага чалавека, што сядзеў побач.

— Што вам, уласна, патрэбна?

— Я ўжо гаварыў вам, што хацеў толькі сустрэцца з вамі. Цяпер я гэта зрабіў. Мне б хацелася, каб вы калі-небудзь зайшлі да мяне. Але я, здаецца, бачу, што вы гэтага не хочаце. Я начальнік ахоўнай паліцыі і, бясспрэчна, вы мелі б падставу думаць, што ўсё гэта хітрасць. Я магу толькі запэўніць вас, што гэта не так, і, калі вы дасцё мне

магчымасць, я дакажу вам. Нават у паліцэйскага ёсць вольны час і асабістыя сябры. Там, на гары, мы жывем занадта ўжо адасоблена. Ва ўсякім разе, вечарамі я часцей за ўсё бываю дома, і калі ў вас з'явіцца жаданне чаго-небудзь выпіць, калі ласка, вы будзеце самым жаданым госцем. Мне ўжо трэба ісці. Рады, што сустрэў вас. Я прышлю вам «Вызваліцеля», але папрашу вас толькі не перадаваць яго ў другія рукі, бо публічнае распаўсюджванне часопіса ў нас тут забаронена. Думаю прыслаць вам таксама і экземпляр палажэння аб друку, каб вам ведаць, колькі ёсць у вас прасторы.— Джонс падняўся і выбіў люльку.— Можа, мне падвезці вас дадому?

— Не, дзякую.

— Ведаеце, тут жа няма грамадскага транспарту, як у Лондане.

— Я сам знайду дарогу.

З нейкім дзіўным, насмешлівым выразам на твары сачыў Удома, як маленькі чалавечак пайшоў да сваёй машыны і паехаў. Калі машына знікла з вачэй, ён устаў, перакінуў цераз руку пінжак і па схілу ўзгорка спусціўся ў горад.

Тым жа вечарам Удома сустрэўся з трыма купцамі. Пасля цэлага тыдня перагавораў кожны купец згадзіўся даць пяцьсот фунтаў стэрлінгаў на тое, каб пачала выходзіць газета. Яны паставілі многа ўмоў.

## 3

Удома ўважліва разглядаў гранкі першай старонкі заўтрашняга нумара газеты «Квінстаўн Пост». Вялікі чорны загаловак заклікаў:

«Падтрымайце бастуючых!»

Яго кабінет знаходзіўся ў брудным, неахайным пакойчыку на другім паверсе вельмі старога, гнілога будынка. Неафарбаваныя дошкі падлогі былі чорныя ад гразі. На адзіным акенцы ляжаў пласт бруду, і таму шыбы не прапускалі дзённага святла. У адной шыбіне дзірка была заткнута паперай, ад часу і пылу яна зрабілася цёмнажоўтай. Акрамя пісьмовага стала і крэсла, ля двух сцен стаялі дзве лаўкі. Старадаўняя пішучая машынка стаяла з краю такога ж старадаўняга, непалакіраванага пісьмовага стала, засланага паперай.

Удома незадаволена глянуў на загаловак.

— Пасля шасці месяцаў! — У яго голасе гучала горыч. Гэтыя праклятыя купчыкі заўсёды ў яго на шыі — кантралююць, забараняюць. Цяпер якраз настаў час, а яны спалохаліся.— Я тут не для таго, каб гуляць у іхнюю гульню,— галасна прамовіў ён.

Нехта з яго памочнікаў прасунуў галаву ў дзверы.

— Вы клікалі?

— Не,— са злосцю крыкнуў Удома.

Чалавек пайшоў назад на веранду, якая служыла ім кабінетам.

— Я павінен вырвацца з іх рук,— сказаў Удома.

Але ён быў у іх пад пятой. Без іх грошай паперы не купіш. Сёння яны ўжо прыходзілі, каб сказаць яму, што ён не павінен падтрымліваць забастоўшчыкаў. Прымітыўны друкарскі станок, гэты будынак, папера— усё іхняе.

Вось ужо шэсць месяцаў, як ён гібее над гэтым, а чаго дамогся? Ён толькі зрабіўся вядомым, яго паважаюць. Да д'ябла ўсё гэта! Ён не імкнецца да славы. А тыя інтэлігенцікі не лепшыя за купцоў. Яны з

табой да таго часу, пакуль гутарка не ідзе аб уласных кішэнях. Варта было толькі яму і Эдэбхаю прапанаваць ім унесці грошы ў агульны фонд, каб вызваліцца ад купцоў, і яны перасталі прыходзіць. Яны забыліся на свае сімпатыі да новай партыі. Ім хацелася толькі адвязацца ад старой шайкі. К чортавай матары іх! К чорту!

Ён раптам нахіліўся да стала, схапіў чырвоны аловак і злосна перакрэсліў загаловак. Няхай яны падавяцца са сваімі грашыма. Ён пакажа гэтым праклятым купцам, што з ім нельга абыходзіцца, як з падначаленым! Ён выйшаў з-за стала і горда пакрочыў на веранду.

— Спыніць усё,— сказаў ён двум сонным памочнікам.— Магчыма, прыдзецца працаваць да позняй ночы. Скажыце наборшчыку спыніць набор і чакаць тут. І вы двое таксама. Я хутка вярнуся.

Ён пайшоў уніз па небяспечнай, хісткай лесвіцы і выйшаў з бруднага, смярдзючага двара на такую ж вуліцу. Абпаленая сонцам зямля ўдарыла яму ў твар гарачымі хвалямі паветра. Ён прыцішыў крок і пайшоў у бок вялікага адкрытага рынка. Перадвячэрняе сонца бязлітасна пякло зямлю.

— Хійя, містэр Удома, са! Таксі? — Шафёр пераключыў матор на самы ціхі ход. Ён высунуў галаву з кабіны і шырока ашчэрыўся.

— Няма грошай,— Удома таксама ашчэрыўся.

— Вас я падвязу бясплатна, са. Вы — наш чалавек.

— Мне недалёка, дружа,— сказаў Удома.

— Навошта ісці пешшу, калі вас могуць бясплатна падвезці?

Удома абыйшоў паволі машыну і сеў побач з шафёрам. Часта некалькі сем'яў, часамі цэлыя кланы, складваліся і куплялі маладому чалавеку машыну, каб прылучыць яго да «справы». І горад быў забіты гэтымі «таксі».

— Вам куды, са?

— На рынак.

— Добра. Я вязу. Я чытаю вашу газету. Усе хлопцы з таксі чытаюць вашу газету. Усе гавораць, толькі ваша газета піша праўду. Вы будзеце яшчэ пісаць пра забастоўку на доках? Нам падабаецца, як вы б'еце белых, калі расказваеце, як яны выціскаюць з нас грошы. Усім гэта вельмі падабаецца.

— Паслухайце,— сказаў Удома.— Я хачу яшчэ больш пісаць пра забастоўку. Я хачу сказаць яшчэ больш праўды. Але, ведаеце, у мяне няма грошай. Грошы на паперу даюць купцы, але цяпер яны спалохаліся, бо я пішу пра забастоўку. Сёння яны сказалі мне, каб я больш нічога не пісаў пра забастоўку. Яны пагражалі, што адбяруць паперу. Раскажыце аб гэтым сваім сябрам. Скажыце ім, што Удома хоча пісаць пра забастоўку, а купцы хочуць закрыць газету. Раскажыце гэта ўсім. Усім раскажыце. Скажыце, урад, магчыма, арыштуе Удома, таму што ён піша пра забастоўку. А купцы баяцца за свае грошы. Купцам няма справы да свабоды нашага народа.

— Гэтыя купцы дрэнныя людзі! — абурыўся шафёр.

«Так, — падумаў Удома, — раскажы ўсім мой сябар.»

Машына затармазіла каля рынка. Удома выйшаў.

— Дзякую, мой сябар, і не забудзьцеся пра тое, што я вам гаварыў. Магчыма, час барацьбы ўжо набліжаецца.

— Я раскажу ўсім,— адказаў шафёр і памахаў рукой.

Рынак — гэта старадаўняя, вечная Афрыка; шумлівая, перапоўненая народам і свабодная. Вось сядзіць чалавек і са старых, непатрэбных аўтапакрышак робіць сандаліі; там другі чалавек круціць старую швей-

ную машыну і ў прысутнасці заказчыка шые нешта падобнае на начную сарочку; а трошкі далей стары залатар варожыць над сваім вымiраючым мастацтвам. Але цяпер ужо не з золата, а з медзі вырабляе ён прыгожыя бразгулькі, якія ва ўсім свеце так любяць насіць жанчыны; у другім месцы жанчына прадае даматканае палатно, такога выдатнага гатунку, які могуць ацаніць толькі афрыканцы. Усюды не спяшаючыся і шумна гандлююць. Кірмаш — адначасова і грамадскі і гандлёвы цэнтр.

Удома прыпыніўся каля гандлёвай палаткі. Гэтая жанчына, відаць, гандлюе тут заўсёды.

— Ці не скажаце, дзе мне можна знайсці Сяліну?

Жанчына агледзела яго з ног да галавы. Яна адкінула назад галаву і крыкнула:

— Нейкаму чалавеку патрэбна Сяліна!

Шум амаль заглушыў яе крык. Яна павярнулася да пакупніка. Свой абавязак перад гэтым чалавекам яна выканала, і цяпер ён яе больш не цікавіў. Удома ўсміхнуўся і падышоў да суседняй палаткі.

— Ці не скажаце, дзе мне можна знайсці Сяліну.

Жанчына аб нечым ажыўлена гутарыла з пакупніком. Не перапыняючы патоку слоў, яна паказала рукою ў самы цэнтр кірмаша.

Удома прабіваў сабе шлях праз цесны натоўп людзей, якія безупынна рухаліся. Тут быў страшэнны шум і гармідар. Бліжэй да цэнтра гандляры былі ўжо буйнейшыя, тавары іх — больш разнастайныя і дарагія. Замест мізэрных харчовых прадуктаў, тут прадаваліся розныя машыны і мэбля. Удома прыпыніўся перад стройным маладым чалавекам, што стаяў ля вялікай, падобнай на краму, палаткі, у якой, здавалася, можна было купіць усё, што толькі ёсць на зямлі.

— Дзе можна мне знайсці Сяліну.— Тут не трэба было так гучна крычаць. У цэнтры кірмаша было параўнальна ціха.

Малады чалавек агледзеў яго з ног да галавы.

— Каму яна патрэбна?

— Мне. Дзе можна яе знайсці?

— Вы яе ведаеце?

— Вядома! Цяпер вы скажаце, дзе яна?

— Хто вы?

Удома стрымаў сваё нецярпенне.

— Навошта гэта вам! Я Удома і хачу бачыць Сяліну.— Удома зрабіў крок да суседняй палаткі.

Малады чалавек імгненна перамяніўся.

— Містэр Удома! Пачакайце, калі ласка, са! Адну хвілінку!

Малады чалавек знік за гарой упаковачных скрыняў і кошыкаў. «Здаецца, ён ведае яе, — падумаў Удома. — Якая розніца — адна мінута ці дзве? Не так лёгка знайсці Сяліну, як яна гаварыла».

Малады чалавек вярнуўся. За ім ішла Сяліна.

— Сяліна! — усклікнуў Удома.

Ён забыўся, якая яна гордая і стрыманая. Яе спакойны позірк нагадаў яму дні, праведзеныя ў брудным трэцім класе парахода.

Яна сказала:

— Я думала, што вы забыліся пра мяне, містэр Удома.

Удома шырока ўсміхнуўся. Іх вочы сустрэліся, і яна здагадалася, што ён чытаў яе думкі. Ён злёгку варухнуў левым плячом. Тады яна зразумела, што памылілася. На самай справе ён зусім не змяніўся. Сарочкі і курткі, штаны і чаравікі на самай справе не многа значаць.

У вачах яго было тое ж самае, што і там, на параходзе. Ён прыйшоў да яе не таму, што застаўся без грошай.

— Хадземце,— сказала яна.

Малады чалавек ступіў убок. Удома пайшоў следам за Сялінай. Тавары былі так расстаўлены, што адгароджвалі месца, якое па форме і памерах нагадвала пакой. Зямля была заслана дыванам. Тут стаялі крэслы, стол і вузкі брызентавы ложак, на якім спала дзіця Сяліны.

— Падобна на пакой,— прагаварыў Удома.

— Гэта і ёсць пакой,— сказала яна.— Я праводжу тут многа часу.

Удома падняў галаву і паглядзеў на яснае, светлае неба.

— Мы можам вельмі хутка нацягнуць брызентавы дах, — сказала яна.

— Вы тут іншы раз спіцё?

— Іншы раз... Сядайце, містэр Удома.

Удома сеў тварам да яе. Яна паклала далоні на калені і чакала.

— Вы толькі што паглядзелі на мяне,— сказаў ён,— і падумалі: «Ён перамяніўся». Так, мне прыходзілася не лёгка, калі меркаваць па маёй вопратцы і па дзірцы ў чаравіку. Але я прыйшоў гаварыць не аб гэтым. Калі вы такая ж, як і некаторыя вядомыя мне купцы, і размаўляеце толькі з тымі, у каго ёсць грошы, то я лепш пайду. Я прыйшоў да вас таму, што на параходзе вы гаварылі, каб я прыйшоў, калі буду да чагонебудзь гатовы. Вы ўжо забыліся пра гэта? Мне ісці?

— Я не забылася. Гаварыце.

— З таго часу, як я прыехаў, я выдаю газету...

— Гэта я ведаю. Мая дачка кожны дзень чытае мне. Вы пішаце праўду. Але гэтую праўду мы ведаем і так. Вы не гаворыце нам, што трэба рабіць. І дзіця чытае мне кожны дзень, а я чакаю.

— Для таго, каб выдаваць гэтую газету, я атрымліваю грошы ад трох купцоў.

— Гэта я таксама ведаю.

— А пра тое, што гэтыя купцы сядзяць у мяне на карку? Пра гэта вы ведаеце?

— Не.

— А яны сядзяць. Яны хочуць захаваць свае грошы, хочуць зарабіць на газеце. Яны баяцца пакрыўдзіць Савет правадыроў і старэйшын, урад. Цяпер яны глядзяць на газету, як на нешта такое, што яны могуць выкарыстаць для гандлю з Эндурай. Яны гавораць яму: «Мы прымусім Удома сядзець ціха, калі вы зробіце тое, чаго мы хочам». Яны ўжо ведаюць, якім добрым сродкам можа быць для іх газета.

— Вы ім самі гаварылі пра гэта?

— Я думаў, яны сумленныя. Я ведаў, што яны клапоцяцца толькі аб сабе. Але ўсё ж я думаў, што яны сумленныя.

— Хіба вы не можаце вызваліцца ад іх?

— Для маёй справы патрэбна папера. Акрамя таго, я падпісаў з імі пагадненне. На адзін год.

— Значыць, цэлы год вы павінны служыць іх інтарэсам?

— Аб гэтым я і прыйшоў пагаварыць з вамі.

— Я слухаю.

Яна ўстала, напампавала прымус, запаліла яго і паставіла чайнік.

— Гэтая забастоўка ў доках,— паволі прагаварыў ён.— Вы бачылі, што я аб ёй пісаў?

— Тое, што вы пісалі ў першы дзень, было найлепшым. Тады вы сказалі ўсю праўду.

— Так. У той дзень яны прыйшлі да мяне. Іх наведаў Эндура. Ён папярэдзіў, што ўрад закрые газету.

— І на другі дзень вы трошкі памякчэлі.

— І на другі дзень я трошкі памякчэў. Але гэтая забастоўка магла б паслужыць пачаткам. Аднак мне патрэбна была б дапамога, бо мяне кінулі б у турму, а я не хачу ісці ў турму проста так. Вось чаму я і прыйшоў да вас.

Рука Сяліны, якая працягнулася за кубкам, раптам замерла ў паветры. Сяліна павярнулася да Удома. Пачаў кіпець чайнік. Прачнулася дзіця і заплакала. Яна доўга і пільна глядзела на Удома, потым павярнулася і падышла да паходнага ложка. Нахілілася да дзіцяці і адной рукой расшпіліла на грудзях сукенку. Падняла дзіця з ложка. Яго галодны роцік пацягнуўся да грудзей. Яно перастала плакаць.

Сяліна павярнулася, і Удома ўбачыў на яе вуснах усмешку. Ён яшчэ ніколі не бачыў, каб яна ўсміхалася.

Жанчына разліла чай па кубках і адзін паднесла яму. Дзіця ўвесь час смактала матчыны грудзі.

Удома выпрастаў спіну. Цяпер ужо і на яго вуснах блукала ўсмешка.

— Калі я пайду ад вас, я вярнуся ў рэдакцыю. Сяду за свой пісьмовы стол і напішу вялікі заклік да народа паўстаць супраць іншаземцаў і патрабаваць свабоды самакіравання. Я скажу, што Савет правадыроў і старэйшын і доктар Эндура — гэта зброя брытанцаў. Я скажу, што надышоў час змагацца — і біцца да тае пары, пакуль мы і наша краіна не вызваляцца ад улады белых чужаземцаў. Потым мы надрукуем гэтую газету. Гэты заклік будзе на першай старонцы. А заўтра ўсе прачытаюць яго.

— І вас арыштуюць.

— Так.

— А што тады?

— Тады вы і мой сябар Эдэбхай згуртуеце народ. Лідэры забастоўкі докераў далучацца да вас. Я з імі ўжо гаварыў.

— І мы збярэм грошы, каб заплаціць за вас штраф?

— Ні ў якім разе! — крыкнуў Удома.

— Не трэба злаваць, містэр Удома.

— Што б ні здарылася, вы не павінны плаціць штраф. Я павінен застацца ў турме і выседзець свой тэрмін. А ваш абавязак падтрымліваць гнеў народа і стварыць партыю, якая павядзе яго да свабоды. Хіба вы не разумееце, Сяліна, што ў турме я буду цэнтрам, які з'яднае наш народ. Вы са мной?

Сяліна паднялася з крэсла і падышла да яго, амаль забыўшыся на сваё дзіця. Вочы яе гарэлі. Яна неяк дзіўна, прытанцоўваючы, пакланілася яму. Потым узяла яго правую руку і прыціснула да сваіх вуснаў.

— Вы робіце гэта для свайго народа і яшчэ пытаецеся, ці буду я з вамі!

Удома ўстаў. Ён адчуў, што ўся сіла зямлі прыліла да яго грудзей.

— Я памру за свой народ!

— Народ хоча, каб вы жылі і вызвалілі яго, Удома! Ідзіце і пішыце! Мне цяпер шмат чаго трэба зрабіць, з многімі пагаварыць. Вам трэба было прыйсці раней.

— Гэты план толькі што нарадзіўся. І я адразу ж пайшоў да вас.

— Добра. Трэба многае абдумаць раней, чым яны вас заўтра забяруць. Я прышлю за вамі машыну, калі вы скончыце сваю справу.

— Я магу закончыць позна, каля поўначы. Мне трэба напісаць вельмі важны артыкул.

— Гэта не мае значэння. Мы не будзем спаць усю ноч, будзем абдумваць і будаваць планы на заўтрашні дзень і на ўсе другія заўтрашнія дні. Ваш сябар, доктар, добры чалавек? Чалавек, які ўмее верыць?

— Вы самі ўбачыце, калі сустрэнецеся з ім.

— Ну, добра. Я пашлю па яго машыну. І мы пагаворым і ўсё абдумаем, пакуль не прыдзеце вы. У нас не так многа часу, а трэба ж шмат чаго зрабіць. Калі вы скончыце, у мяне дома вас будзе чакаць ежа і адпачынак. Ідзіце ж, Удома.

Сяліна дала маладому чалавеку спіс людзей, якія павінны прыйсці ноччу да яе. Потым яна павярнулася да Удома.

— Вам патрэбны грошы, Удома?

— Не.— Ён імкліва пайшоў, прабіваючыся праз натоўп.

— Сёння ноччу вас чакае банкет,— скрозь шум пачуўся крык Сяліны.

* * *

Два яго памочнікі санліва вычытвалі нумар.

— Хто-небудзь прыходзіў? — энергія Удома прагнала іх сон.

— Прыходзіў адзін з дырэктароў,— сказаў старэйшы з іх.

— І што?

— Ён зайшоў да вас у кабінет і прачытаў гранкі першай паласы. Мы сказалі яму, што вы гэтага не любіце, а ён адказаў, што газета належыць яму.— Ён змоўк, нібы чаго чакаючы. Удома маўчаў, і той працягваў. — Ён сказаў, што ўнёс нейкія змены, а калі вы не згодны з якой-небудзь з іх, то перш, чым друкаваць, павінны паведаміць яму. Ён сказаў, што будзе чакаць вас у сваёй канторы да пяці гадзін.

— Цяпер ужо амаль пяць,— сказаў Удома. — Падбяжыце і скажыце нашаму дырэктару, што ўсё ў парадку. Надрукую ўсё так, як ён хоча. Ідзіце ж! Мы не павінны падводзіць сваіх дырэктароў. Яны ж плацяць нам грошы.

— Але ж, містэр Удома, сэр!

— І глядзіце — вяртайцеся сюды як мага хутчэй. Нас чакае вялікая работа!

Старэйшы памочнік неахвотна патупаў уніз па лесвіцы.

— Няхай мяне ніхто не турбуе — ніхто.

Ён пайшоў у свой кабінет, адным узмахам рукі ачысціў стол і прыцягнуў да сябе машынку. Ён зразумеў, што змёў са стала нават і чыстую паперу, і ўсміхнуўся. Апусціўся на калені і сабраў з падлогі паперу. Устаў, засунуў адзін ліст у старую машынку і пачаў стукаць па клавішах. Спачатку словы выходзілі неяк няўпэўнена:

«Заклік да народа! Паўстаньце і вызваліцеся!»

* * *

Ён доўга нешта рупліва пісаў. Потым заплюшчыў вочы і адкінуўся на спінку крэсла, пакуль не прайшло ап'яненне, выкліканае словамі, якія ён напісаў. Справа зроблена. Цяпер адступаць нельга. Ён расплюшчыў вочы. Прачытаў усё, што напісаў. Змяніў радок у адным

месцы, забіў слова ў другім, перарабіў цэлы сказ. Так, іншага шляху няма. Народ амаль зусім не адукаваны, таму ён вымушаны гаварыць лозунгамі. А цяпер справа за другімі — за Эдэбхаем і Сялінай, за докерамі. А што, калі нічога не выйдзе, і ён будзе гнісці ў турме, і нікому да яго не будзе справы? Не!.. Ён устаў, адамкнуў дзверы і паклікаў сваіх памочнікаў.

— Вы яго бачылі?

— Бачыў,— сказаў старшы.

— Што ён сказаў?

— Вельмі ўзрадаваўся і сказаў, што нарэшце вы нешта ўцямілі. Ён засмяяўся і дадаў, што яму не прыйшлося папярэджваць друкара не браць ад вас якога-небудзь запальчывага артыкула.

— Добра. Цяпер прачытайце вось гэта.— Ён падсунуў да іх тое, што толькі што напісаў.

Яны чыталі, стоячы поплеч і нахіліўшыся над яго сталом. Калі яны ўзнялі вочы, ён супакоіўся. Іх твары сказалі яму ўсё, што ён хацеў ведаць аб уздзеянні гэтага артыкула.

— Божа мой! — ад здзіўлення старшы шырока раскрыў рот.

— Вось дык так! — сказаў другі і раптам закрычаў: — Свабода!

— Пойдзем, набярэм.

— Але вас арыштуюць,— сказаў старшы.

— Ведаю. Мы надрукуем столькі экземпляраў, колькі хопіць паперы. Выкарыстайце ўсю паперу. Пасля сённяшняй ночы мне ўжо яна больш не спатрэбіцца. Думаю, лепш кожнаму з нас узяць з сабою некалькі экземпляраў. Заўтра яны захочуць канфіскаваць гэты нумар.

— Добра, сэр! — сказаў другі памочнік, вочы яго бліснулі.

— Але ж друкар,— сказаў першы памочнік.— Ён не захоча набіраць гэтага. Я ведаю, ён не захоча гэтага набіраць! Ён убачыць і кінецца ды дырэктароў ці ў паліцыю. Ён баіцца за свой патэнт і работу.

— А вы як? — спакойна спытаўся Удома.

— Вы ж ведаеце, я ваш.

— Добра. Калі-небудзь вы будзеце рэдактарам нашай газеты. Гэта будзе сапраўдная газета.

— А як жа з друкаром?

— Ён любіць бутэльку,— сказаў другі памочнік.

— А той хлопчык, што дапамагае яму, можа набіраць?

— На самай справе ўсё робіць ён,— сказаў старшы.

— І ён справіцца без старога?

— Вы яго герой, сэр,— выпаліў другі памочнік.— Для вас ён зробіць усё.

— А як нам адвязацца ад старога? — спытаўся старшы.

— Вы ведаеце Сяліну з рынка?

— Сяліну ведаюць усе. Яна буйная гандлярка. Багатая.

— Ідзіце да яе. Скажыце, што я прыслаў, і растлумачце нашу замінку з гэтым чалавекам. Скажыце ёй, што ён любіць бутэльку.

— І гэта ўсё?

— Усё. Не, вось яшчэ што — скажыце ёй, што нам патрэбны грошы на таксі і адрасы, дзе можна схаваць ад паліцыі экземпляры газеты. Ідзіце ж, пакуль яна яшчэ там.

На гэты раз на твары першага памочніка нельга было заўважыць

неахвоты. Ён вярнуўся вельмі хутка. З кішэні выцягнуў тоўсты пачак грошай.

— Сяліна гаворыць, дайце ёй пятнаццаць хвілін, і старога тут не будзе. Яна прыехала са мной, падвезла мяне на таксі. Сказала, што пачакае, пакуль я паднімуся, а потым зойдзе да старога.

Удома падскочыў да дзвярэй. Ён паспеў убачыць, як Сяліна ўвайшла ў прыбудову ўнізе. Неўзабаве Сяліна і стары выйшлі разам. Пастаялі, аб нечым пагаварылі, потым стары падаўся да лесвіцы.

— Вам, хлопцы, лепш сесці за свой стол,— паспешліва сказаў Удома, а сам кінуўся да сябе ў кабінет і засунуў у кішэню напісанае ім. Калі стары пастукаў у дзверы і ўвайшоў, Удома быў вельмі заняты праўкай гранак.

— Містэр Удома! Я незадаволены тым, што вы затрымліваеце матэрыял. Вы ведаеце, што ўжо вельмі позна?

— Я вельмі шкадую,— сказаў мякка Удома.— Адзін з дырэктароў зрабіў свае папраўкі, і цяпер я іх уношу.

— Я гэта ведаў гадзіну назад!

— Прабачце, містэр Таўнзенд. Вы ж ведаеце, як бывае. Адным вухам я чуў, што забастоўка будзе ўладжана...

— Усё гэта чуткі. Тыя дурні нічога не разумеюць. Вы ведаеце, я не згодзен з тым, што вы іх падтрымліваеце...

— Ну, цяпер з гэтым скончана, містэр Таўнзенд, я запэўняю вас.

— Ужо і пара вам чаму-небудзь навучыцца. Але я прыйшоў сказаць вам, што мне трэба сустрэцца з адным кліентам наконт вельмі важнага заказу. Ваша ж газета, ведаеце, не акупляе мой станок. Хлопец сам управіцца. Пазней я пастараюся прыйсці.

— Няма патрэбы парушаць свой адпачынак. Я пашлю каго-небудзь з маіх хлопцаў яму на дапамогу.

— Добра. Але ніякіх глупстваў, глядзіце.

Удома зняважліва раскінуў рукі.

— Ну, дык дабранач. Я вельмі рады, што вы ўсё-ж убачылі сэнс гэтай забастоўкі.

— Добрай ночы, містэр Таўнзенд.

Першы памочнік прасунуў галаву ў дзверы:

— Яны пайшлі! Яна забірае яго!

Удома ўстаў і таропка падышоў да дзвярэй.

— Хадзем! У нас многа работы.— Яны прагрукаталі абцасамі па хісткіх прыступках.— Атрымалі адрасы?

— Яна наказала прывесці газеты да яе на таксі.

— Добра.— Ён павёў іх у друкарню.— Замкніце дзверы на замок.

Ён шчыра ўсміхнуўся хлопчыку-негру, які падышоў да яго.

— У мяне для цябе вялікае заданне, сынок. Калі ты будзеш старым чалавекам, ты раскажаш пра гэта сваім унукам! Хочаш есці?

— Так, са,— усміхнуўся хлопчык.

З пачка, што прыслала Сяліна, Удома выцягнуў фунтавы білет і даў яго другому памочніку.

— Прынясіце чаго-небудзь паесці. Нам гэта спатрэбіцца. Замкніце за ім дзверы. — Ён скінуў куртку, закасаў рукавы, не звяртаючы цяпер увагі на дзіркі ў сарочцы. Даў хлопчыку свой артыкул.— Пакажы нам, як друкуюць, і мы гэта зробім самі, пакуль ты набіраеш вось гэта.

— Добра, са— сказаў хлопчык. Для яго гэта была вельмі цікавая гульня.

* * *

Каля двух гадзін раніцы перад домам Сяліны ў заходняй частцы горада затармазіла таксі. Сяліне належаў адзін з нешматлікіх дамоў у гэтым раёне, да якога было праведзена электрычнае святло. Усе пакоі былі ярка асветлены.

— Прыехалі, са,— сказаў уладальнік таксі.

Да вушэй Удома данёсся шум, а над усім — нейчы голас:

— Ён прыехаў!

Эдэбхай і Сяліна былі наперадзе тых, хто пайшоў яго сустракаць. Раптам з усіх бакоў яго абступілі людзі. Яны працягвалі да яго рукі, і ён паціскаў іх.

— Гатова? — спыталася Сяліна.

— Гатова,— адказаў ён і падаў ёй нумар.— У таксі дзесяць тысяч экземпляраў.

— Мы паклапоцімся аб іх,— сказала яна.— Ваша справа зроблена.

— Ты стаміўся,— сказаў Эдэбхай.

У мяне яшчэ будзе час адпачываць.

— Хадземце, — сказала Сяліна. — Спачатку пад'ежце. Пакуль будзеце есці, доктар прачытае нам гэты заклік да народа. Хадземце.

У вялікім пакоі было многа спіртных напіткаў. Там было каля дваццаці чалавек. Усе яны вельмі мала выпілі і былі зусім цвярозыя. Гэта падбадзёрыла Удома — яны сур'ёзныя людзі. На некалькі секунд ён застаўся сам-на-сам з Эдэбхаем.

— Ну, як? — спытаў ён.

Эдэбхай весела ўсміхнуўся.

— Яны цудоўныя. Яны нас не кінуць! Яны падтрымаюць нас! Гэтая Сяліна, во! — Ён заліўся раскацістым, шчаслівым смехам. — І мы намецілі многа планаў.

Сяліна падвяла да Удома свайго мужа і старэйшую дачку. Мужчына быў невысокага росту, тоўсты і санлівы. Ён прыязна ўсміхнуўся. Дзяўчына для сваіх дванаццаці год была вельмі рослай. Сяліна пазнаёміла Удома з мужам і загадала мужу пайсці да таксі па газеты і разлічыцца з шафёрам.

— А ты тая самая, што чытае сваёй маме? — сказаў Удома дзяўчынцы.

Яна сарамліва апусціла галаву.

— Тая самая,— сказала Сяліна.— Яна прыгатавала вам ежу і падасць вам. Добра накармі яго, дачушка. Ён — вялікі меч нашай краіны. Ён павінен быць востры. А вы, доктар, ідзіце сюды і пачытайце нам.

Удома пайшоў у невялічкі пакойчык, сумежны з вялікім.

— Не зачыняй дзверы,— сказаў ён дзяўчынцы.— Я хачу паслухаць.

У вялікім пакоі людзі стоўпіліся вакол Эдэбхая, які стаяў пасярэдзіне і чытаў. Паступова голас яго набываў моц і палымянасць, у ім гучалі тыя ж пачуцці, што хвалявалі Удома, калі ён пісаў гэтыя словы.

Удома перастаў есці і пачаў уважліва прыслухоўвацца да голасу Эдэбхая. Заўтра тысячы, а мо' сотні тысяч людзей прачытаюць ці пачуюць гэтыя словы, і яны, як пажар, як гул старажытных барабанаў, пракоцяцца па ўсёй краіне. Ці разбудзяць яны народ? Ці ўздымуць яго?

Эдэбхай скончыў чытаць. Наступіла доўгая цішыня. Потым цішыню парушыў нейчы палымяны голас:

— С В А Б О Д А!

Усе прысутныя падхапілі гэтае слова, і дом затросся ад магутных воклічаў.

Удома адкінуўся ў крэсле і заплюшчыў вочы. Ён адчуў, што ўвесь дрыжыць. Сэрца моцна стукала. Потым ён лёгка ўздыхнуў і расплюшчыў вочы. Так. Вось яно: усё правільна — самы момант, і ён яго правільна выбраў.

— Але бітва яшчэ наперадзе,— прашаптаў ён сам сабе.

Цяпер загаварылі ўсе, а Сяліне прыходзілася стрымліваць іх і не даваць ім хлынуць у маленькі пакойчык, каб накінуцца на Удома з віншаваннямі.

— Ён галодны і без сіл! — крычала яна.— Ён хоча есці! Потым ён адну гадзіну адпачне, і ніхто яго не патурбуе. Ніхто! Пасля гэтага ён прыдзе сюды, і мы раскажам яму нашы планы. А потым ён пойдзе да сябе і будзе чакаць тых, хто прыдзе па яго. Тады ўжо возьмемся за працу мы. За працу! Ён хоча перамогі, а не апладысментаў! А, доктар?

«Цудоўна,— падумаў Удома,— цудоўна. Вялікая жанчына Сяліна. Няхай яна кіруе. Эдэбхай прасочыць, каб яна добра кіравала. Трэба толькі напомніць Эдэбхаю, каб ён паслаў нашай групе ў Лондан поўную інфармацыю. Ім трэба будзе распаўсюдзіць яе, арганізаваць дэманстрацыі і запытанні ў Палаце Абшчын, пераслаць гэтыя весткі ў Савет Нацый. О, божа мой! Няўжо гэтак жа сябе адчувалі тыя, хто рабіў рэвалюцыю ў мінулым? Цяпер тыя людзі — ужо гісторыя, але ці адчувалі яны сябе гэтак, як я? Быццам цябе нясе па імклівай рацэ. А ты ўсё ж спакойны. І ці былі яны ўпэўнены ў поспеху гэтак, як я? Мусіць, былі, бо інакш не пачыналі б. Мяне падтрымаюць. Падтрымаюць. Да барацьбы, мой народ! Трэба абдумаць усё спакойна, мой дружа. Хваляванне — для другіх. Для цябе — адказнасць. Усё можа пайсці і не так. Абдумай гэта. Не. Усё пойдзе правільна! Інакш не можа быць. Не павінна быць! Не будзе! Эх, калі б уся наша група была цяпер тут. Нават Мабі. Яны прыедуць. Так, яны прыедуць. Я паклічу іх, і яны прыедуць. Том вызваліцца ад гэтай жанчыны, што корміць, апранае і пагарджае ім. А Мхендзі будзе складаць планы для сваёй краіны. Так! Мы даб'емся свайго!»

Увайшла Сяліна. Дзяўчынка выйшла.

— Паелі?

— Добра, Сяліна.— Ён успомніў пра пачак грошай у сваёй кішэні. Выняў яго і працягнуў Сяліне.— Я патраціў, колькі трэба было.

— Пакіньце іх сабе.

— Не. Я патраціў, колькі трэба было. Яны вашы.

— Усё маё цяпер таксама і ваша, Удома.

— Вазьміце грошы!

Сяліна ўсміхнулася.

— Не трэба злаваць. Я іх вазьму.— Яна ўзяла ад яго пачак банкнотаў.— А цяпер пойдземце.

— Я не стаміўся.

— Пойдземце, Удома.

Ён устаў і пайшоў за ёю праз увесь дом у задні пакой.

— Вось ваш пакой. Праз гадзіну я сама прыду і пастукаю. З таго боку ёсць ключ. Скарыстайце яго. Ніхто, акрамя мяне, вас не патурбуе. Там ёсць яшчэ адны дзверы. Вы зразумееце, навошта яны. Ну, ідзіце.

Удома адчыніў дзверы, зрабіў крок, але імкліва адскочыў назад да Сяліны.

— Што гэта?

На твары Сяліны праглянула пяшчота.

— Яна для вашай гадзіны адпачынку, Удома. У турме няма жанчын. Паглядзіце на яе. Яна маладая і прыгожая.

— Але, Сяліна, хто яна? Я...

— Хіба вы нявольнік звычаяў белых? Яна — гэта ваша краіна. Дайце мне толькі адно абяцанне. Вось якое. Калі тое, аб чым мы марым, здзейсніцца, вы не паставіце над намі белую жанчыну, вы не возьмеце за жонку белую жанчыну. Гэта адзінае абяцанне, аб якім я вас прашу.

«Так,— падумаў Удома,— вось што...»

— Я абяцаю,— урачыста прагаварыў ён.

— Цяпер уваходзьце. Ніхто не ведае. Будзьце шчаслівыя.

Калі ён увайшоў, дзяўчына павярнулася да яго.

Яна была прыгожая. Яе вочы віталі яго. Гэтыя цёмныя вочы слізганулі па яго твары і адвярнуліся.

— Як тваё імя?

— Мяне завуць Нэнсі,— прашаптала яна.

— Паглядзі на мяне, Нэнсі.

Яна ўзняла галаву.

Цёмныя вочы, чорныя, як афрыканская ноч. Не светлыя і ясныя, як у Лойс... Лойс... Чаму гэта яна заўсёды тоіцца недзе ў яго думках? Ён ніколі не думае пра яе, але яна заўсёды там.

Не ясныя, як у Лойс...

Лойс...

Працяг будзе



**Васіль МАТЭВУШАЎ**

# ПЕРШАЕ СТУДЗЕНЯ

Сябры мае,
Як хутка год прайшоў!
І мне шкада да болю,
Што не паспеў я свежасцю вятроў
Надыхацца уволю.

Кароткім летам не па ўсіх гаях
Паслухаў спеў птушыны;
Не накасіўся ў полі, на лугах
Мядовай канюшыны.

І песень мала я прапеў
У цёплы адвячорак,
Як ураджай за вёскаю шумеў
У жніўеньскіх прасторах.

А калі восень пачала ірдзець,
Мне нехапіла часу
У кожным доме, свірне паглядзець
Багацці і прыпасы.

І скаргаў я нямала атрымаў
Суровых, справядлівых,

Што не на ўсіх вяселлях павітаў
Вас, радасных, шчаслівых.

І апраўдацца сёння не змагу,
Чаму ўсё так выходзіць,
Што зноў прад вамі буду я ў даўгу
І ў наступіўшым годзе.

## Размова аб майстэрстве

**Міхась ЛАЗАРУК,**
**кандыдат філалагічных навук**

# АДЗІН ВЕРШ

Калі перагортваеш старонкі паэтычных зборнікаў мінулых год, *вельмі часта, як з нечым новым,* сустракаешся з якім-небудзь вершам паэта, з захапленнем перачытваеш яго, і становіцца радасна і сумна. Радасна ад думкі, што вось ёсць жа ў нас такія выдатныя рэчы і іх многа; сумна ад таго, што яшчэ далёка не ўсё гэта па-сапраўднаму ацэнена.

Мы будзем гаварыць пра адзін з такіх твораў, пра верш П. Панчанкі «Герой». Нельга сказаць, што гэты верш быў не заўважаны нашай крытыкай. Аб ім гаварылі, як аб лепшым творы паэта. Але ён, несумненна, заслугоўвае значна большай увагі, чым тая, што выпала на яго долю. І размова аб ім, у сваю чаргу, можа быць, на нашу думку, не бескарыснай для маладых паэтаў, і асабліва для тых, хто робіць першыя крокі ў літаратуры.

Верш «Герой», як сведчыць яго назва, гэта твор аб гераізме савецкага чалавека, аб яго самаахвярнай адданасці Радзіме. Аб гэтым вельмі многа пісалі нашы паэты ў час вайны і пасля яе. Але скажам проста: нялёгка адшукаць другі такі твор у нашай паэзіі, дзе б так выразна, дакладна і дасканала раскрываўся подзвіг героя, як гэта зроблена ў П. Панчанкі.

І таму, што на гэтую тэму пісалі многія паэты, і таму, што за яе, у першую чаргу, як правіла, бяруцца маладыя і пачынаючыя (і гэта вельмі натуральна: такая традыцыя выпрацавана нашай літаратурай і жыццём), аб гэтым вершы П. Панчанкі хочацца пагаварыць падрабязней.

Верш «Герой», будучы гранічна кароткім, лаканічным, з'яўляецца вельмі яркім, мастацкі дасканалым. Вось ён цалкам:

Злосна сказаў: «Уставай,
пяхота!
Мы не на пляжы, а на
вайне».
І лёг на змяіныя скруткі
дроту.
І дзвесце салдацкіх
запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.
Не ён, а другія пайшлі
у атаку,

Лімонкі кідалі у бліндажы,
Калолі фрыцаў, палілі танкі
І сцяг перамогі ўзнімалі
ранкам
На заваёваным рубяжы.
А ён свае косці з іржавых
калючак
Сваімі рукамі без стогну
аддзёр,
Зваліўся на травы, і стала
балюча
І травам, і росам, і ветрам
гаючым,
Што прыляцелі з валдайскіх
азёр.

Як тут усё проста, звычайна! Але вазьміце гэты верш і прачытайце (як нам даводзілася) сваім слухачам, і вы ўбачыце, як часцей заміргаюць яны вачыма, а потым глыбока задумаюцца. Гэта таму, што верш паказвае наша жыццё ў самым галоўным, а нашага чалавека — у яго сутнасці; верш актуальны заўсёды і заўсёды знаходзіць водгук у сэрцы чытача.

У чым жа сіла гэтага невялічкага верша? Чым ён так уздзейнічае на чытача? Сіла яго ў тым, што тут з гранічнай паўнатой раскрыта веліч подзвігу савецкага чалавека, дадзены яркі вобраз героя. Паказаны ў адно імгненне, вобраз героя выклікае багацце думак, якія даюць магчымасць узнавіць увесь яго воблік, характар, нягледзячы на скупасць выяўленчых сродкаў верша. Паэт перадаў у ім тыповыя рысы маральнага і палітычнага аблічча савецкага чалавека, які самаадданна змагаўся супраць фашызма. Сіла верша — у мастацкім абагульненні, глыбокай праўдзівасці, нарэшце, у высокім майстэрстве паэта.

Верш уяўляе сабою замалёўку невялікага, але выключна драматычнага адрэзку жыцця героя. Паэт узяў гэты момант і паказаў яго такім, якім ён быў, але ва ўсёй яго ўнутранай складанасці, мастацкі сінтазаваным.

Нам невядома, як быў напісаны верш «Герой», што паслужыла матэрыялам для яго. Магчыма, паэт сам наглядаў факт, паказаны ў вершы, і быў у ліку тых, што прабеглі па спіне таварыша, рынуўшыся ў. атаку, а магчыма, ён сустрэў у франтавой газеце невялікую заметку, дзе скупа паведамлялася, як адзін баец кінуўся на калючы дрот, каб даць магчымасць другім пайсці ў бой. Гэта і не важна.

Важна тое, што факт, пакладзены ў аснову верша, глыбока жыццёвы, тыповы для савецкага чалавека. Ён абавязкова мог быць, як былі подзвігі Аляксандра Матросава, Мікалая Гастэлы і іншых, ён адпавядае характару савецкага чалавека. Для нас асабліва важна тое, як гэты жыццёвы факт стаў фактам літаратуры, даў зародак вершу і быў па-мастацку асэнсаваны паэтам, хоць для параўнання нядрэнна было б мець і іншы матэрыял.

Паэт сустрэўся з яркім фактам гераічнай барацьбы, які запаліў яго жаданнем расказаць аб гэтым чытачу. Факт вельмі выразны. Але як яго ўвасобіць у радкі? Паэт вырашыў даць яго ў самай лаканічнай форме, без шырокіх уласных каментарыяў. Яны тут былі б бадай лішнімі.

Верш «Герой» пачынаецца адразу з дзеяння, без прадмовы, без звычайнага зачыну:

Злосна сказаў: «Уставай,
пяхота!
Мы не на пляжы, а на
вайне».
І лёг на зміяныя скруткі
дроту.

І за гэтымі радкамі паўстае карціна: байцы ляжаць у акопах каля дротавых загарод ворага перад атакай. Вораг абстрэльвае іх, не дае падняць галавы. Нарастае гнеў, і вось адзін з байцоў устае і, сказаўшы словы, у якіх столькі

суровай рашучасці, лажыцца на «змяіныя скруткі дроту», каб даць магчымасць другім пераадолець перашкоду і кінуцца ў бой.

У гэтых радках усё прадумана, паэт знайшоў самыя дакладныя і незамянімыя словы:

**Злосна** сказаў...

Ці выпадкова гэты радок пачынаецца такім эпітэтам? Магчыма, лепш было б замяніць яго эпітэтам «гнеўна»? Злосць, як вядома, далёка не «высакароднае» ды і не вельмі паэтычнае ў высокім сэнсе пачуцце і часта мае адмоўны сэнс. І аднак, не! Гэта якраз тое незамянімае слова, якое дакладна перадае і напружаную атмасферу франтавых будняў, і стан героя. Менавіта са злосцю, з пачуццем, у якім скандэнсавалася і вялікая нянавісць да фашыстаў, і гнеў, і, магчыма, горыч папярэдніх франтавых няўдач, паражэнняў, былі сказаны словы, звернутыя да баявых таварышаў. І ў гэтым не было абсалютна нічога крыўднага для іх, перапоўненых тымі ж адчуваннямі.

Гэты эпітэт, у сваю чаргу, у радзе другіх мастацкіх сродкаў, надае вершу глыбокую рэалістычнасць, сапраўдны драматызм. Паспрабуйце замяніць яго на эпітэт «гнеўна», які дарэчы, так лёгка становіцца ў радок, і вы адчуеце, як адразу знікае эмацыянальная напружанасць радка. Ужо не парахавым дымам павее на вас, а халадком эстрады, дэкламацыяй, робленым абурэннем артыста, а не пачуццем франтавіка.

Не выпадковым, а глыбока змястоўным і апраўданым з'яўляецца ў вершы і параўнанне «Мы не на пляжы, а на вайне». Для чаго спатрэбілася паэту такое параўнанне-антытэза? Яно, па-першае, мае багатыя зрокавыя асацыяцыі, праўда, знешнія і ўнутрана супрацьлеглыя. «На пляжы» — маса людзей, раскіданых па адным, нерухомых, пад спякотным сонцам. Калі на нейкі момант забыцца, адцягнуць увагу ад канкрэтнай франтавой абстаноўкі, сапраўды можа ўзнікнуць такая падкрэслена недарэчная карціна: сотні людзей у шэрых ад пылу гімнасцёрках застылі, ляжаць нерухома, быццам на пляжы. Сваім параўнаннем паэт эмацыянальна перадае ўнутраную супярэчнасць гэтай карціны. Воінам-байцам імчацца б наперад з вінтоўкамі, а яны вымушаны ляжаць, як на пляжы, «загараць». Па-другое, паэт тут непрыкметна паказвае абставіны: дзеянне адбываецца ў гарачы летні дзень.

Вось які багаты змест гэтых радкоў верша, ужо не гаворачы аб вобразе «змяіныя скруткі дроту», — выключна трапным і глыбока змястоўным. Проста здзіўляешся ёмістасці гэтага вобраза, яго дакладнасці: як удала перададзена ўражанне ад дротавых спіральных калючых загарод, якія, быццам змеі, што звіліся ў клубок, перагарадзілі дарогу байцам. Які прастор для думак і пачуццяў адкрывае гэты вобраз і як адно слова «змяіныя» эмацыянальна насычае пачатак верша!

Далей ідуць як быццам вельмі спакойныя, чыста эпічныя радкі:

І дзвесце салдацкіх
запыленых ботаў
Прайшлі па яго спіне.

Але гэтай іх стрыманасцю, падкрэслена бытавым выразам «дзвесце **запыленых** ботаў» яшчэ больш узмацняецца драматызм верша. Яны паказваюць веліч самаахвярнасці чалавека, які лёг на калючы дрот, каб панесці гэтакую пакуту.

Усё ў гэтых радках прадумана, узважана, няма ніводнага сэнсава не нагружанага слова. Анафара ў трэцім і чацвёртым радках, паўтарэнне злучніка «і»:

І лёг на змяіныя скруткі
дроту...
І дзвесце салдацкіх
запыленых ботаў...

яшчэ больш узмацняе напружанне, драматызм верша.

У сувязі з сказаным нас не можа не зацікавіць пытанне, як растлумачвае паводзіны героя паэт. Робіцца гэты подзвіг ва ўспышцы адчаю ці як свядомы ўчынак? На гэта не даюць адказу разгледжаныя радкі. Але вось перад намі другая страфа, якая заключае ў сабе роздум паэта аб сваім героі. Паэт нібы ўзнаўляе тут думкі героя перад тым, як ён адважыўся пайсці на смерць. Перажыванні паэта, у якіх чуецца шкадаванне з поваду таго, што герою не прыдзецца больш хадзіць у атаку, не давядзецца біць ворага і паднядь сцяг перамогі на заваяваным рубяжы,— гэта перажыванні самога героя, які бадай толькі аб гэтым і падумаў, калі свядома ішоў на смерць у імя Радзімы. На гэта і пераносіць сваю ўвагу паэт, даючы матывіроўку подзвігу героя. Смерць героя не выклікае ў вершы абстрактных разважанняў, яго ўчынак асэнсоўваецца ў плане характару героя — савецкага чалавека, які да канца пранікнуўся ідэямі сацыялістычнага грамадства.

А. Суркоў гаварыў аднойчы: «Многія з нас і да вайны і ў ваенны час задавальняліся тым, што **называлі** новае ў вершах, замест таго, каб, абапіраючыся на дасканалае майстэрства паэта, **раскрываць** з'яву ў яе адчувальнай канкрэтнасці».

П. Панчанка ў сваіх вершах ідзе менавіта па шляху адчувальна-канкрэтнага раскрыцця сутнасці падзей і характару свайго героя. Аднак паказваючы самаахвярны подзвіг савецкага чалавека як свядомы ўчынак, П. Панчанка далёкі ад лёгкай гераізацыі падзей вайны. У гэтым сіла яго паэзіі. У вершы «Герой» рэалістычна пададзены ўвесь драматызм моманту.

Можна ж было паэту даць і іншы зыход дзеянню, такі, напрыклад, як у газетным паведамленні, якое было ў адной з франтавых газет, паказаць, што герой, падняўшыся ўслед за апошнім салдатам, пайшоў таксама ў атаку. Такое магло быць, як сведчыць факт з газеты. Але паэт не робіць гэтага, баючыся адступіць ад жыццёвай праўды, падкрэсліваем, не праўды аднаго выпадку, а праўды ўсёй вайны, якая ў першы перыяд прыняла такі трагічны разварот для нашага народа. У гэтым таксама праяўляецца тыповасць героя і яго ўчынку ў вершы П. Панчанкі. Змяніў бы паэт ход дзеяння, і яго верш страціў бы абагульняючую сілу, жыццёвую пераканаўчасць, і мы не змаглі б адчуць у ім драматызм падзей вайны. Менавіта шырокае абагульненне надае вершу сілу, а не тое, што ў аснову яго пакладзены незвычайны факт.

Сам факт яшчэ не дасць вершу гучанне, калі ён не прачуты і не асэнсаваны глыбока паэтам. Характэрна ў гэтым сэнсе, што калі дзеянне верша дасягае сваёй кульмінацыі ў самым пачатку, драматызм верша не спадае, а нарастае па ходу яго прадаўжэння і дасягае вышэйшага напружання ў апошняй страфе:

> А ён свае косці з іржавых
> калючак
> Сваімі рукамі без стогну
> аддзёр,
> Зваліўся на травы...

Перад намі карціна здзіўляючай сілы. Герой, па спіне якога прабеглі «дзвесце салдацкіх запыленых ботаў», зваліўся на травы без адзінага гуку. Так і ўяўляецца, як пасля апошняга прабегшага па спіне салдата, ён быў адкінуты спружыністай спіраллю на зямлю. І што асабліва патрэбна тут адзначыць, маючы такую трагічную карціну, паэт не выходзіць за рамкі рэалістычнага. Тут няма

і ценю любавання пакутамі героя, яго смерцю.

Варта, нарэшце, звярнуць увагу і на тое, як выражана адчуванне вастрыні моманту, велічы ўчынку героя, перададзенае праз адчуванні паэта і свядома вынесенае ў свет прыроды ў апошніх заключных радках:

Зваліўся на травы, і стала балюча
І травам, і росам, і ветрам гаючым,
Што прыляцелі з валдайскіх азёр.

Вобраз прыроды, так натуральна ўведзены сюды, надае вершу яшчэ большую эмацыянальную сілу, кампазіцыйна заканчвае гэты малюнак.

Факт, пададзены ў вершы, трагічны. Паэт і перадае яго такім. Але пры ўсёй трагічнасці паказанага, верш гучыць глыбока аптымістычна. Ён не прыгнятае чытача сваім трагізмам, а выклікае актыўныя пачуцці. Аптымізм верша — у адчуванні велічы подзвігу, ва ўсведамленні надзвычайнай важнасці той справы, у імя якой подзвіг зроблены. Гэтаю думкай прасякнуты багаты падтэкст верша.

*З блакнота падарожніка*

Янка БРЫЛЬ

# СЛОВА ПА ШЧЫРАСЦІ

Нядаўна мне зноў давялося наведаць Народную Польшчу — трэці раз за тры апошнія гады.

Яшчэ на савецкай зямлі, у нашым вагоне, я думаў, што новы мой падарожны нарыс назаву, відаць, так: «У Польшчы без хвалявання». Бо многа гэтага хвалявання было адчута ў першую паездку і выказана на старонках маёй кніжкі «Вачыма друга», бо нельга двойчы аднолькава хвалявацца... І яшчэ адно — вельмі істотнае **бо:** у Польскай Народнай Рэспубліцы, пасля вядомых кастрычніцкіх падзей 1956 года, адбылося і адбываецца нямала такога, што больш насцярожвае, чым хвалюе.

У такім настроі я пераехаў Буг і ступіў з падножкі вагона на польскую зямлю.

А праз два тыдні, вяртаючыся дахаты, я думаў, што той, загадзя падрыхтаваны, загаловак — не падыходзіць. Хваляванні былі. Думалася, аднак, што добра было б мае новыя польскія ўражанні падаць чытачу ў форме заўваг або пасляслоўя да таго, што я пісаў на гэтую тэму раней. Чаму? Каб ніхто не падумаў, што сумнага ў маім новым расказе больш, чым было раней, што хваляванне я замяніў чамусьці на нейкае не па гадах старэчае бурклівае ныццё...

Ды вось, адкінуўшы ўсё неістотнае, хвіліннае і дробязнае, пішу — таксама шчыра гледзячы ў вочы нашых польскіх сяброў, ахвотна прызнаюся ў сваіх радасных хваляваннях, не ўтойваю ні сумнага недаўмення, ні агіды і гневу, бо застаюся самім сабою.

* * *

Хваляванні былі.

Адкрытыя, прыязныя ўсмешкі простых людзей, шафёраў і «пілотаў» (гідаў) з Таварыства польска-савецкай дружбы, якія сустрэлі нашу дэлегацыю адразу за Бугам; залатая, спакойная восень абапал стрункай асфальтавай паласы; араты, што раскашаліся няспешнай працай пад сонейкам позняй восені; дзеці-школьнікі і малышы, якія на фоне багатай руні, на вуліцах вёсак і гарадоў гулліва махалі нам ручкамі і смяяліся, — ужо ўсё гэта было пачаткам той хвалюючай песні, якую нам давялося неўзабаве спяваць...

Дзень той быў незвычайны — 6 лістапада 1957 года...



**Раніца ў Кракаве. Помнік А. Міцкевічу.**

У «Кангрэсовай зале» Палаца культуры і навукі, разлічанай на 3,5 тысячы месцаў, варшавян сабралася значна больш: усе праходы былі забіты людзьмі. Калі мы, пасля здравіцы ў гонар магутнага лагера міру і сацыялізма, падхопленыя агульным парывам, усталі і тысячамі грудзей, на розных мовах узнялі нашу найдаражэйшую песню — «Інтэрнацыянал», радасна было адчуваць сябе кропляй у хвалях непераможнага прыбоя!.. Рэдка даводзіцца перажываць такое хваляванне, — адчуваць сябе і далёка ад родных прастораў, і аднačасна дома, у хаце шчырых сяброў, шчасліва адчуваць сябе не толькі маленькай часцінкай, але і давераным прадстаўніком вялікага савецкага народа!

Кланяюся Рэвалюцыі Рускай
Шапкай да зямлі
Па-польску,

Савецкай справе,
Народнай, людскай,
Рабочым, сялянам і войску...

Гэтыя словы выдатнага паэта рэвалюцыйнай Польшчы Уладзіслава Бранеўскага належаць да тых несмяротных, напоеных крывёй народнай мужнасці і сонцам народнага шчасця слоў, чуючы якія нельга не хвалявацца. Я чытаў іх раней, я чуў іх, нібы зусім новыя, на тым самым урачыстым вечары, доўга насіў іх потым у душы...

Найбольш урачыстым момантам у польскім святкаванні 40-годдзя Вялікага Кастрычніка было ўскладанне вянкоў на магілы герояў рэвалюцыі і савецкіх салдат-вызваліцеляў Польшчы. Ад усёй душы і па-польску кланялася ім працоўная Варшава. У поўнай, урачыстай цішыні чуваць быў толькі ціхі барабанны пошчак і шорганне мноства ног па цэментовых плітах і па буйным жвіры. Нерухома застыў зялёны строй ганаровай варты, гвардзейцаў слаўнай дывізіі імя Касцюшкі, — малодшыя браты і сыны тых, што на нашай беларускай зямлі, пад Леніна, пачыналі паход на Берлін. Каля падножжа велічнага абяліска адзін за адным клаліся вянкі, безліч вянкоў, цёплыя, чыстыя кветкі якіх без слоў гаварылі пра пачуцці людзей. Адзін за адным, бясконцым патокам... А барабаны ціха б'юць, і іх старое, традыцыйнае вуркатанне цудоўна, хвалюючы спалучаецца з выглядам светленькай дзяўчынкі і чапурыстага хлопчыка — польскіх школьнікаў, якія стаяць абапал абяліска, таксама на варце. Як сімвал новага, светлага дня, акупленага крывёй герояў!

...Шапка гэта, што ў палоне, — не гетманка,
Над аколышкам няма пяра ад чаплі,
Шапка польская з астрога — катаржанка
З Шлісельбурга, Варынскага шапка.

У фабрычнай, рабочай Лодзі, на

тэкстыльным камбінаце імя Дзяржынскага мы сустракаліся з рабочымі. І ў цэхах, каля нястомных, гаваркіх прадзільных і ткацкіх станкоў, і за бяседным сталом, дзе ў мілым, шумным безладзе гучалі і польскія і нашы песні, вельмі радасна было яшчэ раз убачыць, што Рускай Рэвалюцыі — Вялікаму Кастрычніку польскія таварышы кланяюцца не толькі шапкай-катаржанкай часоў Шлісельбурга і Уладзіміркі. Душой нашай сустрэчы быў таварыш Юліян Кубяк, стары рабочы і палітвязень былых панскіх турмаў, дзе ён сядзеў, дарэчы, разам з некаторымі вядомымі дзеячамі заходне-беларускага камуністычнага падполля.

— Мы вельмі добра памятаем сваіх прыгнятальнікаў, — гаварыў таварыш Кубяк. — Хто памятае даваенных, а хто яшчэ і дарэвалюцыйных. Мы добра ведаем, што і вам і нам даў Кастрычнік, і мы не саступім, таварышы, са шляху нашай з вамі рабочай, пралетарскай дружбы.

Ён не адзін такі — гэты рухавы, жыццерадасны ткач, што са шчырай усмешкай гасціннага гаспадара і даўняга, нягодамі праверанага друга вадзіў нас па ўсіх цэхах старога камбіната, з яўным і па-юнацку прыгожым жаданнем паказаць усё, пазнаёміць нас з усімі рабочымі, усім ім крыкнуць, заглушаючы гоман станкоў:

— Вас вітаюць сябры з Савецкага Саюза!

І там, на Лодзінскім камбінаце імя Дзяржынскага, і на Вроцлаўскім вагонабудаўнічым заводзе «Пафаваг», і на славутай Новай Гуце, і на заводзе легкавых аўтамашын у Варшаве, — усюды, дзе мы сустракаліся са слаўным рабочым класам Польшчы, з яго гвардыяй — камуністамі яшчэ з даваеннага падполля, з часоў партызанскай барацьбы, і камуністамі маладымі, — усюды мы з радасным хваляваннем назіралі, што справе жыцця — непераможнай справе пралетарскай рэвалюцыі рабочая Польшча шчыра, да самай зямлі, па-польску кланяецца і шапкай-катаржанкай часоў Варынскага, і шапкай вязня з Лукішак і Картуз-Бярозы, і салдацкай ды партызанскай пілоткай з дзён змагання з фашызмам.

* * *

Наша дэлегацыя складалася з сямі дзеячоў культуры. Доктар медыцынскіх навук В. Васільева, дацэнт Маскоўскага кінаінстытута Е. Смірнова, мастак П. Сакалоў-Скаля, музыказнаўца І. Бэлза, рускі паэт С. Кірсанаў, украінскі крытык Л. Навічэнка і я.

Ва ўсіх пяці гарадах Народнай Польшчы — у Варшаве, Лодзі, Вроцлаве, Катовіцах і Кракаве,

**Госці і гаспадары ў былым каралеўскім парку Лазёнкі.**



дзе мы пабывалі за два, вельмі кароткія за граніцай, тыдні, нам давялося, згодна плана, прапанаванага гасціннымі гаспадарамі, сустракацца пераважна з творчай і навуковай інтэлігенцыяй.

Разам з усім станоўчым, радасным, што сустракалі мы ў сваім падарожжы, было нямала і сумнага: недаўменйя, нават агіды і гневу...

І са старонак польскага друку, за якім я даволі пільна сачу, і пры сустрэчах з паасобнымі літаратарамі мне даводзілася не раз чуць не пазбаўленае маладой, наіўнай пахвальбы прызнанне: «Мы, палякі, пачалі цяпер гаварыць праўду». **Цяпер** — значыцца, з восені 1956 года. Магчыма, каму-небудзь з польскіх сяброў давядзецца чытаць гэтыя радкі, дык няхай жа ён не пакрыўдзіцца за слова праўды, да якой нам, савецкім людзям, не прывыкаць.

На старонках газеты «Пшэглёнд культуральны», аднаго з найбольш папулярных у Польшчы літаратурна-мастацкіх выданняў, нядаўна закончылася дыскусія на тэму «Што будзе праз дзесяць год?» і пачалася не менш, на думку рэдакцыі, актуальная дыскусія «Еўрапеізм і польская літаратура». На сустрэчы з работнікамі гэтай рэдакцыі нам даводзілася гаварыць некаторым польскім калегам пра тое, што артыкулы іх здаюцца нашаму чытачу вельмі часта, мякка кажучы, мнагаслоўнымі. Мы не сказалі ім, бо на кароткай сустрэчы не дайшло да гэтага, што праблемы, якія ўздымаюцца на старонках газеты, часта здаюцца нам, таксама кажучы мякка, дзіўнымі. Палемізуючы з першым дыскусійным артыкулам «Еўрапеізм і польская літаратура» (аўтар П. Герц), другая літаратурная газета, «Трыбуна літэрацка», справядліва высмейвае аднабокасць і нават двухсэнсоўнасць пазіцыі П. Герца, які цэлым каскадам шумных і мутных слоў стараецца давесці, што Польшча наогул, а польская літаратура ў прыватнасці, належаць да Заходняй Еўропы, што толькі Заходняя Еўропа і з'яўляецца ўласна Еўропай... Падтэкст тут выпірае яўна падазроны і з далёкім прыцэлам, асабліва калі задумацца над аўтарскім сцверджаннем аб тым, што сутнасцю «еўрапеізма» з'яўляецца «грэчаскі канон духоўнай і фізічнай прыгажосці», «рымскі канон прававога ладу» і «хрысціянскі канон ладу этычнага». Ні слова не гаворыцца пры тым, што пачатая ў Заходняй Еўропе справа пралетарскай рэвалюцыі іменна ва Усходняй Еўропе дамаглася поўнай перамогі, што з Усходу прыйшоў і ідзе магутны ўклад у сацыяльнае і культурнае жыццё чалавечага грамадства. У гэтым сэнсе не менш паказальным з'яўляецца і артыкул у газеце «Нова культура» (20.X.1957) «Першы крок у космас», дзе многа і з вельмі вучоным выглядам гаворыцца пра намаганні людзей авалодаць міжпланетнымі прасторамі, аднак літаральна ні слова не сказана пра тое, што найбольшым дасягненнем не толькі еўрапейскай, але і сусветнай астранаўтыкі з'яўляецца запуск не проста штучнага спадарожніка Зямлі, пра што гаворыцца ў артыкуле, а спадарожніка **савецкага...** І яшчэ адно. У закрытай нядаўна па рашэнню Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі газеце «По просту» знайшліся былі і такія «еўрапейцы», што пачалі заігрываць ні больш ні менш, а з самім Адэнауэрам і яго гітлераўскімі генераламі, культурна забыўшыся пра такія яскравыя ўзоры «хрысціянскай еўрапейскай этыкі», як Майданек і Асвенцім...

Мяне, як і другіх членаў нашай дэлегацыі, засмучала і абурала тое бяздумнае, пазбаўленае пачуцця сацыяльнай і нацыянальнай годнасці нізкапаклонства перад капіталістычным Захадам, дрэнна

замаскаванае імкненне адарвацца ад Усходу, нават ад саміх сябе, якое назіраецца цяпер у пэўных колах польскага грамадства.

Пазалетась, у горадзе Сапоты, у фешэнебельным прыморскім гатэлі мы, разам з польскімі сябрамі, як дзіва-дзіўнае, назіралі «танцы» — заморскае крыўлянне польскіх стыляг, якіх там завуць «бікіняжамі». Разам з польскімі маладымі сябрамі мы ад душы смяяліся з гэтага і гаварылі пра цудоўныя традыцыі польскага народнага танцавальнага мастацтва. Летась, у мястэчку Грудэк пад Беластокам, на вечарыне ў святліцы бачыў я, як адзін лахматы юнец з важным відам выламваўся вакол свае разгубленай яго паводзінамі дзяўчыны. «Ён быў улетку на абласным фестывалі, — засмяялася дзяўчына, якой я выказаў потым сваё здзіўленне. — Дык вось і моднічае хлопец!» Цяпер «рок-н-рол» — на радасць стылягам — перамог у Польшчы, здаецца, канчаткова. Прынамсі, у рэстаранах усіх пяці вялікіх гарадоў, дзе мы былі, нельга было, як кажуць, з'есці кавалка хлеба без акампанемента дзікай... не музыкі, а какафоніі гукаў, пад якія свяшчэннадзейнічаюць мясцовыя «еўрапейцы» абодвух полаў і розных узростаў. Я не веру, што ў такім, з дазволу сказаць, танцы можна знайсці эстэтычную асалоду, і таму ўсе аматары «рок-н-рола» здаюцца мне падобнымі да тых місіянераў, што ў якіх-небудзь гарачых афрыканскіх нетрах самаахвярна прапаведавалі хрысціянскую культуру агню, меча і золата якім-небудзь безнадзейна чорным і правінцыяльна адсталым туземцам. Польскія «бікіняжы» спраўляюць сваю нялёгкую місію носьбітаў «заходняй культуры» з важнасцю куды большай, чым нашы стылягі.

Зрэшты, галоўная бяда не ў «рок-н-роле», і не ў «кока-коле», цудадзейным квасе, якім, нарэшце, прычашчаюцца сталыя наведвальнікі польскіх рэстаранаў. Ёсць значна горшае ў гэтай «культуры», якая вельмі нахабна лезе ва ўсе шчыліны ў палітычным жыцці краіны. Хочацца гаварыць пра «бікіняжаў», якія з не менш важнымі і агрэсіўнымі выглядамі місіянераў разгульваюць па старонках друку, па палотнах на выстаўках, па падмостках сцэны.

Літаратура. Цудоўная літаратура польскага народа — з Міцкевічам і Прусам на сцягу. Вялікая руская літаратура. Магутны акіян сусветнай прагрэсіўнай літаратуры, у якой свае належныя месцы займаюць літаратуры краін народнай дэмакратыі і слаўная савецкая літаратура...

Некаторыя польскія гора-крытыкі, місіянеры заходняй культуры, вось ужо больш года — на вачах у вельмі здаволенага заморскага дзядзькі — практыкуюцца ў аплёўванні нашай савецкай літаратуры, спрабуюць вучыць нас адрозніваць у ёй зерне ад мякіны. Зрэшты, многія з іх ужо стаміліся ад моднай балбатні... Нас засмучае не столькі гэтая эквілібрыстыка паасобных літаратараў, а пэўнае зніжэнне эстэтычных крытэрыяў, падзенне мастацкага густу, якое выразна назіраецца ў пэўных колах польскага грамадства. І гэта ўсё той самы «еўрапеізм»!..

Мне з вялікай цяжкасцю, дзякуючы актыўнай дапамозе маіх польскіх сяброў і знаёмых, удалося дастаць кнігі найбольш модных цяпер у Польшчы аўтараў: Франсуазы Саган, Станіслава Мацкевіча і Марэка Гласкі.

«Калі кніга Саган дайшла да нас, — піша ў газеце «Жыце літерацке» З. Грэнь, — калі яе прачыталі пісьменнікі і крытыкі, дык пачалі ўсміхацца, паціскаць плячыма, гаварыць: гэта ж дрэнная літаратура. Вядома. Але чытачы расхаплівалі аповесць, на дзвярах кніжных магазінаў вывешваліся

вялізныя надпісы на кардоне: «Прывітанне, смутак» — няма!» Бо натоўп бегаў узбуджаны таксама ў Кракаве, як і ў Варшаве. У чым прычына?»

З. Грэнь адказвае на гэтае сваё пытанне так: прычына ў тым, што Франсуаза Саган піша аб сабе, з уласнага вопыту, а «аўтэнтычнасць, — заключае польскі літаратар, — гэта праўда».

Якую ж праўду прынясла польскаму чытачу 20-гадовая, не пазбаўленая пэўных літаратурных здольнасцей французская дзяўчына? Кнігі яе «Прывітанне, смутак» і «Адна ўсмешка» — гэта цынічнае крэда рафінаванай салонна-курортнай прастытуцыі, пошлая парнаграфія, ад якой нармальным людзям бывала моташна яшчэ пры цары Гароху. Такія рэчы могуць падабацца старым абяссілеўшым распуснікам, могуць інтрыгаваць нявопытных юнцоў, але чаму ж у другой палове XX стагоддзя гэтая мазня называецца літаратурай, ды яшчэ такой, якая прапаведуе нейкую «аўтэнтычную праўду»? Адна з нашых старэйшых савецкіх пісьменніц пісала, што ёй хочацца палажыць руку на галаву Франсуазы Саган і сказаць: «Дзяўчынка, што ты робіш? Як нізка ты пала!..» Чытаючы кнігі гэтай місіянеркі заходняй культуры, я, грэшным чынам, думаў міжвольна пра мазольныя рукі добрага і суровага бацькі, які — убачыўшы, да чаго давучылася ці лепш, па-народнаму сказаўшы, да чаго разбрыдзілася яго дачушка, — узяўся б за папругу...

Станіслаў Мацкевіч — Цат. Гэтае імя вельмі добра вядома тым, хто жыў да вайны ў Заходняй Беларусі. Не ведаю, ці многія ў Польшчы памятаюць, што гэты, дарэчы, здольны і адукаваны публіцыст, у свой час рэдактар «Слова», органа крэсавых магнатаў, пісаў у сваёй чарнасоценнай газеце, што прыход Гітлера да ўлады — шчаслівы лёс для Польшчы, што «Хаціна дзядзькі Тома» — агідная кніга, і добра, што гітлераўцы паляць яе... Зрэшты, Мацкевіч-Цат і сам прызнаецца цяпер з мілай фанабэрыяй ваяўнічага дзядулі, што перад вайной (ці толькі перад вайной?..) ён належаў да найбольш заядлых антыкамуністаў. Нядаўна ён вярнуўся з Лондана і пачаў бескантрольна поўзаць зялёнай мухай па мазгах польскай моладзі,* вельмі «аўтарытэтна» і «з бляскам эрудыцыі» распраўляючыся то з Бялінскім, то з Чарнышэўскім, то з Чэхавым, то з Горкім. Кожнага з тэтых людзей пан Цат, не вылазячы са сваёй манархісцкай шкарлупы, калі не закрэслівае адным махам, дык поўнасцю развенчвае з «бікінярскай» грацыяй старога архіўнага плеткара, даводзячы, напрыклад, што Горкі быў ні больш ні менш, як толькі памяркоўным ліберала, а Чэхаў — дробнамяшчанскім апартуністам...

У адным з кніжных магазінаў Кракава прадавец здзівіўся маёй наіўнасці:

— Пане, вы думаеце, што так проста можна дастаць кнігі Мацкевіча?.. Расхапалі!..

Зноў магічныя словы — «чытач» і «аўтэнтычная праўда»!.. Той самы П. Герц, які пачаў дыскусію пра «Еўрапеізм і польскую літаратуру», пісаў улетку мінулага года пра рэакцыйную, брудную кнігу С. Мацкевіча «Дастаеўскі», што гэта «...Кніга асаблівая. Яна ўносіць новы тон у гісторыка-літаратуразнаўства. Мацкевіч бачыць Дастаеўскага па-свойму, так, як **ён хоча** бачыць яго, так, як гэта яму **выгадна»**. (Падкрэслена намі.) Дык вось крытэрый у пазнаванні «аўтэнтычнай праўды» — як хто хоча і як каму выгадна!..

---

* Апошняя кніга С. Мацкевіча так і называецца — «Мухі ходзяць па мазгах».

Марэка Гласку сёй-той называе з надзеяй і авансам нават... польскім Дастаеўскім. Я пазнаёміўся, нажаль, толькі з кнігай апавяданняў Гласкі «Першы крок у хмарах», але і па адной гэтай кнізе можна меркаваць аб сапраўды немалых мастацкіх магчымасцях яе аўтара. І вось у імя яго таленту, у імя вялікай літаратуры, якую мы павінны ствараць, хацелася б сказаць польскаму таварышу па пяру: «Пакінь, браток, хоць ты прыкідвацца «бікіняжам», пакінь без патрэбы корпацца ў сметніках, фанабэрыцца сваёй сапраўднай ці ўяўнай разбэшчанасцю, сваімі дасягненнямі ў «заборнай славеснасці»! Жыццё непараўнана прыгажэйшае, чым ты нам намагаешся давесці, і многія ўжо дарма стараліся праславіцца цынічным адмаўленнем яго разумнай прыгажосці».

У Польшчы стала нейкаю модай, нейкім вышэйшым стылем — брыдка лаяцца. З аднаго боку — натуральная і, трэба сказаць, абаяльная польская ветлівасць, якая, дарэчы, часта на свой, нацыянальны лад пераходзіць у манілаўшчыну, а з другога боку — хамская лаянка і на старонках друку, і з падмосткаў сцэны.

Нам давялося пабываць у чатырох тэатрах Польшчы. У Варшаўскім «Сучасным тэатры» мы глядзелі слабую песімістычную драму англійскага празаіка А. Хакслі «Усмешка Джыяконды», у Вроцлаўскім «Польскім тэатры» — дзве аднаактоўкі Жана Поля Сартра «Каля зачыненых дзвярэй» і «Пачцівая прасцітутка» (у рускім перакладзе апошняя п'еса называецца «Ліззі»); у Кракаўскім тэатры юнага гледача — амерыканскую інсцэніроўку сенсацыйнага галандскага «Дзённіка Анны Франк». Асабіста мне не ўдалося, нажаль, паглядзець «Лазню» Маякоўскага ў пастаноўцы аднаго з лодзінскіх тэатраў. Затое і я пабываў у Варшаўскім тэатры сатыры «Буффо», створаным, як нам падкрэслена і з нейкай гордасцю сказаў адзін інтэлігентны паляк, «пасля леташніх кастрычніцкіх падзей». Туды мы пайшлі асабліва ахвотна і таму, што гэта, як гаворыцца, цуд зусім новы, і таму, што ў паводцы замежных, пераважна заходніх п'ес, якімі заліта цяпер польская сцэна, цікавей за ўсё паглядзець спецыфічна польскае.

Калі мы глядзелі ва Вроцлаве «Пачцівую прасцітутку» Сартра, мастак П. Сакалоў-Скаля, які амаль зусім не ведае польскай мовы, карыстаўся ветлівай дапамогай адной сімпатычнай інтэлігентнай дамы. І што ж, вельмі часта гэтая дама збянтэжана змаўкала, або гаварыла Паўлу Пятровічу:

— А тут папрасіце свайго таварыша, няхай ён вам перакладзе...

Таварыш, гэта значыць я, хоць і я бываў у свой час там, дзе чуецца многае, не асмельваўся ў прысутнасці жанчыны рабіць хоць бы прыблізны пераклад пачутага са сцэны. Еўропа! (Зрэшты, названая п'еса Сартра — нядрэнная, прагрэсіўная рэч).

У тэатры сатыры «Буффо» грубае, пошлае хамства ў многіх выпадках узводзіцца да рангу апалітычнага цынізму. Для прыкладу такая сцэнка. Да пажылога распусніка, карыстаючыся адсутнасцю яго сям'і, прыходзіць дзяўчына лёгкіх паводзін. Пачынаецца пошленькі флірт і адначасна не менш пошлая дыскусія на злабадзённыя палітычныя тэмы. Справа хутка даходзіць да канапы, гасне лямпа і чуваць мужчынскі голас: «Нарэшце, каханая, мы засталіся адны!..» Здзіўлены голас дзяўчыны: «Як адны? А шэсцьсот мільёнаў кітайцаў?!.»

І зала рагоча. Не ўсе, вядома, але чаму ж у народнай, сацыялістычнай дзяржаве нават нямногім пашлякам дазволена ўслых смяяцца з таго, з чаго смяяцца — кашчунства. А праграма вечара была даволі шчодра перасыпана такімі перламі палітычнай і бытавой сатыры. Няўжо ўся гэтая бяззубая, з трупным смуродам пошласць — таксама «аўтэнтычная праўда», той самы «еўрапеізм», ва ўгоду якому аддаюць даволі многа сіл і добрыя, і выдатныя майстры польскай сцэны?..

Некалькі слоў пра выяўленчае мастацтва.

У старадаўнім Кракаве якраз напярэдадні нашага прыезду туды здарыўся адзін сенсацыйны выпадак. З Амерыкі, упершыню пасля вайны, прыехаў вядомы польскі скульптар С. Шукальскі. На ягоны даклад аб сучасным мастацтве сабралася небывала многа людзей. «Слухалі яго, — піша газета «Дзённік польскі», — седзячы па двух на адным крэсле, на праходзе паміж крэсламі і на дошках эстрады». Нажаль, я не ведаю творчасці Шукальскага, аднак і ў друку і ў прыватных гутарках яго захоплена называлі «містшэм» — маэстра. Я з прыемнасцю цытую некаторыя, дарэчы, сустрэтыя многімі суайчыннікамі без асаблівага энтузіязму выказванні маэстра Шукальскага, робячы гэта хоць бы таму, што праўда, як кажуць польскія сябры, з'яўляецца праўдай незалежна ад таго, хто яе і ў якой форме выказвае.

«...Тое, што выстаўлена ў нашым Таварыстве сяброў мастацтва, — гаварыў С. Шукальскі, — і ў Лодзі, і на сценах у Варшаўскай «Захенце», і ў Рыме, і ў Н'ю-Йорку — усё гэта аднолькавае. Гэта тое, чым пацеюць, чым спаражняюцца псіхапаталагічныя розумы. Мадэрнізм гэта нечуваны бізнес. Калі ў Кракаве было ў мой час сорак добрых мастакоў у акадэміі, дык сёння «Арт Інстытут» у Чыкага штогод выпускае 12 тысяч вучняў, і гэта не адна там школа. Цэлая прамысловасць з сістэмай продажу фарбаў і мастацкіх матэрыялаў, каб кожны крэтын мог лічыць сябе мастаком.

... У Польшчы 4 тысячы сарганізаваных у Саюз мастакоў, 4 тысячы геніяў. Вынік? Такія сцэны, як у Лодзі, і ў Кракаве. Гэтыя абармоты думаюць толькі пра тое, што б зрабіць, каб выглядаць інакш. Ага, выберам іншую назву! І ашукваюць гэтай назвай публіку, якая аплачвае білеты, а знаходзіць — тую самую кішку з гнілых вантробаў... Возьмем, напрыклад, грэбень, абмакнем яго ў гарчыцу, — вось і можна будзе называцца грабяністамі. Ніхто не дадумаўся раней!

... Што трэба сённяшнім мастакам?.. Гэта людзі пазбаўленыя маральнасці, яны дамагаюцца пашаны, бо яны — мастакі, а мастакі былі калісьці вялікімі людзьмі, як Матэйка, а яны — паразіты, якія хочуць жыць за кошт пашаны, зробленай людзьмі сапраўды выдатнымі.

... Народнае мастацтва гэта наогул верх дасканаласці. **Навошта ж нам цярпець мадэрністычную мазню, калі ёсць у нас такія традыцыі!»**

Мы паглядзелі ў Варшаве «Другую выстаўку сучаснага мастацтва», пра якую ўспамінае С. Шукальскі, а таксама бачылі выстаўкі меншыя — ва Вроцлаве, у Лодзі. Усё гэта — модны абстрактывізм (два ўзоры якога мы падаем у добрасумленнай фотарэпрадукцыі), які, як заўважае з гордасцю вядомы польскі паэт Ю. Пшыбось, «дайшоў у Польшчы да перамогі».

Ходзячы па выставачных залах у якасці святочных гасцей, мы не маглі, вядома, дазволіць сабе

такой па-зямляцку раскошнай шчырасці, як маэстра Шукальскі. Мы, зразумела, не лаяліся, мы толькі паціскалі плячыма...

Так, «мастацтва нефігурнае перамагло ў Польшчы», не раўнуючы, як перамог фігурны «рок-н-рол». Аднак жа і самі тэарэтыкі і сімпатыкі абстрактывізму вымушаны прызнацца, што гэтае мастацтва — «справа рашуча элітарная», што гэта мастацтва для выбраных. Аднак жа, нават той самы Ю. Пшыбось ужо ўздымае на старонках «Пшэглёнду культуральнага», актуальнае пытанне: «Як выйсці з абстрактывізму, каб вярнуцца да карціны і жывапісу?»

Аб гэтым пара падумаць, бо ўжо і гаспадар краіны, асноўны будаўнік сацыялізма — рабочы занепакоіўся. «Дзеячы культуры, зірніце з вашых п'едэсталаў трошкі ўніз! Хто ж зразумее сучасных мастакоў, скульптараў, калі яны і самі не вельмі разумеюць, у чым справа?» Так гаворыць адзін з прадстаўнікоў польскага рабочага класа на старонках газеты «Трыбуна літэрацка». Так гаварылі на сустрэчах з намі многія прадстаўнікі польскай працоўнай інтэлігенцыі.

Мне вельмі не хочацца абразіць каго-небудзь з сумленных польскіх мастакоў, якія шчыра, без спекуляцыі на модзе шукаюць у абстрактывізме новых шляхоў, аднак жа я не магу не сказаць наступнага. Калі я хадзіў па залах выстаўкі так званага сучаснага мастацтва (і ў Варшаве, і ў іншых гарадах), калі я глядзеў на дзівосныя плямы і выкрунтасы жывапісных палотнаў, на калоды і разгаракі скульптурных камбінацый, мяне не пакідала думка пра «бікіняжаў» у мастацтве, пра важны, па-місіянерску сур'ёзны твар стылягі, які высакамерна і грэбліва прапаведуе і мне, і вам, і ўсім сумленным людзям нешта вельмі моднае, вельмі вы-



М. Важэха «...адбылося». Масла.

Т. Слімакоўскі. «Форма». Скульптура.



сокае, вельмі заходнееўрапейскае, і яшчэ далей, у чым, дарэчы, сам ён, бедненькі, часцей за ўсё — ні бэ, ні мя.

* * *

*У белым старасвецкім доміку*, вакол якога ціха стаяць на варце сінія кіпарысы і цішэй, чым дзенебудзь, шастае пад нагамі лісце, у родным доміку Шапэна, дзе нехта руплівы і непрыкметны пасямейнаму напаліў кафляныя белыя грубкі і паставіў у нішах свежыя букеты жоўтых хрызантэмаў, у светлых, з нізкаю столяй пакоях гучыць чароўная музыка польскага генія. Гэта для нас, савецкіх сяброў, іграе вучань славутага Падарэўскага, прафесар Варшаўскай кансерваторыі Беражынскі, абаяльны чалавек, з маладым, натхнёным тварам. І разам з намі заціхлі каля вокан і дзвярэй і праезджы настаўнік, які не змог абмінуць Жэлязовай Волі, і дзяўчаты з бліжэйшай вёскі, і маладая пара з ціхімі светлавокімі хлапчанятамі...

Прыгожая, мудрая старасць з мікельанджэлаўскай барадою. Прафесар К. Віткевіч, друг і паплечнік маладога Фелікса Дзяржынскага, вядомы этнограф, мастак і бібліяфіл. З якой пашанай заходзім мы ўвечары ў яго рабочы кабінет, увешаны карцінамі, устаўлены рэдкімі кнігамі. З якой прыемнасцю пазнаем мы Кракаў — горад рэвалюцыйных традыцый, горад мастацтва і навукі — яшчэ з аднаго боку, з яшчэ адной яго цудоўнай асаблівасцю!..

Малады камуніст, вясёлы лодзінскі ткач — таварыш Ях. Мы не паспелі з ім нагаварыцца як след пра ўсё, а асабліва пра мастацкую літаратуру нашых народаў. І мы абмяняліся адрасамі... Разумныя, дапытлівыя твары студэнтаў філалагічнага аддзялення Варшаўскага ўніверсітэта. Якой цікавай і непасрэднай была гутарка з імі, як прыемна было адказваць на іхнія запіскі!..

Перад палотнамі Матэйкі, Хэлмоньскага і іншых стваральнікаў польскага класічнага мастацтва ціха гавораць, ціха ходзяць па бліскучым паркеце, а больш за ўсё — разам з намі моўчкі, захоплена глядзяць дзесяткі, сотні ўсё новых і новых людзей...

За рабочым сталом, над якім — на белай сцяне пад шклом — разумны і просты Горкі, сядзіць пагоркаўску просты і ўдумлівы, неяк вельмі ж па-польску абаяльны і папралетарску цвёрды ў сваіх пераконаннях чалавек. Адзін з выдатнейшых пісьменнікаў Народнай Польшчы — Леон Кручкоўскі. Ён піша:

«Пераконваць могуць толькі пераконаныя. Дзеля гэтага павінна настаць поўная яснасць перш за ўсё ў нашым партыйным літаратурным асяроддзі. Асабліва сёння, пасля X Пленума, асяроддзе гэтае павінна вызваліцца з усялякіх ілжывых сітуацый, з дэмаралізуючых кампрамісаў і двухсэнсоўнасцей. Гэта адзін з варункаў выхаду з тупіка, у які апошнім часам зайшлі адносіны паміж палітыкай партыі і пісьменніцкім асяроддзем. Гэта адна з галоўных умоў для ідэйнага ўзбраення нашага літаратурнага фронта — не пад якім-небудзь іншым, а іменна пад сацыялістычным сцягам».

Дома, чытаючы гэтыя словы на газетнай старонцы, радасна думаю пра тых шматлікіх польскіх сяброў, будаўнікоў новай, сацыялістычнай Польшчы, з якімі я або зноў сустракаўся, або пазнаёміўся ўпершыню. Гэта рабочыя, пісьменнікі, мастакі, вучоныя, студэнцкая моладзь, — людзі, з якімі мы гаварылі на адной, на агульнай мове, людзі, у руках якіх лёс іх культуры, лёс іх краіны.

Чэсць вашай працы, дарагія таварышы!

Алесь АСІПЕНКА

# ЗАСЛОНА ПАДНЯТА, А ДАЛЕЙ?..

I

Халодная, імглістая ноч паўзла на горад разам з прырэчным туманам. Церушыў надакучлівы дробны дождж, аднастайна, самотна шасталі голыя галіны дрэў у старым парку.

Можа таму асабліва прыветліва выглядаў вестыбюль тэатра. Ярка гарэлі люстры, а ва ўрачыстай цішыні неяк адзінока разносіліся галасы кантралёраў, якія першымі рыхтаваліся сустракаць гледача.

А глядач пакуль не ішоў, здавалася, ён заблудзіўся ў вячэрнім змроку і ніяк не знойдзе дарогу да тэатра. І пакуль ён недзе там шукаў дарогу, жанчыны вялі павольную размову. Гаварылі пра тое, што бабруйскі глядач не прывык да тэатра, што яму доўга псавалі густ прыезджыя гастралёры, і таму ён цяпер насцярожана, а часам і безуважліва прымае сур'ёзныя рэчы, гаварылі, што нагарыць шмат электрычнасці і яе наўрад ці акупіць дзённая выручка. А яшчэ жанчыны ўскладалі надзеі на выезды ў калгасы, бо без іх можна сесці на мель, гэта значыць, своечасова не атрымаць зарплату.

Але за гэтымі размовамі ўгадвалася нешта больш значнае, чым своечасовае атрыманне зарплаты,— у іх адчуваўся водгук нейкіх другіх размоў, якія вядуцца недзе там, за дзвярыма з надпісам: «Пабочным асобам уваход забаронены».

А тым часам пакрысе напаўнялася файэ. За невялікім выключэннем, глядач ішоў малады: угадваліся будаўнікі, работніцы швейнай фабрыкі, хлопцы з дрэваапрацоўчага камбіната. У адрозненне ад так званай «саліднай» публікі, якая, спаважна ўзяўшыся пад рукі, хадзіла па файэ, моладзь размяшчалася купкамі і горача спрачалася аб спектаклі, якога... яшчэ не бачыла.

Адзін гаварыў, што спектакль «Князь «Мсціслаў Удалы» не можа быць дрэнным, бо ў ім расказваецца пра барацьбу людзей і іх смерць за рэвалюцыю; другі, вастраносы, жвавы, спасылаючыся на аўтарытэт аднага з работнікаў гаркома камсамола, даказваў, што спектакль нікуды не варты, і ён толькі таму і пайшоў на яго, што прычапіўся Дзімка: «Пойдзем ды пойдзем».

— А вось кажуць, што варта паглядзець «Сям'ю злачынцы». Але лепш за ўсё канцэрт. Нядаўна, можа месяцы два назад — вось быў канцэрт! Мы з Валькам рагаталі — аж жываты забалелі...

Дакончыць хлопец так і не паспеў. Зазвінеў званок, і ўся кампанія рушыла ў залу. Патушылі святло, успыхнулі на заслоне літары тэксту, а ўслед за тым пачуўся шум цягніка.

Паднялася заслона, і спяктакль пачаўся.

Трое юнакоў злева спачатку размаўлялі, потым прыціхлі і ўжо да канца спяктакля не сказалі ні слова. Па іх тварах было відаць, што яны на баку герояў п'есы, што ім зразумелыя і дарагія іх ідэалы.

Крыху наперадзе сядзела жанчына ў моднай сукенцы, з газавым шарфам на плячах. Яна рэагавала пасвойму: яе маладжавы твар час-адчасу перасмыкаўся, быццам яна нечакана раскусвала кіслую-кіслую журавіну. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што незнаёмая жанчына, відаць, разбіралася ў ігры акцёраў: яна грымаснічала тады, калі хтонебудзь з іх фальшывіў або няправільна вымаўляў словы.

Справа — купка моладзі слухала спяктакль нейк безуважліва, толькі дзяўчаты час-ад-часу ўздрыгвалі, калі на сцэне чуліся нечаканыя стрэлы.

Уласна кажучы, публіка і дзялілася на вось такія тры групы.

— Здорава!— гаварылі адны.

— Самадзейнасць! — безапеляцыйна асуджалі другія.

— Не дрэнна, але сумнавата, няма сапраўднай усхваляванасці, — заяўлялі трэція.

І кожны з іх прыводзіў слушныя довады, так што здавалася: прадстаўнікі ўсіх трох груп маюць пэўную рацыю. Тады як жа памірыць такія супрацьлеглыя погляды? Хто праў, хто памыляўся?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, давайце пройдзем па закулісах, бліжэй пазнаёмімся з тэатрам, з яго гісторыяй, акцёрамі, работнікамі сцэны.

## II

У Бабруйскім драматычным тэатры ўсіх акцёраў можна пасадзіць за адзін стол. Год назад, калі тут ставіўся першы спяктакль, іх было 22. Тэатральныя буры і штормы, кажучы марской мовай, прыкметна змянілі каманду. Былі прыняты меры, і ў замену вопытным прыйшлі юнгі. Тэатр жыве, ставіць новыя спяктаклі, робіць выезды, выконвае фінансавы план.

«Плыве карабель»,— кажуць. Плыве, але на душы ў каманды нялёгка. Сумныя, невясёлыя лезуць у галаву думкі. І многім успамінаецца недалёкае мінулае.

У 1956 годзе неяк у канцы лета нарэшце вырашыўся лёс першага ў Беларусі калгасна-саўгаснага тэатра. Быў загад, а пад ім адказны подпіс; быў адкрыты ў банку бягучы рахунак; былі прамовы, пажаданні і гарачыя запэўненні: не забудзем, турбуйце, званіце — дапаможам.

Горш была справа з людзьмі. Акцёры не грошы, іх адным росчыркам пяра не перавядзеш на новае месца. Але высакароднасць справы захапіла многіх. Адразу ж знайшоўся рэжысёр — Аркадзь Станіслававіч Аркадзьеў. За ім у новы тэатр пайшлі дзесяць акцёраў ансамбля, драмы і камедыі. Склад трупы папоўніўся таксама за лік выпускнікоў тэатральнага інстытута і двух артыстаў тэатра лялек.

Артысты горача ўзяліся за справу. Выношваліся цікавыя планы. Здавалася, самі вырастуць за спіной крылы. На пачатак было вырашана паставіць п'есу Янкі Купалы «Раскіданае гняздо». Хацелася ісці сваім шляхам, зрабіць спяктакль не падобны на той, што ідзе ў тэатры

**Спяктакль «Князь «Мсціслаў Удалы». Рыгор Дзяржавін — камандзір бронецягніка (арт. П. Раманаў) і барон Нолькен (арт. Я. Громаў).**



імя Якуба Коласа. Гэта было сур'ёзнае выпрабаванне ўсяму калектыву. Не заўсёды хапала ўмення, сіл, магчымасцей. Перамог малады задор, палкі энтузіязм, усеагульны ўздым. Першыя крокі былі зроблены. Спектакль пастаўлены. Гледачы апладыравалі, калектыў быў задаволены. І хоць кожны разумеў, што яшчэ многа ў спектаклі недаробкаў, хібаў, але першы поспех акрыліў. Здавалася, цяпер сіл хопіць і на большае.

Калектыў бярэцца за яшчэ больш складаную п'есу амерыканскага драматурга Артура Мілера «Салемскія вядзьмаркі». І зноў артысты натхнёна працуюць, забываючыся на ўсе: і на тое, што яшчэ няма кватэр, што ў выпадку хваробы не будзе каму замяніць артыста, бо ў спектаклі заняты ўсе — ад рэжысёра да намесніка дырэктара, што прыходзіцца вучыцца самім і вучыць таварышаў.





Уверсе: **Ягор Андрэевіч Лысенка — камандзір брыгады (арт. І. Падляхоўскі);** унізе — **Афанасій Жданаў — гранатамётчык (арт. Ф. Марцынкевіч).**

Зноў апладысменты, рэцэнзіі, віншаванні, пажаданні творчых удач і.. насцярожанасць у калектыве.

Заслона паднята ўжо двойчы. А што далей?..

У тэатры бяруцца за пастаноўку п'есы італьянскага драматурга П. Джэкамеці «Сям'я злачынцы» — даволі пасрэднай меладрамы.

Выпадковасць? Зрыў? Нажаль, не...

Пасля прэм'ер, на першыя два спектаклі пачало прыходзіць усё менш і менш гледачоў. Фінансавы план трашчаў, як драўляны караблік у непагоду. Неадкладна трэба было ставіць такія спектаклі, якія маглі б у адзін і той жа вечар ісці паралельна. Але што ставіць? Што патрэбна гледачу з глыбінкі — Давыд-Гарадоцкага або Петрыкаўскага раёна?

Стварыўшы тэатр, у Міністэрстве культуры бадай што і не падумалі над тым, каб вывучаць запатрабаванні сельскага гледача. Спадзяваліся, што гэта зробіць сам тэатр.

Але і ў работнікаў тэатра не было ні вопыту, ні магчымасці вывучыць умовы сваёй працы. Неўзабаве пасля адкрыцця цяжка захварэў дырэктар тэатра. Акрамя таго, калектыў так і не дачакаўся другога рэжысёра. А. С. Аркадзьеву прыйшлося быць і рэжысёрам, і дырэктарам тэатра. Дзе тут ужо вывучаць гледача...

Не дзіва, што ў такіх умовах выбар выпаў на «Сям'ю злачынцы». Неўзабаве паралельна быў падрыхтаваны спектакль па п'есе С. Дубравіна «Паўторны візіт». Так былі створаны «хадавыя» спектаклі.

— Вясковаму гледачу другіх і не патрэбна,— гаварылі адны.

— Такія п'есы не развіваюць густ, а разбэшчваюць яго,— даказвалі другія.

У тэатры хваляваліся, спрачаліся, шукалі арыгінальнай п'есы, бо кожнаму было відавочна, што патрэбна п'еса на надзённыя пытанні калгаснага жыцця. Так у рэпертуар была ўключана далёка не дасканалая п'еса С. Свірыдава «Цені знікаюць». Тэатр дапрацаваў п'есу з аўтарам і нарэшце выпусціў яшчэ адзін спектакль.

Падбор п'ес, работа над імі не вычэрпвала ўсіх задач тэатра. Трэба было рыхтавацца да гастрольнай паездкі па рэспубліцы.

Перад кіраўніком паўстае шэраг новых складаных задач. У якіх умовах трэба будзе працаваць? Як перабудаваць сваю работу, каб у час гастроляў жыццё ў калектыве прадаўжала бурліць?

Калектыў тэатра выязджае ў бліжэйшыя калгасы, вывучае тыпавыя праекты калгасных клубаў, шукае магчымасці ставіць спектаклі на адкрытых пляцоўках. Работай загружаны ўсе: артысты, адміністрацыя, рабочы персанал. У майстэрні ро-

бяць партатыўныя дэкарацыі, якія можна было б устанавіць на любой сцэне, на грузавой машыне і проста на палянцы. Запісваюцца на плёнку розныя шумавыя эфекты, якія патрэбны ў спектаклях, бутафоры рыхтуюць другія экземпляры неабходных рэчаў, лёгкія і зручныя для перавозкі.

І вось ужо тэатральны калектыў пакідае Бабруйск. Першыя спектаклі пераўзыйшлі ўсе спадзяванні. У клубы, дзе ледзь змяшчаецца дзвесце чалавек, набівалася па 300—400. Было душна і цесна. Тады тэатр пераносіць гастролі на адкрытыя пляцоўкі. Гледачоў размяшчаюць амфітэатрам. У першых радах на тэатральным брызенце сядзяць дзеці. Далей на лаўках — старэйшыя. Яшчэ далей стаіць моладзь. І чацвёрты ярус займаюць на машынах і падводах тыя, хто прыехаў з далёкіх брыгад.

За тры месяцы тэатр абслужыў 13 раёнаў, даючы ў кожным ад 11 да 16 спектакляў. Тысячы калгаснікаў і калгасніц Тураўскага, Петрыкаўскага, Іванаўскага, Антопальскага раёнаў упершыню ў леташнім годзе глядзелі спектаклі бабруйскіх акцёраў.

Гастролі многаму навучылі, прынеслі акцёрам сапраўдную радасць. Але на ўхабістых дарогах неяк быў растрэсены той жыватворчы энтузіязм, які саграваў калектыў, даваў яму ўпэўненасць у свае сілы.

Спачатку ціха, потым усё гучней пайшлі размовы ўжо на іншыя тэмы.

«Рамяство, ці сапраўднае мастацтва?»

«Павага гледача і ні на крок ад традыцый МХАТа, ці пагарда да гледача і пакланенне халтуры, вандроўным тэатрам?»

«Вялікая самадзейнасць, ці вялікае мастацтва?»

Вось што непакоіла многіх. Куды ж яны ідуць? Што будзе далей? Якія ў кожнага перспектывы?

У першую чаргу гэта непакоіла моладзь. Старэйшыя маюць вопыт. Ім лягчэй працаваць над роляй, а што чакае маладых? Як ім расці, павышаць майстэрства?

Між тым даводзілася рэпетыраваць, трасучыся ў кузаве аўтамашыны або сабраўшыся дзе-небудзь у цесным пакойчыку гасцініцы. Галоўны рэжысёр выбіваўся з сіл, але хіба ён адзін мог узорна паставіць творчую работу?

А тут яшчэ адыграў сваю ролю стары цыркуляр. Гадоў можа дваццаць таму назад была прынята пастанова аб адносна выплаты артыстам камандзіровачных. Згодна яе, тэатры, якія абслугоўваюць сельскага гледача, выплачваюць акцёрам значна меншы працэнт камандзіровачных, чым другія тэатры. Усе ўмовы даўно змяніліся, адна пастанова, відаць, забытая ўсімі, засталася без змен. І вось артысты тэатра, пастаўленыя ў нявыгадныя фінансавыя ўмовы, прыходзяць да такога вываду, што лепш не выязджаць далёка, а спакойна жыць у горадзе.





Уверсе: **Марыя Дзяржавіна — жонка камандзіра (арт. Л. Федчанка);** унізе: **Нікіта Лысенка — камісар бронецягніка (арт. І. Сухарукаў).**

Адсутнасць вучобы, сур'ёзнай творчай і сістэматычнай выхаваўчай работы, фінансавыя нелады, цяжкасць гастроляў спалохалі некаторых таварышаў. Адна за другой тэатр пакідаюць чатыры актрысы і адзін акцёр. Ёсць сярод іх і камсамольцы. У бабруйскай газеце паяўляецца трывожны артыкул выпускніка тэатральнага інстытута артыста Івана Сухарукава. У калектыве чакаюць, што мясцовыя арганізацыі, Міністэрства культуры прымуць рашучыя захады, спыняць дызертырства з такога важнага ўчастка, як



Уверсе: **Сцяпан Суслаў — сібіракулямётчык (арт. Г. Лаўроў);** унізе: **чырвонаармеец, расказчык пра Баву (арт. П. Масцераў).**



калгасны тэатр, дапамогуць калектыву папоўніць склад акцёраў, прышлюць рэжысёра, сталага мастака, дапамогуць людзям вучыцца, расці. Але робіцца нешта дзіўнае. Выпускніца тэатральнага інстытута Альшэўская, якая па існуючых законах павінна была б адпрацаваць нейкі час там, куды яе паслалі, пакідае тэатр і не без ведама Міністэрства культуры ўладжваецца працаваць дыктарам на тэлевізійнай студыі.

Гэта дэмаралізуе калектыў. У многіх узнікае здрадніцкая думка: зрабіць так, як зрабіла Альшэўская. І толькі настойлівая работа рэжысёра, партыйнай, камсамольскай арганізацый на гэты раз выратавалі тэатр ад поўнага развалу.

Трэба было мець стальныя нервы, каб у кароткі час знайсці замену акцёрам, якія пакінулі тэатр, увесці іх у п'есы. Спатрэбіліся новыя рэпетыцыі, новая рэжысёрская работа.

Раздумваць не было часу. На Мінскім велазаводзе ў гуртку мастацкай самадзейнасці тэатр знаходзіць Марыю Курзо, дыспетчара па прафесіі, актрысу ў душы. За кароткі час Курзо даволі паспяхова замяніла Альшэўскую ў п'есе «Сям'я злачынцы».

Тэатр пакінула таленавітая актрыса, якая выконвала ролі падлеткаў. Здавалася, тут ужо зусім няма выйсця. Але пошукі прывялі да выпускніцы Віцебскага фізкультурнага тэхнікума Лілі Алямкінай. Так знайшлася яшчэ адна замена.

Нехта звярнуў увагу на Клару Смірнову, якая займалася ў тэатры бутафорыяй. Валянціна Сяргееўна Дземянкова, адна з вядучых актрыс тэатра, узялася дапамагчы ёй стаць актрысай. Так з'явілася трэцяя замена.

І нарэшце ў тэатр прыйшла студэнтка полацкага педінстытута Ала Агаркова.

Усё гэта — зялёная моладзь, якая ніколі, як кажуць, не нюхала сцэны, з якой трэба пачынаць работу спачатку.

І зноў, у каторы раз, узнікае неабходнасць сур'ёзнай творчай работы, якую не пад сілу весці аднаму рэжысёру, якім бы працавітым і здольным ён ні быў. Але Міністэрства культуры не спяшаецца. Амаль нічога не робіць яно і для таго, каб хоць часова паслаць у малады тэатр для кансультацыі вопытных рэжысёраў з другіх тэатраў.

А між тым тэатр не можа стаяць на месцы. Яму трэба рыхтаваць новыя пастаноўкі, дапрацоўваць, удасканальваць старыя, рабіць выезды ў калгасы, перамагаць дзіцячыя хваробы ўласнага росту.

Тэатру неабходна дапамагчы. Папоўніць, а магчыма значна пашырыць за лік вопытных акцёраў творчы склад тэатра, неадкладна накіраваць у тэатр мастака і рэжысёра, вырашыць рад гаспадарчых спраў, наладзіць сур'ёзную вучобу ў калектыве. Нажаль, у адносінах да тэатра занята іншая пазіцыя. Пасля хору хвалебных рэцэнзій раптам узнялася хваля крытыкі і разносаў. Спрачацца з аўтарамі артыкулаў дарэмна, яны, строга кажучы, часцей за ўсё бываюць правы. Але разглядаючы памылкі творчасці, яны абыходзяць маўчаннем іх прычыны. А ў калектыве чытаюць артыкулы, хвалююцца, потай чырванеюць і час-ад-часу мільгане ў каго-небудзь зноў думка: «А ці не схавацца дзе-небудзь у тэлестудыі або ў сталічным тэатры. І спакайней будзе, і ўмовы куды лепшыя...»

Радасна толькі адно: такія думкі ўзнікаюць у нямногіх. Калектыў настойліва працуе, перамагаючы цяжкасці і няўдачы.

III

Ёсць спяктаклі звычайныя, радавыя. Ёсць этапныя, якія характарызуюць нейкую новую ступень у творчым росце тэатра. Такім этапным можа лічыцца і спяктакль па п'есе І. Прута «Князь «Мсціслаў Удалы».

Прайшло больш дваццаці год з таго часу, як па сцэнах тэатраў трыумфальным шэсцем прайшла гэтая п'еса. Бабруйскі тэатр, яго малады калектыў не пабаяўся паставіць гэтую забытую п'есу, якая расказвае аб гераізме і мужнасці простых людзей у гады грамадзянскай вайны.

Бронецягнік «Князь «Мсціслаў Удалы», перайменаваны чырвонаармейцамі ў «Смерць паразітам», трапляе ў засаду к белым. Пачынаецца штурм сталёвай крэпасці, дзе засела жменька чырвонаармейцаў. Ідзе няроўны бой, які то заціхае на хвіліну, то аднаўляецца зноў. Каманда бронецягніка гіне, але не здаецца.

П'еса «Князь «Мсціслаў Удалы» — даволі складаны твор, поўны рэвалюцыйнай рамантыкі, глыбокіх характараў. Рэжысёр тут пазбаўлены магчымасці ставіць нейкія эфектныя сцэны, бо ўсё дзеянне адбываецца ў вузенькім, цесным вагончыку бронецягніка, дзе адзін за другім паміраюць байцы. Кожнаму з акцёраў трэба глыбока пранікаць у псіхалогію свайго героя, раскрываючы яго ўнутраны свет. У спяктаклі мноства нямых сцэн. Таму тут патрэбна найвялікшая ўнутраная сабранасць акцёра, яго ўменне раскрываць вобраз найбольш цяжкімі сродкамі — скупым жэстам, мімікай, рэдкім словам, укладаючы ў іх усё сваё майстэрства.

Падыходзячы з меркай «строгага суддзі», можна было б знайсці нямала недахопаў у спяктаклі. Але новы спяктакль — безумоўнае дасягненне маладога калектыву.

Запамінаецца вобраз камандзіра бронецягніка Дзяржавіна (арт. П. Раманаў), былога афіцэра рускай арміі, бясконца адданага рэвалюцыі гранатамётчыка Жданава (арт. Ф. Марцынкевіч), мяханіка Вавілава (арт. А. Аркадзьеў), памочніка машыніста Лёнькі (арт. В. Дзямянкова), сібірака-кулямётчыка Суслава (арт. Г. Лаўроў) і інш.

Гэта не азначае, што ў кожнага з названых акцёраў няма недахопаў у раскрыцці роляў, але яны здолелі знайсці патрэбныя інтанацыі, жэсты, здолелі перадаць перажыванні сваіх герояў.

Не маючы намеру глыбока разбіраць спяктаклі, хочацца, аднак, зрабіць адзін вывад: амаль без выключэння ўсім акцёрам трэба многа, сур'ёзна, настойліва вучыцца, працаваць. Некаторым неабходна пачынаць работу над сабой з элементарнага: адным займацца фізкультурай, выпрацоўваючы пластычнасць цела, другім сур'ёзна працаваць над мовай, трэцім — над мімікай, над уменнем перадаваць чалавечыя пачуцці. А ў цэлым — дабівацца выразнага гучання спяктакля, які ішоў бы не рыўкамі ад адной сцэны да другой, а адным творчым дыханнем.

І тут зноў жа аднаму калектыву не вырашыць усіх задач. Патрэбна творчая сістэматычная дапамога, якая здолела б вывесці тэатр на шырокую дарогу.

IV

У той вечар не было спяктакля. Ахутаная змрокам, чарнела зала, падобная на агромністую пячору. І кожны крок аддаваўся ў ёй гулкім рэхам. На скупа асветленай сцэне недарэчнай забаўкай дарослых дзяцей здаваліся дэкарацыі. Было ціха. І раптам гэтую няўтульную цішыню абудзіў ломкі хлапечы голас:

— Віця, а Віця, Віць!..





**Уверсе: Сіко Калантадзе — кулямётчык (арт. В. Гоўша); унізе: Фёдар Вавілаў — мяханік (арт. А. Аркадзьеў).**

Голас абарваўся і ўсё сціхла, быццам і не было гэтага моцнага крыку, у якім выказвалася незразумелая для нас радасць. Але тут жа крык паўтарыўся, на гэты раз прыдушаны і быццам баязлівы.

— Ві-ця-а-а, а Ві-ця, Віць!

Такое пачуеш толькі ў тэатры. Відаць, зараз ішла рэпетыцыя. Неўзабаве мы былі ў рэпетыцыйнай зале, дзе за сталом акцёры чыталі ролі новай п'есы, якая праз месяц будзе паказана гледачам.

П'еса больш чым звычайная, якая, напэўна, не прынясе славы хоць якому тэатру. «Наш бацька жэніцца» — такая яе назва, яўна разлічаная аўтарам на эфект. Сюжэт п'есы, як гузік на адной нітцы, трымаецца на недасказаным слове. Памыліся акцёр, скажы выпадкова гэтае слова... і не трэба апошнія дзве дзеі.

П'еса «Наш бацька жэніцца», калі можна так сказаць, — вымушаная пасадка тэатра. Было б што-небудзь лепшае, яе можна і не ставіць, хоць заганы асаблівай у яе няма. Справа тут некалькі залежала ад папярэдняй пастаноўкі.

У спяктаклі «Князь «Мсціслаў Удалы» заняты ўвесь мужчынскі склад акцёраў. Неабходна было знайсці п'есу, якую можна будзе ставіць паралельна яму, гэта значыць, з пераважнай большасцю жаночых роляў. Вось так і была ўключана ў рэпертуар п'еса «Наш бацька жэніцца».

Пакуль што ідзе толькі чытка, але акцёры, з тых, хто больш вопытны, пастараліся ўжо разабрацца з ролямі, вызначыць псіхалагічны малюнак, намеціць правільныя інтанацыі, уявіць сябе не гасцямі, а ўдзельнікамі тых падзей, што адбываюцца па волі аўтара ў п'есе.

Акцёры шукаюць інтанацый, стараюцца ўявіць жэсты, міміку і нават паставы, у якіх ім прыдзецца быць на сцэне. Асобныя кавалкі з п'есы так захапляюць іх, што раптам забываешся на тое, што прысутнічаеш на рэпетыцыі — здаецца, трапіў у дом Шынгаровых, дзе ўсе занепакоены прыездам мачыхі. Каларытна, пераканаўча стварае вобраз маладой дзяўчыны — работніка МТС — Валянціна Сяргееўна Дземянкова. Сказана толькі некалькі фраз, а перад намі ўжо яскрава паўстае кемлівая, вясёлая дзяўчына, добрая, шчыры таварыш.

На долю вопытнай артысткі Ларысы Нікалаеўны Федчанка выпала нялёгкая задача — стварыць вобраз мачыхі. Складанасць для здольнай актрысы заключаецца ў тым, што аўтар тут пagрашыў супраць жыццёвай праўды. Немаладая, вопытная жанчына, франтавы таварыш таго бацькі, які збіраецца жаніцца на ёй жа, яна павінна па волі аўтара, шукаць мачыху, якой з'яўляецца... сама. Але Л. Федчанка даволі ўмела абыходзіць падводныя рыфы, што ўзвёў па нявопытнасці ці па няўменню аўтар.

— Адну хвілінку, — раптам спыняе акцёраў рэжысёр Аркадзі Станіслававіч Аркадзьеў, і адразу ўспамінаеш, што ты на рэпетыцыі. — У нас тут усё ідзе вельмі гладка, як выструганая палачка. А хіба чалавечая мова вось такая роўная, без інтанацый, паўзаў. Вось вы, — звяртаецца ён да Лілі Алямкінай, падумайце над тым, як павінен сябе весці хлопчык, які ўбачыў цукерку, хоча яе з'есці і раптам натыкаецца на пустую паперку, загорнутую, як цукерка. Знайдзіце патрэбныя інтанацыі для слоў, якія дадзены ў п'есе. Пачнем.

Раз, другі, трэці Ліля Алямкіна чытае тэкст. Але рэжысёр усё яшчэ незадаволены.

— Не, не, — гаворыць ён, — пакуль яшчэ не тое. Паспрабуйце яшчэ раз... яшчэ раз... А вось зараз лепш.

Але тут яго ўвагу прыцягвае артыстка Марыя Курзо.

У яе голасе павінны адчувацца ўладарнасць маладзенькай гаспадыні, клопаты і замілаванасць да двух братоў і ноткі расчаравання гэтымі будзённымі справамі, нейкай незадаволенасці.

— Мяне некалі вельмі любіў брат. Але я яму больш часта надакучаў, чым трэба, і аднойчы, раззлаваўшыся, ён пачаў цягаць мяне за ногі. Вам вельмі надакучае ваш брат, — гаворыць Аркадзь Станіслававіч і паказвае на Лілю Алямкіну. — І вы выйшлі з цярпення: яшчэ некалькі слоў, і вы яго адлупцуеце. Вы хочаце быць старэй за свае гады, а гэта ў вас не атрымліваецца. Вы хочаце, каб у вашым голасе была ўладарнасць сталай гаспадыні, але ў ім, наперакор усяму, гучыць штучнасць, якую вельмі адчувае малодшы брат.

Так крок за крокам намячаюцца ролі. А наперадзе яшчэ вельмі многа работы: устаноўка мізансцэн, выпрацоўка жэстаў, мімікі, стварэнне строгага ансамбля. Рэпетыцыі, рэпетыцыі, рэпетыцыі...

А ўвечары ігра на сцэне, для гледачоў гарадскіх ці сельскіх.

Цяжкая, карпатлівая праца акцёра. Сто патоў выйдзе, пакуль ён пад-

рыхтуе ролю, сто патоў выйдзе, пакуль ён сыграе яе на сцэне. А ў Бабруйскім тэатры артысту часта даводзіцца выконваць і яшчэ мноства пабочных даручэнняў.

На сцэне ідзе пятая карціна п'есы «Князь «Мсціслаў Удалы». Ад стрэлаў дрыжыць сталёвая браня цягніка. Вось у адной з байніц узрываецца варожая граната, і раптам падае палітрук. Зноў гучаць артылерыйскія выстралы, не змаўкае кулямёт. Буры дым паўзе па вагону.

Глядач напружана сочыць за паядынкам жменькі чырвонаармейцаў, якія трапілі ў засаду, з эскадронамі белых. Хто пераможа? Хутчэй, хутчэй бы прышло падмацаванне! Снарады ж ірвуцца і ірвуцца ля цягніка, абдаючы яго зямлёй і каменнем.

А за кулісамі, як апантаны, бегае электрык Сямён Сорын. Яму трэба своечасова ўключыць ток, каб узрваць «гранаты», зрабіць успышкі выбухаў.

Машыніст сцэны Аляксандр Кісляк круціць трашчоткі, якія цюцелька ў цюцельку перадаюць гук кулямётнай чаргі. Артур Мазураў на вялізным барабане імітуе ўзрывы. Але рабочых не хапае, каб стварыць поўную ілюзію бітвы. І тады за лісты бляхі, за трашчоткі бяруцца акцёры. Вось з-пад макета бронецягніка ў дыме і полымі паяўляецца чыясьці постаць, яна выпростваецца, і я пазнаю А. С. Аркадзьева.

— Мацней, мацней, — крычыць ён і, як дырыжор, узмахвае рукамі, каб скамандаваць яшчэ адзін залп.

А заўтра зноў рэпетыцыя, потым выезд у Парыцкі раён на гастролі.

## V

У калгасе імя Леніна свята. За трынаццаць пасляваенных год да іх упершыню прыязджаюць артысты тэатра. На фермах зацята спрачаюцца даяркі і цялятніцы, конюхі і свінаркі — каму ісці ў клуб, а каму — дзяжурыць. Ад хаты да хаты бегаюць у бацькавых кепках і расхрыстаных паліто падшывальцы-хлопцы. У іх свой інтарэс — прабрацца без білета ў клуб, а калі не ўдасца, дык хоць заняць пад акном найвыгаднейшую пазіцыю.

І вось ідуць на прыветлівыя агні клуба маладыя і старыя, хлопцы і дзяўчаты.

На прыцемку прыязджаюць артысты. Доўга, пакутліва даводзіцца чакаць, пакуль яны ўстановяць дэкарацыі, загрымiруюцца. Нецярпенне расце з кожнай хвілінай. Нарэшце два дзецюкі ўзлазяць на сцэну, адкрываюць заслону. Спектакль «Паўторны візіт» пачаўся. У зале ціха. Выкажа хто-небудзь сваю думку ўголас, на яго хто-небудзь пасварыцца, і зноў ціха. Кожнага займае думка, што будзе далей?..

І вось спектакль закончаны. Але гледачы не разыходзяцца. Яны горача абмяркоўваюць спектакль, спрачаюцца, размахваюць рукамі. Падыходжу да адной такой групы. Невысокая ружовашчокая дзяўчына дае ігры кожнага з артыстаў трапныя характарыстыкі, так што прыходзіцца здзіўляцца. Можа яна чытала рэцэнзіі, бачыла спектакль раней, ведае акцёраў? Не. Галя Семянец — даярка. Яна сёлета закончыла дзесяць класаў. Вельмі любіць літаратуру, слухае спектаклі па радыё часта, а бачыць — упершыню.



У дзяўчыны даканалы густ. Яе не саб'еш з тропу знарокавай беспачуццёвай ігрой. Яна добра адчувае, дзе хлусня, дзе праўда, дзе сапраўднае мастацтва, а дзе падробка пад яго.

Падыходзяць яшчэ калгаснікі, маладыя, старэйшыя. У кожнага з іх — свае



Уверсе: **узводны (арт. Н. Ярмоленка);** унізе: **Якаў Кауман — палітрук (арт. А. Мізевіч).**
Фота А. Дзітлава.

заўвагі, дасціпныя, цікавыя, якія гавораць за тое, што сельскі глядач вырас і мае добры густ.

І канешне, правы тыя, хто стаіць за высокае мастацтва, хто кожны спяктакль імкнецца ставіць на высокім узроўні, іграць перад любым гледачом так, быццам тут сядзіць вельмі патрабавальная камісія.

«Ні кроку назад, ні кроплі абыякавых адносін, барацьба за высокае майстэрства, супраць элементаў саматужніцтва, меладраматызму, знарокавасці і ўяўнай эфектнасці»,— гэты дэвіз, што бытуе ў тэатры, павінен стаць для яго пуцяводнай зоркай.

І тады збудуцца мары моладзі, спадзяванні старэйшых. Тады адкрыецца захапляючая перспектыва росту для кожнага акцёра і ўсяго калектыву ў цэлым. А сельскі глядач будзе шчыра ўдзячны этузіястам-акцёрам, што не баяцца цяжкасцей і нягод, нясуць да яго ў далёкія куткі савецкае мастацтва.

# ПАСТАЎЛЕНА Ў 1957 ГОДЗЕ

Мінуў 1957 год, саракавы год існавання першай у свеце дзяржавы працоўных. Да сваёй знамянальнай даты ўся краіна прышла з новымі поспехамі і перамогамі. Далейшага росквіту дасягнула ў гэтым годзе і сцэнічнае мастацтва рэспублікі. Кожны творчы калектыў у прайшоўшым юбілейным годзе падрыхтаваў і паказаў гледачам новыя высокаідэйныя і вы-



**Тэатр імя Янкі Купалы. «Грозны год»:
У. І. Ленін — нар. арт. СССР П. Малчанаў, Наташа — Люда Кабзарэўская, Дзяржынскі — арт. К. Сянкевіч.**

сокамастацкія творы, у якіх адлюстраваўся пераможны поступ Кастрычніка па зямлі.

Рэвалюцыйныя падзеі 1917 года прыцягвалі і яшчэ не раз будуць прыцягваць увагу драматургаў і тэатральных калектываў. Раскрываючы сутнасць і веліч вялікага Кастрычніка, мастакі слова стварылі і яшчэ створаць цэлую галярэю тераічных вобразаў нашых бацькоў, старэйшых братоў, якія са зброяй у руках адваёўвалі ў старога свету права «людзьмі звацца». І заўсёды гэтыя вобразы будуць натхняць моладзь на баявыя справы ў імя цудоўнай будучыні.

Вось чаму няма нічога дзіўнага ў тым, што ў мінулым годзе большасць тэатраў рэспублікі зноў звярнулася да паказу на сваіх сцэнах суровых дзён Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.



Тэатр імя Якуба Коласа. «Святло з Усходу». Мяснікоў — нар. арт. БССР А. Шэлег, Цімчук — нар. арт. СССР А. Ільінскі, Азорыч — засл. арт. БССР Н. Яроменка.



Тэатр оперы і балету. «Міхась Падгорны». Марыся — арт. Н. Дзвінянінава.

У тэатры імя Янкі Купалы быў пастаўлены спяктакль па п'есе А. Каплера «Грозны год». Спяктакль хвалююча расказвае пра грозныя дні барацьбы з контррэвалюцыяй, пра вялікі гуманізм, нязгасную любоў да народа і натхнёную барацьбу за яго шчасце. Цэнтральнае месца ў спяктаклі займае вобраз Уладзіміра Ільіча Леніна і яго вернага вучня Фелікса Дзяржынскага.

У ролі Леніна выступаў народны артыст СССР П. С. Малчанаў, у ролі Ф. Дзяржынскага — артыст К. Сянкевіч.

Вельмі правільна зрабіў Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа, які вырашыў паставіць на сцэне адзін з буйнейшых драматычных твораў апошняга часу п'есу Пятра Глебкі «Святло з Усходу». У п'есе адлюстравана барацьба працоўных за ўстанаўленне савецкай улады ў Беларусі. Тэатр паспяхова справіўся са складаным матэрыялам п'есы, стварыў высокаідэйны, патрэбны гледачу спяктакль.

Новай пастаноўкай беларускай оперы сустрэў слаўны юбілей і тэатр оперы і балету. Яго калектыў паспяхова ажыццявіў пастаноўку оперы Я. Цікоцкага «Міхась Падгорны».

Важнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі з'явілася пастаноўка на сцэне рускага драматычнага тэатра п'есы В. Вішнеўскага «Аптымі-

стычная трагедыя». Каляктыў тэатра на чале з рэжысёрам М. Співакам стварыў яркі, глыбока хвалюючы спектакль пра смелых духам. Асаблівага поспеху ў гэтай пастаноўцы дасягнулі маладыя акцёры тэатра А. Клімава, якая выканала ролю камісара, і Г. Някрасаў у ролі матроса Аляксея.

Рускі тэатр здолеў падрыхтаваць і другі спектакль на рэвалюцыйную тэму, паставіўшы на сваёй сцэне п'есу беларускага драматурга К. Губарэвіча «Галоўная стаўка». Гэтую ж п'есу паставіў і Магілёўскі абласны тэатр.

У гэтым годзе тварам да беларускай драматургіі павярнуўся і Гродзенскі тэатр, які паставіў п'есу П. Васілеўскага «Год здзяйснення».

Не забыліся тэатры і пра другую тэматыку. Так Дзяржаўным тэатрам оперы і балету была пастаўлена опера Рымскага-Корсакава «Садко».

Тэатр імя Янкі Купалы паказаў гледачам цікавы спектакль Гільерме Фігерэйда «Ліса і вінаград». Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа парадаваў новым спектаклем «Калі цвіце акацыя», а Брэсцкі тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі — спектаклем «Фабрычная дзяўчына».

У гэтым годзе тэатры рыхтуюць рад цікавых пастановак, якія прысвячаюцца саракагоддзю існавання Савецкай Беларусі.



**Магілёўскі тэатр. «Галоўная стаўка». Сцэна са спектакля.**



**Гродзенскі тэатр. «Год здзяйснення». Міхайлаў — арт. В. Іонаў, Марына — арт. І. Дзеніскевіч.**



**Тэатр імя Янкі Купалы. «Ліса і вінаград». Эзоп — нар. арт. СССР Б. Платонаў, Клея — засл. арт. БССР З. Браварская.**

**Тэатр імя Якуба Коласа, «Калі цвіце акацыя». Сяргей — арт. П. Бялевіч, Барыс — арт. О. Лапо, Косця — арт. А. Шчыпанкін.**





Тэатр оперы і балету. «Садко». Любава — засл. арт. БССР Р. Асіпенка, Садко — арт. Б. Нікольскі.



Рускі тэатр. «Галоўная стаўка». Сцэна са спяктакля.



Рускі тэатр. «Аптымістычная трагедыя». Аляксей — арт. Г. Някрасаў, камісар — арт. А. Клімава.

# „ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА“



Аднойчы малады настаўнік з Маладзечанскага раёна Іван Казёл прынёс у Тэатр юнага гледача сваю першую п'есу «Папараць-кветка». Галоўны рэжысёр тэатра Л. І. Мазалеўская ўзялася ставіць па ёй спектакль. Творчаму калектыву п'еса надзвычай спадабалася, і рэпетыцыі ішлі з уздымам.

Так калектывам Тэатра юнага гледача быў створаны хвалюючы спектакль аб жыцці і барацьбе сялян былой заходняй Беларусі.

Пастаноўка «Папараці-кветкі» сведчыць аб вялікіх магчымасцях маладога калектыву Тэатра юнага гледача. Можна з упэўненасцю сказаць, што ён створыць яшчэ нямала цікавых, хвалюючых спектакляў не толькі для дзяцей і юнацтва, але і для дарослых.

**«Папараць-кветка» ў пастаноўцы Беларускага тэатра юнага гледача.** На здымку: **артысты В. Акалаў** (злева) **у ролі Базыля і Б. Барысёнак у ролі — Адася;** унізе — **артыстка Л. Цімафеева ў ролі Яніны.**

Фота А. Дзітлава.





# „ЦУДОЎНЫ МУЗЕЙ, ВЫДАТНАЕ МАСТАЦТВА“...

Гэтыя словы не прыдуманы спецыяльна для таго, каб прыцягнуць увагу чытача. Яны ўзяты з кнігі водгукаў Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Так выказаў сваё ўражанне адзін з яго наведвальнікаў. І наўрад ці знойдзецца такі чалавек, які б выказаў інакшае меркаванне, пабыўшы ў музеі. Сапраўды цудоўны падарунак напярэдадні святкавання 40-годдзя Кастрычніка атрымалі працоўныя нашай рэспублікі; сапраўды выдатныя ўзоры беларускага і рускага мастацтва ўбачыць тут кожны, няхай нават самы прыдзірлівы наведвальнік.

Кастрычнік адкрыў шлях народным талентам, даў магчымасць збіраць для ўвекавечання культурныя здабыткі нашага народа. Ужо ў першыя гады савецкай улады ў рэспубліцы ствараліся выстаўкі работ беларускіх мастакоў. Адтуль, можна сказаць, і бярэ свой пачатак гісторыя стварэння Дзяржаўнага мастацкага музея. У 1939 годзе ў Мінску была адкрыта Дзяржаўная карцінная галярэя, дзе захоўваліся лепшыя творы мастакоў і скульптараў.

Вялікія мастацкія каштоўнасці амаль цалкам былі знішчаны гітлераўскімі захопнікамі ў часе вайны. Але вось у 1945 годзе ўрад зноў вынес рашэнне аб адкрыцці Дзяржаўнай карціннай галярэі ў Мінску.

— Пачыналі амаль з нічога, — успамінаюць старэйшыя супрацоўнікі музея. — Затое цяпер, глядзіце, якое багацце!

З узвядзеннем новага спецыяльнага памяшкання карцінная галярэя пераўтворана ў мастацкі музей. Адкрыліся большыя магчымасці для шырокай прапаганды вяўленчага мастацтва, для больш поўнага і разнастайнага паказу калекцый, разгортвання выставак, а таксама для лепшага наладжвання навукова-даследчай работы.

Пройдземся ж па залах музея. Спецыяльны аддзел прысвечаны старажытнаму беларускаму мастацтву. Прыцягваюць увагу абразы, драўляная скульптура, слуцкія паясы народных майстроў XVII і XVIII стагоддзяў. Невядомы імёны гэтых майстроў, але іх творы даюць уяўленне аб узроўні тагачаснай беларускай народнай культуры.

Цікавы па свайму зместу аддзел, які адлюстроўвае рускае мастацтва XVIII стагоддзя. Тут — работы вядомых майстроў-партрэтыстаў: Лявіцкага (партрэт Разнатоўскай), Шубіна (партрэт Румянцава-Задунайскага),



Фота І. Салавейчыка.

Баравікоўскага (партрэт мастака Радзянкі) і інш.

Побач з творамі рускіх мастакоў Венецыянава, Трапініна, Брулова, Фядотава, скульптара Клодта, у аддзеле, прысвечаным першай палове XIX стагоддзя, паказаны работы беларускіх майстроў мастацтва таго часу: нацюрморты Хруцкага і «Партрэт Фёдара Талстога», які належыць кісці мастака Заранкі.

Дасягненні рускага выяўленчага мастацтва другой паловы XIX стагоддзя прадстаўлены такімі выдатнымі арыгіналамі, як «Няроўны шлюб» Пукірава, «Прыезд настаўніцы» В. Макоўскага, «Балгарскія пакутніцы» К. Макоўскага, «Месячная ноч» Рэпіна, «Тры царэўны падземнага царства» Васняцова, «У лесе» Шышкіна, а таксама творамі таленавітых мастакоў Пярова, Крамскога, Максімава, Саўрасава. Нельга прайсці міма скульптурных арыгіналаў, такіх, як «Святаслаў» і «Фуражэры» скульптара Лансерэ, «Галава Івана Грознага» і «Пётр І» — Антакольскага.

Карціны Левітана, Сярова, Касаткіна, Архіпава, Галавіна, Несцерава, Жукоўскага (доўгі час гэты мастак жыў і працаваў у Беларусі) і многіх іншых вядомых майстроў дэманструюцца ў аддзеле «Рускае мастацтва канца XIX і пачатку XX стагоддзяў».

Зразумела, што найбольш поўна ў музеі прадстаўлены творы сучасных беларускіх мастакоў і скульптараў. Тут разгорнута спецыяльная выстаўка, прысвечаная 40-годдзю Кастрычніка, на якой дэманструюцца ў асноўным дасягненні беларускага выяўленчага мастацтва за апошнія 10 год. Палотны мінчан Варапаева, Зайцава, партрэты Ахрэмчыка, пейзажы Цвіркі, Галіны Азгур і многіх іншых, а таксама творы мастакоў з абласцей рэспублікі, такіх, як Каржанеўскага (Віцебск), Шаўчэнкі і Казачэнкі (Гомель), Максімцава (Баранавічы), Фяцісава (Брэст), Савіцкага В. (Гродна), яскрава сведчаць аб тым, які вялікі крок уперад зрабіла за апошнія гады мастацтва Беларусі.

Падоўгу спыняюцца гледачы ў раздзеле графікі. Увагу прыцягваюць малюнкі «Фестывальная серыя» (партрэты дэлегатаў) — Геруса, «Партызанская серыя» Раманава, «Новы Мінск» (у акварэлі) Лейтмана ,«Новы Мінск» (лінагравюра) Тычыны і іншыя. Шырока на выстаўцы прадстаўлены работы скульптараў Селіханава, Глебава, Азгура, Заспіцкага і многіх іншых, а таксама творы тэатральных мастакоў Нікалаева, Масленікава, Кроля, Малкіна.

Вядома, што адны назвы твораў ды пералік прозвішчаў іх аўтараў не даюць уяўлення аб тым багацці, якое захоўваецца ў новым музеі. Лепш за ўсё пабываць тут, пабачыць усё на свае вочы. Штодзённа музей наведвае каля 300 чалавек. Людзі розных узростаў і прафесій, розных густаў з вялікай цікавасцю слухаюць расказы экскурсаводаў і навуковых супрацоўнікаў, аглядаюць багатыя калекцыі музея.

**М. МАРКАЎ.**

Іван **ГРАМОВІЧ**



# БЫЧОК

**Апавяданне**

Прыбрала я ўчора пакой. Памыла падлогу. Так ужо вышаравала, проста, як новая. Бялізну на ложках памяняла, заслала пасцелі прасцірадламі. Стол накрыла чыстым абрусам. Вазонікі паліла. Фортачку адчыніла. А сонца — аж б'е са двара ў вокны. Увесь пакой, як шклянка!..

Я выйшла на калідорчык, села ля дзяжурнага століка і сяджу. Рукі і ногі ажно торгаюць...

Што вы думаеце?! Нікому так не прыходзіцца таўчыся, як мне. Маладым яно не ў голаў: за сабой не сочаць, ступіць і пад ногі не гляне. Другі ніколі за сабою не прыбярэ. Ого, якія цяпер растуць!..

Ну, а я вось — не магу! Гэта ўжо чалавек такі. Калі робішся ў гадах, калі становішся сталым, то кожная пылінка, усякая драбяза кідаецца ў вока. Тут дзень пры дні круцішся, топчышся, падмятаеш, даглядаеш... Іншы раз і знаку ніякага няма, як ваду ў ступе месіш...

Дык от прысела я на мінутку. І заяўляецца — ён! Не сказаць, каб малады, але і не пажылы яшчэ з выгляду. Гладкі такі хлопец. У плашчы, з партфелем... Прыезджы, думаю, няйначай — упаўнаважаны... Быстры! Ні словам не абазваўся, кінуў на мой столік паперку, а вачыма шукае нумар пакоя. Прайшоў, адчыніў, зайшоў і не зачыніў за сабою. Дзверы так і засталіся насцеж.

Я зірнула на паперку — накіраванне. Усё як трэба. Прозвішча нейкае неразборчывае. Ні то Цысь, ні то Бысь... Ну, няхай сабе! А мне што? У гасцініцы любы чалавек пераначаваць мае права... Схавала ў шуфлядку яго накіраванне.

... Чую — трарах у пакоі! Гэта ён штурхануў крэсла і сеў. Мне з калідора ўсё відаць праз адчыненыя дзверы: пакой насупраць. На ложку, з правага боку,дзе я толькі што раўняла выпрасаваную навалку, ужо

ляжыць абшарпаны, пузаты партфель. Падушка цераз яго перакулілася, прасцірадла скамечана... Ну, я сабе сяджу, як бы нічога не бачу.

А ён дастае з кішэні партабак, як куфэрак, і вымае адтуль цыгарышчу — кручаную з ліста тытуню цурубалку з залатым наканечнікам. Не, думаю, гэта аж зверху прыехаў. Пэўна, з Мінску!.. Бярэ ён гэтую цыгарышчу і ажно сапе. Шмаргануў носам і адгрыз канчурык. Ды так злосна выплюнуў... Можа, думаю, чым-небудзь раззлаваны, мо' бяда якая...

Ці мала здарэнняў бывае ў дарозе? Надоечы, я адну дзяўчыну мусіла суцяшаць. Начавала яна двое сутак. Дакументы і грошы ў яе прапалі. Дзе падзеліся — не знае. Ці ўкралі, ці згубіла — невядома. Прышла, плача. Я яе насілу супакоіла.

Тым часам ён чыркнуў запалку і прыкурвае... Поўна сонца ў пакоі! Чысціня, свежае паветра. Такое святло, каб, здаецца, павук дзе кросны ладзіў, дык відно і чуваць было б... А тут — дым, як з вогнішча, шуганув ад цыгарыны. Паплыў угору, клубкамі заклубіўся... Ён сабе сядзіць і наўзацяжку — пых, пых!.. Пасля ў грудзях яму крыху запяршыла. Ён адкашляўся і... цьфу пад ногі!

Э-ге, ведаеце! Я на падлозе свайго аддзялення кожны згабляваны сучок знаю. Кожная маснічына свая і глядзіць на мяне адразу: яна мае рукі ведае і я яе ведаю. Уся падлога для мяне, што карта. Каму трэба, той на карце ўсё заўважыць, прачытае, а я на падлозе так. Душу прачытаю любога пастаяльца. Як прыду раніцой, як гляну — на падлогу, на пасцель, што робіцца на стале — усё відно, як на далоні. І я не змаўчу, калі што якое. Няхай сабе ты нямаведама хто! Падумаеш, Цысь нейкі! Ці ты не бачыш, дзе стаіць пасудзіна для недакуркаў?!.

Пыхкае ён, пыхкае. Ужо на сігарыне попелу нарасло з паўпальца. Я бачу, хоць ён, гэты Бысь, сядзіць спіной да мяне. Нібыта задумаўся. Тут і я цікаваць стала, пабачым, што ж будзе далей?!. Можа чалавека хмель разабраў. Бывае і так. Прыдзе, накурыць, графін паб'е, а потым назаўтра выбачэння просіць...

Шэры агарак попелу зваліўся на абрус. Не заўважыў. Зноў зацягнуўся дымам. Адпачывае, значыцца. Ну, і я адпачываю. Але вочы мае прадуць. У пакоі пацямнела, усёроўна як ад пары ў лазні, дзе вядро вады лінулі на гарачыя камені... Ага, заўважыў попел на абрусе. Хацеў пальцам змахнуць, ды расцёр па тканіне. Пашкроб, пашкроб ногцем і яшчэ зацятнуўся — пых!..

Раптам, я зірк, — бачу — кінуў ён недакурак на падлогу, цыркнуў праз зубы і распранаецца. Ну, не магу болей! Устану, думаю, і навяду парадак. Што ж гэта, паважаны таварыш? Чаму было не распрануцца, прышоўшы ў пакой? Як дома. Вунь жа і шафа для верхняй вопраткі!! Ці ж гэта акуратнасць кідаць плашч на спінку ложка? Э-е-ей! А сам бач як важна адвярнуўся і ганарліва глядзіць праз акно на вуліцу.

Акурак цурубалкі ляжыць сабе на падлозе і дыміць. На жоўценькай маснічыне выкаціўся, і сіні дымок з яго роўненька ўецца. Ладны яшчэ недакурак, што бервяно, як бычок.

От, бо людзі! Думаю: быў такі светлы пакой, чысты, прыбраны. А цяпер глянь, што робіцца на падлозе? Абрус запэцканы, сцягнуты на адзін бок, падушка расціснута ля сцяны, прасцірадла на зборках... Ну, хто са мной разам пацешыцца?!. Адна я. Нікога з маіх напарніц няма. Толькі ходзікі на сцяне: «Чэк-чэк! Чэк-чэк!»

Не магу! Ужо хацела падняцца, а далей скеміла. Ад мяне ж ён нідзе не дзенецца. Я і па-добраму дазнаюся, адкуль ён, дзе працуе? Што

ён, заўсёды так смеццем падсцілаецца? Гэта ж дом свой спаліць можна! Мала што гасцініца, а каб на складзе якім? Яшчэ з партфелем! Бач, у вайсковай рубашцы і штаны галіфэ, у ботах! Па-начальніцку глядзіць. Бысь нейкі!

Глядзеў ён, глядзеў у акно і павярнуўся кругом. Павярнуўся і — цайце рады! — прыкмеціў, як сінім стаўбком віецца дым з недакурка. Што найшло на яго, такога фанабэрыстага, проста загадка! Мабыць сонца! І навокал, і ў пакоі... Тут жа толькі што было гэтак чысценька. Зараз відаць усе наробленыя ім сляды...

От кранула яго штосьці, і ён чмыхнуў. Не змог прайсці міма бычка. Ступіў крок, другі і... падбіў яго носікам свайго бота. Бычок праляцеў у паветры, ляснуўся аб вушак, толькі адскочыў і ўпаў каля парога. А ён сабе задаволена крэкнуў і — назад. Дастаў з партфеля газету, разгарнуў...

Тым часам не прайшло і хвіліны, як сіні струменьчык зноў узняўся над бычком. А праз нейкі момант, як і да гэтага, дымок слупком выраўняўся ўгору. Цяпер ужо ля дзвярэй.

Калі ён азірнуўся, то зморшчыў нос і хуценька заміргаў. Мне стала смешна. Гаспадар бычка падышоў у парог, як да чагосьці жывога, і наступіў на недакурак. Пад падэшвай аж хруснула. Гэта, відаць, маснічына падалася. Растаптаўшы бычка, ён зморана адышоўся да стала і цяжка сеў на крэсла. Але газета не чыталася яму. Бычок прымусіў яго зноў азірнуцца.

Той, праўда, перастаў дыміць. Ён, лежачы на падлозе з бервяно, так і быў на сваім месцы. На віду, прыплюснуты, і, здаецца, пасля падашвы хацеў зноў надзьмуцца, задыміць... Гаспадар яго толькі цяпер заўважыў, што зусім непадалёк ад бычка стаіць эмаліраваная пасудзіна, якую я надоечы старанна вадою памыла, папаласкала... Калі ласка, таварыш Бысь!

І, нарэшце, яго такі даняло. Ён устаў, ціхенька падышоў яшчэ раз да бычка, нагнуўся, падняў і кінуў яго куды трэба. Я адчыніла шуфлядку, зрабіла выгляд, што нічога не бачыла і не бачу.

Пасля ён 'шчэ нядоўга быў у пакоі. Узяў плашч, апрануўся. Пайшоў некуды, гэтак важна, моўчкі каля мяне. Дзверы ў пакоі не зачыніў. Вось яшчэ клопат! На гэта дзяжурная ёсць.

Калі прышла мая напарніца Параска (даваць мне змену), я ёй расказала гэта, расказала, хто ў нас пасяліўся. Нейкі Цысь, ці то Бысь! Я казала, што ў мяне кіпела ўсё на сэрцы, пакуль ён курыў... Мы з Параскай хоць даўно працуем на пару, але яна не такая, як я. Нейкая ціхманая.

— Плюнь ты,— кажа,— Касарыцкая! Сама плюнь на ўсё гэта. Вось гора не бачыла! Нам за гэта грошы плацяць...

— Авечка ты,— кажу. — Ці ж у гэтым прычына? Хіба я гавару аб тым, за што мы служым? Адумайся глыбей! Няўжо табе не стала прыемна, што наша работа прымусіла гэтага Цыся аглянуцца на сябе?!. От каб усе так пасупалі, як мы! Не былі абыякімі! Усюды, наўкол... І на вуліцы, і ў парку! Тады б і хуліганы гэтыя маладыя перавяліся... Разумееш?

Не разумее.

— Ты думаеш,— кажу,— гэты Цысь за паўгадзіны набраўся культуры? Зрабіўся культурным і падняў свой бычок? Думаеш, ён не ўмее прачытаць аб'яву, ці не ведае, што трэба шанаваць маю і тваю работу?!.

Параска не разумее мяне. Але бачу, як і я, узлавалася.

— Дзе яго ложак? — пытае.— Пакажы!

Мы зайшлі ў пакой. Ужо крыху праветрылася. Зноў пасвяжэла. Параска адразу да ложка, дзе ляжаў Цысяў партфель, расшпілены, бокам.

— Не чапай,— кажу.— Там дакументы гэтага... шышкі! Не кратай!

— Дык жа малако во льецца на прасцірадла!..

Што вы скажаце?!. Паперы розныя і дзве бутэлькі кефіру павытыркалі з абшарпанага партфеля. З аднае бутэлькі сачылася на пасцель кіслае малако. Чаму ж гэта ён кінуў-рынуў і пабег?..

— Шышка! — перадражніла мяне Параска.— Начальнік з нейкай базы.

— Ну,— кажу, — у яго сігары з залатымі наканечнікамі.

Мы аж паспрачаліся. Параска роўненька паставіла да сцяны яго партфель і збегала ўніз да адміністратара даведацца: хто такі, каго да нас накіравалі. Мінут пяць я пачакала, ужо не свае змены дзяжурства, пакуль Параска вярнулася. Яна аж задыхалася, падымаючыся на паверх. Вечна ціхманая, а то спалохалася, вочы вялікія, шыя выцягнутая, падышла і шэпча:

— Гэта... лектар!..



# Так яны жывуць

Наш чарговы агляд своеасаблівых карцінак замежнага жыцця пачынаецца паведамленнямі з АЎСТРАЛІІ. Нейкі «спецыяліст па аўтатранспарту» з горада Сіднея прадэманстраваў надзвычайную навіну. Раніцай яму ўдалося ўкрасці санітарны аўтамабіль, які належаў гарадскому шпіталю. Да сярэдзіны таго ж дня машына была перафарбавана і ў кузаве яе пастаўлены новыя крэслы. А вечарам гэты аўтамабіль ён прадаў ужо... мясцоваму ўпраўленню паліцыі, якое мела вялікую патрэбу ў транспарце для перавозкі зняволеных.

Паведамленне з АНГЛІІ. У горадзе Бірмінгаме, аказваецца, існуе клуб уладальнікаў чарапах. Члены гэтага клуба час-ад-часу наладжваюць «гонкі» сваіх выхаванцаў. На адным з апошніх спаборніцтваў рэкардсменам стала чарапаха, якая пераадолела дыстанцыю ў два з паловай метры ўсяго... за 3 гадзіны 24 хвіліны.

Весткі з-за Атлантычнага акіяна. ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЕРЫКІ— багаты пастаўшчык інфармацый аб самых пачварных праяўленнях капіталістычнай «цывілізацыі». Вось з горада Таскігі паступіла паведамленне аб узоры амерыканскай «дэмакратыі». Рыхтуючыся да чарговых выбараў, мясцовыя ўлады прынялі рашэнне змяніць межы горада. З гэтага часу назва «ТАСКІГІ» належыць толькі той тэрыторыі, дзе жывуць белыя. Негрыцянскія ж кварталы аказаліся за гарадской мяжой. З той прычыны, што адрэзаныя кварталы не ўключаны ў які іншы населены пункт жыхарам іх проста не будзе дзе галасаваць. Вось як проста, без усялякіх клопатаў можна пазбавіцца ад удзелу неграў у грамадскім жыцці!

Для пані Рут Маурэр вялікага напружання мозгу каштавалі клопаты аб лёсе свайго спадчынніка. Як паведамілі з горада Рыдзінга, Рут Маурэр пакінула пасля сваёй смерці паўмільёна долараў, якія паступілі ў распараджэнне спадчынніка. Акрамя гэтых сродкаў, якія павінны пайсці на выдаткі па дамашняму абслугоўванню, шчаслівец атрымаў, паводле завяшчання, права карыстацца да канца свайго жыцця пасцеллю міс Маурэр. Хто ж ён, уладальнік гэтага вялізнага багацця? Аказваецца, гэта чатырохгадовы сабака Бібі. Карэспандэнты з Рыдзінга з замілаваннем паведамляюць, што Бібі з'яўляецца цяпер самым багатым сабакам Амерыкі.

Нібы ў дужках, перарываючы на адзін абзац паведамленні з Амерыкі, прыводзім інфармацыю агенцтва Франс Прэс з італьянскага горада Кальяры. Дваццацігадовы Рэмс Сімбула, які жыве непадалёк ад гэтага горада, заявіў прадстаўнікам друку, што гатовы прадаць адно вока, каб забяспечыць старую і хворую маці. Такім чынам, каб сабаку з Рыдзінга раптам спатрэбілася складаная аперацыя вока, ён лёгка мог-бы выйсці з бяды, выручыўшы ў сваю чаргу няшчаснага італьянскага юнака.

А вось групе багатых абібокаў з Чыкага, якія клапоцяцца галоўным чынам аб саміх сабе, прышла на думку ідэя стварэння зусім новай грамадскай арганізацыі. Яны стварылі «Клуб навыварат». Члены клуба гавораць «да пабачэння», калі ўваходзяць у памяшканне, вопратку носяць, вывярнуўшы яе навыварат, на ногі надзяваюць пальчаткі і г. д. Пакуль яшчэ не паступіла паведамленняў аб тым, ці ходзяць гэтыя «клубмэны» на галаве, замест звычайнага спосабу руху.

Яшчэ паведамленне з ЗША. Адна з буйных кампаній па страхаванню жыцця звярнулася да замужніх жанчын з наступным заклікам: «Няхай ваш муж застрахуе сваё жыццё. Заўчора мы застрахавалі аднаго мужа; учора ён скруціў сабе шыю ў часе аўтамабільнай катастрофы; сёння мы выплацілі яго ўдаве 5000 долараў. Дзейнічайце, не губляючы часу! Зусім магчыма, што ўжо заўтра вы ат-

рымаеце верны спосаб нечакана разбагацець!»

Магчыма, хто-небудзь з чытачоў папракне нас за адсутнасць у аглядзе фактаў, якія ілюстравалі б навіны з ідэалагічнага фронта. Даем слова заходнегерманскаму часопісу «Штэрн». Нядаўна ў амерыканскай турме Лавенфорс быў праведзены навуковы дыспут. Тэмай вуснага турніра была выбрана праблема «Закон і мараль». Адзін пункт погляду падтрымлівалі прафесары мясцовага каледжа, другі — прадстаўнікі зняволеных. Як паведамляе «Штэрн», пераможцай дыспута выйшла каманда турмы, якая набрала на 37 ачкоў больш, чым вучоныя мужы з каледжа.

У кароткім, але хвалюючым паведамленні з Н'ю-Йорка гаворыцца аб адкрыцці новай фірмы па пракату... штучных сківіц. У яе ёсць пратэзы ўсіх памераў і любой формы. «За невялікую плату, — гаворыцца ў рэкламным праспекце фірмы, — вы можаце атрымаць напракат бліскучы набор зубоў на выпадак сямейных урачыстасцей, візітаў, экзаменаў, выступлення з афіцыйнай прамовай і г. д.

Ці вядомы вам тэрмін «грашовы бізнес»? Падзея, якая нарадзіла гэты тэрмін, адбылася ў ЗАХОДНЯЙ ГЕРМАНІІ, але цалкам належыць амерыканцам. Справа ў тым, што ў адэнаўэраўскай дзяржаве з некатарага часу пачаў адчувацца недахоп манет вартасцю ў адзін пфеніг. Фінансавыя эксперты доўга не маглі зразумець, у чым справа. Нарэшце, разгадка была знойдзена. Аказалася, што амерыканскія турысты і ваеннаслужачыя стараюцца вывезці з сабою з ФРГ як мага больш аднапфенігавых манет, таму што іх габарыты і вага цалкам супадаюць з дзесяціцэнтавымі амерыканскімі манетамі. Такім чынам нямецкімі пфенігамі можна плаціць у пастаўленых усюды ў ЗША аўтаматах, напрыклад, у аўтаматах метро. Як відаць, бізнес не перастае быць бізнесам, нават калі гутарка ідзе аб кантрабандзе грошай.

Па тэрыторыі ФРГ цячэ рака Майн. На Майне стаіць горад Франкфурт. У Франкфурце-на-Майне ёсць заходнегерманскі інстытут грамадскай думкі. І вось гэты інстытут паслаў многім жыхарам ФРГ анкету з наступным пытаннем: «Калі Вы ў апошні раз купілі кнігу?» І што ж?.. Аказалася, што большасць з апытаных наогул ні разу ў жыцці не куплялі кніг.

У заключэнне яшчэ адно паведамленне аб зняволенні. Бразільскі мільянер Маура за нейкія махлярствы нядаўна трапіў у турму. Калі яго правялі ў камеру і ён убачыў месца свайго вымушанага адпачынку, абурэнню мільянера-арыштанта не было межаў. Аказалася, што турма зусім не падобная на апартаменты, да якіх Маура прывык. І спачувальная адміністрацыя вырашыла аблягчыць лёс пераборлівага вязня. Маура было дазволена пабудаваць для сябе камеру, якая поўнасцю адпавядала-б яго густу.

## Шахматы

**А. СУЭЦІН,**
**майстар спорту**

# Што такое „эндшпіль“

«Эндшпілем» называецца заключная стадыя партыі. Ёй папярэднічае сярэдзіна ігры, дзе адбываецца асноўная барацьба шахматных сіл партнёраў. У выніку да эндшпіля або ў аднаго з партнёраў атрымліваецца перавага над другім, альбо, калі перавагі ніхто не змог дамагчыся, шансы праціўнікаў застаюцца роўнымі.

У першым выпадку мэта таго, хто атрымаў перавагу, — **рэалізаваць** яе, а мэта таго, хто нясе страты, — пазбавіцца дрэннага становішча, у якое ён трапіў (вядома, калі гэта наогул магчыма). У другім выпадку — калі шансы роўныя — барацьба ў эндшпілі ідзе за атрыманне перавагі. Калі перавагі не атрымліваюць ні адзін з ігракоў, партыя мае нічыйны зыход. Нярэдка барацьба заканчваецца яшчэ ў сярэдзіне ігры, альбо нават у дэбюце, але кожны шахматыст павінен валодаць уменнем іграць у эндшпілі, такой стадыі партыі, якая з'яўляецца лагічным завяршэннем шахматнай барацьбы.

Якія-ж агульныя прынцыпы разыгрывання эндшпіля? Перш за ўсё, у эндшпілі максімальна ўзрастае каштоўнасць кожнай адзінкі матэрыялу, таму што сілы абодвух бакоў к канцу барацьбы вычэрпваюцца. Патрабуецца вялікая дакладнасць разліку. Шахматыст павінен не толькі захоўваць матэрыял, але ўзважваць кожны ход і тэмп ігры. Значна ўзрастае роля караля, які робіцца ў эндшпілі актыўнай фігурай. Таксама вялікую ролю набывае наяўнасць **прахадных** пешак, якія пры дасягненні 8-й гарызанталі могуць ператварацца ў любую фігуру.

Нарэшце, актыўнасць кожнай фігуры набывае велізарнае значэнне. У шахматнай літаратуры параўнальна мала даследаванняў па заключнай стадыі партый. Тлумачыцца гэта самой гісторыяй шахматаў. Шахматная тэорыя хутка пачала развівацца з XVI стагоддзя, калі панаваў так званы «рамантызм», які патрабаваў імклівую атаку на караля. Барацьба амаль заўсёды не даходзіла да эндшпіля і заканчвалася ў сярэдзіне ці нават у дэбюце, калі варожы кароль — гэты адзіны ў той час аб'ект для атакі — пад безліччу эфектных удараў, якія былі звязаны са шматлікімі ахвярамі, атрымліваў мат. Эндшпілі лічыліся «сумнай» стадыяй ігры. Таму ў эндшпілі дапускаліся самыя элементарныя памылкі, і тэорыя яго стаяла на вельмі нізкім узроўні. Больш паглыбленае вывучэнне шахматаў з часам прывяло да развіцця тэхнікі пазіцыйнай ігры і абароны. Барацьба ўсё часцей стала заканчвацца ў эндшпілі. Перавага на адну «нікчэмную» пешку ў эндшпілі стала нярэдка рашаючай перавагай, таму што пешка рухалася [illegible] ўперад і на 8-й гарызанталі ра[illegible] ферзем.

У сучасны момант вядома ўжо нямала каштоўных прац у галіне тэорыі эндшпіля. Для тэорыі эндшпіля характэрны матэматычна дакладны **аналіз**, які ўлічвае абсалютна ўсе без выключэння магчымасці і прыводзіць да дакладна вызначанага выніку.

Выключна высокім майстэрствам ігры ў эндшпілі вызначаліся ўсе чэмпіёны свету — Стэйніц, Ласкер, Капабланка, Алёхін, Батвіннік. Але на-

стычная трагедыя». Калектыў тэатра на чале з рэжысёрам М. Співакам стварыў яркі, глыбока хвалюючы спектакль пра смелых духам. Асабліва поспеху ў гэтай пастаноўцы дасягнулі маладыя акцёры тэатра А. Клімава, якая выканала ролю камісара, і Г. Някрасаў у ролі матроса Аляксея.

Рускі тэатр здолеў падрыхтаваць і другі спектакль на рэвалюцыйную тэму, паставіўшы на сваёй сцэне п'есу беларускага драматурга К. Губарэвіча «Галоўная стаўка». Гэтую ж п'есу паставіў і Магілёўскі абласны тэатр.

У гэтым годзе тварам да беларускай драматургіі павярнуўся і Гродзенскі тэатр, які паставіў п'есу П. Васілеўскага «Год здзяйснення».

Не забыліся тэатры і пра другую тэматыку. Так Дзяржаўным тэатрам оперы і балету была пастаўлена опера Рымскага-Корсакава «Садко».

Тэатр імя Янкі Купалы паказаў гледачам цікавы спектакль Гільерме Фігерэйда «Ліса і вінаград». Віцебскі тэатр імя Якуба Коласа парадаваў новым спектаклем «Калі цвіце акацыя», а Брэсцкі тэатр імя Ленінскага камсамола Беларусі — спектаклем «Фабрычная дзяўчына».

У гэтым годзе тэатры рыхтуюць рад цікавых пастановак, якія прысвячаюцца саракагоддзю існавання Савецкай Беларусі.



**Магілёўскі тэатр. «Галоўная стаўка». Сцэна са спектакля.**



**Гродзенскі тэатр. «Год здзяйснення». Міхайлаў — арт. В. Іонаў, Марына — арт. І. Дзяніскевіч.**



**Тэатр імя Янкі Купалы. «Ліса і вінаград». Эзоп — нар. арт. СССР Б. Платонаў, Клея — засл. арт. БССР З. Браварская.**

**Тэатр імя Якуба Коласа, «Калі цвіце акацыя». Сяргей — арт. П. Бялевіч, Барыс — арт. О. Лапо, Косця — арт. А. Шчыпанкін.**

